ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1953 годзе — № 7 ЛІПЕНЬ 1966



**ПРА ТЫХ, З КАГО БРАЦЬ ПРЫКЛАД.**

**АПОВЕСЦЬ ПРА ПАЭТЭСУ ЦЁТКУ**

**НОВЫЯ ПЕРАКЛАДЫ З ЛЕРМАНТАВА**

**СЛУХАЮЧЫ З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**

**ШАФЁР НА ВАРЦЕ ПАРАДКУ**

**БАГІНЯ НІКА ЧАКАЕ**

**ПАЯДЫНАК НА ШАХМАТНУЮ КАРОНУ**

**ЛІПЕНЬ**

МІНСК 1966

Выдавецтва «Звязда»

## У НУМАРЫ:



### З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ



### ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ — ДЗЕНЬ ЗАЎТРАШНІ



### 50 ГОД ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА

Вокладка **М. Чэпіка.**





# ФОРУМ КАМУНІСТЫЧНАГА ЮНАЦТВА



Сцяг камсамола ў надзейных руках разведвальнікаў будучыні. Лётчык-касманаўт А. Ляонаў у дзень адкрыцця XV з'езда ВЛКСМ.

У сярэдзіне мая пасланцы дваццацітрохмільённай камсамоліі краіны Саветаў сабраліся ў Маскве на свой XV з'езд. На працягу пяці дзён у Крамлёўскім Палацы з'ездаў гучалі ўсхваляваныя галасы прамоўцаў, луналі задорныя песні, грымелі воплескі.

З трыбуны з'езда ў першы ж дзень яго работы прагучала слова Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева, звернутае да моладзі. У гэтым слове быў наказ партыі камсамолу:

**— выхоўваць моладзь па-камуністычнаму;**

**— быць ініцыятарам сацыялістычнага спаборніцтва;**

**— узнімаць моладзь вёскі на актыўную барацьбу за павелічэнне вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, за больш культурнае, духоўна багатае, змястоўнае жыццё;**

**— нястомна выхоўваць кожнага маладога чалавека гарачым патрыётам нашай любімай Радзімы;**

**— прывіваць навучэнцам няўрымслівае імкненне да ведаў, да працы, вернасць рэвалюцыйным ідэалам.**

Першы сакратар ЦК ВЛКСМ С. Паўлаў у справаздачным дакладзе раскрыў усю веліч спраў камсамола, здзейсненых за чатыры апошнія гады. Пры актыўным удзеле моладзі на ўсесаюзных камсамольскіх будоўлях завершана збудаванне звыш 750 прамысловых аб'ектаў, пракладзена 4850 кіламетраў і электрыфікавана больш 7000 кіламетраў чыгункі; 22 новыя гарады і 140 пасёлкаў узніклі за гэтыя гады на карце Радзімы дзякуючы працавітым рукам і светламу розуму юнацтва.

На з'ездзе маладосць краіны Саветаў пачала размову пра тое, як найлепш выканаць новыя задачы, што паставіла перад народам Камуністычная партыя на бліжэйшае пяцігоддзе.

Камсамольцы гаварылі пра новыя дарогі, па якіх яны збіраюцца ісці, пра новыя будоўлі, яшчэ не збудаваныя гарады. У кожнага камсамольца ёсць свая новабудоўля: у рабочага — гэта яшчэ не знойдзеныя рэзервы павышэння эфектыўнасці яго працы; у працаўніка сяла — яшчэ не адшуканыя рэзервы ўздыму ўраджайнасці палёў і далейшага росту жывёлагадоўлі; у камсамольскага работніка — удасканальванне метадаў арганізацыйнай дзейнасці; у спартсмена — новыя рэкорды...

Словы камсамольцаў на з'ездзе — гэта іх справы ўчарашнія, сённяшнія і заўтрашнія. Форум савецкай моладзі яшчэ раз падкрэсліў: менш размоў і барабаннага пошчаку, а больш дзеяння, руплівасці. Па гэтым компасе кожны камсамолец правярае сёння сябе.

Камсамольцы і камсамолкі, юнакі і дзяўчаты адзінадушна ўхвалілі рашэнні XXIII з'езда КПСС, унутраную і знешнюю палітыку партыі і выказалі гарачую падзяку Цэнтральнаму Камітэту КПСС за бацькоўскі клопат пра выхаванне падрастаючага пакалення.

У сваёй рэзалюцыі па справаздачнаму дакладу ЦК ВЛКСМ з'езд ухваліў дзейнасць Цэнтральнага Камітэта ВЛКСМ, накіраваную на здзяйсненне задач камуністычнага выхавання моладзі, пастаўленых партыяй перад камсамолам.

З'езд падкрэсліў, што ўся практычная дзейнасць камсамольскіх арганізацый па камуністычнаму выхаванню моладзі павінна быць прасякнута духам непрымірымасці да ўсялякіх праяў буржуазнай ідэалогіі.

У рэзалюцыі ўказваецца, што свяшчэнны абавязак ВЛКСМ — нястомна павышаць рэвалюцыйную пільнасць савецкай моладзі, рыхтаваць яе да абароны сацыялістычнай Айчыны.

Ударнай задачай усяго камсамола з'езд лічыць культурна-бытавое будаўніцтва, далейшы ўздым культурна-выхаваўчай работы на вёсцы.

Забеспячэнне актыўнага творчага ўдзелу юнакоў і дзяўчат у вырашэнні важнейшых задач развіцця ўсіх галін народнай гаспадаркі, пастаўленых XXIII з'ездам КПСС,— усесаюзны форум камсамоліі ставіць у цэнтры ўсёй практычнай работы пярвічных арганізацый.

Клопат пра школу, пільная ўвага да пытанняў ідэйна-выхаваўчай работы сярод навучэнцаў — найпершы абавязак камсамола.

XV з'езд ВЛКСМ заклікаў усіх камсамольцаў і камсамолак, усю савецкую моладзь уключыцца ва ўсенароднае сацыялістычнае спаборніцтва ў гонар 50-годдзя Кастрычніка і 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, азнаменаваць гэтыя вялікія даты ў жыцці партыі і дзяржавы новымі поспехамі на франтах камуністычнага будаўніцтва.

Абавязак камсамола — і далей умацоўваць братэрскія сувязі з моладдзю сацыялістычных краін, салідарнасць з юнакамі і дзяўчатамі, якія вядуць мужную барацьбу за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, супраць імперыялізму і каланіялізму, берагчы адзінства і згуртаванасць усіх атрадаў прагрэсіўнай моладзі. З'езд прыняў Зварот да моладзі свету ў падтрымку геаічнай барацьбы патрыётаў Паўднёвага В'етнама.



**«ЗАЎСЁДЫ З ЛЕНІНЫМ!»** — пад гэтым дэвізам прайшло заключнае пасяджэнне з'езда.

Фотахроніка ТАСС.

На з'ездзе прынята пастанова пра частковыя змены ў Статуце ВЛКСМ, выбраны цэнтральныя органы камсамола.

Дружнымі воплескамі ўсяе залы было ўхвалена пісьмо з'езда Цэнтральнаму Камітэту партыі, у якім выказана думка ўсёй моладзі: **«Пад пераможным сцягам марксізма-ленінізма мы будзем нястомна ісці наперад, натхнёна і самаадданна працаваць на ўсіх участках камуністычнага будаўніцтва».**

З'езд усесаюзнай камсамоліі быў насычаны думкай і вопытам, духам аптымізму і пошукаў. З дзелавым, сур'ёзным настроем дэлегаты XV з'езда ВЛКСМ вярнуліся ў заводскія цэхі, у калгасы і саўгасы, у школы і інтэрнаты, на спартыўныя пляцоўкі і ў інстытуты — туды, дзе моладзь, туды, дзе месца Камсамола змагацца за вялікія і чыстыя ідэалы маладосці, за справядлівасць, за мір, за шчасце, за камунізм.





Іван КІРЭЙЧЫК

# КАМАНДЗІРЫ СІВЕЮЦЬ РАНА

**Нарыс**

Калі ты пасадзіў дрэва —
значыць, жыццё пражыў не дарма.
**З народнага.**

## У ВАЛОДЗЬКІ ШАЎКОВАЯ КАШУЛЯ

Валодзька Данец прыехаў у саўгас на практыку ў пятніцу. А ў суботу пад вечар у клубе збіраўся сход. Ішоў Валодзька туды, адчуваючы сябе дарослым і сталым.

На ім быў чорны новенькі шынель, форменная фуражка з эмблемай,ванаглянцаваныя чаравікі і — як верх зухаватасці! — расшпіленая наросхрыст кашуля. Менавіта такім хацелася яму прыйсці ў клуб і паказацца перад дырэктарам саўгаса.

Але дырэктар яго не зразумеў. Ён улучыў зручны момант, падышоў да Валодзькі, павітаўся за руку і ціхенька, каб ніхто не пачуў, запытаў:

— А кашуля ў цябе ёсць?

Валодзька атарапеў.

— Ну, чаго чырванееш?

— Вядома, ёсць. Во! — расхінуў ён шынель і адцягнуў бліштастую тканіну. — Шаўковая! Сам купляў... А чаму вы так пытаеце, Рыгор Іванавіч?

— Ды грудзі ты выставіў голыя... Грошай хапае?

— Хапае. Маці сала яшчэ прысылае...

— Задаволена маці?

— А то не!

— Ну, тады гуляй. Пагаворым пасля,— сказаў дырэктар і пайшоў на сцэну.



Валодзька памкнуўся сказаць нешта, але перадумаў: калі пасля — дык пасля...

Валодзькава знаёмства з дырэктарам саўгаса Грыгор'евым адбылося зусім нядаўна. Яшчэ на пачатку верасня ён зразумеў, што без Рыгора Іванавіча яму не абысціся, і пайшоў у Падалессе. Але Грыгор'ева нечакана выклікалі ў райком партыі. Валодзька не раздумваў, тут жа сеў у аўтобус і паехаў у Рэчыцу. Дапытаўся, як знайсці райком, выведаў, у якім пакоі ішла нарада, і пачаў чакаць ля дзвярэй.

Грыгор'еў выйшаў не скора. Адразу далезці да яго ніяк нельга было: абступілі Рыгора Іванавіча вясёлыя і заклапочаныя дзядзькі, размаўляючы і мнучы ў руках цыгаркі.

Валодзька праціснуўся ў сярэдзіну, асцярожна тузануў Грыгор'ева за рукаво і нясмела паклікаў:

— Дзядзька дырэктар!

— Ну, што табе?

— Дзядзька дырэктар, пашліце мяне на механізатара? — папрасіў Валодзька і тут жа запэўніў: — От пагледзіце, я добрым трактарыстам буду...

Нехта засмяяўся з яго, нехта пусціў жарт, але Валодзька не збянтэжыўся: Рыгор Іванавіч быў у ягоных руках.

— А адкуль ты такі ўзяўся? — запытаў Грыгор'еў.

— Са Стасеўкі я...

— А-а, калі са Стасеўкі, тады хадзем да акна, — сказаў Рыгор Іванавіч, і Валодзька пайшоў за ім.

У Валодзькі складаная біяграфія. Расце ён без бацькі: кінуў яго бацька, кудысьці з'ехаў. Маці на ферме працуе: няма калі ёй. А Валодзька запусціў урокі, ледзь-ледзь вылез з сёмага класа, а ісці ў восьмы наадрэз адмовіўся. Вось толькі пра машыны як хто загаворыць, не вочы тады ў Валодзькі — два сонейкі свецяць...

— Гм... — сказаў сам сабе Грыгор'еў.

А Валодзьку здалося, што Рыгор Іванавіч вагаецца, прыкідваючы, ці выйдзе з яго, Валодзькі, механізатар. І ён паспяшыў запэўніць яшчэ раз:

— Вы, дзядзька дырэктар, от пагледзіце самі: я добрым трактарыстам буду...

— Я не пра тое, — махнуў Рыгор Іванавіч рукой і запытаў: — А колькі ж табе год?

— Шаснаццаць,— крышачку прыбавіў Валодзька.

— Бачыш, Валодзя, справа такая, што не магу я цябе паслаць у вучылішча: гадоў у цябе не хапае, — сказаў Грыгор'еў і паглядзеў на Валодзьку, гатовага заплакаць. — Ды ты не гаруй, не падай духам! Дамовімся з табою так: ты канчаеш восьмы клас, я табе памагаю, а праз год паедзеш на механізатара вучыцца. Вось так. Адзіны, брат, тут выхад. Другога няма. А слова ў мяне цвёрдае, што паабяцаў — не забуду.

Хоць Грыгор'еў гаварыў мякка, памяркоўна, а пайшоў ад яго Валодзька, як аблаяны.

Потым Грыгор'еў цікавіўся, ці ходзіць Валодзька ў школу. Сказалі, ходзіць. «Значыць, паслухаў», задаволена падумаў ён. Але Данец заявіўся да яго літаральна праз некалькі дзён.

— Ну, зноў што-небудзь не так? — сустрэў яго Рыгор Іванавіч.

Валодзька пamaўчаў, апусціўшы галаву, а потым сказаў, нібы працягваючы тую размову ў Рэчыцы:

— Не, дзядзька дырэктар, у школу хадзіць я не буду. Нельга мне. Маці дармаедам называе. — Сказаў і ўвесь памкнуўся да Грыгор'ева: — Дзядзька дырэктар, няўжо не верыце, што трактарыстам добрым буду? Пашліце мяне ў вучылішча! Я буду такі механізатар, як Акадэмік, а то і лепшы...

Грыгор'еў быў у гуморы, але амаль закрычаў, хоць у душы гатоў быў зарагатаць:

— Што, таксама будзеш трактары ламаць і гарэлку піць?

— Ды не... Я кажу, што так, як Акадэмік, машыны буду ведаць. А гарэлкі я і ў рот не бяру. І не вазьму ніколі.

Грыгор'еў пачухаў патыліцу.

— Незайздроснае становішча ў нас з табой, Валодзя, — задумаўся ён.— Добра. Давай пасядзі тут, а я падумаю... Хоць не, ідзі на вуліцу, пагуляй... Я паклічу цябе.

Валодзька хадзіў па бязлюднай сядзібе саўгаса «Падалессе», выходзіў на шашу, дзе ціха гаманілі сосны і насцярожана шуршала апаўшае лісце, зноў вяртаўся на доўгі калідор саўгаснай канторы, а яго ўсё не клікалі. Нехта прачыніў дзверы, і Валодзька чуў, як Грыгор'еў некага прасіў, намякаючы на добрае суседства, падгаворваючы выручыць яго ўсімі праўдамі і няпраўдамі, бо гэта вельмі патрэбна.

«Што, ён другога часу выбраць не мог, каб па тэлефоне нагаварыцца? — падумаў Валодзька. — Напісаў бы мне паперку з пячаткай, а тады ўжо і гаварыў бы...»

Але тут і паклікаў яго Грыгор'еў.

— Фу,— выдыхнуў ён,— замарыўся, пакуль угаварыў...

Грыгор'еў выцер далонню мокры лоб, зняў з галавы і адсунуў рукой на край стала кепку, а Валодзька падумаў:

«Ого, якая сівая ў яго галава! Сівых валасоў больш, чым чорных. Хм, як у дзеда старога... Цікава, чаму гэта?..»

Грыгор'еў хітравата падміргнуў яму:

— От так: збірай свае рэчы — паедзеш вучыцца. У Рэчыцкае эспэтэвэ. Есці пакуль вазьмі з дому. А там прышлем табе саўгасную стыпендыю. Толькі ўмова: ты павінен стаць самым лепшым курсантам. А будзеш вучыцца так, як у школе, — ганяй тады лепш сабак дома. Няньчыцца не будзем... Я сваім словам паабяцаў дырэктару вучылішча, што выдатнікам будзеш. Падвядзеш — за дзесяць вёрст абмінай мяне...

Пасля гэтых грозных настаўленняў, якія для ўзрадаванага Валодзькі ўжо амаль нічога не азначалі, Грыгор'еў весела засмяяўся, відаць, і сам сабой задаволены, і запытаў:

— Не падвядзеш?

— Не.

— Будзеш прыязджаць — абавязкова да мяне заходзь.

— Сюды ці дадому? — удакладніў Валодзька.

— Дзе хочаш сабе, а каб на вочы мне паказаўся...

Ну, вось Валодзька і паказаўся. І, здаецца, нічога сабе: пяцёрачнікам прыехаў. А пра кашулю, дык Грыгор'еў, напэўна, пажартаваў. Гэтага ў яго не купіць...

Так разважаў Валодзька, не астуджаючы свайго форсу, і яшчэ карцела адгадаць, да каго ж з механізатараў прыставіць яго Грыгор'еў на практыку?

## УТАЙМАВАННЕ АКАДЭМІКА

Практыкаваць Валодзьку Данца Грыгор'еў даверыў Акадэміку.

Між іншым, Акадэмік — не зусім і акадэмік. Ёсць у яго сваё ўласнае імя і прозвішча — Аляксандр Корзун. Але мянушкі да яго прыліпаюць лацвей, і ён не крыўдуе на іх. Часам яго клічуць Акадэмікам, часам— Фідэлем. Фідэлем — за пышную чорную бараду-



модніцу, што як у самога Фідэля Кастра. Акадэмікам — што на любой машыне-ламачыне цуд чыніць можа.

Корзун паблажліва дазволіў Валодзьку называць яго, як і ўсе, Акадэмікам.

Валодзька па-дзіцячы быў улюбёны ў яго, як у добрага казачніка. Паездзіўшы з ім, пазбіваўшы разам рукі ля машын, Валодзька ўжо ведаў усю горкую долю Акадэміка, хоць той, чалавек маўклівы, сам не раскажа, толькі ціха пасмейваецца, калі хто не то жартам, не то ўсур'ёз расказвае пра яго...

Бяда з Акадэмікам здарылася даўно, яшчэ да Грыгор'ева. Гульнулі аднойчы хлопцы, замачылі асенні ўраджай. А хмель да чаго не давядзе! Сеў Акадэмік за руль трактара ды пачаў перад сябрукамі «вышэйшы пілатаж» паказваць. Тыя задаволена рагаталі, а Акадэмік сп'яну наляцеў на мёрзлую груду, выбіў пярэднюю цапфу, і распаўзліся колы куды каторае...

Акадэміка паважалі за ўмелыя рукі, лаялі за гарэлку, а тут зусім перасталі з ім размаўляць: прагналі з трактара. А на саўгаснай сядзібе стаяў старэнькі, да ручкі дабіты «МТЗ», на якім не тое што ніхто не хацеў ездзіць — завесці ніхто яго не мог. А Акадэмік завёў. Потым, як дазволілі, і паехаў. Толькі пасля гэтага ён усё часцей і часцей стаў зазіраць у чарку. Вось такім, на спісаным трактары і пад чаркаю, і паўстаў Акадэмік перад Грыгор'евым, новым дырэктарам саўгаса.

— Мо б перастаў ужо? — запытаў у яго Грыгор'еў. — Не маленькі — хопіць конікі выкідваць...

Акадэмік толькі галавой пакруціў.

— Ну што ж... — толькі і сказаў Грыгор'еў.

І неўзабаве Акадэмік дагуляўся зноў: ссадзілі і са спісанай машыны. А Акадэмік не мог без трактара, як без вады ці без паветра. Сваё становішча ён разумеў так: калі без трактара — значыць, пустое ён месца, нуль, і не мае свайго законнага права на жыццё. У любой іншай ролі — палявода, жывёлавода, лесніка, нават у ролі самога дырэктара саўгаса — Акадэмік сябе не ўяўляў.

Крадком, абмінаючы людзей, часам прыцемкамі, ён прабіраўся са скруткамі дроту на саўгасную сядзібу, збіраў дэталі з даўно паспісаных машын і майстраваў сабе нешта. А потым і выехаў з саўгаснага падворка: на трактары не на трактары, а так — на нечым накшталт «антылопы-гну». Уехаў у баразну і да вечара даў норму, роўную норме трактара «Беларусь». Многія палічылі гэта за чарговае штукарства, але ў Акадэміка быў самы сур'ёзны выгляд. Ехаў ён — як той Ілья-прарок на сваёй каламажцы.

А Грыгор'еў толькі галавой пакруціў...

Дзіўнае часам дзеецца на гэтым свеце: адзін, колькі ні шкодзіць — усё яму з рук сыходзіць, другі ж укусіць, як камар, а адказвае за ваўка. Такой думкі быў Акадэмік пра сябе і пра сваіх непрыяцеляў. Паспрабаваў ён самагонку гнаць — адразу ж папаўся. Хацеў пакаштаваць украдзенага — таксама злавілі. Трошкі надаваў кухталёў занадта гарачаму суседу — таварыскім судом судзілі. І ўсё таму, што ён без машыны. І рашыў тады Акадэмік — што будзе, тое і будзе, а трэба падзяліцца сваім горам з самім Грыгор'евым, запытаць у яго, чаму свет такі несправядлівы.

Дзеля смеласці ён добра такі выпіў і па дарозе складваў план сваёй з Грыгор'евым размовы. Але пакуль дайшоў, разабраў яго хмель, перавярнуў усе думкі навыварат, і, замест прывітання, ужо ад дзвярэй сыпануў Акадэмік на Грыгор'ева самаю адборнаю лаянкай. Адкуль толькі што і бралася ў маўчуна! А потым яшчэ так гахнуў за сабою дзвярыма, што з паўсцяны тынкоўкі рухнула на падлогу.

Грыгор'еў дагнаў яго на калідоры, хацеў схапіць за каўнер, ды махнуў рукой: што з п'янага возьмеш!

Назаўтра ж запыніў яго дырэктар на вуліцы і сказаў:

— Ідзі ў рабачком, пішы заяву на звальненне і вымятайся з саўгаса. Усё,— павярнуўся і пайшоў, не азіраючыся.

Грыгор'еў кіпенем кіпеў, калі ўвайшоў у пакойчык старшыні рабачкома Куліка. Цяжка дыхаючы, апусціўся на табурэтку, абапёрся локцем на падаконнік.

— От, доўбня, га!

— Чорт яго ведае, што з ім рабіць ужо? — развёў рукамі Кулік, здагадаўшыся, пра каго ідзе гаворка.

— Паслухай, Іван Аляксандравіч, — сказаў нечакана Грыгор'еў, — прынясе ён заяву — назад аддай. Але пастраш харашэнька, а я падумаю, што з ім зрабіць. А то паедзе куды, скажа: з Падалесся. І пальцамі потым тыцкаць будуць...

— А што ты скажаш, Рыгор Іванавіч, на тое, каб паспрабаваць пасадзіць яго на новы трактар? — запытаў Кулік.

— Ідэя!.. — адразу падхапіў Грыгор'еў. — Прынясе ён заяву, ты аддай яе назад, пастраш і скажы, хай ідзе і прымае гэты «ДТ-20», што прыгналі заўчора...

І папалі ў самы сяродачак...

Прыйшоў Акадэмік да Куліка нахмураны — ноч ноччу. Працягвае заяву, а галавы падняць не можа, глянуць баіцца. І галоўнае — цвярозы.

— Ну што, дагуляўся? — ва ўпор запытаў Кулік.— Мала ўгаворвалі і прасілі цябе?

Што сказаць на гэта Акадэміку? Маўчыць.

— На, вазьмі сабе, — падаў назад Кулік яго паперу. — Звальняць цябе не будзем — будзем судзіць. Так, судзіць, калі хоць раз яшчэ што падобнае ўторыш. І пасадзім у прэзідыуме тваю жонку і ўсіх шасцёра дзяцей. Хай і яны ведаюць, які ў іх бацька.

— Іван Аляксандравіч, — выціснуў Акадэмік як не сваім языком. — Іван Аляксандравіч, ты глянь на мае рукі — месца жывога няма: пазбіваў. Глядзяць на мяне ўсе, як на п'яніцу самага апошняга. А думаеш, лёгка мне з такім во настроем ездзіць і норму даваць на адных заклёпках ды вузлах, што во гэтымі рукамі пазакручваў? Плуга новага дагэтуль мне не даверылі, а ўсё зломкі, дабіткі адны...

— Сам жа і вінаваты.

— Сам то сам, але...

— Але размову на гэтым і скончым, — перабіў яго Кулік. — А цяпер ідзі і прымай новы «ДТ-20». Грыгор'еў сказаў.

— Грыгор'еў? Ён тут?

— Тут.

Акадэмік скамячыў сваю заяву, мітусліва выскачыў за дзверы і па вуліцы прыпусціўся подбегам. Сам не помніў, як дамоў прышыбаваў. Збянтэжаны такім паваротам справы, ён і дома доўга яшчэ ўсё не мог апамятацца. А потым баяўся Грыгор'еву на вочы паказацца, і па яго спецыяльна пасланца прысылалі.

З таго дня перастаў Акадэмік гарэлку піць. Часам, праўда, можа, але толькі так, як мужчына...

Цяпер Грыгор'еў спакойны за яго. І за Валодзьку спакойны, бо ў добрыя рукі перадаў: такі, як Акадэмік, з любога, як кажуць, музыканта зробіць.

А Валодзька адзін раз нядобра пажартаваў з Акадэміка. Як успомніць, дык аж скрывіцца і міжволі стогн з грудзей вырвецца, або скажа сам сабе: «Ых, дурань!..»

Пад канец сваёй практыкі Валодзька разам з Акадэмікам атрымалі ў бухгалтэрыі грошы. Валодзька адразу не схаваў іх у кішэню, так і вый-



шаў на вуліцу з пяцёркамі ў руках. Па дарозе ён працягнуў перад Акадэмікам далонь, паглядзеў спярша на грошы, а потым на свайго шэфа і паблазенску запытаў:

— Акадэмік, зойдзем замочым, га? — Тут жа ён хацеў дабавіць адно толькі слова: «Сітром», — але было позна.

Акадэмік спыніўся, вытарашчыў вочы, расставіў ногі, нібы ўпіраючыся, каб яго не пакацілі, а потым рушыў на Валодзьку са сціснутымі кулакамі.

— А-а-а, смаркач зялёны!.. Бач, захацеў чаго!

Валодзьку нічога не заставалася, як толькі даць лататы.

Акадэмік ледзь не да самай вёскі ішоў за ім услед з паднятым кулаком і крычаў:

— Ты ад мяне не ўцячэш! Хай толькі дачуюся, што дзе вып'еш, я з цябе порткі спушчу ды так замачу, што месяц не сядзеш, а ўсё адмочваць будзеш!

І Валодзька пра ўсё гэта нікому не расказаў.

## БЫСТРОЎ ПЯЧЭ АЛАДКІ

Аказваецца, у гэтай гісторыі і аладкі былі вінаваты. Да Валодзькі дайшло гэта значна пазней. А спярша яму і няўцям было, чаму яны так зацікавілі Акадэміка.

Неяк ранічкай паслаў Акадэмік Валодзьку да шафёра Анатоля Быстрова, каб шланг забраў. У хаце быў адзін толькі гаспадар. Падперазаўшыся жончыным фартухом, ён завіхаўся ля печы — пёк аладкі.

Валодзька адразу сказаў, па што прыйшоў, а Быстроў запытаў, ці снедаў ён, і прымусіў зняць шапку, сесці за стол і есці аладкі. Ну, Валодзька з'еў адну, пахваліў, што смачная, а пасля насілу ўжо з хаты вырваўся: Быстроў і масла прынёс, і варэнне дастаў, і ўсё ўгаворваў Валодзьку есці яшчэ.

Акадэмік, як пачуў пра гэта, перастаў корпацца ў маторы, узяўся ўбокі і хітравата пачаў выпытваць: і што за аладкі былі — пшанічныя ці дранікі, і якія на выгляд — жоўтыя і пульхныя ці падгарэлыя, і ці праўда, што смачныя. А потым пра ўсё гэта ён расказваў ля саўгаснай канторы Грыгор'еву, і абодва ціха і задаволена пасмейваліся.

Аднак жа, як даведаўся Валодзька, гэтая гісторыя з аладкамі была не з вясёлых.

Дзіна, жонка Быстрова, працуе даяркай. На ферму ідзе досвіткам, калі Быстроў толькі на другі бок павернецца. Прачнецца, перакусіць ён, што жонка паспела нагатаваць,— часцей за ўсё ўжо халоднае,— і ідзе на работу. Вернецца дамоў вечарам — таксама Дзіны дома няма: або чакай яе, або бярыся разаграваць. Не сцярпеў Быстроў і «з гора» пачаў выпіваць. А Дзіна сустрэла гэтую навіну ў штыкі. І пайшло, і пайшло... Урэшце ў сям'і закруцілася такое, што ўжо і самі Быстровы не маглі разабрацца, хто першы заварыў гэтую кашу, хто калі быў ці не быў вінаватым.

Дзіна сказала:

— Ці я, ці гарэлка!.. А не — развод.

А Быстроў сказаў:

— Ці я, ці ферма!.. А не — развод.

Дзіна ўжо чацвёрты год працавала на ферме і кідаць яе не збіралася. Кожны стаяў на сваім: ці я, ці...

Грыгор'еў дазнаўся пра гэта, калі каша была зварана, заставалася толькі падзяліць. Менавіта, падзяліць.

Ішоў Грыгор'еў раз паўз сельсавет, пастукалі яму праз акно, і ён скіраваў туды.

— Ці не палюбуешся? — сустрэў яго старшыня сельсавета Капанцоў і падаў два аднолькавыя лісткі паперы: заявы. Грыгор'еў пачаў чытаць, а Капанцоў забегаў па пакоі, па-бабску пляскаючы далонямі: — Ах, ах, дзеткі маленькія, вучыць іх яшчэ трэба!.. І каб хто — Быстровы!

— Ты гаварыў з імі? — запытаў Грыгор'еў.

— Чаму ж не гаварыў? І прасіў, і сарамаціў, і кулаком па стале стукаў, увесь дзень на іх убіў, а яны ў адзін голас: «Распісвайце нам гаспадарку — разводзіцца будзем». І што ты думаеш! І разыдуцца, галоўкі гарачыя...

— Я думаю, не разыдуцца. Тут нельга наперад забягаць.

— Дык дзе ж ты бачыў: хоць кол ім на галаве чашы...

— Я пагавару з імі сам,— сказаў Грыгор'еў і, неяк адразу згорбіўшыся, нібыта незаслужана пакрыўдзілі яго, выйшаў з пакоя. І, відаць, вось так, унурыўшыся, ён, каржакаваты і крыху няўклюдны, прайшоў бы вясковай вуліцай да фермы ці да саўгаснай канторы, разблытваючы нечаканыя думкі, наперад спрачаючыся з Быстровымі, калі б на ганку твар у твар не сутыкнуўся з Дзінай.

— Ты куды чэшаш? — запытаў ён, адразу перайначыўшыся на жартоўны лад.

— Да Пятра Іванавіча. Да Капанцова... — сумелася Дзіна.

— От табе і на! — пашкадаваў Грыгор'еў.— А я толькі што ў госці да вас намерыўся. То часу няма, а выбраў,— дык на табе! — гаспадыня з дому збегла.

— Так ужо і ў госці? — на вясёлую нотку перайшла і Дзіна.

— А што? Ні разу не быў у вас. Палічу хоць бэлькі ў вашай хаце, глядзіш — і маладзіца якая прысніцца...

— Вы заўсёды ўсё жартуеце, Рыгор Іванавіч,— не верыла Дзіна.

— Якраз і не жартую. І скажы свайму Анатолю, каб, сама разумееш, пастараўся... І не якога там пойла ружовенькага,— я люблю такую, каб душу агнём апякала.

— Ой, хто б ужо сказаў!..

Яна так і не паверыла, а Грыгор'еў усё ж прыйшоў. Пакуль ён распранаўся, гаспадыня спадцішка шапнула нешта гаспадару, і Грыгор'еў толькі і заўважыў, як той на веласіпедзе ценем мільгнуў паўз вокны. Але не падаў і выгляду, што ўсё гэта бачыў, толькі злёгку пасмейваўся: пачатак быў неблагі.

Неўзабаве па-вясковаму няхітра, але, як кажуць, умалотна быў накрыты стол, і сядзелі яны ўтраіх за сталом, і, як звычайна, пасля першай чаркі гаворка была сякая-такая, а далей пайшло весялей. І ўсё ж кожны заставаўся змоўшчыкам і трымаў на вуснах сваю, ледзь улоўную, усмешку. Варта было каму схітрыць — усе ўбачылі б гэта, і Грыгор'еў перастаў таіцца.

— Дзяліцца, выходзіць, будзеце? — запытаў ён.

— Дзяліцца,— кіўнула галавой Дзіна.

— А Капанцоў, значыць, упіраецца?.. Ну,— столькі б той бяды! — памагу вам. Я ж таксама член сельвыканкома...

Глядзяць на яго Быстровы, не разумеючы. А Грыгор'еў смяецца:

— Дзіўна, ці не праўда? Сядзім за адным сталом, размаўляем, мірна пазвоньваем чаркамі, хутка і песню запяём, а, глядзі ты, якія камяні за пазуху пабралі...

Аж сцепануліся абое. А Грыгор'еў вядзе далей:

— От я і думаю: ці любілі вы адно аднаго? Ты вось, Анатоль?

— Я? Ну, любіў...

— А ты, Дзіна? Ну, ну, не паціскай плячыма.

— Ыгы...— неахвотна, пасля паўзы.



— Не веру. Даражэнькія мае, калі б вы любілі, то не прыйшлі б да такога...

Тут і пачалося. Змяшалі Быстровы ў кучу ўсё: і ферму, і п'янку, і сняданкі.

— Пачакайце, пачакайце,— замахаў Грыгор'еў рукамі.— Ты сказаў, што за фермай жонка свету не бачыць, а ты — смачнай ежы. А чаму толькі яна варыць павінна? Работа ў яе не лягчэйшая за тваю. І зарабляе яна не менш. Сам чаго смачнага згатаваў бы і ёй.

Быстроў аж падскочыў:

— Нашто ж тады жонка?

— Навошта? А на тое, на што і мужык. Каб памагалі адно аднаму... Я, скажам, люблю гатаваць сам,— прызнаўся Грыгор'еў.— Што пажадаў, тое і зрабіў. Свабода...

Было падобна, што Быстровы, прыціхшы, збіраліся да канца моўчкі выслухаць яго мараль. Грыгор'еў зразумеў, што толькі масла ў агонь падлівае, і махнуў рукою:

— Ат, ды што гэта я, сват вам які, ці што!.. Найшла ў вас каса на камень, і адно аднаму дарогу саступіць не хоча. Ды мне што! Я ў госці да вас прыйшоў. Заўтра ж ужо нікога не пачастуеце... Дый не прыйдзе ніхто да вас.

У Дзіны слёзы заблішчалі на вачах.

Развітваючыся, Грыгор'еў, нібы між іншым, сказаў яшчэ раз:

— Я што? Самі глядзіце. А калі Капанцоў упірацца будзе — прыходзьце, памагу...

Быстровы гэтак жа зразумелі Грыгор'ева, як і ён іх, і не пайшлі ні да яго, ні да Капанцова...

А неяк неўзабаве пасля таго, як Быстроў частаваў Валодзьку Данца аладкамі, у клубе выступалі саўгасныя артысты. Вядома, на канцэрт прыйшоў і Валодзька. Там і ўбачыў ён Быстровых на сцэне.

Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою,—

чыстым, зычным голасам пачынаў Быстроў, і Дзіна звонка падхоплівала:

Радасць, і шчасце, і гора дзяліць
Толькі з табою...

Паслухаў іх Валодзька ды толькі падумаў сам сабе: «І прыдумаюць жа возьмуць — дзяліць іх!»

## КУЛІК ЧЫРВАНЕЕ, ЯК РАК

Частка гэтай гісторыі адбылася ў Валодзькі на вачах, частку — шафёры расказалі.

Пад вечар вярнулася з курорта свінарка Логвінава. Ля дома толькі павярнулася, мо нават і ў хату не зайшла, як тут жа прышыбавала ў саўгасную кантору. Між іншым, потым яна доўга ніяк не магла нагаварыцца з кожным, усё расказваючы пра свае ўражанні, а адразу нават віталася з сустрэчнымі бягом,— спяшалася, каб застаць у канторы Куліка. І як зайшла — ледзь цалаваць таго не кінулася.

— А Іваначка! А даражэнькі! А вялікае дзякуй табе! — застракатала яна ад самага парога.— А я ж, баба, яшчэ не хацела ехаць, адгаворвалася!.. Ты глянь толькі: і сама цяпер якая зрабілася, і дачушку зусім здаровай прывезла. Век дабра твайго не забуду. Дзякуй, дзякуй табе!..

— Што ты, што ты, Ганна Рыгораўна...— збянтэжаны, замахаў на яе

рукамі Кулік і адышоўся далей за стол, нібыта сапраўды Логвінава магла пацалаваць яго.— Пры чым тут я?.. Я тут ні пры чым...

— Як жа ні пры чым? І пуцёўку прывёз, і яшчэ прыходзіў угаворваць, каб паехала... Каб табе здаровейка на ўсе сто год бог даў!..

— Ганна Рыгораўна, не я... Сама ты паехала, зарабіла, заслужыла...— мармытаў Кулік і чырванеў, бы той рак, усё далей адступаючы ў куток, і, здавалася, паднясі яму да вуха запалку — успыхне як бачыш.

А Логвінава ўсё не пераставала дзякаваць. І Валодзька падумаў пра яе: якая языкатая цётка! А пра Куліка падумаў: які ўсё ж ён сціплы, як чырванее за сваю ж дабрату! І яшчэ падумаў тады Валодзька, што, відаць, Куліку лягчэй было б сагнуцца і залезці пад стол, чым во так адгаворвацца.

Між тым Кулік чырванеў не ўпершыню.

Надоечы паехалі яны з Грыгор'евым у Рэчыцу. Па дарозе разгаварыліся, пачалі расказваць кожны пра сябе.

У Куліка біяграфія якая: тут, у Падалессі, нарадзіўся і вырас, потым ваяваў, вярнуўся з пакалечанымі нагамі, спярша працаваў загадчыкам клуба, а цяпер вось выбралі старшынёй рабачкома саўгаса. І кропку можна паставіць. А ў Грыгор'ева да кропкі шмат яшчэ розных знакаў прыпынку. Сам ён з вёскі Борхава, але вярнуўся ў свой раён зусім нядаўна. Так што ён тут — усё роўна як і чалавек новы. Дагэтуль жа працаваў сакратаром Амурскага абкома камсамола, старшынёй абласнога камітэта фізкультуры і спорту, быў дырэктарам МТС, сакратаром райкома партыі, дырэктарам завода, старшынёй калгаса... Пералічваў усё гэта Грыгор'еў, загінаў пальцы і сарамліва, пасмейваўся, нібы вінаваты ў тым, што столькі паездзіў, столькі пасад перамяніў... Адразу, як толькі заявіўся ён у Падалессі, многія падумалі, што аграном ды не абы-які, а аграном-садоўнік. Аказваецца, прафесія ў Грыгор'ева — юрыст.

— Што ж, здараецца і так,— цмокнуў ён языком і, прыклаўшы рукі да грудзей, дзе насіў партыйны білет, дадаў: — Часам не пыталі ў мяне, часам сам бачыў, што ісці трэба...

А Кулік толькі галавой паківаў...

У Рэчыцы яны зайшлі ў райком прафсаюза. Там сказалі, што ёсць свабодная сямейная пуцёўка на курорт.

— Вазьмі! — узрадаваўся Грыгор'еў.

— А каго мы пашлем? Хто паедзе? — запытаў Кулік.

— Логвінава, свінарка, паедзе.

— Яна ж адна. Навошта ёй тая сямейная пуцёўка?

— Як адна? — здзівіўся Грыгор'еў.— У яе дачка ёсць. Дый нездаровая...

— Жыццё тут пражыў, а нешта такога не чуў...— пац餐 пацiснуў плячыма Кулік.

— Бяры, бяры,— настойваў Грыгор'еў.— Калі не чуў, то заадно і пазнаёмішся. Толькі ёй, Логвінавай, вазьмі.

І Кулік пачырванеў за сваю недасведчанасць.

А тут во зноў праз гэту ж Логвінаву чырванець давялося...

Потым саўгасныя шафёры, для каго ў вёсцы ніколі і ніякіх сакрэтаў не існавала, смяяліся з Куліка, як гэта ён збянтэжыўся. Смяяліся і з Логвінавай, што не па адрасу трапіла, і сказалі:

— Грыгор'еву, во каму падзякавала б...

Валодзька доўга думаў пра гэта, прымерваўся, як яно выглядала б, калі б Логвінава на самай справе пачала дзякаваць Грыгор'еву, і прыйшоў да вываду, што не, не трэба, інакш тады і Рыгор Іванавіч будзе гэтак жа чырванець, як і Кулік.



# ГРЫГОР'ЕЎ САДЗІЦЬ САДЫ

Адлёталі ў паветры апошнія пушыстыя сняжынкі, іх змянілі бялюткія пялёсткі, што майскай раніцай густа, нібы кіслым малаком абліўшы, абляпілі падалескія сады. Потым падзьмулі напорыстыя, густыя ўсходнія вятры, і над ваколіцай завірылася пялёсткавая мяцеліца. Вось тады і задумаўся Валодзька Данец: чаму ўсё ж у Падалессі падумалі спярша, што Грыгор'еў аграном-садавод?

Раней, калі выпадкова і паўставала перад ім такое пытанне, то адказ на яго быў самы просты: бо адразу, дзе толькі можна было, пачаў дырэктар сады садзіць. А сёння Валодзька думае зусім інакш.

Як прыехаў Грыгор'еў у Падалессе — адразу саўгасны сад на паўсотні гектараў разросся. Потым з'явіліся сады і ў кожнай вёсцы: з даўніх часоў пасярод Стасеўкі красавалася пустэча, ператвораная ў сметнік,— пасадзілі парк; і ў Горвалі пуставала вялікае ляда, што засталося ад колішняга рынка,— пасадзілі яблыні, грушы, вішню, акацыю; у Глыбаве вакол клуба вырас парк, а ў маладым парку цяпер святое месца святога абавязку перад землякамі, што не вярнуліся з вайны.

І зноў жа — ідэя Грыгор'ева!..

А іх не вярнулася вельмі многа. У Глыбаве разраўнялі палетак вакол клуба, абнеслі прыгожым парканам, потым насыпалі высокі курган. Яго насыпалі ўсе, зямлю насілі кашамі і партфелямі, у кішэнях і проста жменямі. Гэты курган на цэлыя вякі, у памяць тых, што загінулі ў баях за Радзіму. І ў імя кожнага з іх кожны, хто нарадзіўся ў саўгасе «Падалессе», павінен пасадзіць і вырасціць дрэва.

Грыгор'еў спецыяльна пацікавіўся, што пасадзіў ён, Валодзька, якое дрэўца расціць, і Валодзька адказаў:

— Акацыю.

— Цвіце хораша і пахне далікатна...— заўважыў Грыгор'еў.

За Рыгорам Іванавічам часта такое назіраецца: спярша возьме пацікавіцца, а потым зробіць сваю заўвагу. Бывае, ідзе ён вуліцай, убачыць у каго на гародзе маладзенькае, толькі што пасаджанае дрэўца — абапрэцца на паркан і пытае ў гаспадара:

— Што, антонаўку пасадзіў? Ці белы наліў?

— Пепінку,— бывае, адкажуць яму.

— Добрыя яблыкі! — пахваліць Грыгор'еў.— Моцныя і салодкія.

Калі ж пацэліць, што так і ёсць, што антонаўка пасаджана, таксама хваліць:

— Добрыя яблыкі: і моцныя, і на вітаміны самыя багатыя...

А задумаўся Валодзька пра ўсё гэта ў той самы дзень, калі практыка яго ўжо скончылася і калі Грыгор'еў пахваліў яго, перад усімі механізатарамі аб'явіў падзяку. Прыехаў Валодзька ў Падалессе, каб адсюль адправіцца ў Рэчыцу. Убачыў яго Грыгор'еў, сказаў свае пажаданні на дарогу, падумаў нешта сабе і ўсклікнуў:

— А што, Валодзя, бедныя мы такія, ці што, што на сваёй машыне падвезці цябе не можам! Заадно і я падскочу ў Рэчыцу.

Ён пастукаў у сцяну кулаком. У дзверы зазірнуў шафёр Валодзя Чарлянок:

— Машына гатова?

— Едзем куды?

— У Рэчыцу.

— Запраўлюся. Адну мінутку...

— Давай,— кінуў Грыгор'еў і крыкнуў услед Чарлянку: — Мы на шашы будзем!..

Зноў, як некалі восенню, хадзіў Валодзька пад задуменна-ціхім прыдарожным сасняком, хадзіў з Грыгор'евым, і, пакуль не пад'ехаў Чарлянок, Рыгор Іванавіч гаварыў Валодзьку:

— Кончыш вучыцца, вернешся ў саўгас — эх, і работка ж табе ёсць!

— Скажыце, Рыгор Іванавіч, а на які трактар пасадзіце вы мяне? — не стрымаўся Валодзька.

— На трактар які, пытаеш? Не, на трактар цябе яшчэ не пасадзім.

Валодзька здзіўлена пацiснуў плячыма, а Рыгор Іванавіч заўважыў гэта і неяк вельмі добра засмяяўся:

— Расці яшчэ,— сказаў ён.— От мы з табой сады будзем садзіць. Многа садоў пасадзім! Усе дарогі абсадзім. А потым — будзе табе і трактар.

Вось тут і рашыў Валодзька «раскусіць» Грыгор'ева, выведаць у яго што-нішто і запытаў:

— Усюды дарогі абсаджваюць бярозкамі. Ну, таполямі, вербамі яшчэ. А чаму ў нас — яблынямі, грушамі ды вішнямі?..

— Выходзіць — горш робім? — зусім сур'ёзна паглядзеў на Валодзьку Рыгор Іванавіч.

— Ну, не горш. А шкада ўсё ж...

— Каго шкада?

— Ну, што яблыні з грушамі на дарогах...

Валодзька меў на ўвазе тыя самыя прысады, што, прабегшы ўздоўж дарог, злучаюць цяпер Свідзеру з Берагавой Слабадой, Старыну з Падалессем, што двума радамі ўпёрліся ў горвальскі жывёлагадоўчы гарадок. Неяк незразумела: ні сады, ні прысады...

Грыгор'еў адказаў не адразу. Ён зняў кепку, падставіўшы ветру сваю кароткую стрыжку, пачухаў патыліцу і загаварыў:

— Шкада, Валодзя, таго, што не зроблена. Ты вось пра бярозкі заікнуўся. Дрэва ўсялякае добрае, толькі не ўсе шкадаваць яго ўмеюць... От жа высеклі нейкія бяздумнікі бор пад самым носам,— паказаў Рыгор Іванавіч у кірунку Дняпроўскай пясчана-лысай выспы,— а цяпер палі пяском заносіць. Вырастуць грушы, што пасадзілі там,— і сад будзе, і поле выратуем. А бярозкі? Садзілі іх некалі і ў нас. Адны садзілі, другія ламалі. Ты от прызнайся мне чэсна: ламаў?

Валодзька трошкі пачырванеў і сказаў:

— Карова раз не слухала, дубца выламаў...

— От бачыш! А яблыню зламаў бы?

Валодзьку нібы ў грудзі чым штурханулі: ён здзіўлена паглядзеў на Грыгор'ева, і на яго вачах выразна было напісана: «Ух ты, які ён хітры! Дадумацца ж трэба!»

— Ну, ну!

— Ніхто не зломіць,— сказаў Валодзька сваю думку, голасам не то здзіўленым, не то нейкім пакрыўджаным, але так, нібы сам запытаў: «Ды хто ж на такое руку падыме?»

— От бачыш,— яшчэ раз кіўнуў галавой Рыгор Іванавіч.— І ніякіх вартаўнікоў не трэба. І калі яблыкі паспеюць, таксама вартаўнікі не спатрэбяцца.

Грыгор'еў надзеў, насунуўшы на лоб, сваю кепку, памарудзіў трохі і загаварыў зноў. А Валодзька заўважыў, што некалькі пялёсткаў, нагнаных ветрам, упалі Рыгору Іванавічу на галаву і, як расталі, згубіліся ў яго сівізне. Так і засталіся пад кепкай...

— Гэтай восенню мы яшчэ будзем злучаць прысадамі Берагавую Слабаду з Мілаградам, а там я і яшчэ падумаю, дзе сад садзіць, — сказаў Грыгор'еў.



— Рыгор Іванавіч, а чаму, кажуць, да вас ніхто садоў не садзіў? — запытаў Валодзька.— Хіба не ўмелі?

Вось тут і перавярнуў Грыгор'еў усе Валодзькавы думкі. Не, не адразу, бо спачатку Валодзька не зразумеў.

— Эх, Валодзя, Валодзя! — уздыхнуў Грыгор'еў.— Быў такі нядобры час,— ты не помніш, ты малы яшчэ быў,— калі людзі нішчылі сады. Сваімі рукамі. Свядома. Ты от бярозку зламаў, відаць, і незнарок, не падумаўшы, ды чырванееш цяпер. А ведаеш, як было таму, хто сам пад сваім акном сек яблыню?.. Мы павінны вярнуць тыя сады. Яблыня — яна і хлеб наш, і песня...

Разабраўся Валодзька ва ўсім гэтым потым, ужо ў дарозе. Грыгор'еў мо б і сам усё растлумачыў, але падкаціў Чарлянок, і яны паехалі.

Прыгадалася Валодзьку даўняе-даўняе. Нават не прыгадалася, а неяк усплыло ў памяці, вымраілася, як праз сон. Спярша зайшоў да іх незнаёмы дзядзька з пашарпаным партфелем пад пахай. Тыцкаў ён маці нейкія паперкі, маці не хацела іх браць і спрачалася, нават пасварылася з незнаёмым. А потым пайшла на гарод і доўга там стукала сякерай па яблыні ля каранёў. Той стук, калі прыслухацца, здавалася, і цяпер яшчэ ўрываўся ў вушы: «Гуп! Гуп! Гуп!..» Потым маці плакала, а на гародзе да самай восені, пакуль не пасохлі і пакуль не спалілі іх, ляжалі чатыры ссечаныя і пачарнелыя яблыні. З пянькоў, нават не ссечаных, а хутчэй за ўсё пераджаваных тупой сякерай, вылазілі на свет порсткія дзічкі-адналеткі.

«Дык вось, выходзіць, які ён аграном-садоўнік!» — нечаканае адкрыццё, ледзь-ледзь не сарваўшыся, затрымалася ў Валодзькі на самым кончыку языка.

Абапал дарогі беглі прысады, названыя алеяй Перамогі. І думаў Валодзька пра гэтыя самыя маладзенькія дрэўцы, якія неўзабаве стануць садамі, думаў пра тых, хто блаславіў іх на жыццё, на белую квецень, і думаў пра сябе, пра Быстровых і Корзуна, пра Логвінаву і Куліка, а наперадзе, таксама моўчкі, таксама думаючы нешта сабе, сядзеў Грыгор'еў з выбеленымі скронямі, на якіх дзесьці і яго, Валодзькаў, лёс затаіўся не адным сівым воласам.

Цяпер для Данца і гэта было зразумела.

**Саўгас «Падалессе»**
**Рэчыцкага раёна.**



Славамір ХАДАРОНАК

# АКІЯНУ

Закалыханыя,
як дзеці,
Брыдзем самотнаю гурбой.
І поўня
нам плафонам свеціць,
Гайдаецца над галавой.
Але на бераг ціхі сыдзем,
Пабудзем там дзянёк-другі —
І зноў тваім прасторам трызнім,
Вар'яцкім пасвістам пургі.
Зноў клічуць грэбні хваляў
стромкіх.
Зноў дома цяжка усядзець.
Ты, нібы боцман,
дзёрзкі, строгі,
І ўсё ж нам нельга
без цябе...

●

Хоць па горах хваляў акіянскіх
Многа соцень міль мы праплылі,
Тоненькай, як нітачка, марзянкай
Карабель прывязан да зямлі.

Хоць у царстве хмурага Нептуна
Галасоў жаночых не чуваць,
Ды дзяўчат смуглявых пацалункі
На губах і сёння ў нас гараць.

Хай не будзем гэтаю вясною
Любавацца зеленню алей,
Толькі ўсё звычайнае, зямное
Стала даражэй нам і мілей...

# РАДЫСТ

Навастрыў аловак і слых.
Прымасціўся пад гонкай піхтаю.
Кроплі цюкаюць аб башлык.
Як шчыглы, навушнікі пінькаюць.
Не засну я аж да відна.
Рэактыўныя ў небе пасуцца.
Кожнай хваляй слова «вайна»
Можа ў мембраны пастукацца.
Свет дыханне суняў, прыціх,
І ў начной цішыні, здаецца,
Стукат сэрцаў гарачых людскіх
У навушніках аддаецца...

# ПЕРШЫ ШТОРМ

Мяне ён Нептуну аддаць
пагражаў.
З мяне ён нутро выматваў.
І што ні хваля, то ўсё пужаў:
— Я табе дам
рамантыку!..
Аброслы калючым шчаціннем,
худы,
На пробкавым мулкім матрасе
Ляжаў не я,
а чатыры пуды
Ні жывога ні мёртвага мяса.
Прабуджаны кімсьці
паўночнай парой,

Я брыў на вахту,
няўклюдны, цыбаты.
А ён нада мною
з'едліва роў
Басам дзесяцібальным.
Пазней,
як на бераг родны ступіў,
Яго нечакана стрэціў.
Ён піва за нізкім столікам
піў
У цесным рыбацкім буфеце.
Мне здаўся твар ягоны скалой,
Маршчынамі спаласаваны.
Над куфлем пукатым,
над галавой
Клубілася пена сівая.
Камлюкаваты,
крэпкі, бы кнехт,
Асмужаны,
з шыяй бычынай,
Ён моўчкі сядзеў
і ўсміхаўся мне
Малюсенькімі вачыма...

●

Пчала, як куля, празвінела
Ля вуха.
Зноў спакой і ціш.
Глядзіш на статак хмарак белых —
Здаецца, некуды ляціш.
Шпурнуў бушлат на куст бухматы.
У мурагу сабе ляжы.
Чутно, як енчаць бусляняты
І вострацьконікі нажы.
Стартуюць лёгкія стракозы
З маёй далоні ў сіняву.
Сплялося вецце вербалозу,
І мята кружыць галаву.
Дрымота цэдзіцца,
нібыта
Той мёд салодкі і густы,
І хочацца хутчэй забыцца
На маршы, выбухі, пасты...

# БРАСЛАЎШЧЫНА

Край рыбных клёцак
і румяных дранікаў.
Край важных чапляў,
вадзяных быкоў.
На кладках гул
драўляных мокрых
пранікаў,
І воклічы калгасных пастухоў.
Тут у сваіх духмяных травах
пожні
З галовамі хаваюць хлапчукоў.
Тут ля кастроў начамі,
нібы поўні,
Асмужаныя твары рыбакоў.
Старыя вас навучаць тут
па-польску
Даволі дасканала
размаўляць.
Тут па-даўнейшаму
танцуюць полькі,
Аж шыбы ў клубах рубленых
дрыжаць.
О, мудрая, дрымучая
планета,
Як табе дзякуй сёння
не сказаць
За ласкавы куточак гэты,
Што шчыры,
як матуліна сляза...



Аляксей ГАРЭЛІК



●

За рэчкай у лузе духмяным
Вядуць пераклічку драчы...
У абед, пасля працы стараннай,
Прылёг хлебароб адпачыць.

Прылёг на дыван ён у квецень
Рамонкаў, барвовых званкоў...
Дыханне прыцішсваё, вецер,
Не гушкай над ім васількоў!

Хай спіць чалавек. Супыніся
Крычаць, гарлапаністы птах...
З павагаю колас схіліўся
Да рук, што ляжаць на грудзях.

Заснуў хлебароб, а на твары
Шчаслівай усмешкі сляды:
Пад ім жа зямныя абшары
І колас над ім малады.

●

Вясна прыадкрыла зялёныя вейкі
Над сінім прасторам зямлі.
І зноў забурлілі прыціхлыя рэкі,
І спеў жаўрукі завялі.

Ля вокнаў маіх па-над шэрай сцяжынкай
У бэзавы яркі агонь
Чаромха страсае пялёсткі-сняжынкі,
Спрабуе засыпаць яго.

А сонца смяецца з блакітнае высі,
Праменнямі грэе палі...
Зялёныя вейкі вясны падняліся
Над чыстым прасцягам зямлі.

●

Мой бацька рэжа бохан і кладзе
На стол, як гаспадар, за лустай лусту.
І з-пад нажа ягонага ідзе
Прыемны пах, што бацьку так па густу.

Не налюбуецца тым хлебам ён.
Ужо каму, а сейбіту вядома,
Што ён зярнят трымае перазвон,
Раскаты веснавога грому.

Васіль ЖУКОВІЧ

●



# ГРОМААДВОД

Калі надыдзе навальніца
І ўдарыць моцна гром, калі
К зямлі пачнуць кусты хіліцца
І дрэвы — гнуцца да зямлі,

Зашэпчуць, зашумяць трывожна,
Адчуўшы страшнага прыход,
І толькі неяк насцярожана
Стаіць адзін громаадвод.

Яго вятры не ў сілах знесці.
Ён — вартаўнік. Ён — валадар.
Каб ад другіх удар адвесці,
Бярэ ён на сябе удар.

●

Ад'язджаючы ў край сасновых бароў,
Ты мяне пакідала ў кругу неразлучных сяброў.

З цэлым горадам добра знаёмых людзей
Ты мяне пакідала ў той дзень.

А пакінула
            з мноствам кароткіх і доўгіх дарог,
А пакінула
            з мноствам малых і вялікіх трывог
Аднаго.

Лідзія АРАБЕЙ

# НА СТРУНАХ БУРЫ

Аповесць



Мал. І. Давідовіча.

*Чутка йграеш, гулка йграеш*
*Ты на скрыпачцы сваей,*
*К небу думкай падлятаеш,*
*Шчасця зычыш для людзей.*

Янка КУПАЛА. Аўтарцы «Скрыпкі беларускай»

## I

У купэ цягніка Санкт-Пецярбург — Варшава ехала маладая жанчына. Яна была ў доўгай цёмнай сукенцы з карункавым каўняром і такімі ж манжэтамі, у капелюшы з букецікам прыколатых да яго штучных пралесак. Прыгожай яе нельга было назваць, але маладосць, свежасць твару рабілі яе абаяльнай. Жанчына глядзела ў акно, і вочы яе, жывыя, разумныя, увесь час мяняліся. То рабіліся вясёлыя і нібы смяяліся, то халаднелі, цямнелі. І невядома было, ці гэта краявід, які бег за акном, выклікаў у яе такую змену настрою, ці свае ўласныя думкі, пачуцці.

Маладжавы пан, у цыліндры, з белаю крухмальнаю манішкаю пад чорным сурдутам, замілавана пазіраў на маладую жанчыну. Увесь яго выгляд выказваў гатоўнасць у любое імгненне ўскочыць і тут жа выканаць самае нечаканае пажаданне спадарожніцы.

Цягнік гайдануўся на стрэлках. Алаіза Пашкевіч на хвіліну адвярнулася ад акна, сустрэлася позіркам з маладжавым панам. Той нават прыўзняўся з лаўкі, гатовы ўслужыць, але яна наўмысля пераняла позірк зноў за акно.

Цягнік мінуў стрэлку, і зноў мерна затахкалі колы. Зноў закруцілася, як на карусэлі, парэзаная на шматкі, засеяная азімінай зямля. Зноў беглі адзін за другім слупы. Золатам і чырванню ўспыхвалі ўсцяж каляі лясы. Яны то ўзбягалі на высокія ўзгоркі, то спускаліся і зноў беглі ля самай дарогі. І над усім стаяла чыстае, празрыстае неба.

Алаізе раптам захацелася апынуцца за акном вагона. На тым вунь лузе, аблытаным павуціннем бабінага лета. Каб яно чаплялася за ногі, казытала твар і рукі. Захацелася ступіць на гэтую зямлю, дыхнуць гэтым паветрам. Выпіць вады са студні, што стаіць каля той вунь пахілай хаткі, задраўшы ўгору дзюбу жураўля. Зайсці да тых гаспадароў. Заслухацца іх любаю гаворкай. Разам з імі пабедаваць над іх горам. І яшчэ ў адну хату зайсці, і яшчэ ў адну. І з усімі пабедаваць, і з усімі паплакаць, а з кім, можа, і парадавацца...

Але хутка прамільгнулі і луг, і тая пахілая хатка. За акном былі ўжо прыгарады Вільні, а спераду вялікімі камяніцамі наплываў і сам горад. Пасажыры заварушыліся, пачалі апранацца, сцягваць з паліц свае рэчы. Чулася беларуская, польская, літоўская гаворка.

Цягнік цяпер нёсся па высокім насыпе, а ўнізе ў жаўціні бяроз і чырвані клёнаў танулі невялікія дамочкі. Паўз іх ішла брукаваная вуліца. Мільганулі адзін за адным вялікія будынкі, і вось цягнік пачаў замаруджваць бег, а пасля і спыніўся, выпускаючы клубы пары, нібы адсопваючыся ад далёкай дарогі.

Алаіза апранула паліто, нацягнула пальчаткі. Маладжавы панок кінуўся памагаць ёй здымаць з паліцы рэчы.

— Дзякуй, дзякуй, я сама,— узялася яна за ручку свайго чамаданчыка, але пан ужо зняў з паліцы яе клунак і далікатна забіраў з рукі чамаданчык. І як ні старалася Алаіза ўхіліцца ад дапамогі гжэчнага пана, той не пакінуў яе, пакуль не знайшоў рамізніка і не памог ёй сесці. На развітанне ён паднёс руку да свайго цыліндра, цырымонна пакланіўся.

— Жычу шчасця, пані,— сказаў ёй па-польску.

Алаіза паспешліва падзякавала. Яна хацела хутчэй застацца адна. Пан перашкаджаў яе сустрэчы з Вільняй.

І вось яна едзе вуліцамі горада. Маленькі шэры конік дробна перабірае нагамі, і капыты гулка цокаюць па бруку. Мерна гойдаецца перад ёю неварухлівая спіна рамізніка.

Не, хай смяюцца з яе людзі, але яна ўпэўнена, што Вільня мае свой, уласцівы толькі ёй адной пах. «Ну вось, што гэта за водар! — глыбока ўдыхнула Алаіза.— Ці то гісторыя далёкіх часоў, якая тут у кожным камяні, ці подых вузкіх вуліц з цвілымі камяніцамі, халоднымі дварамі, ці вялы ліст віленскай восені?..»

Па вуліцах ідуць, спяшаюцца людзі. Адны з іх заклапочаныя, другія абыякавыя. Алаізе дзіўна, што яны так звычайна, па-будзённаму ходзяць па горадзе. Хаця... Яны ж нікуды не ад'язджалі, яны ж і ўчора, і пазаўчора былі тут, а Алаіза цэлыя два гады жыла так далёка ад Вільні...

Яны ехалі па Завальнай вуліцы. З двух бакоў былі крамы і крамкі, майстэрні з шыльдамі. На аканіцы шавецкай майстэрні намаляваны бліскучы вастраносы бот. У акне капялюшні на галаву-манекен какетліва, з прэтэнзіяй на элегантнасць, надзеты шыракаполы капялюш з пер'ямі. На шыльдах прадуктовых крам намаляваны апетытныя паляндвіцы, кілбасы і шынкі, абаранкі і булкі.

З-за павароту вуліцы, насустрач ім, выйшла калона салдат.

«Шах-шах, шах-шах!» — усё гучней аддаваўся іх крок у каменных брамах Завальнай вуліцы. Салдаты ішлі да станцыі, туды, адкуль ехала Алаіза. Фурман збочыў, даючы ім дарогу.

У салдат за плячыма былі вінтоўкі. Полы доўгіх шынялёў пляскалі па цяжкіх ботах. Твары ва ўсіх былі амаль аднолькавыя.

«Шах-шах, шах-шах!» — праходзілі яны роўнымі радамі.

Алаіза бачыла не адну такую калону і ў Пецярбурзе, і на станцыях, якія цяпер праязджала. Цягнікі з салдатамі ішлі на ўсход. Адтуль пошта прыносіла маткам і жонкам лісты з чорнымі рамкамі, у якіх паведамлялася, што іх сын ці муж загінуў смерцю героя за веру, цара і айчыну.

Алаіза глядзела на абыякавыя твары салдат, якія праплывалі перад ёю.

«Вось ты,— падумала яна пра светлабровага салдата, які толькі што прамільгнуў перад яе вачыма,— куды ты ідзеш... Ці вернешся?..»

Алаіза азірнулася, хацела яшчэ раз глянуць на салдата, які за адзін кароткі міг запомніўся ёй тварам, але ўбачыла толькі худую шыю, што тырчала з жорсткага каўняра шыняля. Ды яна ўжо не была ўпэўнена, што гэта шыя таго, светлабровага. Калі ў твар яны ўсе падобныя, то хіба пазнаеш па патыліцы? Усе аднолькавыя, як аднолькавы іх лёс — сканаць на далёкай, чужой зямлі...

Прайшлі апошнія рады — самых нізкарослых, крыху недарэчных у вялікіх, не па росту шынялях, без вайсковай выпраўкі, звычайных вясковых хлопцаў. І доўга яшчэ быў чуваць суладны крок многіх ног, які паступова прыціхаў і глухнуў.

Фурманка мінула Георгіеўскі праспект — новы праспект у Вільні, шырокі, роўны, забудаваны прыгожымі камяніцамі. Алаізе трэба было на Хівінскую вуліцу. Брат Войцах пісаў, што наняў там кватэру. З ім жыла і старэйшая іх сястра, Стэфа. Памагала брату весці яго несамавітую гаспадарку. Да іх цяпер і ехала Алаіза.

Дарога на Хівінскую вуліцу вяла паўз Георгіеўскі сквер, які выглядаў вялікім вогнішчам, раскладзеным пасярод горада. Жоўтыя кроны дрэў ярка гарэлі на восеньскім сонцы. У паветры стаяў пах лісця і травы, якія дагаралі на гэтым вогнішчы. А за скверам, далей, у бок Хівінскай вуліцы, плыла паўнаводная Вілія. Вада ў ёй была густая і цёмная.

Бераг з таго боку ўставаў над ракою, свецячыся жоўтым спрасаваным пластам пяску. А зверху, на самым беразе, зелянела трава, яркая, нібы веснавая. Яны побач беглі ўдаль — бурыя хвалі ракі і зялёны, наперакор восені, бераг. Над імі, знізу ўверх, узнімаліся камяніцы. Дамы нібы наўмысля выстраіліся так, каб ім зручней было глядзець на Вілію, не засціць адзін другому.

Адразу за мостам цягнуўся ўгору касцёл Святога Рафаіла. Сюды прыязджалі маліцца сяляне з вёсак, і па нядзелях каля касцёла стаяла многа падвод, паходжвалі бабы ў накінутых на плечы вялікіх цёплых хустках, мужчыны ў саматканых суконных світках.

Справа, на невялікім пагорку, стаяў палац, нядаўна збудаваны багатым віленскім доктарам. На месцы, дзе цяпер палац, збіраліся ставіць царкву. Але пакуль вазілі праект царквы ў Пецярбург на зацвярджэнне, доктар збудаваў палац. Царкву паставілі ў канцы Георгіеўскага праспекта, недалёка ад Звярынца.

Пераехаўшы мост, рамізнік павярнуў каня на вузенькую, забрукаваную Кавалерыйскую вуліцу. Недзе блізка была і Хівінская. Алаіза захвалявалася, прадчуваючы блізкую сустрэчу з роднымі.

Каля двухпавярховага цаглянага доміка на Хівінскай вуліцы яна ўбачыла жанчыну ў шэрай хустцы, накінутай на галаву. Алаіза ўраз пазнала сястру.

— Сястрыца! — не магла стрымаць радасці Алаіза. Яна саскочыла з фурманкі, не дачакаўшыся, пакуль фурман спыніць каня.

Сёстры абняліся, тройчы пацалаваліся.

— От жа чула маё сэрца! — выцірала Стэфа вочы рогам тоўстай хусткі.— Гэта ж я выйшла на вуліцу, гляджу — ты едзеш...

— Прыехала, сястрыца, прыехала, і сама надта ж рада,— набеглі слёзы і на Алаізіны вочы.— Дык гэта вы тут жывяце? Някепска, някепска...

Сапраўды, уся Хівінская вуліца была забудавана драўлянымі дамамі. Каля іх былі гародчыкі, невялікія садочкі. І толькі адзін





гэты дом вылучаўся сваім сапраўды гарадскім выглядам. Быў з белай цэглы, з балкончыкамі.

— Войцаху тут да казармаў блізка, і нядорага гаспадыня бярэ,— нібы апраўдвалася Стэфа.

Яны ўвайшлі ў парадныя дзверы. Па вінтавой чыгуннай лесвіцы, узорыстай, як з карункаў, Стэфа павяла Алаізу на другі паверх.

Брат наймаў два невялічкія пакойчыкі. Яны былі дагледжаныя, чыстыя. Дамок не толькі звонку выглядаў прыгожа. І пакоі ў ім былі добрыя. Столь і сцены размаляваныя, высокія, печы з белай кафлі, аздобленыя ўзорамі з бронзы, а ў большым пакоі быў нават камін. У кватэры пахла травамі. Стэфа заўсёды збірала іх і купляла. Каля каміна на нітках сушыліся зёлкі.

Сястра кінулася частаваць госцю, а тая глядзела, як завіхалася Стэфа каля стала. За два гады яна ніколечкі не змянілася. Такая ж тоненькая, як паненка, хоць ёй ужо далёка за трыццаць.

Алаіза з сястрою жылі дружна. Некалі, яшчэ гімназісткамі, разам наймалі пакойчык у бедных віленскіх гаспадароў. Алаізу і вучыцца ў Вільню бацькі адпусцілі пад нагляд старэйшай сястры. Яны спалі ў адным ложку. Пакойчык зімою часта быў няпалены, халодны. Самі яны часта былі галодныя, бо пасылкі з дому канчаліся вельмі хутка. Бацька ўпіраўся, не хацеў вучыць дачок, стагнаў, што гэтая навука пусціць яго з торбаю па свеце. Так што грошай ад яго Алаіза з сястрою ніколі не бачылі. Так, якой бульбы мех, круп, якую скварку прысылала маці. І то хаваючыся ад бацькі, каб не сварыўся, што дабра не ашчаджае.

Стэфа правучылася ў гімназіі толькі два гады. Больш не вытрывала галоднага жыцця. І цяпер жыла пры браце.

— А дзе ж Войцах? Як ён маецца? — спыталася Алаіза ў сястры.

— Войцах у казармах,— адказала Стэфа.— Ды ён не стыкаецца дома, толькі начаваць і прыходзіць.

Пасля яны сядзелі адна пры адной, прытуліўшыся да цёплай кафлянай грубкі, і гаварылі.

— Ну, як жа тваё здароўе? — заклапочана пыталася Стэфа, ведаючы, якая нядужая Алаіза, як яна моцна хварэла, калі яшчэ вучылася ў гімназіі.

— Ат, добра,— бесклапотна адказала Алаіза.— Я, сястрыца, прыкмеціла ўжо, што як не зважаеш на хваробу, дык яе і не так чуваць. Яна тады некуды хаваецца. А як пра яе думаеш ды песціш, то яна і рада ў цябе ўгрызціся.

— Ой, глядзі!..— пакруціла галавою Стэфа.— Буду цябе зёлкамі паіць...

— Паі, паі,— весела згадзілася Алаіза,— але памятай, што цяпер і я фельчар. З Пецярбурга дыплом прывезла.

— А-а...— з павагаю паглядзела на малодшую сястру Стэфа. Яна крышку памаўчала, пазіраючы ў акно, за якім ківаў галінамі ўжо голы ясень, пасля сказала ціха: — Бабка Ягася памерла.

— Праўда? — ахнула Алаіза.

— На купалле. З кветкамі і пахавалі...— з сумам расказвала Стэфа.

— Ай-яй-яй! — шкадавала бабку Алаіза.— І калі ж гэта я апошні раз яе бачыла? Гадоў з пяць, мусіць...

Бабка Ягася была вельмі старая. Ёй было гадоў дзевяноста, і ўсё ж яе смерць моцна засмуціла Алаізу.

Колькі жыла Алаіза, столькі яна ведала і памятала бабку. І тады, шмат гадоў назад, бабка ўжо была старая — сухенькая, зморшчаная, невялічкая. Толькі вочы былі заўсёды жывыя, вясёлыя, сінія.



Што значыла для Алаізы бабка Ягася, нават і расказаць было цяжка. Бабка Ягася — гэта была калыханка над яе калыскаю. Гэта быў зялёны луг з кветкамі, лес з духмянымі суніцамі, з кустамі маліны, з птушкамі, якіх бабка ўсіх-усіх ведала. Яна была як тая простая вясковая песня, якую бабка спявала крыху хрыплаватым голасам і ад якой Алаізе рабілася і хораша і балюча.

*Пад тыночкам рутанька,*
*Пад тынам зялёная...*
*Там дзяўчынка стаяла;*
*З рутанькі расу збірала,*
*Расою ўмывалася,*
*Касою ўціралася,*
*Касою ўціралася,*
*Пра долю пыталася...*

Песні бабка спявала на мове, якая і сама была — як песня... А чытаць і пісаць вучыла па-польску. Бедная бабка Ягася! Ці ж ведала яна, што можна пісаць і па-беларуску... Ці бачыла яна калі ў вочы беларускую кніжку...

А яе казкі... Колькі іх ведала бабка! Пра ведзьмакоў, пра чарцей, пра смелага Янку і яго каханую Марысю.

Алаіза помніць, як і сама яна, бывала, наслухаўшыся бабчыных казак, пачынала складаць-выдумляць. Такога навыдумляе, так настрашыць дзяцей, што тыя да бабкі ўцякалі на паратунак. І Стэфу не раз палохала, хоць тая і старэйшая была. Часам і сама верыла ў страхі, што выдумляла, і сама аж калацілася, сама ў бабкі ратунку шукала. Пасля ўначы не спала, з ложка зрывалася. Бабка Ягася тады сядзе пры ёй, руку гладзіць ды супакойвае:

— Ціха, дзіцятка! Спі, Лізанька, я страхі прэч прагнала, яны больш не вернуцца.

І тады Алаіза, альбо Лізанька, як звала яе бабка Ягася, зноў спакайнела, засынала.

Вучыла бабка Ягася яе і вышываць крыжыкамі на канве, вязаць пруткамі, плесці карункі. Але скора ўбачыла, што да гэтага ў дзяўчынкі не было ніякай ахвоты: не магла яна доўга ўседзець на адным месцы ды і не любіла гэтага занятку. Тады бабка кінула надакучаць ёй. Не хоча — не трэба. Хай робіць тое, што самой да спадобы.

— Трэба будзе з'ездзіць на яе магілку,— сказала Алаіза, не ведаючы, як інакш можна цяпер выказаць усю пашану да памяці бабкі.

— Ага, з'ездзім,— згадзілася Стэфа.— Яна цябе любіла. Больш за ўсіх нас. Ну, а што ты думаеш рабіць у Вільні?

— Што думаю рабіць? — перапытала Алаіза.— Вось, перш-наперш трэба знайсці работу.

— Ой, сястрыца...— пакруціла галавою Стэфа.— Думаеш, так гэта проста? Вунь, біржа поўная людзей. Ды і тыя, што работу маюць, з голаду ледзь не пухнуць. Вайна.— Сястра панізіла голас, загаварыла амаль шэптам.— Кепска ў Вільні. Усё так дорага... Рабочыя бастуюць... Непарадкі... Сацыялісты бомбы кідаюць. Ой, трывожны час, кепскі!

Алаіза ціха засмяялася.

— Тое, што ты гаворыш, не так ужо і кепска,— сказала яна.

Алаіза пазірала перад сабою, і вочы ў яе былі глыбокія і халодныя. Сястры здавалася, што Алаіза цяпер бачыць нешта такое, чаго не відаць ёй. І гэта ўпартая зморшчынка на пераноссі... Здаецца, раней яе не было. Ці Стэфа яе не прыкмячала?

Старэйшая сястра глядзела на малодшую з любасцю, з ласкай і з трывогай.

## II

Назаўтра Алаіза пайшла ў горад. Хацелася пахадзіць па вуліцах, паглядзець, што новае ў Вільні. Яна спусцілася да цэнтра. Падышла да Георгіеўскага сквера. Той усё сыпаў пажоўклае лісце, усцілаючы дарожкі, алеі. Праз аголеныя дрэвы ўбачыла знакамітую капліцу Аляксандра Неўскага.

Капліца была пастаўлена клопатамі генерал-губернатара Мураўёва ў памяць тым, хто загінуў, душачы паўстанне 1863 года. Царскія ўлады не пашкадавалі для помніка ні мармуру, ні золата. Але цяпер Алаізу здзівіў выгляд капліцы. Не было залатога крыжа, які аздабляў купал, ды і ўся капліца была пашарпаная, абабітая.

Алаіза пайшла цераз сквер да капліцы. Дарожкі тут, як дыванам, былі ўкрыты жоўтым лісцем. І на капліцы, на яе купале, ляжаў залацісты лісцяны покрыў. Але ці ж мог ён замяніць сапраўднае золата, якое нядаўна яго аздабляла... Што магло здарыцца? Не мог жа трапіць пярун у гэту боскую абіцель. І не магло тут быць пажару.

Вакол капліцы бегаў нізенькі тоўсценькі панок у чорным цыліндры.

— Ах, ах, ах! — вохкаў ён.— Ну как это можно... Ничего святого в людях не осталось...

Недалёка ад капліцы стаяла двое мужчын. Абодва на выгляд простыя, рабочыя людзі. Адзін, вышэйшы, трымаў рукі ў коса прарэзаных кішэнях суконнай світкі і з яўнай іроніяй пазіраў на тоўстага панка, які ўсё бегаў вакол капліцы.

Алаіза падышла да мужчын.

— Што гэта тут зрабілася? — паказала яна вачыма на капліцу.— Я нядаўна прыехала... Не ведаю віленскіх навін...

Мужчына ў світцы змераў яе позіркам, нібы ацэньваючы, чаго яна варта, хто яна можа быць, а пасля, з яўнай пагардай да таго, як яна можа ацаніць яго словы, сказаў:

— Смаркач нейкі бомбу кінуў. Але — не ўмееш, не бярыся...

Чалавек не дагаварыў, чаму лічыць таго, хто кінуў бомбу, смаркачом, але было зусім ясна — ён незадаволены, што капліца не разляцелася зусім.

Алаіза нейкае імгненне глядзела на мужчыну, нібы хочучы пераканацца, што пачутае ёю было сапраўды ім сказана і сапраўды ў такім значэнні. А той стаяў з абыякавым выглядам, хоць хітрыя іскрынкі так і скакалі ў яго вачах. Яму, відаць, было цікава, як паставіцца пані да такіх яго слоў. А тая раптам весела, шчыра засмяялася.

— Не ўмееш, то не бярыся? — паўтарыла яна.— Пан праўду кажа...

Мужчына, убачыўшы, што не памыліўся, павёўшы з ёю гутарку ў такім тоне, таксама засмяяўся, піхнуў локцем пад бок таго, што стаяў з ім побач. Мужчыны, задаволеныя, пераглянуліся. Цяпер яны абодва глядзелі на Алаізу, як на свайго аднадумца.

— А хто ж гэта? Калі? — спыталася яна.



— Нехта б, можа, шмат заплаціў, каб уведаць, хто,— сказаў высокі мужчына.— Яшчэ вясною. Усярэдзіну бомбу кінуў.

— Крэста на нём не было...— бурчаў тоўсты панок у цыліндры. Ён раптам укленчыў перад капліцай і пачаў жагнацца, шэпчучы словы малітвы.

— Бывайце здаровы,— сказала Алаіза мужчынам і, усміхаючыся, пайшла на вуліцу.

Ёй было лёгка і весела. Значыцца, жыве Вільня, бурліць! А яна думала, што пасля Пецярбурга трапіць у ціхую затоку. Аказваецца, ого! «А гэтыя, гэтыя,— думала Алаіза пра мужчын, якіх сустрэла каля капліцы,— бач ты... «не ўмееш, то не бярыся...»

У добрым настроі выйшла яна на Георгіеўскі праспект, спадзеючыся, што горад пакажа ёй яшчэ нешта новае, яшчэ ўсцешыць.

І яна не памылілася. Вільня сапраўды нарыхтавала для яе сюрпрызаў. Крыху прайшоўшы па праспекце ў кірунку Кафедральнай плошчы, яна ўбачыла помнік, якога два гады таму назад не было ў горадзе. «Канечне, гэта помнік Кацярыне другой»,— адразу здагадалася Алаіза. Колькі гадоў капалі дол пад гэты помнік. Пачалі капаць, калі Алаіза яшчэ вучылася ў гімназіі. Яна чула, як кляў вялікую імператрыцу і таго, хто надумаў ставіць ёй тут гэты помнік, дзядзька Казімір, гаспадар, у якога яны пакойчык здымалі.

Грунт, на якім ставіўся помнік, быў нетрывалы. Яго размывала вада. Вільня ў гэтым месцы бегла да Віліі пад зямлёю. Яна менш за ўсё думала, што некаму прыйдзе ў галаву менавіта тут, пры яе ўпадзенні ў вялікую раку, ставіць помнік царыцы.

Помнік даўжэй будавалі, чым ён стаяў. Але гэта паказала гісторыя. А пакуль Кацярына горда ўзвышалася на Кафедральнай плошчы. Два двухгаловыя арлы з двух бакоў абаранялі яе. Царыца была ўвекавечана ў росквіце сілы і жаночай красы. Моцна трымала яна ў выцягнутай руцэ сімвал царскай улады.

«Отторженая возвратих»,— прачытала Алаіза надпіс на п'едэстале.

Надпіс услаўляў цараванне Кацярыны другой, пры якім заходнія землі былі далучаны да Расіі.

У першую хвіліну Алаіза з дваістым пачуццём глядзела на помнік. У ім ярка адбіваўся талент скульптара. Помнік рабіў вядомы мастак Антакольскі, сам выхадзец з Вільні, з беднай яўрэйскай сям'і. Але самадзяржны дух, які веяла ад помніка, ад надпісу на ім, хутка абудзіў у Алаізы дух пратэсту. Алаіза адвярнулася, каб не бачыць больш помніка, каб пайсці адсюль, зрабіла ўжо нават некалькі крокаў і раптам, твар у твар, сустрэлася з тым, з кім хацела сустрэцца, хто ўвесь час жыў у яе думках, да каго яна хацела хутчэй прыйсці, з кім марыла сустрэцца ў Вільні.

Тут, недалёка ад Кацярыны, тварам да яе, стаяў Пушкін. Поруч з велічным, агромністым помнікам Кацярыны бюст Пушкіна выглядаў зусім маленечкім, нязначным. Але ад бюста дыхнула на Алаізу такім блізкім, такім родным, што яна падышла да яго і дакранулася рукою да халоднага граніту.

Алаіза села на лаўку спіною да Кацярыны і тварам да Пушкіна. Яна ўспамінала горад, з якога прыехала, яго горад, Пушкіна... Там белымі начамі яна чытала «Меднага конніка». Там, у Пецярбурзе, яна ўпершыню кінулася ў вір яго паэзіі. Разам з Пушкіным яна блукала з краіны радасці ў краіну адчаю, з краіны любві ў краіну нянавісці.

І яна ведала, што цяпер будзе з Пушкіным заўсёды, з тымі сінімі томікамі яго паэзіі, якія прывезла з сабою.

Яна ўспамінае, як чытаў курсіст на нелегальнай сходцы вершы паэта:

*В России нет царя,*
*В России нет закона.*
*В России столб,*
*А на столбе корона...*

Ну, проста пра Мікалая другога напісаў! Як у ваду глядзеў Пушкін! Ды яны, цары, і тады такія самыя былі. Не лепшыя.

І ўспамінаецца яшчэ. Зноў пушкінскае. Поўнае агню і веры:

*Товарищ, верь: взойдёт она,*
*Звезда пленительного счастья,*
*Россия встанет ото сна,*
*И на обломках самовластья*
*Напишут наши имена.*

Спатканне з Вільняй... Спатканне з Пушкіным... Не, у гэтым горадзе яна павінна знайсці шчасце. Шчасце ў буры, у навальніцы, якая находзіць на ўсю вялізную краіну, якая не міне і гэтых месцаў, якая прынясе сюды волю і шчасце.

## III

— У дзісейшы вялікі момант, калі ўсе народы Расійскага гасударства грамчэй і грамчэй падаюць свой голас за свабоду, і мы павінны абгаварыць спосабы нашай работы на далейшы час. Пакуль што намі зроблена хоць і многа, але і дужа мала. Многа, бо намі арганізавана партыя. Першая палітычная партыя, якая выказвае інтарэсы прыгнечанага, абяздоленага народа і шырыць сваю работу ў Менску і тут, у Вільні. А мала, бо нас саміх пакуль мала і ахопліваем мы работай пакуль малое кола народу.

— І будзе так, пакуль мы не арганізуем свайго друку,— падаў голас Вацук Іванецкі, які прывёў Алаізу на гэта пасяджэнне і сядзеў цяпер побач з ёю.

З Вацуком Іванецкім Алаіза пазнаёмілася яшчэ ў Пецярбурзе. Ён вучыўся там на політэхнічным аддзяленні ўніверсітэта, і, як землякі, яны часта спатыкаліся. Вацук прыходзіў да яе ў «станцыйку», маленькі цёмны пакойчык на Васільеўскім востраве.

Ён увёў яе і ў суполку «Круг беларускай народнай прасветы і культуры беларускай», якая была арганізавана ў Пецярбурзе з беларускай моладзі. Гэта суполка рабіла ўсё, каб пашырыць беларускае слова, кіравала выданнем кніг на роднай мове за граніцай. Стараннямі гэтага кругу была надрукавана «Вязанка» Івана Неслухоўскага. Яны ж выдалі і невялічкія кніжачкі: «Песні» і «Калядную пісанку», куды былі ўключаны і тры вершы Алаізы. Круг беларускай моладзі прызнаў яе як беларускую паэтэсу.

Цяпер, прыехаўшы ў Вільню і ведаючы, што Вацук тут, Алаіза зайшла да яго, памятаючы пецярбургскае сяброўства.

Вацук вельмі ўзрадаваўся яе прыходу, сустрэў, як сястру, яны нават пацалаваліся. Пасля першых слоў аб тым, калі прыехала, што чуваць у Пецярбурзе, хто са знаёмых там застаўся, Вацук заявіў Алаізе, што яна прыехала вельмі ў час, што заўтра ў іх пасяджэнне «Грамады» і яна мусіць пайсці з ім туды.

— Але, браток, я ж не належу да гэтага вашага хаўрусу, чаго ж я туды пайду? — адмаўлялася Алаіза.



— Ды там усе свае. Яны цябе добра ведаюць. Чыталі твае вершы,— угаворваў яе Вацук.

Ён пачаў горача даводзіць Алаізе, што яны, беларускія інтэлігенты, павінны ўсе трымацца разам, разам весці работу, бо ад іх еднасці, ад іх дзейнасці залежыць лёс беларускага народа. І такі ўгаварыў. Ды Алаізе і самой было цікава пабыць на пасяджэнні «Грамады». Аб тым, што існуе такая партыя, яна ведала яшчэ ў Пецярбурзе. Яна чула, што былыя пецярбургскія студэнты браты Луцкевічы заклалі ў Менску Беларускую рэвалюцыйную грамаду, што ў мінулым годзе быў яе з'езд і партыю перайменавалі ў Беларускую сацыялістычную грамаду, што яна вядзе нейкую работу. Але што гэта была за работа, Алаіза не ведала. Увесь апошні час яна была вельмі захоплена працай у рэвалюцыйнай суполцы, створанай на курсах.

Калі курсісты раз'язджаліся з Пецярбурга, на пасяджэнні суполкі было вырашана, што кожны з яе членаў будзе працягваць работу там, дзе будзе жыць пасля вучобы.

І Алаіза вярталася ў Вільню з гарачым жаданнем весці працу, распачатую ў сталіцы. Яна ўжо не магла ўявіць свайго жыцця без гэтай працы.

Цяпер, седзячы на сходзе «Грамады», Алаіза ўважліва ўслухоўвалася ў тое, што тут гаварылася, прыглядалася да людзей. Было тут з ёю ўсяго сем чалавек, і амаль пра ўсіх Алаіза чула, хоць і бачыла іх сёння першы раз.

Той, што вядзе пасяджэнне, асноўны арганізатар «Грамады» — Іван Луцкевіч. Сярэдняга росту, гадоў трыццаці мужчына, з цёмнымі вусікамі, у добрым гарнітуры, у белай манішцы. Ён збірае экспанаты, якімі застаўлена і завешана ўся кватэра. Сапраўдны музей! Тут рэчы, якія захавалі ў сабе гісторыю Беларусі ад самых старажытных яе часоў. Яшчэ перад пасяджэннем Іван хваліўся Алаізе, паказваў, што ў яго ёсць, што ўдалося дзе купіць, выменяць. На паліцах, папрыбіваных да сцяны, стаялі чорныя, з пааббіванымі берагамі гарлачыкі, збанкі. Іван тлумачыў Алаізе, што гэта — старажытны ганчарны промысел крывічоў. У шуфлядках ляжалі чорныя пакамечаныя кавалкі жалеза з адтулінамі, дзірачкамі. Гэта, аказваецца, першыя прылады працы старажытных беларусаў — нажы, малаток, сякера. Былі ў яго і драўляныя фігуркі, і першыя абразы, якія сведчылі аб часе прыняцця хрысціянства. На сценах віселі два слуцкія паясы, карціна невядомага беларускага мастака, напісаная яшчэ ў часы прыгону. Іван паказаў Алаізе тоўсты фаліянт, надрукаваны Францішкам Скарынаю. Алаізу не маглі не захапіць усе гэтыя рэчы. Іван ганарыўся сваім скарбам:

— Ведаеш, колькі каштуе ўсё гэта? Тут дабра на шмат тысяч...

Члены «Грамады» гаварылі адзін аднаму «ты» на вясковы беларускі звычай, і Алаізе ўсе адразу пачалі гаварыць «ты». Ёй гэта спадабалася.

А той, што сядзіць на канапе, заклаўшы нагу на нагу, і фарсіста курыць — брат Івана, Антось Луцкевіч. Трэба сказаць, што Алаізе ён адразу не спадабаўся. Нейкі халодны, замкнёны, ганарлівы. Нібы ён робіць ласку, што сядзіць тут з усімі. Гарнітурчык з іголачкі, аж блішчыць, з кішэні камізэлькі залаты ланцужок звешваецца. Ну, чысты пан! А побач з ім ужо зусім іншая асоба. Доўгая барада, кужэльная кашуля, падпяразаная тканым поясам, гарбаты. За халяваю бота — нож. Гэта Карусь Каганец. І пра яго Алаіза чула, яшчэ жывучы ў Пецярбурзе. Карусь Каганец — пісьменнік. Піша вершы, драматычныя абразкі, апавяданні. І ўжо гэта не можа не выклікаць у

Алаізы цікавасці да Каруся Каганца. А тут яшчэ такая самабытная фігура... Беларус з усімі традыцыямі старога часу! Як з пушчы выйшаў. Карусь Каганец жыве ў Менску. Ён прыехаў на некалькі дзён да Луцкевічаў.

— Ото ж і робім мы ўсё, каб займець сваю друкарню,— нізкім голасам адказаў ён Вацуку Іванецкаму, калі той перабіў Івана, зазначыўшы, што трэба для таго, каб Грамада шырэй вяла работу.

— Друкарня ў нас будзе,— адказваючы Вацуку Іванецкаму і падмацоўваючы словы Каруся Каганца, гаварыў Іван.— Мы паслалі ўжо ў Галіцыю нашага Аганька (пазней Алаіза ўведала, што гэта была мянушка дзеяча Грамады Фелікса Статкевіча) вучыцца друкарскай справе. Як вернецца, будзем арганізоўваць у Менску. Там у нас больш людзей, больш сілы. Але мы не можам чакаць, пакуль арганізуецца свая друкарня. Нашы польскія сябры ў Менску абяцалі нам дапамагчы. Абяцалі аддрукаваць нашу адозву ў сваёй друкарні. Вось нам і трэба пагаварыць, якую адозву перш за ўсё выдаць.

— Проціў вайны... Вайна цяпер найбольшае зло,— сказаў шыракаплечы, у чорнай кашулі з касым каўняром, з лысаватаю галавою, з далікатнымі, як у дзяўчыны, вуснамі.

— Хто гэта? — паціху спыталася ў Вацука Алаіза.

— Лёкса Бурбіс. Па мянушцы Стары Піліп. Тутэйшы, віленскі беларус. З Антосем грызуцца,— ухмыльнуўся ў вус Вацук Іванецкі.

«Ого, дык тут у вас і грызуцца...» — здзівілася Алаіза. І таму, што ёй з першага позірку не спадабаўся Антось, і таму, што Бурбіс з ім грызецца, яна з прыхільнасцю паглядзела на Бурбіса.

— Трэба заклікаць народ не плаціць падаткаў! — выгукнуў Вацук Іванецкі.

— Каб маладыя хлопцы ўцякалі ў лясы,— сказаў незнаёмы Алаізе дзяцюк, маленькі, як падлетак.

— І каб не давалі грошы на «Чырвоны крыж»! — уставіў Карусь Каганец.

— Усё так,— згадзіўся Іван.— Трэба, каб гэта пракламацыя будзіла народ. Гэта будзе ўжо работа, такая, аб якой мы сёння гаворым. Але хто напіша?

— Мо Карусь? — пацягваючы папяросу і пускаючы колцы дыму, сказаў Антось Луцкевіч.

— Гэты ўсіх святых пачне пералічаць,— з дабрадушнай іроніяй кінуў Бурбіс, намякаючы на тое, што ў вершах Каруся Каганца вельмі часта ўпамінаюцца розныя святыя.

— Ну дык ты напішы,— нязлосна адказаў Бурбісу Каганец.

— Трэба, каб пракламацыя была напісана хораша, з сэрцам. І каб была зразумела кожнаму мужыку ў глухой вёсцы,— зазначыў Іван.

— У мяне ёсць прапазіцыя,— падаў голас Вацук Іванецкі.— Хай напішуць усе. Кожны паасобку. А мы пасля выберам, якая найбольш заслугоўвае выдання друкам.

Прапанова Вацука ўсім спадабалася.

— І Пашкевічанка хай напіша,— сказаў Бурбіс.— Нездарма ж вучылася ў Пецярбурзе. Ды яна і вершы складае...

— Ага, хай прыме ўдзел у конкурсе,— падтрымаў Бурбіса і Вацук.

Алаізе было прыемна, што і ёй даручалася работа.

На хвіліну яна забылася аб тым, дзе сядзіць. Яе ўжо трывожыла, як яна напіша пракламацыю.

Але ад гэтых думак яе адарваў Антосеў голас. Цяпер Іван сядзеў



на канапе, а Антось, патушыўшы ў попельніцы папяросу і стаўшы каля стала, гаварыў:

— Беларускі народ — гэта мужыкі, вёска. Гістарычныя ўмовы склаліся так, што наш народ пакуль не выйшаў на прасторы гарадскога жыцця. Ён корпаецца ў зямлі на сваім бедным надзеле. І нам, як партыі свайго народа, трэба ісці да мужыка, у вёску. Трэба будзіць беларускага селяніна ад векавога сну. Трэба расказваць яму, што такое Беларусь, дзе яе граніцы, якая ў яе гісторыя. Трэба, каб ён ведаў, што мова яго такая ж, як і ў іншых народаў. Будзіць яго нацыянальную годнасць, клікаць, каб ён адбіраў зямлю ў паноў, у маскалёў ды немцаў, якія расселіся на яго зямлі.

— І ў беларускіх паноў хай адбірае,—сказаў Бурбіс.

— У беларусаў няма паноў! — кінуў Антось непрыязны позірк на Бурбіса.—Беларусы не паспелі ў паны выбіцца...

— Ой, ці праўда! — вырвалася ў Алаізы. Яна сама не ведала, як гэта яна сказала. Ніякавата было ёй, прыйшоўшы першы раз, лезці ў спрэчку. Хоць і разумела, што яе словы могуць не спадабацца Антосю, але як пачала, то ўжо дагаварыла: — Мусіць, у старога Луцкевіча не адна валока зямлі, калі яго сынкі такімі панамі ходзяць.

— Але ж і ў Пашкевічанкі бацька не жабрак,— кальнуў Антось Алаізу позіркам.

— Дык я ж і не аднекваюся. Я ж кажу, што ёсць паны і ў беларусаў...

— Беларускі пан — жабрак у параўнанні з рускім або з немцам. А найбольшы вораг нашага народу — цар. Супроць яго і выступаем...

На гэта ніхто нічога не адказаў, і Антось, з выглядам пераможцы, нібы ён усіх пераспрачаў, закончыў сваю прамову словамі аб тым, што яны, беларусы, павінны вучыцца ў палякаў, літоўцаў ды латышоў, як адстойваць сваю нацыянальную незалежнасць, змагацца за яе.

Калі на пасяджэнні абгаварылі ўсе справы, Іван дастаў з шафы дзве бутэлькі віна, нарэзаў на талерку кілбасы, накрышыў сала. Алаіза не любіла выпівак. Яна заўсёды коса пазірала на мужчын, калі тыя выцягвалі на стол бутэлькі, і цяпер хацела адмовіцца, пайсці да хаты, але яе ўсадзілі сілком.

— От, скрась нашу кампанію, хоць так пасядзі,— угаворвалі яе хлопцы.

І яна засталася.

Пасля нейкай там чаркі заспявалі «Ой, у лузе, лузе», затым «Купалінку». Пачалі прасіць, каб Алаіза пачытала вершы. Сваіх вершаў Алаіза не хацела чытаць. Прадэкламавала «Калыханку» Мацея Бурачка. Пасля чытаў вершы Карусь Каганец. І вершы ў яго былі такія самыя, як ён. Беларуская даўніна. Кабзары, старцы з лірнікамі. Але было і па-сапраўднаму народнае, харошае ў гэтых вершах.

— Беларусь трэба паднімаць,—гаварыў Карусь Каганец.

— Патрэбны беларускія школы, кнігі, тэатр,— згаджалася з ім Алаіза.— Бо што беларус мае? Нічога. Толькі казкі ды песні народныя. Некалі яшчэ была батлейка, ды і тая зводзіцца. Усё гэта неацэнны скарб, але як мала для сапраўднай культуры народа! Дзякуй Мацею Бурачку, паказаў ён нам, што і мы людзі...

Усе паднялі чаркі за светлую памяць Мацея Бурачка. І нават Алаіза, якая дагэтуль не піла, прыгубіла свой кілішак.

Карусь Каганец праводзіў яе дахаты. Гаварылі пра паэзію, пра тэатр, пра народныя песні і казкі. Шкадавалі, што былі адарваныя

адзін ад другога, што толькі цяпер пазнаёміліся і зноў невядома калі ўбачацца.

Размова з Карусём была сардэчная і цікавая, але нават падчас яе да Алаізы прыплывалі думкі аб тым, як яна будзе пісаць праклямацыю супроць вайны.

І як толькі прыйшла дахаты, узяла чысты ліст паперы, села за стол і пачала пісаць. На паперу адно за адным клаліся словы нянавісці да вайны, да цара, да самаўладства.

## IV

Гэта быў не то склад, не то вазоўня на ўскраі горада ў раёне Антаколя. Каля сцен стаялі драўляныя скрынкі. Ляжала фурманка з трыма коламі. Чацвёртае валялася тут жа, на земляной падлозе. Тут жа ляжала і некалькі туга набітых мяшкоў. І на мяшках, і на скрынках, і на паламанай фурманцы сядзелі людзі. А многія мужчыны і жанчыны проста стаялі, не маючы на чым прысесці. Цьмянае святло ліхтара падала на іх твары, і можа ад яго, жаўтаватага і дрыготкага, людзі здаваліся стомленымі і суровымі. Некаторыя курылі. Іншыя перагаворваліся напаўголаса. Чуліся словы: «забастоўка»... «казакі»... «вайна»...

Каля адной сцяны, пастаўленыя адна пры адной, стаялі тры вялікія скрынкі. Яны ўтваралі нешта падобнае да стала. Усе людзі, што былі ў памяшканні, стаялі і сядзелі тварамі да гэтага імправізаванага стала, чакалі.

І вось нарэшце скорым крокам сюды выйшаў нізенькі, з чорнаю невялічкаю барадою чалавек. Ён абвёў усіх вачыма, нібы аглядаючы, ці многа сабралася людзей, і загаварыў:

— Таварышы! Сёння мы сабраліся, каб правесці наш нелегальны пралетарскі мітынг. Каб абгаварыць становішча, у якім апынулася краіна. Каб вызначыць задачы, што стаяць перад намі, перад пралетарыятам Вільні.

Гэта быў таварыш Тамаш, член камітэта Віленскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Алаіза толькі сёння пазнаёмілася з ім, перад тым, як ісці на гэты мітынг. Яе адрэкамендавалі таварышу Тамашу разам з прадстаўнікамі іншых палітычных партый Вільні, якія таксама прыйшлі на гэты мітынг.

Таварыш Тамаш сказаў яшчэ некалькі слоў пра задачы мітынгу, пасля аб'явіў:

— Слова мае таварыш Сцяпан! — і крышку адступіў, нібы даючы месца прамоўцу.

З гушчы людзей выйшаў хударлявы чалавек сярэдняга росту. Ён на хаду паправіў рукою светлыя валасы, паднімаючы іх з ілба. А калі павярнуўся да натоўпу тварам, то Алаіза ўбачыла, што ён малады і сімпатычны.

Ён пачаў гаварыць звонкім голасам. І голас яго, і пастава, і рухі выдавалі ў ім чалавека інтэлігентнага. Гаварыў ён вельмі хораша. Аб вайне. Аб тым, колькі нясе яна пакут народу. Аб рабочым чалавеку, аб яго жыцці. Аб тым, колькі рабочы дае прыбытку фабрыканту і колькі зарабляе сам. Аб рэвалюцыйным руху, які шырыцца па ўсёй Расіі.

Алаіза бачыла, што выступленне таварыша Сцяпана спадабалася рабочым, і хвалявалася, як прымуць яе прамову. Ці здолее яна пераліць з свайго сэрца ў душы людзей той запал, той агонь, якім сама гарэла?



І калі ёй далі слова, і калі яна выходзіла з натоўпу да скрынь, за якімі стаяў таварыш Тамаш, сэрца яе моцна калацілася.

Алаіза ведала, што тут, сярод рабочых, якія сабраліся на гэты мітынг, павінны быць і такія, што яшчэ нядаўна прыйшлі ў горад з вёскі. Учарашнія сяляне. Парабкі. Голад прыгнаў іх сюды. Прымусіў пайсці на фабрыку ці на завод. Начамі ім яшчэ, мусіць, сніцца ўзараная зямля. Лес і поле. І тут, у горадзе, яны гавораць па-простаму, па-вясково-



му, па-мужыцку, магчыма, і не ведаючы, што яны гавораць па-беларуску. І Алаізе вельмі хацелася, каб у першую чаргу яе пачулі і зразумелі іменна яны.

— Браты і сёстры! — пачала яна.— Змучаныя бядой і горам людзі! Азірніцеся на сябе! Паглядзіце, якім жыццём вы жывяце! Ці ж можна назваць жыццём ваша галоднае, халоднае існаванне!

Яна пачула, як нехта моцна шапнуў: «Па-простаму гаворыць...» Пасля нехта на некага цыкнуў, каб было цішэй, каб не перашкаджалі слухаць. А пасля яна ўбачыла, як засвяцілася цікавасцю і хваляваннем шмат вачэй. Як многія з іх пабільгатнелі.

І гэта аддалося ў яе сэрцы такім моцным хваляваннем, што яна на міг спынілася, каб перавесці дых, каб праглынуць камяк, які падступаў да горла.

Пасля яна гаварыла аб вайне. Аб салдацe, які прыпоўз у вёску бязногім калекам. Аб жанчынах, якія, паадпраўляўшы мужчын на вайну, самі рвуць жылы, каб напхаць ненажэрнае чэрава вайны і паноў ды чыноўнікаў, што гэтую вайну распачалі.

І яна, як і таварыш Сцяпан, закончыла выступленне словамі:

— Далоў вайну!

— Далоў самаўладства!

А калі ішла назад, у натоўп, пачула, як сказаў нехта:

— Малайчына, цётка!

І яшчэ, з уздыхам:

— Сястрыца...

Пасля Алаізы выступаў прадстаўнік ад сацыял-дэмакратычнай партыі Польшчы і Літвы. Ён гаварыў па-польску. Алаіза добра ведала польскую мову, ды і многія з тых, што былі ў зале, разумелі паляка. І ён гаварыў пра тыя пакуты, якія нясе людзям вайна. Заклікаў рабочых усіх нацыянальнасцей трымацца разам, разам выступаць супроць самаўладства, бо толькі супольна змогуць яны адужаць свайго ворага — рускі царызм.

— Нех жые еднoсць люду працуёнцэго! — закончыў ён.

Разыходзіліся людзі са сходу па двое, па трое, па адным. Астатнія заставаліся, чакалі, пакуль тыя, што пайшлі першыя, адыдуць далей.

Алаіза выйшла ў ліку апошніх. На двары было вельмі цёмна. Пасля памяшкання, нагрэтага многімі людзьмі, здалося і вельмі холадна. Праз нейкія агароды, не ведаючы, дзе тут сцежка, дайшла яна да гарадской вуліцы, цяпер пустой і цёмнай.

Яе чаравікі гулка стукалі па каменным тратуары, аж разносіўся пошчак, і нідзе не чутно было ні душы. Ісці ёй трэба было далёка — з аднаго ўскраіны горада на другую. Да таго ж, у кішэні ў яе ляжалі пракламацыі, якія пасля сходу раздаваў усім таварыш Тамаш: «Вайна і беспрацоўе», «Да салдатаў». Алаіза разумела, што калі яна нарвецца на якога шпіка, то лістоўкі яе выдадуць. Ды і нагул не вельмі прыемна было ісці ноччу адной праз увесь горад. Але яна старалася адагнаць ад сябе страх. Пераконвала сябе, што нічога кепскага з ёю не здарыцца. Ды ці такое яшчэ прыйдзецца штодзень перажываць таму, хто стаў на шлях барацьбы, звязаў свой лёс з рэвалюцыяй!

Крыху прывыкшы да цемнаты, яна ўжо адрознівала абрысы дамоў з наглуха закрытымі аканіцамі. Наперадзе выступаў светлы сілуэт касцёла Пятра і Паўла.

І раптам яна пачула, што тратуар адбівае ўжо не толькі яе крокі. За ёю нехта ішоў. Па хадзе — мужчына.

«Магчыма, які звычайны спадарожнік... Мала хто можа ісці нават ноччу...» — супакоіла яна сама сябе.



І ўсё ж Алаіза прыбавіла кроку. Ці ёй здалося, ці і сапраўды, чалавек за ёю таксама пайшоў шпарчэй. Як ні скора ішла Алаіза, але чула, што быстрыя мужчынскія крокі яе даганяюць.

Гэта было непрыемна. Яна баялася азірнуцца, адчуваючы, што чалавек ідзе за ёю наўмысля.

Каб пазбавіцца даганятага, прапусціць яго наперад, Алаіза рэзка збочыла з тратуара, прыхінулася да сцяны дома.

Але і той, крыху прайшоўшы, стаў. Алаіза не бачыла яго, але была ўпэўнена, што ён прыслухоўваецца, не ведае, куды яна знікла. Напэўна, яны абое цяпер стаялі і прыслухоўваліся адно да аднаго.

Нарэшце мужчынскія крокі пачуліся зноў: прыхінуўшыся да сцяны дома, Алаіза чакала. Яна спадзявалася, што чалавек у такой цемені пройдзе паўз яе і не заўважыць, а яна хоць па сілуэце паспрабуе ўгадаць, хто за ёю сочыць.

Крокі ўжо чуліся зусім побач. А вось і чалавек. Сярэдняга росту хударлявы мужчына ў пінжаку. Без шапкі. Аглядаецца. І нешта знаёмае здалося Алаізе ў гэтай постаці, асабліва калі чалавек паднёс руку да валасоў і адкінуў іх з ілба. «Дык гэта ж таварыш Сцяпан!» — радасна ахнула Алаіза.

Яна выйшла з свайго ўкрыцця.

— Чаго вы так уцякалі ад мяне? — спытаўся таварыш Сцяпан.— Даганяю, даганяю. Мне таварыш Тамаш сказаў, што вы пайшлі ў гэты бок...

— А скуль жа я ведала, што гэта вы? Я думала, можа які шпік,— прызналася Алаіза.

— Я даганяў вас, каб ісці разам, каб вам смялей было, а выходзіць — напалохаў...— вінавата сказаў ён.

— Ды ўжо ж, прыйдзецца да бабкі ісці, пярэпалахі выкачваць,— жартам адказала Алаіза.— Вы, мусіць, тут, у Вільні, вядомы ўжо ў падполлі чалавек. А таварыш Сцяпан няйнакш ваша партыйная мянушка.

— Ого, якая вы здагадлівая,— весела адказаў ён.— А я вось не магу так скора ўгадаць, хто вы такая.

— І не ўгадаеце, пакуль сама не скажу. Калі гэта і праўда вас цікавіць,— дадала яна.

— Ды ўжо ж, калі так даганяў, то, мусіць, цікавіць.

Размова іх пачалася ў крыху жартаўлівым тоне і так і пайшла. Яны гаварылі, нібы крыху падсмейваючыся з таго, што гаварылі, выстаўляючы і сябе і тое, аб чым расказвалі, у крыху смешным выглядзе.

Алаіза расказала яму, што прыехала з Пецярбурга, што там вучылася на курсах Лесгафта. Успамінала смешныя здарэнні з студэнцкага жыцця.

— О, студэнцкае жыццё! І мне яно вядома,— летуценна сказаў Сцяпан.— Я сам вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. Займаўся навукамі, блізкімі да тых, якія вучылі і вы. Толькі вы медыцыну, а я прыродазнаўства. Але ўсё роўна прырода, есцяство, так сказаць. Ды за тое, што цікавіўся не толькі прыродаю, а і грамадствам, за так званыя студэнцкія непарадкі, звольнілі з універсітэта, пасадзілі ў турму. Пасля забаранілі жыць у Маскве. Для Масквы я цяпер персона нон грата. Вось, жыву ў Вільні. Але баюся, што і тут скора буду нон грата.

Жартаўлівы тон у іх пераходзіў на сур'ёзны, сур'ёзны зноў на жартаўлівы, і Алаіза з прыемнасцю для сябе адзначала, што ёй з гэтым чалавекам лёгка і проста.

— А ў вас, ведаеце, ёсць тое, што патрэбна рэвалюцыянеру,— сказаў Сцяпан.— Вы ўмееце запаліць аўдыторыю. Вас добра слухалі.

— А я вам пазайздросціла...— шчыра прызналася Алаіза.— Надта ж вы добра гаварылі.

Яны ішлі берагам Віліі. Вада ў рацэ здавалася густой і чорнай. Можна было падумаць, што яна не цячэ, а стаіць, як расплаўленае волава. Толькі зрэдку, як спіна рыбіны, бліскала хваля.

Ад ракі цягнула вільгаццю і холадам. Голыя галіны прырэчных кустоў хіліліся да вады, гайдаліся на ветры.

— Ведаеце,—парушыла кароткае маўчанне Алаіза.— Яшчэ ў Пецярбурзе я чула, што праз Вільню цячэ шырокая рака нелегальнай літаратуры. З-за мяжы трапляе сюды, а пасля ўжо разыходзіцца па ўсёй Расіі. Каб вы мне памаглі... Адным словам, мне трэба шмат чаго пачытаць... Бо я настаўніцаю зрабілася,— засмяялася яна.— Вяду жаночы гурток з работніц фабрыкі Бруна. На мітынгах вось, бачыце, выступаю. Але баюся, што і гэтай настаўніцы яшчэ трэба вучыцца. Адным словам, памажыце мне добрай літаратуры дастаць.

Сцяпан зноў крышку памаўчаў, падумаў. Пасля адказаў:

— Пастараюся. Я вас пазнаёмлю з адным нашым таварышам. Ён займаецца перапраўкаю літаратуры. Думаю, вы пажывіцеся каля яго.

— Ось было б добра! — узрадавалася Алаіза.— А то, ведаеце, часам спытаюць што, а ты стаіш і лыпаеш вачыма, не ведаеш, што адказаць...

Яны ўзышлі на гулкі насціл моста. Калі дайшлі амаль да сярэдзіны, убачылі нейкага пана ў цыліндры, з кіёчкам. Пан амаль упрытык прайшоў каля іх, стараючыся ўгледзецца ў твары.

— Вось цяпер то добра, што вы не адна,— сказаў Сцяпан, калі яны размінуліся з панам і сышлі з моста.— Хто ў такі час можа не спаць? Ці шпік, ці злодзей.

— Але і падпольшчыкі не спяць,— зноў перайшла на жартаўлівы тон Алаіза.

— Ну, той не падобны на свайго. Твар у яго несімпатычны. Ды і прыглядаўся да нас па-шпіёнску. У мяне на іх нюх...

— Я, канечне, разумею, што павінна быць удзячна вам,— вяла далей у вясёлым тоне Алаіза.— Каб не вы, то я няйнакш загінула б у водах Віліі.

— А што вы думаеце? Скінуў бы вас у рэчку. Паплавалі б...

— Што ж, буду лічыць, што вы мне выратавалі жыццё. Век буду вам абавязана.

— Вось гэтага я і дабіваюся.

У добрым настроі, вясёлыя, прыйшлі яны на Хівінскую вуліцу. Спыніліся каля Алаізінага дома.

— А вы цяпер куды? — спыталася Алаіза ў Сцяпана.

— У мяне, як у той стракозы. Пад кожным лістом і стол і дом,— бесклапотна адказаў Сцяпан.

— А мо застанецеся да ранля ў нас? Я жыву з братам і з сястрою.

— Не, дзякую. Вельмі лёгка вы хочаце разлічыцца са мною за сваё выратаванне. Я цяпер на ўвесь век зраблю вас сваёю служкаю.

— Што ж, рада буду трапіць да вас у залежнасць. Толькі ж я не буду ведаць, дзе знайсці чалавека, якому мушу служыць. Баюся, што як пойдзеце вы зараз ад мяне ў гэтую ноч, то ўжо і днём з агнём вас не знойдзеш.

— Што праўда, то праўда. Мяне бывае нялёгка знайсці. Але я дам вам адзін адрас. Там бываю часцей за ўсё.

І Сцяпан назваў Алаізе вуліцу і дом. Гэта было-такі далёка адсюль. Прыйдзецца зноў Сцяпану ісці праз увесь горад. Алаізе зрабілася няёмка, што праз яе чалавек праходзіць цэлую ноч.



— Ну, а дзе вы жывяцё, я ўжо ведаю. Якія толькі вашы вокны?— агледаў Сцяпан дом, у якім жыла Алаіза.

— Вунь тыя, на другім паверсе. Два крайнія,—паказала Алаіза.

Яны развіталіся за руку. І Алаіза панесла ў сэрцы адчуванне прыемнага, добрага, што прыйшло ад знаёмства з гэтым чалавекам.

## V

Моцны вецер кінуў у шыбы прыгаршчы дажджу, шкло тоненька зазвінела, і Алаіза падняла вочы ад газеты, глянула ў акно. На вуліцы было шэра. Касы дробны дождж сыпаў, як праз сіта. Вецер то падхопліваў яго і кідаў на сцяну дома, на вокны, то адносіў убок. Нізкія хмары, нібы навыперадкі, беглі і беглі па небе.

У акне была відаць Віленская вуліца,—хоць і драўляныя, але на гарадскі манер пабудаваныя дамы. Платы ўздоўж тратуараў, брук. Але Алаіза, пазіраючы ў акно, бачыла не гэта. Дзіўна, але ў дождж яна заўсёды ўяўляла сваю вёску. Іх дом, курган пры дарозе, поле і лес за вёскаю. Уяўлялася, як сыпле цяпер дождж на саламяныя стрэхі хат, як падае, цурчыць вада ў капяжы. Як прыбівае да зямлі звялую, мокрую траву. Як мокнуць на гародзе груды непрыбранага бульбоўніку і туліцца да мокрай чорнай будкі, пазіраючы перад сабою сумнымі вачыма, сабака Курта.

А да хаты падступае лес. Цяпер ён, мусіць, зусім голы. Блішчаць мокрыя галіны. Толькі елка стаіць — зялёная, калючая, страсае са сваіх іглін дробныя дажджынкі. І поле, як вокам кінуць — змрочнае, сумнае. Без красак. У адзін з такіх сумных дажджлівых дзён склала Алаіза верш пра восень:

*Чыста, чыста па ўсім полі,*
*Аж на сэрцы грызуць болі.*
*А дзе ж зелень, а дзе стужкі,*
*А дзе песні, а дзе птушкі?*
*Усюды старасць, смутак вее,*
*З хмарак дробны дождж сее.*
*Слонка нізка чэша косы,*
*Дубняк смутны стаіць босы...*

«Хэ, расплылася думкамі, як тая вада па шкле, раскісла, як тая ралля пад дажджом... Думай, дзеўка, што будзеш рабіць,— пакпіла сама з сябе Алаіза.— Два месяцы ўжо ў Вільні, а работы яшчэ не знайшла...»

Яны былі дома ўдваіх з сястрою. Сястра сядзела на зэдліку спіною да цёплай печы і распускала стары шарсцяны жакет.

Алаіза зноў разгарнула «Северо-западное слово», пачала чытаць:

— «Особа, обладающая красивым чётким почерком, ищет вечерних занятий или уроков». «Вунь, з прыгожым почыркам і то работы не знойдзе, куды ж мне з маім паткнуцца», — усміхалася Алаіза. «Курсантка-лесгафтичка желает получить урок в городе или в от'езде».

— Бачыш, аб'явы толькі тых, хто шукае працу, а не тых, што наймаюць,— сказала яна сястры.

— Я ж табе гаварыла. што ў Вільні цяжка знайсці работу,— падняла сястра вочы ад свайго клубка, а рука яе спрытна накручвала і накручвала нітку.

— Чакай, тут нешта іншае! «Нужны гувернантки и бонны. Немки, француженки»,— прачытала Алаіза.— Што ж, у бонны, у гувернанткі ісці?

— Калі да добрых людзей,— нясмела сказала Стэфа, і рука яе з ніткаю на хвіліну застыла.

— Не, трасцу! — рашуча адмовілася Алаіза.
«Але што ж рабіць?»
— Вучылася, вучылася, а службы знайсці не можаш,— нібы падслухала яе думкі сястра.
— Прыбяруся ў свае дыпломы ды буду хадзіць па Вільні. Можа хто ўгледзіць ды запрапануе месца,— суцяшала сябе Алаіза.
Але ў душы ёй было крыху крыўдна і нават сорамна перад сястрой. Сапраўды, яна ж мела дыплом хатняй настаўніцы арыфметыкі, магла выкладаць рускую мову, ведала польскую і нямецкую, а цяпер з Пецярбурга прыехала і з дыпломам фельчара. І ўсё ж не можа знайсці работы, мусіць жыць на братаву пенсію.
Алаіза зноў узяла газету.
— Паслухай толькі,— ажывілася яна, і пачала чытаць уголас: — «Товарищество Сегаль в Вильне имеет честь рекомендовать господам офицерам, отправляющимся на Дальний Восток, из наиболее необходимых и полезных во время походов нижеследующие продукты:
1. Бульон мясной в капсюлях.
2. Бульон мясной в зёрнах.
3. Сгущеное швейцарское молоко «Нестеле».
4. Шоколад со сгущеными сливками.
5. Стерелизованное молоко в порошке «Галактон»...
— Ну, японцы, трымайцеся,— злосна сказала Алаіза.— Хіба рускі афіцэр, паеўшы бульёну ў зернях ды напіўшыся стэрылізаванага малака... як там яно,—зноў зірнула яна ў газету,—«Галактон»! — хіба вас не адужае? Афіцэр таго «Галактону» нап'ецца, салдат святы абраз у рукі — і на вашы акопы!
— А японцы ж таксама людзі,— уздыхнула Стэфа.
Алаіза, здаецца, не чула, што сказала сястра.
— Каб на вас халера,— паслала яна некаму праклён. Зусім кінула газету. Падышла да дзвярэй, замкнула іх на ключ. Ля сцяны стаяла палічка з кнігамі. Скураныя лубкі з літарамі, адціснутымі золатам. Цвёрдыя карычневыя вокладкі. Тут і Міцкевіч, і Гогаль, невялікія кантычкі-маліто ўнікі, на польскай, лацінскай мовах. І сінія томікі Пушкіна, прывезеныя з Пецярбурга. А за гэтымі кніжкамі — другія, у мяккіх вокладках, на шэрай паперы. Алаіза дастала іх. «Самаўладства і стачкі»... «Мілітарызм і рабочы клас»... «Жанчына-работніца»... «Рабочая рэвалюцыя»... Гэты скарб яна здабыла праз Сцяпана. Ён пазнаёміў яе са сваім таварышам, невялікім, галавастым, са смешным прозвішчам — Пальчык. Ці, можа, і гэта мянушка? Яны з Пальчыкам і далі ёй гэтыя кнігі. Алаіза ўзяла цяпер адну — «Жанчына-работніца». Астатнія паклала на месца. Вярнулася да стала.
Яна старался прачытаць як мага больш такога, што памагло б ёй весці работу ў жаночым гуртку, які яна арганізавала з работніц панчошнай фабрыкі Бруна.

Збіраліся ў бараку, дзе жылі дзве работніцы — Ванда і Маня, яшчэ незамужнія, маладыя дзяўчаты. Спачатку прыйшло пяць чалавек. Другім разам больш. На трэці раз з'явілася пятнаццаць жанчын. У маленькім пакойчыку ўжо цяжка было і памясціць усіх. Умошчваліся па дзве на зэдліку, сядзелі на ложках.
Алаіза імкнулася растлумачыць жанчынам, што і яны раўнапраўныя людзі. Імкнулася разбудзіць іх думку, іх чалавечы гонар. Яна растлумачвала ім, як іх эксплуатуе Брун, колькі мае прыбытку ад іх працы. Вучыла выстаўляць да Бруна патрабаванні, баставаць.
— Ці бачыў хто, у якіх строях ходзіць жонка Бруна, яго дачка? Ці ведае хто, дзе і як яны жывуць, у якім палацы? А вы, яго работніцы? У што прыбіраецеся, як жывяце, што ясце? — і яна паказвала на Манін залатаны кафтан, на цвілыя сцены барака.
Алаіза расказвала ім пра Веру Паўлаўну з рамана Чарнышэўскага «Што рабіць?», як яна арганізавала сваю майстэрню, без эксплуатацыі работніц, з выгадаю для ўсіх, хто ў ёй працаваў.
— Ого, каб нам так! — пакруціла галавою высокая цемнавалосая Кася, ужо замужняя жанчына, у якой было дзіця, але якая з першага ж дня пачала хадзіць у гурток і з вялікай цікавасцю слухала ўсё, што гаварыла Алаіза.
— Само гэта не зробіцца,—гаварыла Алаіза.— Трэба змагацца, а пакуль хоць патрабуйце ў Бруна павышэння платы, скарачэння рабочага дня.
— Вельмі ён павысіць...— уздыхнула Кася.
— А вы бастуйце. Ад забастовак кожны заводчык мае вялікія страты. Яму бывае выгадней задаволіць просьбу рабочых, чым траціць тысячы ад забастоўкі. Разумныя рабочыя гэта ведаюць і бастуюць. А авечкі, якія папрывыкалі, каб іх стрыглі, падстаўляюць спіны. Бастуйце, выстаўляйце патрабаванні,— вучыла іх Алаіза.
А калі яна пачала расказваць дзяўчатам, як тая самая Вера Паўлаўна, што арганізавала такую майстэрню, трымалася са сваім мужам, жанчыны пачалі пырскаць смехам у кулакі. Дзіва, ім цяжка было зразумець, як гэта жонка не пускала да сябе ў пакой мужа, пакуль не апранецца ды не прыхарошыцца.
— Вось вы смяецеся,— з лёгкім дакорам сказала ім Алаіза.— А ў гэтым смешным шмат слушнага. Хіба ў нас так не бывае — пакуль гуляе дзяўчына з хлопцам, дык так ужо прыбіраецца, каб падабацца яму. Усё на ёй чысценькае, адпрасаванае. А выйдзе замуж, народзіць дзіця і ўжо соваецца па хаце кудлатая, нямытая. Чаго саромецца перад мужам! Канечне, цяпер рабочыя жывуць так, што цяжка ім блюсці чысціню, думаць аб далікатнасці. Па некалькі сем'яў сціснуты ў бараках. Але на тое ж мы і збіраемся, на тое вучымся, каб набрацца розуму, сабраць сілы і знішчыць такое жыццё, завесці іншыя парадкі.
У Алаізы быў вялікі план работы ў гэтым гуртку. Яна хацела навучыць грамаце тых жанчын, якія не ўмелі чытаць і пісаць, хацела хоць крышку пазнаёміць іх з асновамі гігіены. Яна рыхтавала іх да рэвалюцыйнай работы і хацела навучыць іх рабіць перавязкі, даглядаць хворых.
— Пані, напэўна, сама доктарка? — спытала ў яе аднойчы Ванда, калі Алаіза паказвала жанчынам, як трэба бінтаваць рану. Гэта Ванда была нібы яе памочніца ў гуртку. Аб'яўляла ўсім, калі трэба збірацца.
— Трохі і доктарка,— адказала Алаіза.— Калі захварэеш — прыходзь, палячу. Толькі якая я вам пані! Я такая ж, як і вы, простая кабета з вёскі.
— То як жа вас зваць? — спыталася Маня.
Алаіза ім не назвала свайго імя і прозвішча. Гурток іх быў нелегальны, і лепш было, каб яе прозвішча не ведалі.
— Завіце мяне...— Алаіза на хвілінку задумалася. Успомніла, як сказаў нехта пасля яе выступлення на мітынгу — «малайчына цётка...» — Завіце проста цётка,— сказала яна.
Сказала так, і самой спадабалася. Яна ведала, што ўсе рэвалюцыянеры маюць мянушкі. І гэта — «цётка» — будзе ў яе мянушкаю. Гучыць добра, па-народнаму, проста. Наперакор «пані» яна будзе «цёткай». Вось так...

Так і пачалі яе зваць у гуртку — Цётка ды Цётка. І сябрам па рэвалюцыйнай рабоце яна сказала, каб звалі яе Цёткай. І мянушка скора так прыліпла да яе, што Алаізе здавалася, нібы яе век так звалі.

Стэфа скончыла распускаць свой жакет. Паклала клубок у куфэрак. Падышла да стала, зняла шкло з лямпы. Лямпа была вялікая, цяжкая, з белым абажурам. Яе дала ім у карыстанне гаспадыня. Не толькі лямпа, тут уся мэбля была гаспадынiна. І ложкі, і шафа, і нават паліца для кніг.

Стэфа запаліла лямпу. Зноў узялася за нейкую сваю работу. Яна і хвіліны не магла пасядзець, склаўшы рукі.

Алаіза чытала. У хаце было зусім ціха. Толькі чулася, як шумеў дождж на вуліцы.

І раптам у гэтай цішы пачулася, як стукнулі ўнізе дзверы, пад нечымі нагамі забрынчала жалезная лесвіца. І Алаіза, і Стэфа насцярожыліся. Ішоў нехта чужы. Хто мог, у такую непагадзь, познім часам?

Алаіза сунула сваю кніжку пад тоўсты настольнік. Сама не ведала, чаму зменшыла агонь у лямпе.

Калі пастукалі ў дзверы, Стэфа з хвіліну не ведала, ці адмыкаць, але Алаіза кіўнула ёй, і сястра пакруціла ключ, адчыніла.

На парозе стаяла жанчына — уся мокрая ад дажджу, падол заляпаны гразёю, відаць, ішла ці бегла аднекуль здалёк.

Алаіза ўраз пазнала Касю — работніцу з фабрыкі Бруна, адну з жанчын, якія прыходзілі да яе на заняткі ў гуртoк. Кася, як толькі пераступіла парог, так і ўпала перад Алаізаю на калені.

— Цётачка, любая, ратуйце маё дзіця... Памірае...

— Што ты! Устань зараз жа! Устань! — узнімала Алаіза Касю з каленяў.— Раскажы ўсё спакойна, што ў цябе?

Але ў Касі, здаецца, не было сілы падняцца з долу. Алаіза пад пахі пацягнула яе, пасадзіла на крэсла.

— Цётачка, дзіця памірае... А да каго ж я пайду... А вы ж доктарка... Ратуйце ж вы!..— ламала рукі Кася.

— Не галасі! Ціха! Зараз пойдзем,— суцяшала яе Алаіза, хоць самой адразу вельмі шкада зрабілася Касі, такая яна была змучаная і няшчасная.

Алаіза скора апранулася, і яны пайшлі. На вуліцы было ўжо зусім цёмна. Пад нагамі хлюпала гразь. Кася бегла наперадзе. Алаіза ледзьве паспявала за ёю.

— А што з дзіцем? — пыталася яна на бягу ў Касі.

— Не ведаю, Цётачка... Трэці дзень у рот нічога не бярэ... Гарыць, як у агні. Трызніць... А цяпер то і зусім канае... Мо не дабяжым,— і Кася зноў загаласіла.

— То чаму ж раней доктара не пазвала? — з папрокам сказала Алаіза.

— Цётачка, думала, само пройдзе...— праз слёзы адказвала Кася.

Алаіза не ведала, ці мае яна права вось так ісці да хворай. Яна то фельчар, але пакуль яшчэ сама нікога не лячыла, ды і не далі ж ёй ніякага дазволу на лячэнне прыватным парадкам. Але, магчыма, у дзіцяці што-небудзь цяжкае. Ды і мусіць, што так, калі маці прыбегла, як звар'яцелая. Будуць патрэбны інструменты, лекі, а яна выскачыла без нічога. Не думала, што трэба будзе ісці так далёка.

Яны беглі вузкімі вулачкамі недзе ўжо аж за «Востраю брамаю».

— Ужо блізка, блізка,— супакойвала Кася Алаізу, але яны яшчэ ўсё ішлі і ішлі.



Нарэшце Кася адчыніла дзверы пахіленага барака. У цемнаце калідора яна вобмацкам, але вельмі скора знайшла клямку, адчыніла дзверы.

Нізкі пакой барака быў падзелены надвое посцілкай. З гэтага боку посцілкі было цёмна, а за ёю гарэла святло, і на посцілцы гойдаліся людскія цені. Адтуль чуліся галасы, бразгат посуду. Ва ўсім пакоі стаяў чад гарэлкі.

Не зважаючы на тое, што рабілася за посцілкаю, Кася кінулася ў цёмны закутак.

— Зосечка... Дзіцятка... — у роспачы клікала яна.

Крыху прывыкшы да змроку, Алаіза ўбачыла, што там, у кутку, куды кінулася Кася, стаяў ложак, а на ім ляжала дзіця. Распрануўшыся і кінуўшы кафтан на зэдлік, які стаяў пры дзвярах, Алаіза падышла да ложка. Там, на цёмнай падушцы, укрытая стракатаю коўдраю, ляжала дзяўчынка. Вочы ў яе былі заплюшчаны, роцік адкрыты. Дзяўчынка цяжка дыхала.

— Пасвяці,— загадала Касі Алаіза.

Тая некуды кінулася, застукала нечым, зашоргала запалкамі. Праз хвіліну падышла з газоўкаю, трымала яе ў руцэ, падняўшы над галавою, свяціла.

Алаіза адкінула коўдру, дакранулася да цельца дзіцяці. Яно было худое і гарачае. Алаіза падняла кашульку, прыпала вухам да маленькіх грудзей. Але за посцілкаю ў гэты час нечым моцна забразгалі, гучна загаманілі.

— Папрасі ты іх змоўкнуць! — паказала Алаіза на посцілку.

Кася кінулася туды.

— Людзі вы ці не! — закрычала яна ў адчаі.— Дзіця памірае, а яны тут п'юць! Каб вас паразрывала! Каб вы пазаліваліся гэтай гарай!

За посцілкаю пацішэла. Толькі пачулася, як дзвынкнула бутэлька.

— Ч-ш-ш...— прашаптаў нехта.

Кася зноў падбегла да ложка. Алаіза, прыклаўшы вуха да грудзей дзіцяці, слухала. У іх сіпела, як у горне. Сэрца няроўна стукала.

Алаіза павярнула дзіця. Выслухвала спінку. Выстуквала. Усё паказвала, што ў дзіцяці моцнае двухбаковае запаленне лёгкіх. Трэба было паставіць банкі. Напаіць аспірынам. Калі дзіця так даўно хварэе, то, можа, гэта крызіс? Можа акурат ад гэтых гадзін і залежыць яго ратунак? Як кепска, што яна нічога не ўзяла з сабою. Няма яшчэ доктарскага вопыту... Кінулася, рынулася, не падумаўшы.

— Касечка, прыйдзецца табе зноў да мяне бегчы. Я напішу запіску сястры, яна будзе ведаць, што табе даць,— укрываючы дзяўчынку, сказала Алаіза Касі, якая стаяла каля яе, гатовая рабіць усё, што ёй загадаюць.

— Добра, добра, я зараз жа... Усё зраблю, што скажаце, толькі ратуйце дзіця,— і яна зноў зморшчылася, каб заплакаць, але тут жа кінулася шукаць паперы, на якой Алаіза напіша запіску. Чыстай паперы не было. Кася адарвала кавалак ад той, якою была засцелена шуфлядка — грубай, жоўтай.

Алаіза напісала некалькі слоў сястры. Кася зноў пабегла, Алаіза засталася сядзець пры дзіцяці.

Дзяўчынка не расплюшчвала вачэй. Яна не то спала, не то была ў забыцці. Толькі часам выхоплівала з-пад коўдры ручку, узмахвала ёю. Часам і сама кідалася, раскрывалася. Тады Алаіза зноў укрывала яе. Сядзела. Азірала пакой. «Жабрацтва... поўнае жабрацтва...» — думала яна. Тут стаяў толькі адзін ложак. На ім, напэўна, спалі ўсе разам — і Кася з мужам, і хворае дзіця. Да сцяны туліўся непакрыты

абрусам драўляны стол. Пры ім два зэдлікі. На стале — нямытыя гліняныя міскі, драўляныя лыжкі.

З-за пасцілкі чуліся галасы. Булькала гарэлка ў чаркі. Стукалі шклянкі, але гаварылі напаўголас. І раптам моцны жаночы плач узняўся за пасцілкаю. Жанчына загаласіла так моцна і так нечакана, што аж уздрыгнула хворае дзіця, на хвіліну расплюшчыўшы вочы.

— А цябе ж там заб'юць! А саколік мой родненькі-і! — галасіла жанчына.— А што ж мы будзем ту-ут, сіраты-ы без цябе рабі-іць! А навошта ж ты нас пакіда-е-еш! А куды ж ты гэта ідзе-еш!

— Сціхні, дурная,— крыкнуў на яе хрыплаваты мужчынскі голас.— Сціхні, кажу табе!

— А хто ж тваіх дзетак карміць паіць будзе-е! А хто ж тваю магілку на краі свету дагледзі-іць! — не сунімалася жанчына.

Нехта за пасцілкаю зарагатаў:

— Рана хаваеш... А мо яшчэ і жывы вернецца! Георгіеўскім кавалерам!

На пасцілцы ківаліся, гойдаліся цені. Вялізная, у шмат разоў большая за звычайную, галава то нахілялася да стала, то ўзнімалася. Валасы на ёй былі ўскудлачаныя. І вялізная рука паднімалася да іх, прыгладжвала.

— А можа табе ручкі-ножкі паадрывае-е! А можа ты калекам вернешся-я! — галасіла жанчына.— А лепш бы табе ўжо тады зусім галоўку скласці-і!

— Сціхні! — ужо злосна прыкрыкнуў мужчына.— Дзіця там нядужае!..

Жанчына нібы захліпнулася енкам, прыціхла.

З-за пасцілкі выйшаў малады мужчына ў касаваротцы, у ботах, з запраўленымі ў халявы калашынамі штаноў. Крыху хістаючыся, падышоў да ложка, на якім ляжала дзяўчынка і каля якога сядзела Алаіза.

— Хай пані прабачыць,—стараючыся трымацца роўна,— сказаў ён. Пасля нахіліўся да дзіцяці, хацеў пагладзіць галоўку дзяўчынкі, але не дакрануўся, толькі зверху ў паветры правёў рукою.— Выжыве?.. Не памрэ?..— пытаўся ён і глядзеў на Алаізу затуманенымі не то гарэлкаю, не то сумам вачыма.

— А вы ці не Касін муж? — даволі халадна спытала ў яго Алаіза.

— Ага-а,— апусціў ён галаву.

— Дзіця паміраe, а вы п'яцe,— з дакорам сказала Алаіза.

— Суседа,— паказаў Касін муж рукою на пасцілку, на якой усё яшчэ ківалася кудлатая мужчынская галава,—у войска забіраюць... Позва прыйшла... Можа, больш не ўбачымся...

Алаіза змоўчала. Адчула нават нейкую няёмкасць. Сапраўды, цяжка было ўпікаць чалавека, які праводзіў суседа ў такую дарогу.

— Жыццё ў нас такое... Бачыце,— паказаў ён рукою на свой пакой.— Тут і гарэлку п'ем, і паміраем, і ў войска, і на той свет адпраўляем...— Ён памаўчаў, пастаяў, хістаючыся.— Дванаццаць гадзін на заводзе... Свету белага не бачым... А што маем... Хвігаю нос падціраем. Не мы падціраем, нам падціраюць,— са славаахвотлівасцю нецвярозага чалавека гаварыў Касін муж. І хоць гаварыў ён гэта нібы ў жартаўлівым тоне, усё ж і ў голасе яго, і ў словах чуліся крыўда, боль.

— А дзе вы працуеце? — спыталася ў яго Алаіза.

— У Суравіча... У гарбара... У таго шкурніка, што скуры выраб ляе і з нас скуру спускае.



Яна ведала гэтую фабрыку. Там сапраўды ўмовы працы былі нялёгкія. Хоць лёгкімі яны нідзе не былі, але Суравіч сапраўды ўмеў драць скуры са сваіх рабочых.

— Баставалі б,—сказала Алаіза асцярожна.

— Набастуеш...— паківаў галавою Касін муж.— Зусім з работы выганіць.

Прыбегла Кася. Яна прынесла невялічкі клуначак, у які Стэфа паклала ўсё. што прасіла Алаіза.

— Што ж, будзем лячыць...— сказала Алаіза, вымаючы з клунка банкі, спіртоўку.

— Матка міласэрная, злітуйся над намі! — пералжагналася Кася.— Вінцусёк...— уткнулася яна тварам у мужавы грудзі.

Ён абняў яе за плечы.

Удваіх яны стаялі крыху ўбаку ад ложка, сачылі за кожным рухам Алаізы, гатовы кожную хвіліну нечым памагчы. А калі Алаіза паставіла дзяўчынцы банкі і ўкрыла яе коўдрай, Кася і Вінцусь укленчылі перад абразамі і пачалі маліцца.

## VI

Алаіза зноў адна ноччу ішла дахаты, і зноў амаль праз увесь горад. Вінцусь, Касін муж, хацеў правесці яе, ды Алаіза забараніла яму ісці з хаты. Сказала, каб быў з жонкаю пры хворым дзіцяці. На гэты раз у Алаізы з сабою быў клуначак з медыцынскім начыннем, а не пракламацыі. Можна не баяцца шпікоў, і Алаіза шпаркім крокам ішла па пустых вуліцах горада.

Некалі, дзяўчынкаю, яна думала, што ў горадзе жывуць адны паны. Наогул горад уяўляўся ёй казачным каралеўствам, у якім былі агромністыя палацы, у палацах пахаджалі прыгожа прыбраныя паны і паненкі. Адкуль у яе склалася такое ўяўленне? Тут, мусіць, змяшаліся разам казкі бабкі Ягасі і расказы старэйшых братоў, якія вучыліся ў Вільні ў гімназіі. Адным словам, горад — гэта было нешта казачна прыгожае і нерэальнае, а вёска — гэта было жыццё, што перад ёю, пад бокам.

Алаіза з маленства бачыла, што ў вёсцы не ўсе людзі жывуць роўна. У іх, напрыклад, быў вялікі дом, гумны і пуні, яны мелі шмат скаціны, а побач, у вёсцы, людзі жылі куды як кепска. Ішлі на паклон да яе бацькі, каб пазычыў перад вясною пуд бульбы. І як жа ўпрошвалі бацьку, цалавалі рукі... Пасля адраблялі на іхняй зямлі. І Алаіза аднойчы чула, як аднавокі мужык Кандрат кляў бацьку:

— Гад ненажэрны... За асьміну бульбы столькі адрабляць... Каб яму той асьмінай да смерці не наесціся...

У Алаізы была сяброўка Ганначка — чарнявая, маленькая, быстрая, як уюн, дзяўчынка. Алаіза бегала да яе гуляць. У Ганначкі было пяцёра меншых братоў і сясцёр. У хаце ў іх заўсёды стаяў плач і крык. Малыя, галапузыя, брудныя, смаркатыя дзеці наперабой крычалі есці, вырывалі адзін у аднаго скарынку хлеба.

Ды і ў іншых хатах было не лепш. Бруд, кароста, вошы. Амаль ніхто ў вёсцы не ўмеў чытаць і пісаць.

Падрастаючы, Алаіза пачала адчуваць нейкую нібы сваю віну перад Ганначкай, ды і перад іншымі вясковымі дзяўчатамі. Што смачней ела. Што чысцей хадзіла. Нібы яна ў іх нешта забірала.

Аднойчы Алаіза, калі ўжо ведала ўсе літары і ўмела іх так-сяк складаць у словы, узяўшы лемантар, пабегла да Ганначкі. Хацела і яе навучыць пазнаваць, дзе якая літара.

Яны селі за гумном на траву, і Ганначка з цікавасцю пачала ўзірацца ў літары, якія паказвала ёй Алаіза, глядзела цацкі, намаляваныя ў кнізе. Ды тут раптам на ўвесь двор разлёгся голас Ганнінай маці:

— Ганна! Ганна! Дзе цябе халера носіць, каб ты спруцянела!

А як знайшла іх на загуменні, схапіла Ганначку за валасы.

— Дзіця ледзьве не задушылася! Так ты яго глядзіш! Што я наказвала табе рабіць? — цягала яна Ганначку за касу.

А да Алаізы, стрымліваючы злосць, сказала:

— Ідзі, паненка, з сваімі цацкамі дадому. Не зводзь гэтай дурніцы. Ёй навука не патрэбна.

Пасля Алаіза вучылася ў гімназіі. Сярод гары кніг, якія перавярнула яна ў бібліятэцы, перацягала дахаты, каб чытаць, лежачы ў ложку, захутаўшыся ў коўдру, трапіла ёй невялічкая шэрая кніжачка, выдадзеная ў Кракаве ў канцы мінулага стагоддзя. Гэта шэрая кніжачка перавярнула ўсю яе душу, раскрыла яшчэ адзін свет, у якім жыла і яна, але якога не бачыла, не разумела. У гэтай кніжачцы Мацея Бурачка былі вершы на мове, якою дома гаварыла яна сама, якою гаварыла і бабка Ягася, і маленькая Ганначка, і ўсе людзі ў іх вёсцы. І вершы былі пра людзей з іх вёскі. Пра такіх, як аднавокі Кандрат, як Ганначчына маці. Чытала, перачытвала Алаіза гэтыя вершы, і хутка ўсю кнігу ведала на памяць.

Але яшчэ больш, чым вершы, уразіла Алаізу прадмова да кнігі. І яе Алаіза магла пераказаць слова ў слова. «Братцы мілыя, дзеці зямлі-маткі маёй,— пісаў Мацей Бурачок у прадмове.— Наша мова для нас святая, бо яна нам ад бога даная, як і другім добрым людзям, і гаворым жа мы ёю шмат добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахватней гавораць па-французску, як па-свойму...

Нас жа не жменька, а з восем мільёнаў... Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так, як той чалавек перад скананнем, катораму мову займе, а потым зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!»

«Дудка» Мацея Бурачка кудысь клікала, на нешта звала, будзіла ў сэрцы невядомыя дагэтуль жаданні. І сама не заўважыла Алаіза, як з-пад яе пяра выйшаў адзін, пасля другі вершык, нешта падобнае на такія, што пісаў Мацей Бурачок. Пра мужыцкую цяжкую долю, пра яго слёзы, пакуты. І на беларускай мове. Адзін вершык яна так і назвала «Мужыцкая доля»:

*На руках мазолі,*
*Дзень і ноч труджуся,*
*Не маючы долі,*
*Бедным спаць лажуся...*

і падпісала вершык, падобна да таго, як падпісваў Бурачок — Мацей Крапіўка.

Кніжка Мацея Бурачка адкрыла ёй вочы на многае. Узнікла разуменне Беларусі, беларускага народа. І яна пачала шукаць тое, што падмацоўвала б гэтыя разуменні. Пачала вывучаць гісторыю свайго краю. Аказваецца, некалі беларуская мова была паняй. На ёй пісаліся ўсе дакументы ў княстве Літоўскім, і нават Літоўскі статут.

А пра Беларусь і беларусаў ёсць шмат даследаванняў сур'ёзных вучоных. Яна знайшла і прачытала кнігу Рыпінскага «Бялорус», выдадзеную ў Парыжы ў 1840 годзе, перачытала зборнікі песень Чачота. Адкапала катэхізіс на беларускай мове, 1835 года выдання.

З сапраўднаю асалодаю перачытала ўсё, што знайшла напісанага



Дуніным-Марцінкевічам, Янкам Неслухоўскім. Знайшла яшчэ адну кніжку Мацея Бурачка — «Смык беларускі».

«І ўсё не ў нас, усё за светам друкавалася,— з горыччу думала яна.— А першыя ж кнігі ў Расіі пачаў друкаваць беларускі друкар Францішак Скарына...»

Жыццё ў Пецярбурзе, вучоба на курсах былі для Алаізы сапраўднаю школаю. Па-першае, яна ўбачыла, што і рускі рабочы, хоць ён мае свае газеты, кнігі, хоць і можа вучыць дзяцей у сваіх школах, не вельмі карыстаецца з гэтых ільгот, а жыве таксама кепска, як і беларускі. А доля рускага мужыка ў паэзіі Някрасава адбілася, як у люстры, і, паглядзеўшыся ў гэта люстра, беларускі мужык мог убачыць і сябе.

Жыццё на курсах Лесгафта віравала. Толькі і было размовы, што пра рэвалюцыю, якая ў Расіі немінучая. Складваліся рэвалюцыйныя суполкі, гурткі, наладжваліся мітынгі і сходы.

Алаіза кінулася ў гэты вір з галавою. Думала пра свой народ, пра Беларусь. Але цяпер лёс беларускага народа ў яе свядомасці звязваўся з лёсам усёй Расіі. Рэвалюцыя — вось адзінае, што можа выратаваць усю Расію, а з ёю і Беларусь. Трэба скінуць цара, спыніць вайну і па-новаму перабудаваць свет. Як гэты свет будзе перабудаваны пасля рэвалюцыі, яна ясна сабе пакуль не ўяўляла, але цвёрда верыла ў адно: рэвалюцыя неабходная. Толькі праз яе ляжыць дарога да свабоды.

Усё гэта ўспомнілася Алаізе, калі яна ішла позняй ноччу па горадзе. Думкі снавалі і снавалі ў яе галаве.

Яна стамілася. Ужо вельмі позна. Яна ідзе і ледзьве не спіць на хаду.

«Заўтра з раніцы пайду да іх... Трэба будзе папрасіць у Стэфы, каб дала якую прасціну і наўлечку. Дзіця ляжыць у такім брудзе... Трэба змяніць пасцель. А ў іх жа нічога няма. Ці ачуняе дзяўчынка?»

За ўсю дарогу ёй сустрэліся толькі два чалавекі. Адзін п'яны ды нейкая жанчына, якая бегла, спяшалася. Дзьмуў халодны вецер. Алаізе нават здалося, што падмарозіла. Што ж, усё можа быць. На двары снежань. І сапраўды, як дробныя крупы, закружыліся, заскакалі белыя сняжынкі. Хутка нават стала крышку святлей. На чарапічных дахах збіраліся гурбачкі снегу. Ён лажыўся на карнізы, тоненькім пластам укрыў тратуар.

«Хутка каляды... А там і новы год,— думала Алаіза.— Што нясе нам наступны, пяты?»

Снег пайшоў спарней. Ён падаў ужо буйнымі сняжынкамі, кружыўся, паволі апускаючыся на дол.

І раптам уначы, зімою ў цёмным небе бліснула маланка і загрымеў гром. Гулкім рэхам пракаціўся ён над сонным горадам. Алаіза аж скаланулася ад нечаканасці, а праз хвіліну ў сэрца хлынула прадчуванне нечага вялікага і радаснага. Яна стаяла і чакала. Чакала, што маланка блісне яшчэ раз, што яшчэ раз загрыміць гром. Але было ціха. Толькі ад першага чыстага снегу віднела і віднела вакол ды лёгка дыхалася халодным паветрам.

## VII

На гарбарным заводзе Суравіча сярод рабочых ужо некалькі дзён хадзілі трывожныя чуткі. Усе ведалі, што ў апошні час скур было замочана амаль у два разы менш. А калі менш замочвалася

скур, то, значыць, менш іх будзе і вырабляцца. Значыцца, заводчыку ўжо не патрэбна будзе столькі рабочых, і можна чакаць звальнення. Рабочыя нават гаварылі, што ведаюць, колькі чалавек будзе зволнена. Праўда, тут не ўсе называлі адну лічбу. Адны казалі трыццаць чалавек, другія — сорак.

Спачатку рабочыя шапталіся, не верылі. Але скора дачуліся, што на цагельных заводах звольнена дзвесце дваццаць чалавек. Што на іншых гарбарных заводах таксама пачалі звальняць людзей. І рабочыя вырашылі трымацца разам. Вырашылі, што, калі будуць звальняць хоць некалькі чалавек, аб'явяць забастоўку.

Праз колькі дзён у кантору сапраўды выклікалі трыццаць чалавек. Упраўляючы заявіў ім, што ў звязку з памяншэннем вытворчасці адміністрацыя мусіць скараціць і колькасць рабочых. Трыццаці чалавекам быў выпісаны разлік. Але рабочыя адмовіліся атрымаць яго. Яны пайшлі ў цэхі і расказалі пра ўсё таварышам. Тады тыя кінулі работу, выйшлі ў двор і паселі — хто на скрынках, хто на камянях, а хто на дошках. Сядзелі, курылі. Перагаворваліся.

Так прайшла гадзіна. Другая. Нарэшце да іх выйшаў упраўляючы — доўгі, худы немец у акулярах, у белай кашулі пад суконным сурдутам.

— Что вы себе думайте? — загаварыў ён.— Чего вы дождётесь? Могуть рассчитать не тридцать, а сорок человэк.

— Усіх звальняйце! — выкрыкнуў адзін рабочы, малады, шыракатвары, у акуратнай світцы.

— Правільна, Казік! Хай усіх звальняе! — падтрымалі яго рабочыя, бо ведалі, што ўсіх Суравіч не звольніць, завода не закрые.

— Вы же знаете,— казаў упраўляючы, — что половина нашего продукта на складе. Идёт война. Завод не может терпеть убыток.

— А мы можам з голаду паміраць? — выгукнуў той самы Казік.

— Ты что? Зачинщик? — вызверыўся на яго ўпраўляючы.— Тебя же, по-моему, не увольняют?

— Мяне не звальняюць, дык яго звальняюць! — паказаў ён на сівога дзеда, які, апусціўшы галаву, сядзеў поруч з Казікам, паставіўшы вялікія разбітыя боты проста ў гразь.

— А он тебе родственник? Фатер?

Казік змоўчаў. Маўчалі і іншыя рабочыя, але не ўставалі, не разыходзіліся.

— Ничего вы не доб'ётесь. Идите работать. А кто бунтовать будет, к тем тридцати добавим,— сказаў упраўляючы і пайшоў.

Рабочыя сядзелі.

— Дык што ж, так і сступім? — павярнуўся да ўсіх Казік.— Мая баба ў Бруна робіць. Яны, бабы, і то бастуюць, а мы што, падстаўляць будзем шыі — што хочаце, тое і рабіце з намі?

Вінцусь, Касін муж, стаяў каля Казіка і з павагаю пазіраў на яго. Вінцусь таксама не трапіў у лік трыццаці, якіх звальнялі. І ён быў вельмі рады, што заставаўся на заводзе. Ён выйшаў у двор разам з усімі рабочымі толькі таму, што ўсе дамовіліся так зрабіць. А дамаўляўся ён, бо не ведаў, трапіць у лік тых, каго звольняць, ці не. Цяпер жа ён стаяў ціхенька, не хочучы вытыркацца наперад. А той, Казік, бач, хоць яго і не звальняюць, а вунь як гаворыць, вунь як за іншых заступаецца! Вінцусь здзіўлена глядзеў на яго. Яму і самому раптам захацелася паказаць, што і ён не якая там шкура. І ён за іншых можа ўзняць голас.

— І мая баба ў Бруна робіць,— сказаў ён.— Яны там праўда бастуюць.



Казік, узрадаваўшыся падтрымцы, з удзячнасцю паглядзеў на Вінцуся, і гучна сказаў:

— Нам трэба баставаць! Не палохацца ўпраўляючага. Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!

— Правільна! Так трэба! — загаманілі рабочыя.

Тыя гарбары, якіх звальнялі, спачатку сядзелі, паапускаўшы галовы. Яны не ведалі, ці сапраўды заступяцца за іх таварышы. А цяпер павесялелі. Сівы дзед з удзячнасцю пазіраў на Казіка, на Вінцуся.

— Дзякуй, сынкі,— казаў ён то аднаму, то другому.

Два дні цягнулася дружная забастоўка. Рабочыя прыходзілі на завод, але нічога не рабілі, сядзелі ў двары, курылі, гаварылі, чакалі, што скажа начальства. А начальства маўчала.

На трэці дзень стала зразумела, што рабочыя разбіваюцца на дзве групы. Адны шумелі, гаварылі, што забастоўку трэба працягваць, што Суравіч мусіць пакінуць усіх рабочых. На чале гэтай групы быў Казік. Другая група, па ўсім было відаць, схілялася да таго, каб спыніць забастоўку. Дома жонкі, мусіць, насварыліся на іх, што за некага галовы падстаўляюць, што самі могуць застацца без работы, і яны цяпер не выказвалі ранейшага запалу, хоць адкрыта пакуль нічога не гаварылі. Але яны былі б, мусіць, рады, каб тыя трыццаць чалавек узялі разлік і пайшлі з завода.

Вінцусь зноў не ведаў, да якой з гэтых груп далучыцца. Яму падабаліся тыя людзі, што былі з Казікам. І сам Казік падабаўся. Гэта ж так добра, калі адзін за аднаго стаяць, адзін другога абараняюць! З такімі людзьмі можна ў любое пекла ісці. Такія ў бядзе не пакінуць. Гэта сапраўдныя таварышы. А з другога боку — дома такая бяда. Дзіця хворае... Трэба будзе заплаціць доктарцы. А колькі пойдзе на лекі! Праўда, нейкая дзіўная доктарка трапілася: і слухаць не хоча пра плату. Але ж самім не трэба быць свіннямі. А лекі то ўжо пэўна што дарам не дадуць... І харчы дзіцяці цяпер трэба добрыя... Так што будзе проста бяда, калі звольняць з работы. І Вінцусь не ведаў, ці да тых, што з Казікам, далучыцца, ці да тых, што ціхенька маўчаць.

А тыя трыццаць чалавек, якім выпаў лёс пакінуць фабрыку, трымаюцца ў купцы асобна, чакаюць.

На трэці дзень да іх нарэшце выйшаў сам Суравіч — тоўсты, гладка пагалены. Побач з ім стаяў і ўпраўляючы. Абодва яны выйшлі на ганак канторы. Суравіч загаварыў адтуль.

— Я бачу, мае рабочыя надумаліся бунтаваць,— відаць, стрымліваючы сябе і шукаючы падыходу да людзей, пачаў Суравіч.— Але ці будзе з таго карысць і вам і мне? Чаго вы гэтым хочаце дабіцца?

— Вы ведаеце, чаго мы хочам дабіцца! — выгукнуў хлопец з групы Казіка.— Не звальняйце рабочых!

— Куды мы пойдзем?

— Як будзем жыць?

— У нас сем'і, дзеці! — загулі тыя, якіх звальнялі.

— Ціха! — падняў руку Суравіч.— Я ведаю, і мне самому шкада, што так выходзіць. Але нічога не зробіш — вайна. Мы сёння павінны думаць не пра сябе, а пра айчыну. Калі хто захоча знайсці работу, знойдзе яе там, дзе нашы сыны ваююць за веру, цара і айчыну!

— Вось як вы павярнулі! — выгукнуў Казік.

— Далоў вайну! — крыкнуў нехта.

Калі Суравіч загаварыў аб вайне, аб тым, што звольненыя з рабо-

ты могуць там знайсці сабе месца, злосць хлынула ў Вінцусёвы грудзі. Ён успомніў, як нядаўна праводзіў у войска свайго суседа, як галасіла яго жонка.

— Самі ідзіце ваяваць! — нечакана для самога сябе выгукнуў Вінцусь.

— Правільна! — падтрымаў яго Казік.— Толькі пра сваё дабро дбаеце, а людзі хай ідуць галовы складваць!

Суравіч бегаў вачыма па радах рабочых. Здавалася, ён прыглядаецца, каб запомніць, хто гэта гаворыць, хто крычыць больш за іншых.

— Кожны сапраўдны патрыёт лічыць за гонар быць у радах абаронцаў айчыны! — наліваючыся чырванню, адказаў Суравіч.— Паклічуць мяне — і я пайду!

— От з мяне ваяка будзе,— выйшаў наперад, стаў перад ганкам канцылярыі той самы дзед, за якога заступаўся Казік.

Дзед быў маленькі з казлінаю бародкаю, напалову белай ад сівых валасоў, у нехлямяжай світцы, якая рабіла яго постаць смешнай.

Сярод рабочых выбухнуў рогат.

— Збавіцель айчыны!

— Ідзі, дзед, біць японцаў!

— За веру, цара і айчыну!

— Гэта ўжо бунт! — крыкнуў Суравіч.

— Это выступление против правительства! — падтрымаў яго ўпраўляючы.

— Свой загад я адмяняць не буду,— цвёрда сказаў Суравіч.— Дзякуйце богу, што я не выклікаю казакаў і не загадваю ім арыштаваць зачыншчыкаў. Калі хочаце, каб усё скончылася мірам, прыступайце да работы,— сказаў ён і павярнуўся, пайшоў у канцылярыю. За ім, як цень, шмыгнуў і ўпраўляючы.

— От падла! — вылаяўся Казік. Ён палажыў руку на плячо Вінцусю.— Ну, як ты думаеш? Што будзем рабіць? І далей баставацьмем?

— Трасцу яму паддамося! — са злосцю адказаў Вінцусь. Ён і сам не ведаў, адкуль у яго ўзялася злосць на Суравіча. Можа, таму, што чакаў ад яго зусім іншага. Вельмі ж запякло яму, калі той загаварыў пра вайну.

— Правільна, і я так думаю,— узрадаваўся Казік, што Вінцусь не спалохаўся пагроз заводчыка.— Трэба паказаць гэтаму сабаку, што мы людзі. Што мы можам нечага дабівацца.

Суравіч пайшоў, а рабочыя засталіся ў двары, узбуджаныя, разлаваныя.

— Ні халеры не выйдзе з нашай забастоўкі...

— Цяпер ён зацяўся, то ўжо не саступіць,— гаварылі тыя, што раней маўчалі.

— Будзеце быдлам, дык і будуць вас ганяць, куды захочуць. Сёння гэтых трыццаць, а заўтра яшчэ пяцьдзесят,— спрачаліся з імі рабочыя з Казікавай купкі.

— Крывасмок праклятыя!..— лаяў Суравіча Вінцусь.

У гэты час у двары з'явілася жанчына — у чорным жакеце, у доўгай цёмнай сукенцы, з кніжкаю пад пахай. Вінцусь ураз пазнаў у жанчыне доктарку, што лечыць яго Зоську.

Так, гэта была Алаіза. У апошнія дні яна падоўгу праседжвала каля хворай дзяўчынкі. Мяняла ёй кампрэсы, давала лякарствы. Дзяўчынцы трошкі палегчала, але была яна яшчэ вельмі слабая. Прыходзіў з работы Вінцусь і расказваў Алаізе пра тое, што робіцца



у іх на заводзе, пра Казіка, які больш за ўсіх стараецца для іншых. І Алаізе вельмі захацелася схадзіць на завод, пагаварыць з рабочымі, падбадзёрыць іх.

Узбуджаныя нядаўняй размовай з Суравічам, рабочыя не адразу звярнулі ўвагу на Алаізу. Ну, прыйшла нейкая кабета, мо ёй чаго ў кантору трэба... Мо заказчыца.

Але жанчына пайшла не ў кантору, а проста да людзей, якія стаялі вялікаю групаю, хваляваліся, не ведалі, што рабіць далей.

— Пані доктарка... Цётка! — ступіў да яе Вінцусь.— Дзень добры? — Вінцусь спачатку называў Алаізу «пані доктарка», але яна сказала яму, каб ён называў яе Цётка, сказала, што ўсе знаёмыя так яе называюць, нават Кася і ўсе дзяўчаты з фабрыкі Бруна. І Вінцусь у апошнія дні зваў яе то «пані доктарка», то Цётка.

Алаіза павіталася з Вінцусём за руку, азірнулася на людзей, якія з цікавасцю на яе глядзелі.

— Што, бастуем? — весела спыталася яна.

У цікавасці людзей была і насцярожанасць. Хто ведае, што ты за птушка, чаго прыйшла, хоць і з рабочым ручкаешся! Рабочыя ведалі, што па заводах цяпер часта ходзяць агітатары, што сярод іх ёсць і жанчыны. Можа, гэта цётка з такіх, а можа і не.

— Адбасталіся,—сказаў нехта з натоўпу.

— Чаму ж так? — жыва павярнулася на голас Алаіза.

— З такам засталіся... Бізуном бервяна не перасячэш,— адказаў абросплы барадою рабочы.

— Значыцца, не той струмант узялі. Не бізун трэба было браць,— адрэзала Алаіза.

Нехта засмяяўся, а Казік, узрадаваўшыся, што прыйшла дапамога, ажывіўся.

— І я ж ім кажу, што нельга паддавацца. Паддамося, то яны і возьмуць моду: сёння цябе звольняць, заўтра — мяне...

— Гэта не той, пра каго ты расказваў? — спыталася Алаіза ў Вінцуся, паказваючы вачыма на Казіка.

— Той,— задаволена ўсміхнуўся Вінцусь.

— Давайце пазнаёмімся,— падала Алаіза руку Казіку.— Цётка. Мне Вінцусь казаў, што вы вельмі за другіх, за пакрыўджаных выступаеце.

— Казімір Станкевіч,— крыху пачырванеў, падаючы Алаізе руку, Казік.

Да іх кругу падыходзіла ўсё больш людзей. Тыя, што стаялі ззаду, падымаліся на дыбачкі, станавіліся на цвёрдыя грудкі зямлі, на цагліны, каб пагалядзець, хто прыйшоў, паслухаць, што там гавораць.

— Многа ж вас тут,— азірнулася Алаіза на рабочых.— І няўжо такі атрад не дасць рады Суравічу? — усміхнулася яна. Ды раптам твар яе стаў суровы, нават хмурны.— Таварышы! Браты! — загаварыла яна голасна, да ўсіх, што тут стаялі.— Я ведаю, што ў вас дзеецца на заводзе. Ведаю, што Суравіч звольніў трыццаць чалавек. Выгнаў іх з завода, адабраў кавалак хлеба. І калі вы папусціцеся, дасцё сваіх таварышаў у крыўду, то такі самы лёс можа чакаць заўтра кожнага з вас. Ды хіба застануцца спакойнымі вашы рабочыя сэрцы, калі вы будзеце ведаць, што па вашай слабасці, па вашай віне без работы засталіся вашы таварышы, што іх сем'і галадаюць?

Рабочыя прыціхлі. Заднія напіралі на тых, хто стаяў спераду, каб падысці бліжэй. Пярэднія сыкалі на іх, каб не перашкаджалі слухаць.

— Вы павінны баставаць! Павінны дамагацца не толькі таго, каб рабочых не звальнялі, вы павінны дамагацца, каб вам павялічылі плату, каб скарацілі рабочы дзень.

Вінцусь глядзеў на доктарку і не пазнаваў яе. Там, у бараку, каля хворай Зоські, доктарка была такая далікатная. Так асцярожна брала яна дзіця на рукі, так ласкава да яго гаварыла. І сама здавалася далікатнаю, кволай. А тут вунь якая гнеўная, суровая. Вінцусю яна цяпер здаецца нават вышэйшай ростам і дужэйшай. Усе так слухаюць яе, і пажылыя мужчыны. Нават тыя, што нядаўна гатовы былі ўступіць Суравічу, таксама слухаюць.

— Ва ўсёй Расіі рабочыя накопліваюць сілы, рыхтуюцца да рэвалюцыі. І вы разам з усімі рабочымі павінны далучыцца да барацьбы. Павінны запісвацца ў рэвалюцыйныя партыі. Павінны быць гатовымі змагацца з царызмам,— гаварыла Алаіза.

— Казакі, казакі! — прабегла раптам па натоўпе.

Ля фабрычных варот мільгнулі сінія казацкія мундзіры, і чалавек шэсць казакаў на конях уварвалася ў двор.

— Разыдзісь! Разыдзісь!

— Не бойцеся, таварышы! Нагайкаю праўды не заб'юць! — выгукнула Алаіза, але тут жа адчула, як нехта схапіў яе за руку, кола людзей звузілася вакол яе.

— Хавайся, Цётка,— пачула яна над вухам голас.

Яе ахапіў азарт. Яна страціла адчуванне небяспекі. Ды і як яна магла хавацца, уцякаць, калі толькі што сама заклікала рабочых не баяцца Суравіча, рыхтавацца да барацьбы.

— Наляцелі! — трэсла яна кулаком туды, адкуль чуліся галасы казакаў.— Толькі так яны і могуць!

— Пані доктарка! Цётка! — чула Алаіза над сваім вухам Вінцусёў голас. Вінцусь раптам скінуў з сябе світку і накрыў ёю Алаізіны плечы, нібы так хацеў яе схаваць ад казакаў.

— Зачыншчыкаў! Зачыншчыкаў хапайце! — на ўвесь двор разлягаўся голас упраўляючага, і ён паказваў рукою туды, дзе былі Вінцусь з Алаізаю. А да іх праз гушчу людзей прабівалася двое казакаў.

— Разыдзісь! Разыдзісь! — чуліся іх выкрыкі.

Цяпер Алаізу за рукі ўжо цягнула двое — Вінцусь і Казік.

— Вам трэба ўцякаць... Уцякаць,— паўтараў Казік.

— У мяне вось што,— паказала Алаіза пакет, які быў у яе пад жакетам. Яна паддавалася ўжо сіле хлопцаў, ішла, куды яны цягнулі яе, але ёй усё ж хацелася зрабіць сваю работу да канца. Яна ж прынесла з сабою пракламацыі.

Казік, напэўна, здагадаўся, што было ў пакеце. Выхапіў яго ў Алаізы, разадраў паперу, у якую ён быў загорнуты, і з усяе сілы шпурнуў пачак угору. Лісткі белым снегам закруціліся над людзьмі, пасыпаліся долу. І людзі, не баючыся казакаў, хапалі іх, хавалі. Лісткі знікалі, раставалі, як сняжынкі, што траплялі на цёплы дол.

Казакі таксама кінуліся лавіць лісткі. Яны падхоплівалі іх на ляту, паднімалі з долу, рвалі на дробныя шматкі.

Людзі ўсёю масаю адступалі да цэха, і Казік з Вінцусём цягнулі туды Алаізу. Калі яны падышлі да самага цэха, Казік штурхнуў сінія дашчаныя дзверы, упіхнуў Алаізу ў цэх, прапусціў Вінцуся.

— Бяжыце! — крыкнуў ім.— Праз нарэзку!

— А ты? — на хвіліну затрымаўся Вінцусь.

— Бяжы! — нецярпліва паўтарыў Казік.

Спрачацца сапраўды не было часу, і Вінцусь, схапіўшы Алаізу за руку, пацягнуў яе праз цэх, паўз вялікія драўляныя чаны, з якіх



моцна пахла кіслым. Пасля вёў яе праз цёмны калідор, яшчэ праз адзін цэх — з шырокімі, доўгімі сталамі.

Праз нейкія дзверы яны выйшлі ў двор. Пасля цэхаў тут здалося вельмі светла і прасторна, а паветра лёгкім, чыстым. Перад іх вачыма была шэрая сцяна плоту. Вінцусь падбег да яе. Памацаў адну дошку, другую. Яны не паддаваліся. Тады ён з усяе сілы пацягнуў адну штакеціну. Яна затрашчала, і Алаіза азірнулася, ці не бяжыць хто на гэты трэск. Але вакол не было ні душы. Вінцусь тым часамададраў яшчэ дзве дошкі.

— Лезце! — загадаў ён Алаізе, паказваючы на дзірку ў плоце.

Яна паслухалася.

Праз хвіліну яны абодва ішлі па крывой незамошчанай вулачцы. Вакол усё было ціха і мірна. Фабрычны двор застаўся недзе збоку.

— Дзякуй вам,— сказала Алаіза Вінцусю.

Ён быў яшчэ ўзбуджаны, але напружанне ўжо спадала, ён спакайнеў.

— Няма за што,— адказаў ён, выціраючы рукавом лоб, нібы пасля цяжкай работы.— Баяўся я, каб вас не злавілі...

— Я ж кажу — дзякуй,— паўтарыла Алаіза, адчуваючы, аднак, што гэтага дзякуй вельмі мала, каб выказаць усё, што яна адчувае цяпер да Вінцуся. Ёй было б цяпер зусім лёгка і радасна, каб не думала пра Казіка, які застаўся там. Яна разумела, што Казік застаўся, каб прыкрыць іх адыход.

— Ты вяртайся,—спынілася яна раптам.— Ідзі, паглядзі, як там. Пасля мне раскажаш... Я вечарам прыйду да вас.

— Я думаў вас правесці дахаты,— няўпэўнена адказаў Вінцусь.

— Не трэба,— рашуча адмовілася Алаіза.— Вяртайся. Толькі асцярожна! — дадала яна, бачачы, што Вінцусь ужо гатовы выканаць гэты яе не то загад, не то просьбу.— Асцярожна! — крыкнула яна яшчэ раз яму наўздагон.

## VIII

Вінтавая жалезная лесвіца ў доме, дзе жыла Алаіза, вельмі грукала пад нагамі, і ў кватэры было чуваць, калі хто па ёй паднімаўся. Асабліва стагнала яна пад мужчынскімі крокамі. Таму можна сабе ўявіць, як зазвінелі жалезныя ўсходцы, калі па іх загрукацелі дзве пары мужчынскіх чаравікаў.

Стэфа ажно застыла з ручніком у руках, слухаючы, як набліжаецца бразгат да іх дзвярэй.

— Пахвалёны ў хату,—увайшоўшы, павіталіся са Стэфаю мужчыны, адзін вышэйшы, у простым убранні, другі ніжэйшы, апрануты больш па-панску.

— Навекі векув,— адказала Стэфа.

— Браточкі, а каб на вас халера! — выскачыла да іх з другога пакоя Алаіза.— Я думаю, хто там грыміць, а гэта яны! Заходзьце, заходзьце.

Гэта прыйшлі Лёкса Бурбіс, якога ўсе звалі проста Піліп, і Вацук Іванецкі. Піліп — у суконнай світцы, у шапцы са скураным брылем. Вацук у чорным паліто і капелюшы.

Яны распрануліся, павесілі сваю апратку на цвічку каля дзвярэй. Піліп, азірнуўшыся на Стэфу, старанна выцер ногі аб анучу, якая ляжала каля дзвярэй.

Алаіза запрасіла гасцей у другі пакой, меншы, дзе былі яе ложак, стол, завалены кнігамі, камод.

— Жывеш ты ў добрым месцы,— зірнуў праз акно на вуліцу Піліп.— Далёкая ўскраіна, цішыня.

— І брат у яе — рускі афіцэр. Так што кватэра аблаганадзеяная. Можна не баяцца сюды хадзіць,— дадаў Вацук.

Піліп пераглядаў кнігі, якія ляжалі на стале. Браў у рукі адну, другую, гартаў і клаў на месца. Вацук нецярпліва сачыў за ім вачыма.

— Ну, пацеш ужо Цётку,— не вытрымаў ён нарэшце.— Яна ж і не ведае, што ў цябе ў кішэні.

Піліп, не спяшаючыся, паклаў томік Пушкіна, які дагэтуль трымаў у руках, таксама не спяшаючыся палез у кішэню пінжака, дастаў адтуль пачак лістовак, надрукаваных лацінскім шрыфтам. Паклаў на стол, на паперы, якія на ім ляжалі.

Алаіза жыва ўзяла адзін лісток. Гэта была пракламацыя супроць вайны, якую яна напісала. Яе твар праясНеў ад задавальнення.

— Бачыш, ты перамагла ў конкурсе,— радаваўся за яе і Вацук.— Твой тэкст прызналі найлепшым.

Вацук шырока ўсміхаўся, а Піліп глядзеў на свой чаравік, якім выстукваў на падлозе нейкі такт. Хоць ён і сам прынёс гэтыя лісткі, але радаваўся, здаецца, менш за ўсіх. Калі ўбачыў, што Алаіза, дачытаўшы пракламацыю да сярэдзіны, толькі круціць яе ў руках, аглядае, як надрукавана, ён, нібы абыякава, сказаў ёй:

— А ты чытай... Да канца дачытвай...

Алаіза кінула на Піліпа насцярожаны позірк, бо ў яго голасе пачула недагаворанае. Ён нібы казаў ёй: «Рана ўзрадавалася. Не весяліся».

І Алаіза пачала чытаць далей.

— Чакайце, дык тут жа канец зусім зменены! — з недаўменнем уставілася яна на Піліпа.

Нібы не верачы сваім вачам, яна яшчэ раз прачытала канец пракламацыі. Не, яна не памылілася. Там, дзе ў яе быў заклік да рэвалюцыі, дзе яна пісала, што, паўстаючы супроць вайны, трэба паўставаць і супроць самаўладства, што вайна і царызм адно і тое ж, былі не яе, а чужыя словы. Увесь сэнс пракламацыі ад гэтага мяняўся, трациў сваю баявітасць.

— Хто ж так зрабіў? Навошта? — са злосцю кінула яна лісток на стол.

— Зрабіў, мусіць, той, хто здаваў лісток на друкаванне,— сказаў Піліп.

Цяпер Алаіза зразумела яго стрыманасць. Значыцца, Піліп ведаў, што канец перароблены, і толькі чакаў, што скажа на гэта яна. А Вацук?— і Алаіза запытальна глянула на Вацука.

— Ат, кінь,— памяркоўна сказаў Вацук.— Не вялікая розніца, так будзе напісана ці гэтак. Галоўнае, што твой тэкст надрукавалі.

— Не, братка, вялікая розніца. Нават вельмі вялікая. Увесь жа сэнс адозвы мяняецца! — гарачылася Алаіза.

— Я тут пазнаю Антосеў почырк. Гэта яго мода — перакруціць усё па-свойму,— з незадавальненнем сказаў Піліп.

— А я не разумею аднаго,— развяла рукамі Алаіза.— Калі тое, што я напісала, не адпавядае праграме партыі, дык не трэба было гэтага друкаваць. Хай бы друкавалі іншае. А калі выбралі маё, то друкуйце ўжо без перамен, як у мяне напісана!

— Скажу табе, што я пра гэта ведаю,— загаварыў Піліп.— На пасяджэнні камітэта, калі сабралі і прачыталі ўсе тэксты, усе пагадзіліся, што твой напісаны найлепш.



— Твая адозва была напісана вобразна, шчыра, з агнём,— дадаў Вацук. Ён яўна хацеў улагодзіць Алаізу.

— З агнём! Дык вы ж той агонь патушылі! — не супакойвалася Алаіза.

— І Карусь Каганец, і я, і Вацук былі за тое, каб друкаваць тваю адозву,— расказваў далей Піліп.— І Антось нібы пагадзіўся, павёз яе ў Менск. І ні слова не сказаў, што будзе там нешта перайначваць. А сёння мне наш чалавек прынёс гэты пачак,— паказаў ён на стол, дзе ляжалі пракламацыі.— Антось пераслаў з Менску. Чытаю і, як ты, вачам не веру,— павярнулася яна да Вацука.

— Па-мойму, Грамада робіць вялікую памылку, што кіруецца толькі на мужыка,— крыху памаўчаўшы, загаварыла Алаіза.— Асноўныя рэвалюцыйныя сілы ў горадзе. Вёска без горада нічога не зробіць. Я вось цяпер вяду работу на заводзе, бываю на мітынгах і бачу, якая сіла пралетар. І беларусаў у Вільні не менш, чым палякаў. Хай твой Антось паходзіць па заводах...

— Антось такі самы мой, як і твой,— з крыўдай у голасе адказаў Вацук.— І магу табе сказаць, што ён пра цябе лепш гаворыць, чым ты пра яго. Ён вельмі высока ставіць твае літаратурныя здольнасці. Увогуле, кажа, што ты — таленавіты чалавек. Бачыш, тваю, а не чыю-небудзь адозву надрукавалі! Антось кажа, што ты для Грамады можаш быць вельмі цэннаю асобаю...

— О-о! — выгукнула Алаіза.— Дзякуй за давер...

— Мы, Цётка, з табою ўдвух работу ў Вільні павядзем. Як палічым за патрэбнае. Кіраўніцтва наша вечна ў Менску сядзіць, а Вацука мы пабораем,— весела сказаў Піліп.

— Ды ўжо ж... Я ад свайго не адступлюся. І веру, што ў мяне знойдуцца аднадумцы,— крыху павесялела Алаіза.— Чуеце, хлопчыкі?— пацягнула яна носам паветра.— Па хаце смачны дух пайшоў. Мая разумная сястрыца, мусіць, надумалася нас нечым пачаставаць. Пайду цікну,— устала яна з крэсла.

А праз хвіліну вярнулася, на выгляд ужо зусім бесклапотная.

— Браткі! Бульбяных аладак цэлае рэшата на стале! Пайшлі есці!

— Дзякуй, я не галодны,— пачаў далікатна адмаўляцца Вацук.

— А я, брат, бульбяныя аладкі нават пасля абеду ў «Брыстолі» магу есці,— сказаў Піліп.

— Па табе не відаць, каб ты вельмі ў «брыстолях» абедаў,— змерала Алаіза позіркам худую, нехлямяжую Піліпаву постаць.— Ідзіце, ідзіце за стол,— падштурхвала яна ў спіну хлопцаў.

Вацук трохі паўпіраўся, але і ён прысеў да стала, з'еў некалькі аладак. Алаіза ж з Піліпам такі добра намачаліся тых аладак у смятану.

Калі госці пайшлі, Алаіза памагла Стэфе прыбраць і памыць посуд. Пасля вярнулася да свайго стала, зноў узяла лістоўку з пачка, які пакінуў ёй Піліп. Перачытвала і хмурылася.

Радасць ад таго, што яе тэкст надрукаваны, была атручана.

## IX

Надыходзілі каляды. Ва ўсім горадзе адчувалася ўрачыстасць. Званы віленскіх касцёлаў гучна бомкалі ў марозным паветры. Набожныя людзі здалёк ішлі да «Вострай брамы», каб пакланіцца цудатворнаму абразу боскай маці.

Стэфа таксама рыхтавалася да каляд. Цёрла мак, рашчыніла цеста на бліны. У хату прынесла пук сена, паклала ў кут пад абразамі.

Алаіза не верыла ў бога, але гадавалася яна ў набожнай каталіцкай сям'і, дзе выконваліся ўсе абрады, святкавалася кожнае свята, дзе з імем бога і ўставалі і клаліся спаць, і многае ад рэлігійных звычак у яе засталося як спадчына маленства. Спалохаўшыся, яна і цяпер магла пеpажагнацца. Магла пабажыцца на польскі манер: «Як бога кохам». А святы проста нельга было абмінуць. Вакол усе людзі святкавалі. І тыя, хто верыў, і тыя, хто не верыў, бо іншых свят не было, а хацелася ж людзям неяк скрасіць сваё існаванне. А ў гэтых святах было шмат прыгожага, што, нават адарванае ад веры, прываблівала.

Алаіза збіралася адведаць Зосю. Дзяўчынка ачуняла, хоць яшчэ і была слабенькая.

Кася не ведала, як аддзячыць доктарцы. Яна была ўпэўнена, што гэта Цётка выратавала яе дачку, і, калі тая прыходзіла, не знала, як яе сустрэць, дзе пасадзіць.

Алаіза не была ўпэўнена, што гэта яе лячэнне выратавала Зосю. Можа, дзяўчынка і сама ачуняла б. Але ўсё ж разумела, што яе дапамога была тут вельмі патрэбна, што яна сапраўды памагла кволаму арганізму адужаць хваробу. Яна нават радавалася свайму першаму лекарскаму поспеху. А дзяўчынка стала ёй, як свая, як родная.

Алаіза сабрала ў хустку такія-сякія гасцінцы Зосі. Нават купіла ёй цёплы жакецік. Выршыла зрабіць дзяўчынцы падарунак на каляды. Успомніла, што ў сям'і, якая жыве ў адным пакоі з Касяю, за посцілкаю, таксама ёсць дзеці, і купіла цукерак, каб хапіла пачаставаць і тых дзяцей.

Сабраўшы гасцінцы, яна дастала з-за абраза скрутак, загорнуты ў паперу. Гэта таксама быў гасцінец, але не дзецям. Схавала скрутак на грудзях пад жакетам.

Алаіза пасябравала цяпер з Вінцусём. Касіным мужам. Яна яшчэ некалькі разоў прыходзіла на завод Суравіча, толькі ўжо не адкрыта.

Рабочыя баставалі ў той раз адзінаццаць дзён. Суравіч вымушаны быў саступіць, і тыя трыццаць чалавек засталіся на фабрыцы.

Са сваім клуначкам на руцэ Алаіза ішла ў кірунку Сіроцкай вуліцы, дзе жылі яе новыя сябры.

У горадзе панаваў перадсвяточны рух. У шыкоўных экіпажах праязджалі багата апранутыя паны і пані. На тварах у іх было задавальненне. Свята несла ім радасць, забавы, весялосць. У вокнах камяніц былі відаць хораша прыбраныя ёлкі. Гасцінна расчыненыя дзверы крам і крамак запрашалі пакупнікоў. І людзі выходзілі адтуль з пакетамі, з кошыкамі, поўнымі віна і гарэлкі.

А да «Вострай брамы» цягнуліся калекі, жабракі, бедны люд. Яны ішлі, каб пакланіцца боскай маці, спадзяваліся, што на свята яна будзе больш шчодрая на цуды і верне хвораму здароўе, беднаму паможа зрабіцца багатым.

Над сярэднім акном вострабрамскай капліцы, там, дзе знаходзіўся абраз, было напісана па-лацінску: «Mater misericordiae! Sub tuum praesidium confudimus!», што азначала: «Матка міласэрная! Пад тваю апеку аддаемся!»

Людзі, ідучы да «Вострай брамы», яшчэ здалёк здымалі шапкі. А падыходзячы блізка, укленчвалі і маліліся.

Унутры капліцы, на ўсіх чатырох сценах, віселі «вотумы» — галасы. Гэта былі срэбныя абладкі з адбітымі на іх сэрцамі, рукамі, нагамі, вачыма. Іх прынеслі калекі, чые галасы нібыта пачула матка боская і вярнула сляпому вочы, спаралізаванаму — ногі або рукі, вылечыла ад цяжкай хваробы.

— Матка міласэрная! Пад тваю апеку аддаемся!



Але вунь як прыйшоў калека на мыліцах, так і пайшоў на іх з-пад брамы... Як сядзеў жабрак у лахманах пад абразом, так і сядзіць... Скупа падаюць медзякі ў яго шапку. А сівая галава мерзне на ветры, на яе падае снег.

Людзі тут, пад «Вострай брамай», як у пастцы. Вуліца канчаецца брамаю. З аднаго боку — касцёл святой Тэрэзы. З другога — глухая сцяна. І людзі ў гэтай пастцы схіляюцца перад усемагутнаю каталіцкаю царквою, асвечанай рукой самога рымскага папы. А можа, мамы? Што, смешна? Алаіза ўспомніла, што нядаўна чытала аб жыцці святых кіраўнікоў каталіцкай царквы. Аб тым часе, калі кіравалі царквою тры славутыя жанчыны — Тэадора са сваімі дачушкамі Мадзіяй і Тэадорай-меншай. Адна з гэтых дачушак, Мадзія, папу Іаана Х



пасадзіла ў турму, дзе яго, беднага, задушылі падушкамі. Папам яна зрабіла свайго ўласнага сына Іаана XI. Ніхто не ведаў, хто бацька гэтага святога айца. Адны думалі, што папа Сергі III, але сама Мадзія лічыла, што нарадзіла яго ад Альберыха,—зрэшты, і яна не магла сказаць пра гэта што-небудзь пэўнае. Ды другі сын Мадзіі пасадзіў у турму і сваю маці і брата-папу. Новы папа, унук Мадзіі, браў хабар, у палацы ў яго было поўна вясёлых жанчын, а сам ён піў гарэлку, гуляў у карты.

А што далей рабілі гэтыя папы, адзін за адным заваёўваючы прастол? Іаану XVI выкалалі вочы, адрэзалі нос і язык, пасля, зняверчанага, пасадзілі на асла задам наперад і пачалі вазіць па вуліцах. Іаан XX тым, хто хацеў скінуць яго з папскага прастолу, выколваў вочы, адразаў пальцы, рукі, вушы. А самога яго забіў адзін рымлянін за тое, што святы папа згвалціў яго жонку.

— Матка міласэрная! Пад тваю апеку аддаемся!

З-за манастырскай сцяны пачуўся гучны ўдар звона. Ва ўсіх, хто быў тут, каля «Вострай брамы», ускінуліся рукі для крыжа. Вусны зашапталі малітву. Толькі Алаіза не перажагналася. Стрымала руку, якая хацела зрабіць прывычны рух.

— Матка міласэрная! Пад тваю апеку аддаемся!

«І той белабровы салдат з худою, тонкаю шыяй, што ішоў тады ў калоне да станцыі, мусіць таксама прыходзіў сюды, прасіў міласці ў боскай маці, прасіў, каб яна ўзяла яго пад сваю апеку,— думала яна.— І ўсе маткі і жонкі тых, каго ўжо забіла на вайне, таксама ж прыходзілі сюды і маліліся... І ўсе тыя, што гнуць спіну — на полі, на фабрыцы, на заводзе,— таксама кожны дзень моляцца богу, каб даў ім палёгку».

— Матка міласэрная! Пад тваю апеку аддаемся!

Як навучыць гэтых людзей, што ніхто не возьме іх пад сваю апеку, ні матка боская, ні цар...

Звон за манастырскаю сцяною ўдарыў яшчэ раз. Да яго далучыўся звон касцёла, пасля азвалася і яшчэ адна званіца. І хутка над горадам узняўся магутны перазвон. Здавалася, аж звінела паветра. Гукі біліся ў сцены, рэхам аддаваліся ў каменных і глухіх, як калодзежы, дварах.

— Матка міласэрная... Пад тваю апеку аддаемся...

Алаіза пайшла ад «Вострай брамы» на Сіроцкую вуліцу. Яна чамусьці ўспомніла, што некалі гэта вуліца называлася Сабачай. З незапомных часоў, з веку ў век тут жыў гарадскі кат. Яго памочнікі называліся тады «падлізнікамі», або «сабачнікамі». «Па-цяперашняму, мусіць, шпікі,— падумала Алаіза.— Народ ніколі не любіў даносчыкаў. І назваў жа іх так трапна — «сабачнікі». Праз гэта і вуліца так называлася. А тут, недалёка, і вуліца Турэмная. І Паліцэйская. На іх жылі турэмшчыкі, жандары. І ўсё вакол «Вострай брамы»... Відаць, і турэмшчыкам, і паліцэйскім была патрэбна боская апека. Пад боскаю апекаю рабілі яны сваю работу».

Не, зусім не святыя думкі ў яе ў такі ўрачысты час, пад звон усіх касцёлаў і манастыроў Вільні...

У Касі, як заўсёды, сустрэлі яе радасна. Зося сядзела на ложку, апранутая ў матчын кафтан. Тварык у яе пасвяжэў, вочкі жывыя, вясёлыя.

Алаіза развязала свой клунак. Расклала на ложку перад Зосяй гасцінцы.

— А гэта табе жакецік,— сказала яна, паказваючы падарунак.

Зося недаверліва глядзела на прыгожы зялёны кафтанчык, не адважваючыся дакрануцца да яго. А Кася кінулася цалаваць Алаізе рукі.

— Кінь, кінь, што ты! — адбівалася ад яе Алаіза.— Адвыкай ад такой кепскай прывычкі — цалаваць людзям рукі. Не прыніжай сябе!

Калі з Зосі знялі вялікі стары кафтан і надзелі новы жакецік, прычасалі валасы, яна адразу зрабілася зусім другім дзіцем.

— Ой, якая ж ты ў мяне пекная! — цешылася Кася.— Дзякуй



пані доктарцы. Бачыш, якая яна харошая. І вылечыла цябе, і яшчэ гасцінцы носіць...

Алаіза частавала Зосю цукеркамі. Убачыла, што з-за посцілкі на яе пазіраюць дзве пары дзіцячых вачэй. Гэта былі Паўлік і Маня, суседскія дзеці. Алаіза паклікала іх. Яны нясмела, хаваючыся адзін за аднаго, падштурхваючы адзін другога, падышлі да яе. Алаіза пачала частаваць і іх. Дзеці нясмела ўзялі па цукерцы, але не адважваліся тут жа разгарнуць прыгожую паперку і есці.

— У мяне — во! — паказала Зося на сваю абнову.

Дзеці з цікавасцю глядзелі на Зосю ў новым жакеце. Самі яны былі ў доўгіх, да пят, не то кашулях, не то сукенках — і хлопчык, і дзяўчынка. Босыя, хоць у хаце было вельмі холадна.

Вінцусь сказаў ёй кепскую навіну: арыштавалі Казіка.

— На фабрыку прыйшлі жандары і забралі. У хаце рабілі вобыск. Казікава жонка прыбягала сюды. Галасіла. Расказвала, што шукалі пракламацыі. Але нічога не знайшлі. Цыдулкі, што вы нам прыносілі, мы раздалі.

Алаізу гэта навіна вельмі засмуціла. Шкада было хлопца. Ды і работа магла спыніцца.

Калі яна сабралася адыходзіць, Вінцусь выйшаў з ёю за дзверы.

— Не ведаю, што рабіць,— сказала яму Алаіза.— Зноў прынесла пракламацыі. Але, можа, ты не захочаш ужо браць... Казіка ж арыштавалі... Каб і на цябе не ўпала падазрэнне.

Яны стаялі ў цёмных, халодных сенцах. Алаіза не бачыла твару Вінцуся, але адчувала, што той вагаецца. І Вінцусь такі доўга маўчаў. Пасля сказаў:

— Не... дайце. А можа — гэта і лепш будзе...— ажывіўся ён.— Калі на заводзе і цяпер пракламацыі з'явяцца, то падумаюць, што Казік не вінаваты. А ў яго ж дзеці...

Алаіза ўзрадавалася.

— Маладзец,— паціснула яна Вінцусю руку. Пасля, задаволеная, моцна пляснула яго далоняй па плячы.

— Дуб... мацак... І хлопец ты харошы... Вучыцца б табе...

## X

Стэфа, вяртаючыся раніцаю з крамы ці з базара, заўсёды прыносіла Алаізе свежую газету. І ў той дзень, адзінаццатага студзеня, яна прынесла «Северо-западное слово». Газета была халодная, пахла марозам і друкарскаю фарбаю.

Звычайна на першай старонцы даваліся звесткі аб падзеях на японскім фронце. Руска-японская вайна была ў цэнтры ўвагі афіцыйных колаў. Але сёння Алаіза звярнула ўвагу на тое, што ўся першая старонка была занята паведамленнем аб падзеях у Пецярбурзе. Зверху інфармацыі было так і памечана: «Петербург. 10 января. Официальная».

Алаіза пачала чытаць. У пачатку інфармацыі, у зусім спакойным тоне, пісалася аб арганізаваным у Пецярбурзе папам Гапонам Таварыстве фабрычных і заводскіх рабочых, аб дзейнасці гэтага таварыства, аб забастоўцы пецярбургскіх рабочых, якая пачалася другога студзеня.

Але чым далей чытала Алаіза, тым больш пачынала адчуваць, што здарылася нешта асаблівае, незвычайнае. І калі яна дайшла да самага галоўнага ў інфармацыі, то рукі яе з газетаю апусціліся, у вачах паплылі жоўтыя кругі.

Не верачы сабе, думаючы, што яна нешта не так зразумела, Алаіза пачала перачытваць страшныя радкі. Перад ёю паўставаў малюнак таго, што адбылося ў Пецярбурзе. Людзі з абразамі, з харугвамі, жанчыны і дзеці па марозных, халодных вуліцах ідуць да царскага палаца. Ідуць, каб перадаць цару петыцыю, у якой напісана пра ўсе іх крыўды. Ідуць прасіць яго міласці, яго абароны, яго заступніцтва. І тут — кулі... Смяротныя кулі па натоўпе, у руках якога абразы і харугвы. Па безабаронным натоўпе, па жанчынах і дзецях. Ці можна ўявіць большае здрадніцтва, большую подласць!

Алаіза чытала абыякавыя словы інфармацыі: «Войска вынуждены были произвести залпы на Шлиссельбургском тракте, у Нарвских ворот, у Троицкого моста, на 4-ой линии, на Малом проспекте Васильевского острова, на Александровской и Казанской площадях...» Чытала і ўяўляла і тыя плошчы і Шлісельбургскі тракт, і Васільеўскі востраў, дзе яна сама нядаўна жыла. Бачыла тыя мясціны Пецярбурга як жывыя і ўяўляла кроў на заснежаным бруку, бачыла, як разбягаліся ў страху людзі, як збівалі адзін другога з ног, уцякаючы.

Ёй стала нядобра. Па ўсім целе прайшла млоснасць. Але толькі на імгненне. У другую хвіліну яе ўжо ўсю перапоўнілі гнеў, нянавісць, абурэнне. «Семдзесят шэсць забітых... Дзвесце трыццаць тры параненых...» Яна прамовіла, прастагнала гэта ўголас.

Скамячыўшы газету, Алаіза хадзіла з ёю ад сцяны да сцяны. Ёй раптам здалося, што яна адна ў нейкай клетцы, у нейкай турме. Стэфы не было дома. Яна зноў некуды пайшла.

Быць адной з тым, што прачытала, што цяпер адчувае, яна не магла. Трэба некуды бегчы, ісці, нешта рабіць, уголас крычаць аб страшэнным злачынстве. Мала таго, што на вайне ліецца кроў, дык і тут, дома... Ад рук цара...

Яна схапіла паліто. Закруціла хустку. Яшчэ сама не ведала, куды пойдзе, але боль і нянавісць гналі яе...

А на вуліцы стаяў звычайны зімовы дзень. І было ўсюды ціха, нібы нічога не здарылася. Спакойна было тут і ўчора, і пазаўчора, у той дзень, калі на вуліцах Пецярбурга лілася кроў...

Яна шпарка ішла да цэнтра. Падыходзячы да Георгіеўскага праспекта, убачыла купкі людзей. Было відаць, што людзі ўзбуджаныя, усхваляваныя.

«Што ж цяпер будзе? — думала Алаіза.— Няўжо так і пройдзе ўсё? Народ будзе жыць, як і жыў, аплакаўшы тых, каго забілі? Не, не можа быць». І, як высветленыя нейкім святлом, паўсталі перад яе вачыма радкі з газеты: «На 4-ой линии толпа построила из проволоки и досок баррикады и прикрепила красный флаг. Из окон соседних домов в войска были брошены камни и произведены выстрелы. У городовых толпа отняла шашки».

«Гэта ж пачатак рэвалюцыі! — аж спынілася ад нечаканай думкі Алаіза.— Тое, да чаго мы ўсе рыхтаваліся, прыйшло! Сам цар прыспешыў гэта!»

— Пахрысціў цар, такую яго...— пачула Алаіза амаль над вухам сіплаваты мужчынскі голас.

Яна падняла вочы.

Каля чатырохпавярховага дома заводчыка Менке стаяла купка мужчын. Адзін з іх няголены, у пакамечанай шапцы, трымаў газету. Ён і сказаў гэтыя словы.

«Пахрысціў...» — паўтарыла сама сабе Алаіза.— Добра сказаў чалавек. Такі — хрышчэнне...»

Ёй трэба было зараз жа некага ўбачыць, з некім параіцца.



«Сцяпан...» — першай была яе думка. Але як знайсці яго? Дзе ўбачыць? Алаіза была ўпэўнена, што дома яна яго цяпер не знойдзе. Сцяпан, напэўна, ужо нешта робіць. Піліп? Але і Піліп, як малады месяц. Яна будзе бегаць па Вільні, шукаць людзей, і так прабегае ўвесь дзень, замест таго каб дзейнічаць.

Яна думала, да каго ісці, а ногі самі неслі яе да Чыгуначнага клуба на Варонняй вуліцы. Гэты клуб быў месцам, дзе праводзіліся мітынгі чыгуначнікаў, гарадскія сходы. Там заўсёды быў нехта з бюро, якое кіравала забастоўкамі. Алаіза ведала старшыню гэтага бюро машыніста Кандратовіча. Яе з Кандратовічам пазнаёміў Сцяпан. І яна цяпер ішла туды. Не ішла, а амаль бегла, спадзеючыся там убачыць патрэбных людзей.

Алаіза не памылілася. У клубе было ўжо вельмі многа народу. Ішоў мітынг. Напэўна, ён узнік стыхійна. Ці ж можна было так скора сабраць людзей?

На сцэне стаяў Кандратовіч у форме чыгуначніка. Твар у яго быў чырвоны, потны. Ён гаварыў прамову.

— Ужо скора год, як самаўладства, не спытаўшыся нас, пачало вайну з Японіяй,— далятала да Алаізы, якая спынілася ззаду ў натоўпе, каля ўваходных дзвярэй.— На Далёкім Усходзе ўжо загінулі сотні тысяч чалавек, а цяпер яшчэ ў Пецярбурзе па загаду цара расстраляны сотні людзей, якія ішлі прасіць хлеба. Мы толькі сёння даведаліся аб тым, што адбылося ў Пецярбурзе, а рабочыя другіх гарадоў ужо выйшлі на плошчы з дэманстрацыямі. Ужо ва ўсіх гарадах аб'яўлены забастоўкі. І мы, рабочыя Вільні, павінны зараз жа падтрымаць рабочых Расіі. Бо толькі разам мы даб'емся перамогі, знішчым ненавіснае самаўладства!

— Няхай жыве рэвалюцыя! Далоў самаўладства! — закончыў ён.

Зала чыгуначнага клуба гудзела. Сюды ўсё прыбывала і прыбывала людзей. Людзі садзіліся на падаконнікі, станавіліся на лаўкі, каб лепш было чуваць і відаць.

Алаіза ўвесь час праціскалася наперад і цяпер была ўжо блізка каля сцэны. Яна так была заціснута з усіх бакоў, што ледзьве дыхала, але, здаецца, не адчувала гэтага. Ёй хацелася быць бліжэй да тых, хто выступае.

Як толькі Кандратовіч скончыў, на сцэну падняўся другі прамоўца.

«Сцяпан!» — узрадавалася Алаіза.

А Сцяпан сваім прывычным рухам паправіў валасы, стаў, крыху расставіўшы ногі, нібы для таго, каб стаяць цвярдзей.

— Таварышы! — ускінуў ён руку, просячы цішыні і ўвагі.

І ў зале, дзе было так многа людзей, адразу зрабілася ціха. Сотні гарачых, уважлівых вачэй глядзелі на прамоўцу, чакаючы яго слоў.

— Таварышы! Тая кроў, якою заліты вуліцы Пецярбурга — кроў нашых братоў. Гэта кроў будзе на нас і на нашых дзецях, калі мы не зробім таго, што і нашы таварышы зрабілі ў Пецярбурзе, Маскве, Рызе і другіх гарадах. Кідайце работу! Кідайце адразу на ўсіх фабрыках і заводах, ва ўсіх майстэрнях! Збірайцеся разам, каб дамовіцца, як дапамагчы нашым таварышам скінуць ненавіснае самаўладства! Далоў вайну! Далоў самаўладства! Пракляцце тырану!

Алаіза праціснулася да самай сцэны і, калі Сцяпан сышоў, апынулася з ім поруч.

— Добры дзень, Сцяпан,— павіталася яна з ім.

— Цётка! — узрадаваўся, убачыўшы яе, Сцяпан.— Вы разумееце, гэта ж пачатак рэвалюцыі! Віншую вас! Цяпер народ зразумеў, што

трэба браць уладу ў свае рукі! Вы таксама павінны выступіць тут. Зараз жа...

Яна і сама рвалася гаварыць. У яе грудзях усё кіпела, бурліла.

— Ага! Я скажу,— узняла яна гарачыя вочы на Сцяпана.

Сцяпан падазваў рукою Кандратовіча.

— Дай слова Цётцы,— сказаў ён.

Кандратовіч, які толькі цяпер убачыў Алаізу, усміхнуўся ёй, павітаўся кіўком галавы і тут жа адышоў на сярэдзіну сцэны.

— Зараз выступіць Цётка,— сказаў ён у залу.

Алаіза ўзнялася на сцэну.

— Браты і сёстры! Таварышы! — пачала яна.— Ці бачыў хто з вас, як перад гэтымі калядамі ноччу, у снег, у мароз, бліснула маланка? Яна бліснула ярка, і пярун страсянуў сонны горад! Сёння я ўспомніла гэтую незвычайную зімовую навальніцу, бо яна была нібы знакам таго, што адбываецца ў гэтыя дні. Узнімаецца бура народная! Гнеў, як маланка, працяў людскія сэрцы і кліча іх да помсты, да барацьбы! У Пецярбурзе расстралялі людзей, жаль і гнеў кроіць нашы сэрцы. Але калі мы па-сапраўднаму любім і шкадуем наш народ, то павінны не плакаць над яго бядою, а вайною ісці на катаў. Не патрэбен нам цар-тыран! Няхай жыве рэвалюцыя! Няхай жыве рэспубліка! Няхай жыве свабода!..

Пасля мітынгу Сцяпан сабраў некалькі чалавек у маленькім пакойчыку, які быў за сцэнаю клуба.

— Нам трэба зараз жа пайсці на заводы,— гаварыў Сцяпан.— Трэба па ўсім горадзе спыніць работу, аб'явіць усеагульную забастоўку. Падзелімся на дзве групы і пойдзем...

І ўсю рэштку гэтага дня яны хадзілі з дэпо на завод Менке, з завода Менке на фабрыку Рыўкіна. Яны заходзілі ў цэхі, расказвалі рабочым пра тое, што адбылося ў Пецярбурзе.

У Алаізы было дзіўнае адчуванне. Не прайшло і дня, як яна прачытала тую страшную газету, а ёй здавалася, што цэлую вечнасць носіць яна ў сабе і гэты новы боль і гэту новую нянавісць.

Поруч з гэтым адчуваннем жыло ў ёй і другое. Яна разам з таварышамі хадзіла з завода на завод, гаварыла прамовы. Вочы яе бачылі тое, што рабілася вакол, вушы чулі тое, што гаварылася. Але гэта была толькі частка яе жыцця. А частку свядомасці займала іншае. У ёй увесь час жылі словы, якія яна пачула ад рабочага на вуліцы. «Пахрысціў цар...» Яны біліся ў грудзі, вялі за сабою новыя. «Пахрысціў... Хрышчэнне... Хрышчэнне на свабоду... Хрэст...»,— на ўсякі лад паўтараліся словы. І неадступна стаяла перад вачыма карціна: натоўп з харугвамі, з абразамі, а ў натоўпе жанчыны з дзецьмі. І кулі — вострыя, смяртэльныя. Вось ссякаюць яны чалавека, які нясе абраз, прабіваюць харугву. Вось падаюць людзі ніц пад смертаносным градам. Падаюць, нібы становяцца на калені.

«Хрышчэнне... Хрэст... Хрэст на свабоду!»

Пад канец дня, калі яны з фабрыкі Рыўкіна ішлі да завода Суравіча, дарогу ім перагарадзілі казакі. Яны стаялі каля заводскіх варот, ахоўваючы іх. Напэўна, губернатару стала вядома, што па фабрыках, па заводах ходзяць агітатары. І вось — ахова...

А з коміна завода Суравіча валіў густы дым. Там працавалі.

— Не трэба лезці воўку ў пашчу,— сказаў Сцяпан, калі Кандратовіч прапанаваў прабіцца праз кардон казакаў.— Калі рабочыя заўтра самі не кінуць работу — будзем прабірацца заўтра. А пакуль трэба разысціся. Па адным... У розныя бакі...



«Дурняў хрысцяць на свабоду... на свабоду... Цар навуку даў народу... даў народу»,— білася ў Алаізіны грудзі.

## XI

Цяпер яна запісвала верш на паперу. Да таго, што ўжо жыло ў ёй, прыходзіла новае. Радок лажыўся да радка, як цагліна да цагліны, і вось ўжо вырастала званіца, і ў ёй білі трывогу, бомкалі званы, збіраючы народ для небывалага дасюль хрышчэння.

*На усходзе красна неба;*
*Нас не дзівіць,— так і трэба! —*

каторы раз сама сабе ўголас перачытвае Алаіза.

*Кроў ракамі льецца ў мора,*
*Салдат гіне там ад гора*
*Без кашулі і без хлеба;*
*Нас не дзівіць — так і трэба!*

Гэты рэфрэн — «так і трэба» — ідзе ў яе амаль пасля кожнай страфы. Там, дзе гаворыцца пра падаткі, таксама — «А мы плацім — так і трэба!» І далей — «А цар сыпнуў, як бы з неба, тысяч куляў — так і трэба!» «Можа, гэта жорстка? Можа, не зразумеюць іроніі? — думае Алаіза.— Не, не жорстка. І іронію зразумеюць. І гнеў, і пратэст!»

Алаіза яшчэ і яшчэ перапісвае, перабельвае верш. Буйным, крыху з нахілам почыркам ужо спісана не адна старонка. На многіх з іх закрэслены, замазаны і напісаны зверху словы, радкі, бо яна шукае...

Алаіза так захапілася сваёй работай, што не звярнула ўвагі на грукат лесвіцы і спахапілася толькі тады, калі пастукалі ў дзверы. Яна хуценька сабрала спісаныя лісткі, накрыла іх газетаю. На яе не вельмі скорае «калі ласка» дзверы адчыніліся, і ў пакой уваліўся, прынёсшы з сабою і свежасць марознага снежнага дня і пах тытуну, Піліп. Апратка яго не вельмі пасавала да зімовага сезону. На ім была тая ж, якую ён насіў і восенню, світка. Толькі цяпер яна выглядала яшчэ больш паношанай. На нагах — чаравікі без галёш. На галаве лёгкая шапачка. Але Піліп быў вясёлы, радасны.

— Добры дзень, Цётка! — весела павітаўся ён.— Вось, ніяк не абміну тваё хаты. Куды б ні ішоў, а да цябе зацягнуся...

— Здароў, Піліпка,— узрадавалася госцю Алаіза. Мільганула думка: «Можа, прачытаць яму верш?» — Маладзец, што прыйшоў. Ты ж ведаеш, што я табе рада.

Яна глядзела, як Піліп распранаўся, прычэсваў на прабор свае валасы, і думала, што сапраўды адчувае прыязнасць да гэтага чалавека, што ёй падабаюцца яго неспакой, прастата, з якой ён заўсёды рэжа ўсё, што думае.

Піліп дастаў з кішэні пачак паперы і паклаў на стале перад Алаізаю.

— Ты заўсёды да мяне з гасцінцам...

Алаіза разгарнула пачак — у ім былі пракламацыі. «Да мужыкоў»,— прачытала яна загаловак і пабегла вачыма па радках. Калі яна скончыла чытаць, Піліп сказаў, паказваючы на лістоўку:

— Бачыш, як мы палявелі... Прызналі сваю памылку. Рэвалюцыя, аказваецца, была не так далёка, як нехта думаў. Цяпер забілі ў звона, клічуць мужыка да сякеры.

Ён гаварыў гэта так, што Алаіза не магла зразумець, ці гэта ён іранізуе, ці сапраўды рады, што Грамада «палявела». Зрэшты, усё

гэта вельмі складана... Людзі могуць шчыра памыляцца, пасля шчыра выпраўляць памылкі.

— Не дзіва, браток, што палявелі,— сказала Алаіза.— Навучыў цар, што трэба рабіць... Даў навуку...— усміхнулася яна сама сабе, падумала, што гаворыць словамі свайго верша.

«Можа, пачытаць усё ж такі Піліпу?» Ды нешта стрымлівала. Можа тая звычайная аўтарская сарамлівасць, калі, даючы свой твор на іншыя вочы, нібы дарэшты раскрываеш сябе, пускаеш некага ў сваю душу. Але ж і хацелася некаму пачытаць, бо і пісаўся ж верш для таго, каб свае пачуцці перадаць людзям.

— Я нядаўна быў у Майшаголе. Гэта вёрст дваццаць адсюль, невялічкае мястэчка. Мая маці стуль родам,— расказваў Піліп.— Кіпіць усё ў Майшаголе. Там з Вільні шмат людзей. Ад расейскіх сацыял-дэмакратаў, ад польскіх, літоўскіх. Усе хлопцы смелыя, баявыя. Паедзем са мною, Цётка. Такое там закруцім!

— Круціце ўжо самі,— усміхнулася Алаіза.— У мяне тут работы хапае.

І, больш не вагаючыся, дастала з-пад газеты аркуш паперы з напісаным на ім вершам.

— На, прачытай,— сказала нібы абыякава.

Піліп пачаў чытаць.

Алаіза, зацяўшы дыханне, чакала. А ён варушыў губамі, перачытваў некаторыя радкі. Перагарнуў лісток на другі бок, дзе быў канец верша. Алаізе здавалася, што чытае ён вельмі марудна. Нарэшце ўзняў на яе вочы. І хоць пакуль нічога не сказаў, па яго твары Алаіза здагадалася, што верш спадабаўся.

— Братка ты мой, гэта ж агонь!.. Гэта ж маланка!.. Проста цуд!.. Я ў захапленні! — горача загаварыў Піліп.

Алаіза верыла, што Піліп шчыра хваліць верш. Але яна не ведала, што Піліп ёй цяпер і пазайздросціў. Яго таксама цягнула пісаць, выкладаць свае думкі на паперы. Часам нешта ў яго і атрымлівалася, але атрымлівалася толькі тады, калі ён пісаў якую палітычную адозву. А з вершамі ішло вельмі туга. Не выходзіла ў яго тое, што ён хацеў сказаць, не пераліваліся ў вершы і маленькай долі таго, што адчувалася. А тут — мужчынская сіла!..

— Гэта верш-адозва, верш-пракламацыя!..— трос лістком Піліп.— Паслухай, Цётка, прачытай яго на мітынгу, на сходзе!

— Праўда? — перапытала Алаіза.

— Далібог! Ніякая прамова не скажа столькі, як гэты верш!

Алаіза і сама ўжо думала пра гэта. Ёй хацелася прачытаць верш на мітынгу. Калі і пісала яго, уяўляла сябе перад натоўпам, бачыла мноства людскіх вачэй. Гэта памагала пісаць.

— Ну, дзякуй за добрае слова,— сказала яна.— Пачастую цябе за гэта,— перайшла яна на жартаўлівы тон.

Піліп не адмаўляўся, і калі Алаіза паставіла перад ім талерку гарачай капусты і смажаную бульбу, у ахвоту пачаў есці. Ён заўсёды хадзіў галодны, успамінаючы пра тое, што даўно не еў, толькі калі ўжо добра падцягвала жывот.

## XII

Зіма пачынала свой новы дзень. Ён прачнуўся, прыбраны ў белае, марозны. Сонца не было відаць, бо неба затуляла густая смуга.

Па Яраслаўскай вуліцы, вузенькай, з старымі камяніцамі, збудаванымі яшчэ ў васемнаццатым стагоддзі, прабягалі, праходзілі людзі. Снег рыпеў у іх пад нагамі, і гэта было чуваць далёка, бо прахожых было мала. Самотна выглядала постаць жандара, які тупаў на скрыжаванні.





І раптам гадзін у дванаццаць вуліца пачала люднець. Купкамі, чалавек па пяць, па дзесяць, збіраліся рабочыя. Яны спыняліся на тратуарах, на бруку, каля старых, аблупленых брам, якія вялі ў двары камяніц. Сустракаліся знаёмыя, віталіся. Чуліся смех, жарты. Гаварылі па-польску, па-яўрэйску, па-руску, па-беларуску. Але тут амаль усе разумелі адзін аднаго. Не толькі таму, што многа слоў, якія гаварыліся, сталі нібы інтэрнацыянальнымі — вайна... забастоўка... цар, але і таму, што ў Вільні рабочыя разумелі часта і мову адзін аднаго. Палякі і літоўцы ведалі рускую мову, разумелі пабеларуску. Яўрэі — рускую, польскую і літоўскую. Беларусы таксама разумелі па-польску, па-руску, а многія і па-яўрэйску. Жывучы побач, разам працуючы, людзі, самі таго не заўважаючы, вучыліся разумець і мову адзін аднаго. А дзеці дык і зусім добра лапаталі — польскія па-літоўску, рускія па-польску, яўрэйскія — па-беларуску.

І ўсё ж цяпер на Яраслаўскай вуліцы палякі збіраліся ў адну купку, літоўцы ў другую, беларусы — у свой гурт.

Жандар, што дагэтуль самотна стаяў на скрыжаванні, цяпер выглядаў занепакоеным. Ён падыходзіў да адной, да другой купкі, гаварыў людзям: «Граждане, разойдитесь, больше одного не скопляться...», але ад яго адмахваліся, як ад надакучлівай мухі.

Хутка ўся Яраслаўская вуліца была запоўнена народам, а людзі ўсё падыходзілі і падыходзілі. У світках, у кажухах, у нехлямяжых палітонах — просты рабочы люд Вільні.

Над людзьмі ўзвысіўся, стаўшы на нешта высокае, чалавек ў ватоўцы, у зімовай шапцы з завязанымі наверх вушамі.

— Таварышы! — пачуўся яго моцны голас.

«Дык гэта ж Пальчык!» — пазнала Алаіза прамоўцу.

Гэта сапраўды быў Пальчык, з якім пазнаёміў яе Сцяпан. Той Пальчык, які прынёс ёй нелегальную літаратуру — кніжкі, што стаяць у яе на паліцы, затуліўшыся за Пушкіна і Міцкевіча.

Алаіза прабегла вачыма па людзях, што акружалі прамоўцу, шукаючы сярод іх Сцяпана, але таго не было відаць.

— Мінулая забастоўка,— гаварыў Пальчык,— вельмі мала дала рабочым. Чаму так атрымалася? Хіба рабочым Вільні жывецца лепш, чым пецярбургскім таварышам? Не, мы пакутуем ад самаўладнага прыгнёту, ад нацыянальнага бяспраўя яшчэ больш, чым пецярбургскі пралетарыят. Дык чаму ж рабочыя ў тую забастоўку так хутка падаліся на ўгаворы, так хутка вярнуліся да сваіх заводчыкаў і фабрыкантаў? Адказ адзін. Наш мясцовы пралетарыят яшчэ недастаткова быў арганізаваны. Не было салідарнасці паміж пралетарыятам розных нацыянальнасцей. Не ўсе разумелі важнасць дадзенага моманту. Але сёння мы выступаем зноў. Сёння мы дакажам, што не склалі зброі, што будзем змагацца, пакуль не даб'емся перамогі.

Натоўп гусцеў. Ад дыхання над ім узвіваліся клубочкі пары. Людзі пераступалі з нагі на нагу, ляпалі рукавіцамі па плячах, па каленях — грэліся.

Ды раптам смуга, якая стаяла над горадам, пачала радзець, узнімацца ўгору. І вось ужо выплылі дахі дамоў, пакрытыя чырвонаю чарапіцай, азначыліся вежы касцёлаў і цэркваў з крыжамі наверсе. Тонкаю ніткаю прашыўся з неба прамень сонца. Ён бліснуў ярка, адбіваючыся ў снезе, слепячы вочы. Пасля сонца зусім вызвалілася

ад смугі. Яркае, сляпучае, яно было вестуном вясны. Хоць і холадна яшчэ, марозна, але паварочвае ўжо на вясну... Яна наступае, прыйдзе, што б там ні рабілася на свеце. І ўсім адразу стала цяплей. Алаіза вальней адпусціла хустку. Яна адчувала на твары цёплы прамень і побач — локаць чалавека, які стаяў каля яе. Яна ўбірала ў сябе шум чалавечага натоўпу, і ёй рабілася лёгка, сэрца білася радасна, вольна. У гэтай густой людской масе яна адчувала сябе, як кропля ў патоку, як ліст на дрэве, якое шуміць ад веснавога ветру. Яна з усімі. Яна з народам, які ўзнімае свой голас, які яшчэ пакажа сваю сілу. І самой Алаізе цяпер здаецца, што яна робіцца мацнейшай. Яна крэпне, дужэе. І як хочацца сказаць гэтым людзям свае слова, выліць з душы тое, што там кіпіць...

Аднекуль з'явіліся жандары. Пажылы, з тоўстым, пабітым рабаціннем тварам жандар, варушачы плячыма, палез у гушчу людзей. Ён тачыўся ў сярэдзіну натоўпу, як чарвяк у яблык, праціскаўся, сунуўся наперад. Але скора спыніўся. Перад ім была чалавечая сцяна.

— Бунтовщики! Тюрьма по вас плачет!

Рабочыя не расступаліся. Наадварот, яны раптам пачалі насядаць на жандара. Высокі малады хлопец нібы знянацку піхнуў яго. Ён пачырванеў, як рак, схапіўся за нагайку, але ў гэты момант яго так сціснулі з усіх бакоў, што ён не мог ужо варухнуць рукою. Вочы ў жандара разгублена заморгалі, у іх адбіўся спалох.

А мужчыны напіралі і напіралі на жандара, і хутка ён выскачыў з натоўпу, як корак з бутэлькі.

Алаіза бачыла, як ціха, без слоў расправіўся натоўп з жандарам, якая шчыльная сцяна абступала з усіх бакоў прамоўцу, і думала, што ёй, мусіць, не ўдасца прайсці туды, да цэнтра. Але калі яна падалася наперад, людзі нібы расступіліся перад ёю. Пачула некалькі слоў, па якіх магла здагадацца, што нехта пазнаў яе, што некаторыя яе ведаюць.

Пакуль яна прабіралася, Пальчык сышоў з трыбуны. Цяпер ёй цяжка было знайсці арыенцір — куды ісці. Яна падалася наўздагад. Ішла, прабіралася паміж людзей, а сэрца тахкала ў грудзях — хутчэй, хутчэй. Натоўп варушыўся, калыхаўся. Людскія галасы зліваліся ў гул.

«Як мора»,— падумала Алаіза. Ды раптам людская хваля прынесла яе туды, куды яна хацела. Пальчык стаяў каля бочкі з вялікай чырвонаю наклейкаю «Братья Сегаль. Масло. 200 литров». Ён нешта даводзіў невысокаму каранастаму чалавеку ў зашмальцаваным кажушку.

Убачыўшы Алаізу, Пальчык узрадаваўся, жыва падышоў да яе, падаў руку.

— Вось, ніяк не ўгавару выступіць,— пажаліўся ён Алаізе, паказваючы на чалавека ў кажушку.

Той стаяў чырвоны, збянтэжаны.

— Не ўмею я... Дальбог не ўмею,— бянтэжыўся ён і ўсё больш чырванеў.— Вось хай лепш Цётка... Цётка ўмее... Колькі разоў слухаў.

— Давай, Цётка, скажы!

— Просім пані,— пачуліся галасы.

Яны прыемна аддаліся ў грудзях Алаізы. «Значыцца, мяне сапраўды ведаюць. Чулі выступленні і не забыліся».

— Ды мяне ўгаворваць не трэба,— весела адказала Алаіза.— Я для гэтага сюды і праціскалася.



Нехта падаў ёй руку. Нехта падтрымаў пад локаць. І вось яна ўжо стаіць на бочцы. Вакол, як вокам кінуць, людзі. Доўгая рака ўсцяж вуліцы і вялікі разліў тут, на скрыжаванні. Калыхаецца, варушыцца людское мора. І гул то ўзлятае, то сунімаецца.

Алаіза ўскінула руку, падалася наперад. І гул там, у глыбіні, стаў цішэйшы. Яна пачакала яшчэ крышку, каб супакоіць біццё ўласнага сэрца, каб набраць у грудзі больш паветра.

*На усходзе красна неба;*
*Нас не дзівіць — так і трэба! —*

сказала яна першыя радкі верша. І па тым, як адразу прыціх натоўп, як павастрэлі вочы, адчула, што людзі зацікавіліся, услухоўваюцца ў тое, што яна гаворыць.

*Кроў ракамі льецца ў мора,*
*Салдат гіне там ад гора*
*Без кашулі і без хлеба;*
*Нас не дзівіць — так і трэба!*

Цяпер яна не бачыла ні твараў, ні вачэй. Уся плошча, увесь народ былі для яе адно — велічнае, цэлае. І словамі, якія яна гаварыла, яна звязвала сябе з гэтым велічным, цэлым.

Яна не бачыла ні твараў, ні вачэй, але па напружанасці, па ўвазе людскога натоўпу адчувала, што кожнае яе слова людзі разумеюць так, як яна таго хацела, што адчуваюць яны тое, што адчувала яна, калі пісала верш, што адчувае цяпер.

*Жандар стрэле, казак б'ецца,*
*У народа спіна гнецца*
*Ад налогаў з солі, хлеба,*
*А мы плацім — так і трэба!*

І сама яна з кожным словам, з кожным радком верша загаралася ўсё больш. Яна зноў перажывала ўсё, што перадумала за апошні час, зноў гарэла тым самым агнём, як і тады, калі пісала верш.

Яна не бачыла, як выглядала сама, узвышаючыся над натоўпам. Узнімаючы ўгору руку, яна і сама нібы цягнулася ўгору, і яе невысокі стройны стан быў напяты, як струна. Хустка ўпала на яе плечы, і вецер адкідаў яе канцы. Вочы былі поўныя агню і рашучасці.

*...Трэ злізаць усіх міністраў,*
*Бюракратаў, антыхрыстаў».*
*Чую яшчэ голас з неба,*
*Што цара павесіць трэба!*

Калі яна скончыла чытаць верш, натоўп загудзеў, запляскаў.

— Брава!

— Ура!

Угору паляцелі шапкі.

Алаіза стаяла, збянтэжаная такім парывам людзей, пасля скоранька спусцілася ў натоўп, пачала папраўляць хустку.

Да яе падышоў Пальчык.

— Ну, не ведаў, што ў вас такі талент. Вы ж гаварылі, як артыстка,— хваліў ён яе.— А хто напісаў гэты верш?

— Мой верш,— яшчэ поўная хвалявання, адказала Алаіза.

— Ну, тады віншую яшчэ раз! Вы чуеце, што робіцца?

У натоўпе яшчэ ўсё чуўся гул. Нехта выкінуў чырвоны сцяг, і ён загарэўся агнём над шэрымі світкамі, на ясным цяпер зімовым небе.

Пасля натоўп рушыў па Праслаўскай вуліцы ўніз. І чалавек, які нёс сцяг, апынуўся наперадзе натоўпу. Гэта была ўжо дэманстрацыя.

Пальчык узяў Алаізу пад руку і пайшоў з ёю наперад. І вось яны ўжо каля хлопца, які ідзе са сцягам. Гэта зусім малады хлопец. У яго дужыя рукі і сімпатычны твар. Хвалісты светлы чуб выбіваецца з-пад шапкі. Світка расшпілена. Расшпілены і каўнер кашулі.

Іх з Пальчыкам дагнаў высокі худы чалавек з бародкаю, у акулярах. Алаізе здалося, што яна яго недзе бачыла.

— Пазнаёмцеся,— сказаў Пальчык чалавеку, паказваючы на Алаізу.— Рэвалюцыянерка... і паэтэса...

— Вельмі прыемна,— пакланіўся і падаў Алаізе руку чалавек у акулярах. Яна па акцэнце адразу здагадалася, што ён — літовец.— Уладзіслаў Паўлюконіс,— назваў ён сваё прозвішча, пацвярджаючы ім Алаізіну здагадку.— Меў задавальненне чуць вашу паэтычную прамову,— ветліва гаварыў ён.— Калі б вы знайшлі час пагутарыць, я быў бы вельмі рады...

— Паўлюконіс — літоўскі сацыял-дэмакрат,— сказаў Пальчык.— І харошы хлопец,— паляпаў ён Паўлюконіса па плячы.

— Ну, калі Пальчык кажа, што вы харошы хлопец, з прыемнасцю буду мець з вамі знаёмства,— жартаўліва адказала Алаіза. Яна яшчэ не зусім супакоілася пасля выступлення. Была ўзбуджаная. І наогул у гэтым вялікім гурце людзей, які рушыў па вуліцы з чырвоным штандарам, немагчыма было быць спакойнай.

— Тады будзьце ласкавы запомніць адрас,— гаварыў Паўлюконіс, пачціва нахіляючыся да Алаізы.— Добра было б, каб вы заўтра зайшлі гадзіны ў дзве...

— Добра,— ківала галавою Алаіза.— З прыемнасцю... Добра...

Яна слухала, што гаварыў ёй Паўлюконіс, але не магла засяродзіцца на яго словах. Яна лавіла воклічы, што ўзляталі над натоўпам, услухоўвалася ў гул чалавечых галасоў, ясна адчуваючы па ім настрой дэманстрацыі, зліваючыся з ёю, як кропля вады зліваецца з акіянскім прасторам.

Ад некага прыйшла вестка, што гарбарня Менке, якая была недалёка адсюль, працуе. І дэманстранты накіраваліся да яе. Ішлі з настроем зламаць вароты і далучыць рабочых да дэманстрацыі. Сказаць ім, што яны не павінны працаваць, калі іх таварышы, рабочыя з іншых гарбарняў, бастуюць.

Але калі дэманстранты былі ўжо блізка каля завода, з вуліцы ім насустрач выйшаў густы натоўп.

— Рабочыя Менке!

— Бастуем!

— Кінулі работу!

Рабочыя, сустракаючыся, радасна ляпалі адзін другога па плячах.

Хутка рабочыя завода Менке перамяшаліся з дэманстрантамі. Стаяў гоман, шум.

Цяпер натоўп рабочых заліваў некалькі вуліц. Мора шырылася. Бурліла. Мора разлівалася ў акіян.

## XIII

Назаўтра Алаіза прачнулася з цяжкаю галавою. Ныла ўсё цела. Біў кашаль. Мусіць, прастудзілася. Хоць, здаецца, і не адчувала ўчора холаду, але цэлы дзень на марозе...



У кухні асцярожна стукала посудам Стэфа. Уходжвалася з сваёю гаспадаркаю.

«Каб не занядужаць...» — падумала Алаіза. Успомніла, як моцна хварэла летась у Пецярбурзе. Злягла з запаленнем лёгкіх. А покуль злягла, тыдні тры бегала на лекцыі хворая. Змарнела ўся, вочы запалі.

А пасля, калі ляжала хворая, у гарачцы, доктар круціў галавою:

— Зусім вы сябе не шануеце. Так і да сухотаў недалёка. А трэба вам ведаць, паненка, што за вашы лёгкія, за ваш арганізм такая хвароба можа вельмі проста ўчапіцца.

Шанавацца... Добра было так казаць доктару. А як яна магла шанавацца? Наогул, як яна жыла ў тым Пецярбурзе, адзін бог ведае! Пакойчык маленечкі, не палены, сыры і цёмны, як турэмная цэля. Ела раз у дзень у сталоўцы пры курсах. Зарабляла на жыццё масажам, навучылася рабіць яго на курсах. Прафесар Лесгафт часта сам памагаў курсісткам знаходзіць работу. І яе ўладзіў пры бальніцы. Але які то быў заробак...

Яна ў той раз чуць выкачалася ад хваробы. Думала, што ўжо і не ўстане.

Смерць... Алаіза раптам уявіла сабе, як дамавіну з яе целам апускаюць у сырую, халодную зямлю. Аж шоргат прайшоўся па целе... Пасля ўсміхнулася сама сабе. Што ж... І гэта будзе. Хоць, пакуль чалавек жыве, і не верыцца. Але ад гэтага нікуды не дзенешся. Памрэ кожны. І яна памрэ. Рана ці позна.

Алаізу даўно хвалюе гэта пытанне — жыццё і смерць. Таксама моцна, як хвалюе пытанне, што такое мастацтва. Адкуль бярэцца ў ім гэта цудадзейная сіла? І дзіўна: чамусьці заўсёды, як толькі пачне яна думаць пра жыццё і смерць, тут жа згадваецца і мастацтва.

Вечна мусіць жыць толькі мастацтва. Бо яно ж і ўпрыгожвае, і паляпшае жыццё чалавека. У ім з веку ў век пакідаюць людзі і свой розум, і свой боль, і свае страсці. Як навуку новым пакаленням. Пакідаюць яе ў музыцы... у жывапісу... у вершах. Вечна будзе жыць «Лунная саната» Бетховена, «Монна Ліза» Леанарда-да-Вінчы... Цікава, Алаіза недзе вычытала, што калі Леанарда маляваў сваю славутую Джаконду, то, каб забавіць монну Лізу, каб ёй не было сумна пазіраваць, запрашаў аркестр, камедыянтаў, блазна... Адсюль, мабыць, на твары жанчыны гэта загадкавая ўсмешка. Таму так шматзначна пазіраюць яе вочы... Але не можа быць. Не можа быць, каб усмешка Джаконды была выклікана крыўляннем камедыянта. Яна ўсміхаецца нейкай сваёй думцы... У ёй загадкавая мудрасць...

Алаізу зноў пачаў біць кашаль. Аж выступіў халодны пот.

Да яе ложка падышла Стэфа. У белай хустцы, завязанай пад бараду, у фартуху. Уважліва паглядзела на сястру.

— Ці не захварэла ты? Нешта вочы блішчаць, ды і бухаеш, як у бочку...

— Нічога,— махнула рукою Алаіза.— Яна ўстала, пачала апранацца.

— То, можа, паляжы... Лётаеш цэлымі днямі па марозе,— незадаволена сказала Стэфа.

— Ліха мяне не возьме!..— бадзёра адказала Алаіза.

— Я малака табе напарыла. Напіся гарачага,— сказала Стэфа.

Алаіза адчула прыязнасць да сястры, а самой зрабілася няёмка. Гэта было знаёмае ёй незадавальненне сабою. Колькі часу жыве на братаву пенсію. Сястра хоць у хаце нешта робіць, мые, гатуе. А яна?.. Прыехала... вучоная, з Пецярбурга. Кавалка хлеба зарабіць не можа...

Стэфа прынесла шклянку гарачага малака. Алаіза піла і адчувала, што ёй робіцца лягчэй. Вальней дыхаецца. І кашаль не так ужо дзярэ грудзі.

Хоць ведала, што сёння ёй сапраўды лепш не выходзіць на вуліцу, не магла ўседзець у хаце. Трэба было сустрэцца з Паўлюконісам. Успомніла адрас, які той назваў учора.

«Навошта я яму спатрэбілася...» — думала Алаіза.

На вуліцы было марозна, ясна і нібы сапраўды пахла вясною, хоць наперадзе была яшчэ добрая такі паласа зімы. Снег сляпіў вочы. Сонца праз паліто грэла плечы.

Горад стаяў прыціхлы, насцярожаны. Цяпер увесь час было так. То прашуміць вуліца дэманстрацыяй, мітынгам. Пранясецца ўзвод казакаў. Загудзе не ў час фабрычны гудок. То зноў ціха, пуста. Але і ў цішыні адчуваецца напружанасць.

Алаіза ўвайшла ў двор дома, які назваў ёй Паўлюконіс. Двор быў невялікі, цёмны. Высокія дамы з чатырох бакоў затулялі яго, рабілі падобным на калодзеж. І здавалася, калі тут загаворыш, дык, як са студні, адзавецца табе рэха.

Па расхістанай драўлянай лесвіцы Алаіза паднялася да дзвярэй, пафарбаваных жоўтаю фарбаю. Пастукала. Адчыніў ёй невысокі лысы чалавек у камізэльцы, зробленай з аўчыны.

— Лаба дзьена,— ветліва прывітаўся ён.

— Я да пана Паўлюконіса. Ён тут жыве? — спыталася Алаіза.

— Прашау, прашау,— ківаў галавою мужчына.

Ён зачыніў дзверы на жалезную завалу і, гасцінна паказваючы дарогу, павёў яе па цёмным калідоры. Адчыніў вялікія белыя дзверы і запрасіў Алаізу ў пакой. Там, спіною да іх, стаяў высокі чалавек, і праглядаў газеты, якія кіпаю ляжалі на стале. У пакоі ўздоўж сцен стаялі цяжкія шафы з кнігамі, шырокая канапа, пакрытая дыванам. Тоўсты дыван ляжаў і пад нагамі.

Чалавек, які стаяў за сталом, азірнуўся. Гэта быў даволі малады мужчына, вельмі худы. Яго твар уразіў Алаізу. Вельмі прыгожы твар. Не столькі, можа, рысамі, як пячаткаю натхнення, багатага духоўнага жыцця, якія на ім адбіваліся. Лёгкая бародка. Вялікія выразныя вочы. І позірк... Поўны суму і добразычлівасці...

У гэты момант з другога пакоя скораю паходкай выйшаў Паўлюконіс. Выгляд ў яго быў хатні — без пінжака, у пантофлях. У руках ён трымаў спісаныя чарнілам лісткі.

— Лабас, лабас,— падаў ён Алаізе руку.— Прыйшлі? Вельмі добра.

Ён загаварыў па-літоўску да мужчыны, які адчыніў Алаізе дзверы. Падаў яму спісаныя чарнілам лісткі. Паказваў у іх пальцам і нешта тлумачыў. Мужчына згодна ківаў галавою.

Алаіза крыху ведала па-літоўску і зразумела, што гэтыя лісткі Паўлюконіс перадаў чалавеку для таго, каб іх надрукавалі ў друкарні.

«Вось як пастаўлена работа,— пазайздросціла Алаіза.— Свая друкарня...»

Мужчына, забраўшы лісткі, пайшоў у той пакой, адкуль выйшаў Паўлюконіс. Паўлюконіс падаў Алаізе крэсла.

— Сядайце, прашу вас,— сказаў ён.— Вы разумееце па-літоўску?

— Крыху разумею,— адказала Алаіза.— І чытаць крыху магу. Гавару толькі кепска.

— Будзеце з намі сябраваць — навучыцеся добра,— весела сказаў Паўлюконіс.— Ага,— схамянуўся ён,— пазнаёмцеся,— і паказаў



рукою на мужчыну, які ўсё яшчэ стаяў каля стала і пазіраў то на Алаізу, то на Паўлюконіса.— Наш паэт. Ваш, як кажуць, брат па духу.

— Іонас Білюнас,— падаў руку і пакланіўся той.

— Вы? — не стрымала здзіўлення Алаіза.— Дык вось які вы! Божа!..— адкрыта выказала яна сваё захапленне.— А я чытала вашы вершы. Пачакайце... Зараз успомню...

*Чорныя хмары гусцеюць над намі,*
*Хто клікаў да бою — грыміць кайданамі.*
*Няўжо мы гібецьмем пад сілаю чорнай*
*І рукі апусцім у ціхай пакоры...* —

прадэкламавала Алаіза.— Бачыце, мне так спадабаліся вершы, што я пераклала на беларускую мову.

— Дзякуй,— прыклаў рукі да грудзей Іонас Білюнас.— Гэта сапраўды мае. Але я сваёй паэзіі не надаю вялікага значэння.

— Што вы, што вы! —абурылася Алаіза.— Вашы вершы патрэбны сёння людзям, як хлеб. Для мяне яны былі, як прычасце!

— Ну, гэта панна ад дабраты...— усміхнуўся і раптам закашляўся Іонас Білюнас. Ён кашляў доўга, адвярнуўшыся і прыкрыўшы рот хусцінкаю. Пасля супакоіўся. Усміхнуўся вінавата, нібы просячы прабачэння.— Гэта панна ад дабраты так хваліць мае вершы,— паўтарыў ён.— Вось з вамі я сапраўды рады пазнаёміцца. Пан Паўлюконіс тут з такім захапленнем пра вас расказваў.

— Ну, я ж казаў, што браты па духу,— уздыхнуў Паўлюконіс.— Ды пасля будзеце гаварыць адно аднаму кампліменты. Спачатку — справа. Вы ж, напэўна, не ведаеце, чаго я вас запрасіў,— павярнуўся ён да Алаізы.

— Як ні думала — не здагадалася,— прызналася Алаіза. Кашаль Білюнаса праняў і яе сэрца. Яна адразу зразумела, што гэта за кашаль. Жывучы ў Пецярбурзе, нагледзелася на сухотнікаў. І хоць далей гаварыла пра іншае, у сэрцы ўвесь час жыў боль ад таго кашлю, ад позірку, поўнага суму і добразычлівасці.

А Паўлюконіс ужо жартаваў:

— Ну, калі панна не ведае, чаго мы яе запрасілі, то хай чытае малітву. Дзверы зачынены на завалу, выйсця з кватэры няма. А той, хто назваў сябе Білюнасам, зусім і не Білюнас, а вядомы разбойнік, якога шукае ўся паліцыя Вільні. Так што хай панна аддае грошы, якія пры сабе мае, і золата, калі ёсць,— і Паўлюконіс, робячы суровую міну, стаў пры дзвярах, нібы засланяючы іх сабою.

— Не падобны паны на бандытаў,— нявесела адказала на жарт Алаіза.— А калі я і сапраўды ў пастку трапіла, то ўсё роўна не баюся. Што ў жабрака можна адабраць? Толькі торбу...

— Адважная панна, адважная,— смяяўся Паўлюконіс.— Люблю адважных. А калі адкінуць жарты, дык вось што,— адышоў ён ад дзвярэй.— І мне, і нашым таварышам вельмі спадабаўся верш, які вы чыталі на мітынгу. Яго павінны ведаць шырокія масы. Яго трэба надрукаваць як пракламацыю.

Такая прапанова была для Алаізы зусім нечаканая. Яна адразу нават не паверыла.

— Гэта што, яшчэ адзін жарт? — недаверліва спытала яна.

— Бронь божа! — узняў рукі Паўлюконіс, нібы баронячыся ад такога падазрэння Алаізы.— Калі я вас пакрыўдзіў першым жартам, то прабачце, будзьце ласкавы. А гэта ўжо зусім сур'ёзна.

Алаіза па твары Паўлюконіса бачыла, што гэта прапанова зусім сур'ёзная. Гэта было ў нейкай ступені прызнаннем яе паэзіі. Але ра-

зам з тым прапанова і здзівіла яе. Чаму раптам яе вершам зацікавілася літоўская партыя?

— Калі не жарт,— адказала яна нарэшце,— то гэта, вядома, вялікі гонар для мяне... Я магу вам быць толькі ўдзячна... Але ж ён у мяне напісаны па-беларуску.

— А мы па-беларуску і надрукуем. Беларуская мова — славянская, і верш зразумеюць і рускія, і палякі. Так што, калі хто яшчэ зацікавіцца вашым вершам,— а я думаю, што зацікавяцца,— то з беларускай мовы можна будзе пераладжыць і на іншыя... Вы ведаеце верш на памяць?

— Калі панна ведае чужыя вершы, то дзіва што будзе ведаць свой...— сказаў Іонас Білюнас.

Алаіза кіўнула галавою, пацвярджаючы, што ведае верш на памяць, і Паўлюконіс сваёй скорай, энергічнай хадою выйшаў у суседні пакой. Ён вярнуўся адтуль з чыстым лістом паперы, ручкай і вялікай шкляной чарніліцай.

— Проша тады сесці,— папрасіў ён Алаізу.— Напішыце свой верш на паперу, а мы дамо яму ход.

Іонас Білюнас сабраў са стала газеты, адклаў іх убок. Падставіў да стала крэсла і запрасіў Алаізу сесці. Яна падзякавала яму ўсмешкай, села за стол.

Калі Алаіза скончыла перапісваць верш і азірнулася, у пакоі зноў быў той чалавек, які адчыняў ёй дзверы. Яны ціха гаварылі аб нечым з Паўлюконісам па-літоўску. Убачыўшы, што Алаіза скончыла работу, Паўлюконіс падышоў да стала, узяў лісток, доўга чытаў.

— Паслухай, Іонас, якая сіла, якая энергія! — сказаў ён і прачытаў уголас:

*Дурняў хрысцяць на свабоду.*
*Цар навуку даў народу,*
*Паказаў ім, як бы з неба,*
*Што больш цара не патрэба!*

— Брава! — сказаў Іонас Білюнас.

— Такія вершы цяпер вельмі патрэбны,— гаварыў Паўлюконіс і трос лістком з вершам Алаізы.— Рыфмы — яны вельмі запамінаюцца. Пачуе рабочы адзін раз, і ўжо нешта застаецца ў галаве. Паверыце, учора адзін чалавек, пасля таго, як вы выступалі, ідзе ў дэманстрацыі і ўсё паўтарае:

*Паказаў ім фігу з неба,*
*А цара больш не патрэба...*

— Ха-ха-ха! — смяяўся Паўлюконіс.— Бачыце, усіх слоў не запомніў, па-свойму перарабіў, але галоўнае, квінтэсенцыю, так сказаць, ухапіў.

Калі Алаіза сабралася адыходзіць, Іонас Білюнас таксама пачаў апранацца.

— Калі панна дазволіць, я правяду...— прапанаваў ён.

Яны ішлі па Вялікай вуліцы да Кафедральнай плошчы. Наперадзе была відаць Замкавая гара з рэшткамі славутага замка Гедыміна. Гара была пакрыта снегам. Яркае сонца асвятляла чырвоную цагляную сцяну замка.

Алаізе здавалася, што яны знаёмыя з Білюнасам вельмі даўно. Ды яна яго і сапраўды ведала. Калі чытаеш тое, што піша чалавек, то пранікаеш у яго душу, у яго думкі. Мусіць, каб цяпер быў жывы Пушкін, то і з ім Алаіза адчувала б сябе як з добра знаёмым чала-





векам. Бо пра яго ж яна ведае так многа. Ведае, што ён любіў, што ненавідзеў. Ведае яго запаветныя думкі. Не раз радавалася яго радасцямі і плакала яго слязьмі.

— Люблю я Вільню...— з сумам сказаў Іонас.— Ды вось, шкада, мала тут бываю.

— Я, сапраўды, першы раз бачу вас,— адказала Алаіза.

— Я і цяпер тут выпадкам. Жыву ў Швейцарыі. Толькі летам магу дыхаць паветрам радзімы.

Ён сказаў гэта з такім сумам, што сэрца Алаізы зноў працяў боль. Канечне, яна не памылілася. У Іонаса Білюнаса сухоты. І чаму, чаму,— напоўніліся гневам і абурэннем яе грудзі,— чаму такі малады, прыгожы, такі таленавіты, і вось... Учапілася гэта праклятая хвароба! Што гэта? Лёс усіх іх, што жылі ў халодных каменных станцыйках, што душыліся нішчымніцаю, што, распранутыя, бегалі на лекцыі слухаць прафесароў... Лёс іх, інтэлігентаў з народа, захлынуцца крывёю ўласных плюснаў!..

— А так хацелася б быць тут,— гаварыў Іонас.— Асабліва цяпер... Сумна там. А тут усе мае сябры... Жыццё бурліць... Рэвалюцыя...

— Нічога, цяпер медыцына пачынае рабіць цуды,— не ведала як суцешыць яго Алаіза, хоць сама адчула, што гаворыць не тое, што гэта выглядае можа нават і фальшыва, такое суцяшэнне.

— Цуды робіць, ды пакуль невялікія. Я ў ёй таксама крыху разбіраюся. Сам вучыўся на медыцынскім факультэце.

— Вы медыцыну вывучалі? Дык мы з вамі яшчэ раз калегі. Я маю дыплом фельчара,— сказала Алаіза.

— І як, лечыце? — спытаў Іонас Білюнас.

Алаіза глянула на яго знізу ўверх, каб зразумець сэнс пытання. Ці не іронія схавана ў яго тоне? Але сустрэла ўсё той жа прыязны, поўны добразычлівасці позірк Білюнаса.

— Як вам сказаць,— адказала няпэўна.— Увогуле я ў Пецярбургзе не адной медыцыне вучылася. Добрыя людзі на тое-сёе вочы адкрылі. Цяпер я не такая дурная, не ўскладаю вялікіх надзей на выратаванне чалавецтва ні праз вучэнне, ні праз лекарства. Але калі гаварыць шчыра, то хацелася б хоць з медыцынскай навукі паесці хлеба. Пакуль я на шыі ў брата сяджу.

— Дык панна нідзе не служыць? — спытаў Білюнас.

— На жаль, не,— уздыхнула Алаіза.— Ніяк не магу знайсці работы.— Яны некалькі крокаў прайшлі моўчкі.

— Калі я паспею... Адным словам, у мяне ў Вільні ёсць такія-сякія знаёмыя... з дактароў... Разам вучыліся ў Тарту...

— Ой, не хацела б я вам рабіць турботы,— адчула няёмкасць Алаіза.— Каб не атрымалася, што ад знаёмства з вамі я хачу мець нейкую выгаду.

— Ну, кіньце, я быў бы рады вам хоць чым-небудзь памагчы. Каб мне ўдалося...

Цяпер яны ішлі праз Кафедральную плошчу. Замкавая гара была ля самых іх ног. Білюнас усё пaглядаў на яе, пасля ўзяў Алаізу за локаць.

— Калі маеце час, можа ўзыдзем... Хочацца глянуць адтуль на Вільню. Даўно не хадзіў на гару,— папрасіў ён.

— О, з радасцю,— згадзілася Алаіза.— Калі я была яшчэ гімназісткаю, мы, дзяўчаты, любілі бегаць на яе. Асабліва пад час, калі страляла гармата. Уяўлялі, што мы — у цытадэлі, хоць гармата абвяшчала ўсяго толькі поўдзень.



Па расчышчанай дарозе яны пайшлі на гару. Абапал стаялі голыя дрэвы. Вакол не было ні душы: у зімовыя дні знаходзілася не вельмі шмат ахвотнікаў рабіць такія прагулкі.

Яны ўздымаліся ўсё вышэй. Іонас трымаў Алаізу пад руку, бо прыцярушаныя снегам камяні дарогі былі слізкія. Вось ужо і пачатак сцяны крэпасці. Складзеная з вялізных камянёў, панурая, яна здавалася, захоўвала ў сабе подых вякоў, якія праносіліся над ёю.

Уся Вільня, як на далоні, з сваімі скарбамі архітэктуры, з старажытнаю гарадскою сцяною была перад імі.

Вунь, злева, перл готыкі — збудаваны ў шаснаццатым стагоддзі касцёл святой Ганны. Напалеон некалі сказаў, што, каб мог, узяў бы гэты касцёл на далонь і перанёс бы яго ў Парыж. Толькі ў Парыжы, горадзе мастацтва, яму месца.

А ўнізе, проста пад імі, Кафедральны сабор з белаю вежаю побач. Велічна падпірае яго дах каланада.

Злева ад вежы замка відаць вуліцы старога горада — крывыя, вузенькія, з дамамі, збудаванымі ў шаснаццатым, семнаццатым стагоддзях. Там і рэшткі гарадской сцяны. «Вострая брама», гэта адна з брам у гарадской сцяне, праз якую ўязджалі ў горад купцы, важныя госці. І над усёй Вільняю касцёлы, цэрквы. Каб які мастак намаляваў профіль горада, сілуэт, гэты сілуэт быў бы ўвесь спічасты, густа аздоблены вострымі вежамі, круглымі званіцамі, купаламі.

Тут, на гары, дзьмуў моцны вецер, і Алаіза з трывогаю глянула на Іонаса — каб не прастудзіўся. Пра сябе яна зусім не думала. Цяпер ёй было добра.

Іонас Білюнас, здаецца, не адчуваў холаду, не заўважаў ветру. Гарачымі вачыма ён пазіраў на горад, які ляжаў унізе, і Алаіза заўважыла, як раптам таргануліся яго вусны.

Яна падышла да яго бліжэй, шчыльней захінула шалік на яго шыі і зашпіліла верхні гузік паліто. Іонас з удзячнасцю паглядзеў на яе, узяў яе руку і пацалаваў.

Яны некалькі хвілін зноў абодва моўчкі глядзелі ўніз. На горад, на яго ваколіцы, якія таксама адсюль былі відаць далёка. За Вільняю горбіліся ўзгоркі, на гарызонце цямнеў сіні лес. Далёка вілася скаваная ільдом Вілія.

А з другога боку вежы ўздымаліся пакрытыя снегам горы. На Антокалі бялеў сваімі купаламі сабор Пятра і Паўла, яшчэ адзін цуд Вільні, перл «барока».

Што думаў, гледзячы на гэты шырокі свет, Іонас Білюнас? Можа, адчувала яго сэрца, што не шмат засталося яму жыць. І ці магла ведаць Алаіза, што яна скора, ох як скора, будзе праводзіць гэтага чалавека ў апошнюю дарогу.

— Пойдзем... Холадна тут... Вецер... Вам няможна,— узяла яна Іонаса за руку.

Ён паслухмяна пайшоў за ёю ўніз.

## XIV

— Дык якая гэта літара? — спыталася Алаіза ў Зосі, трымаючы перад ёю разгорнутую кнігу з малюнкамі.

— Гэта — а-а...— нясмела адказвала Зося.

— А гэта?

— Гэта... Гэта?..— напружвала памяць дзяўчынка.

— Гэта — кы,— сказаў Паўлік, які з-за Алаізінага пляча таксама глядзеў у кніжку.

— Правільна, Паўлік, маладзец. А гэта?
— Гэта шы.
— О, Паўлік у нас скора чытаць будзе,— ласкава паглядзела на хлопчыка Алаіза.
Паўлік аж заззяў з радасці. А Алаіза пагладзіла яго па нястрыжанай галоўцы, сказала:
— Вучыцца табе трэба... Ты разумны хлопчык.
Кася паліла ў грубцы. Гатавала вячэру. Ставячы ў агонь вялікі саган з неабабранаю бульбаю, прагаварыла:
— Вучыцца... У кускі скора пойдуць... Там яму і навука будзе.
А Паўлік, поўны гонару, што яго пахвалілі, тыцкаў тонкім мурзатым пальчыкам у кніжку, называў літары.
— А гэта сы... А гэта ры...
Ён пераміналўся босымі нагамі на падлозе, цёр іх адна аб адну, шморгаў носам, адчайна шоргаючы пад ім рукавом халаціка.
Алаіза ўжо ведала, што дзеці Касінай суседкі засталіся сіротамі. Не так даўно прыйшоў з Далёкага Усходу канверт, у якім была папера з чорнаю рамкаю. Алаіза ўспомніла, як галасіла па той бок пасцілкі жанчына, калі праводзіла мужа на вайну. Чула бяду яе сэрца... І нядоўга ж наваяваў.
Цяпер суседчыны дзеці, Паўлік і Маня, стаялі тут, каля Алаізы, глядзелі ў кніжку, якую яна прынесла Зосі, разам вучыліся чытаць і радаваліся сваім дзіцячым радасцям, не вельмі разумеючы тую вялікую бяду, якую прынесла ім пошта.
Побач з суседскімі дзецьмі Зося выглядала ўжо ледзь не панскім дзіцем. На ёй быў кафтанчык, што некалі падаравала Алаіза. На ножках — чаравікі. Велікаватыя, купленыя навырост, але тым лепш: пакуль можна ўздзець дзве пары панчошак.
— Вучыць дзяцей дык і вопратка трэба, і на кніжкі грошы. А дзе яна іх возьме? — кіўнула Кася на пасцілку.— Ці кожны дзень ядуць тыя дзеці...
Яна села на драўляным круглячку, які ляжаў каля грубкі, падперла шчаку рукою. Пазірала ў агонь, дзе кіпела, пырскала на гарачае вуголле бульба. Узяла анучу, перакруціла саган другім бокам да агню. На бульбінах, якія ляжалі зверху, ужо запяклася скарынка.
Паўлік і Маня пачалі адводзіць вочы ад кніжкі, іх носікі цягнулі цёплы пах ежы.
— Во, скора вячэра гатова, а яго ўсё няма. Кожны вечар валочыцца недзе,— прабурчала Кася, і Алаіза здагадалася, што гэта яна гаворыць пра Вінцуся.
— То можа работа ў яго важная,— заступілася за Вінцуся Алаіза. Яна здагадвалася, дзе можа быць Вінцусь. Казіка выпусцілі з турмы, і цяпер яны з Вінцусём часта збіралі рабочых, агітавалі іх уступаць у рэвалюцыйныя партыі, перапісвалі лістоўкі, якія прыносіла ім Алаіза, і раздавалі на заводзе.
— Ведаю, Цётка, я яго работу,— уздыхнула Кася.— Насіцца недзе з лістоўкамі, пакуль не схопяць.
Яна глядзела ў агонь. Ружовы водсвет ляжаў на яе твары, і, можа, Кася здавалася б цяпер і маладзейшаю, і харашэйшаю, каб не трывожныя вочы, не сумныя вусны куточкамі ўніз, не хмурная зморшчынка на пераноссі. Трывога і незадаволенасць не красяць чалавека.
— Сама ж кажаш, што кепскі цяпер час. Што дзеці суседкі скора вунь з голаду зойдуцца. А хто ж пераменіць усё, калі не вы самі?



Кася памаўчала панура, пасля прамовіла:
— Чужых дзяцей будзе ратаваць, сваё асіроціць...
— А твайму дзіцяці дык і так вельмі добра? Ці даўно галасіла, як Зоська памірала, а доктара не было за што пазваць?..
Алаіза была незадаволена Касяю. Няўжо ўся яе праца ў жаночым гуртку марная? Збірае ж яна іх, вучыць, што толькі самі яны, рабочыя, могуць дабіцца лепшай долі. Але, мусіць, адно — словы, агітацыя, а другое — калі даходзіць да работы.
Алаіза хацела, каб і яе жанчыны зрабіліся актыўнымі барацьбіткамі, рэвалюцыянеркамі. Ёй здавалася, што яна і вядзе іх да гэтага, што яны слухаюць яе, але, аказваецца, не так усё проста.
Адно — паверыць, што рабочыя толькі самі могуць перамяніць усё злое, што рабочыя — гэта сіла і моц. І другое — калі тая самая Кася ведае, што яе муж, бацька яе дзіцяці, недзе сядзіць на падпольнай сходцы, ходзіць па горадзе з пракламацыямі, недзе замахваецца на жандара.
— А што ж ты думаеш, нехта ўсё зробіць? Дзядзька? — з прыкрасцю казала Алаіза.— Самі, гэта не Іван і Дзям'ян, а твой Вінцусь і ты... І я табе вось што скажу,— ужо больш лагодна загаварыла Алаіза.— Чым Вінцуся ўшчуваць, лепш самі добра вазьміцеся за работу. Ты кабета не дурная, ды і ўсе вы, дзяўчаты. А ў цябе сэрца добрае.
— Работнік з мяне...— усміхнулася Кася.
— Не смейся,— сур'ёзна сказала Алаіза.— Я даўно хацела пра гэта з вамі пагаварыць. Вось чаму б табе з кім з нашых дзяўчат не ўзяцца збіраць грошы на вашай фабрыцы. На дапамогу такім, як гэтыя,— паказала яна на Паўліка і Маню.
Кася тужэй завязала хустку пад барадой, папраівла фартух на каленях, пасля раптам махнула рукой.
— Такі-та з мяне зборшчык...
Але сказала гэта такім тонам, што Алаіза ўбачыла — Касю ўсхвалявала прапанова. І не магла яна схаваць задаволенасці, што Алаіза павяла з ёй такую гаворку, што нібыта лічыць яе вартаю рабіць такую важную работу. І, можа, каб схаваць гэтыя свае пачуцці, Кася ўзяла анучу, пачала круціць у грубцы саган, нібы цяпер самае важнае для яе было ў гэтым сагане.
— Ну дык што ж... адмаўляешся?
— Ды ў нас на фабрыцы адна галота. Хто там каму можа памагаць,— з горыччу сказала яна.
— Што ж, і ты нічога не памагла б? — вяла сваё Алаіза.
— Я? — памаўчала Кася.— Я чым магла б... Я, думаеце, і так ім не памагаю? Навошта б мне такі вялікі саган бульбы варыць. На маю радзіну і меншага хапіла б. Але ведаю, што прыйдуць і пастануць...
Паўлік і Маня сапраўды ўжо даўно не пазіралі ў кніжку. Вострымі вочкамі глядзелі яны ў печ, дзе булькала і так смачна пахла бульба. Толькі Зося ўсё гартала кніжку, тыцкала пальчыкам у знаёмыя ёй літары і ўсё паўтарала:
— Гэта — а-а... Гэта — сы-ы...
— Не думай, што адна ты добрая. Бедныя людзі ўсе адны адным спагадаюць. Хто чым можа, будуць памагаць. Ды можна пайсці не толькі па фабрыцы...
— Ды ўжо ж,— згадзілася Кася.— Толькі ці буду я ўмець,— ужо затурбавалася яна, і Алаіза ўбачыла, што Касі ўжо і самой цікава ўсё гэта, што яна разумее, як важна гэта — памагаць такім, як яе

суседка.— Яно то канечне, калі самі не зробім, то хто ж,— памаўчаўшы дадала яна, нібы паказваючы Алаізе, што не такая ўжо яна дурная, што яна і сама ўсё разумее, але што ж зробіш, калі за свайго, за мужа, баліць сэрца.

Нарэшце бульба зварылася. Кася дастала саган, адцадзіла, паслала на стол шараваты ільняны ручнік і высыпала на яго бульбу. Аж пад столь шуганула пара, разносячы на ўвесь пакой гарачы, смачны пах.

Кася паставіла пусты саган на падлогу, на ражок ручніка насыпала солі.

— Ідзеце, ешце,— паклікала яна дзяцей. Паўлік і Маня нетаропка пайшлі да стала, селі на лаве, паклаўшы рукі на каленях, хоць вочы аднаго і другога гарэлі нецярпеннем. Аднак лічылі недалікатным хапацца за ежу раней за гаспадароў.

— Можа і Цётка з намі павячэрае?— запрасіла Кася Алаізу.

— Не, дзякуй, я не галодная,— адмовілася тая. Адмовілася і адчула нялоўкасць. Можа Кася падумае, што яна грэбуе іх вячэрай. Але ж яна не грэбуе, яна праўда не хоча есці. І ад таго, што ёй не хочацца есці, Алаізе таксама было нялоўка. Яна бачыла, як падграбаў Паўлік да сябе гарачую бульбіну, як, апякаючыся, здзіраў з яе шалупінне і, нават забываючыся мачаць у соль, жаваў, глытаў посную бульбіну.

«Прынесла дзецям кніжкі,— думала Алаіза, ідучы дахаты.— Ці кніжкі ім патрэбны? Але і кніжкі таксама,— нібы спрачалася з некім яна.— Паўлік ужо ў такіх гадах, калі павінен вучыцца чытаць. І Зосю трэба вучыць. Свет граматаю не пераверанеш, але і пакідаць дзяцей цёмнымі нельга. Толькі як іх вучыць, па якіх кніжках...» Нібы ішла яна, ішла па роўнай дарозе і спынілася перад прорваю, дзе далей няма дарогі, дзе трэба зварочваць ці ў адзін бок, ці ў другі, а простага шляху няма. Не дзіва. Яна ж можа дзецям, якія нарадзіліся ў вёсцы, якія, акрамя сваёй мовы, не ведаюць аніякай, прынесці толькі ці польскую, ці рускую кніжку. Як жа ім вучыцца чытаць, калі яны не разумеюць па-польску, перакручваюць рускія словы, а часта не разумеюць і іх. Яно то канечне, вельмі добра ведаць мову суседзяў, але найперш трэба ведаць сваю.

«І што ж мы за такія бяздольныя! — успомніла Алаіза словы мацея Бурачка.— Якаясь маленькая Балгарыя — са жменьку таго народу, якіясь харваты, чэхі, малярусы і другія пабрацімы нашыя маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя кніжачкі, газеты і набожныя, і смешныя, і слёзныя гісторыйкі і баечкі, і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас...»

«У нас, Мацейка, як было, так і засталося,— гаворыць Алаіза ў думках з Мацеем Бурачком.— Няма ў нас пакуль нават лемантарыка для дзяцей. А як жа ён нам патрэбен! Каб у ім казачак сабраць такіх, як расказвала бабка Ягася. Пра тое, як мужык знайшоў у сваім лапці залаты рубель, а пан адабраў у мужыка лапці, бо падумаў, што яны зачараваныя. Пра падстрэленага жорава, якога гадаваў хворы хлопчык. Расказаць у такім лемантарыку дзецям пра звяроў, пра птушак».

Думка пра кніжку для дзяцей устрывожыла Алаізу, хоць яна ведала, разумела, што пакуль гэта толькі мара, і мара цешыла яе. Так радасна было верыць, што некалі можа з'явіцца на свет такая кніжачка, такая любая, такая дарагая.

«І каб вершы ў ёй былі,— развівала ідэю Алаіза,— зразумелыя дзецям, харошыя вершы. Пра прыроду, пра свой край. Утлумачваць



дзецям, што яны сыны і дочкі беларускага народа, каб не цураліся яны ні сваёй мовы, ні сваіх звычаяў. Што беларускі народ не горшы за тых жа палякаў і тых жа рускіх. Што культура ў іх толькі больш развітая, дык і нашу трэба ўздымаць, даганяць сільнейшыя народы».

Ёй захацелася ўявіць, як Зося, Паўлік і Маня, хараша апранутыя, сядзяць на лаве, гартаюць беларускую кніжачку для дзяцей, разглядаюць малюнкі, чытаюць. Але замест гэтага перад ёю паўстала зусім нядаўна бачанае. Галодныя дзіцячыя вочы і Паўлік, які падграбае да сябе гарачую бульбіну, апякаючыся, абірае яе і есць, есць...

Але тут жа зноў успомнілася, з якой радасцю паказваў Паўлік знаёмыя літары, нібы сустракаў добрых прыяцеляў. «Кы...», «Шы...». А пасля прачытаў «Каша...»

«Каша, каша,— паўтарае сама сабе Алаіза.— Ці часта ён гэтую кашу есць?»

І застукалі ў сэрцы словы, якія прыносіліся вобразамі апошніх дзён. Складаўся малюнак — хмурны, трывожны.

*І песні заціхлі, і смеху не відна,*
*І дзеці старэнькімі сталі.*
*І ноты вясёлы музыкам браць стыдна,*
*Радасны струны парвалі...*

Калі яна прыйшла дадому, Стэфа падала ёй канверт, блакітны, вузенькі, з добрай паперы. Відаць, не наш, загранічны.

— Прыходзіў нейкі чалавек. Па вопратцы, як пан. З вусікамі. Такі далікатны. Шкадаваў, што не было цябе. Хацеў развітацца. Некуды едзе,— расказвала Стэфа.

Алаіза ўраз здагадалася, хто гэта прыходзіў, і аж заныла сэрца, што не было яе дома, не ўбачыла яго яшчэ раз. Выцягнула з хрусткага канверта бялюткі лісток, прагна пачала чытаць. Так, гэта ён... Значыцца, думаў пра яе... Не забыўся на абяцанне...

Іонас Білюнас пісаў, што гаварыў з доктарам Нова-Вілейскай бальніцы Полазавым, і той можа ўзяць яе фельчаркай, закінуць за яе слова перад дырэктарам бальніцы. У іх ёсць вакансія. А ў канцы ліста — словы развітання і надзеі на сустрэчу. Здаецца, звычайнае пісьмо, у меру ветлівае, у меру сяброўскае, шчырае. Але было ў ім і яшчэ нешта, недагаворанае... недапісанае. Ці, можа, яна толькі хацела гэтага?

З канвертам у руках яна хадзіла па пакоі і адчувала, як нейкая нязнаная дагэтуль радасць поўніць яе. Радасць і сум. І ўдзячнасць... Работа, пра якую ён піша, будзе ёй асабліва дарагою, калі і праўда возьмуць яе туды. Бальніца ў Нова-Вілейцы — адна з лепшых медыцынскіх устаноў ва ўсім Паўночна-Заходнім краі. Нядаўна збудаваная, з найлепшым медыцынскім абсталяваннем.

Работа — гэта вельмі важна. Ой, як важна для яе! Але важней за гэта таварыскасць, спагада... І зноў жаль, што не было яе дома, што не ўбачыла яго яшчэ раз, апёк сэрца.

Стэфа спыталася, ці будзе яна вячэраць.

— Не, дзякуй, нешта не хочацца,— адмовілася Алаіза. Яна адчувала, як гарыць яе твар, моцна стукае сэрца. Схапіла хустку, пачала спехам апранацца. На Стэфіна: «Куды ж зноў, на холад, на мароз?» — адказала нешта падобнае на «скора вярнуся... трэба».

Выйшла ў цемень вуліцы. Куды ж ісці? Чаго? Можа, яго ўжо і няма ў Вільні, паехаў?

І ўсё ж ногі самі неслі яе палягчэлае ад радасці цела.

Снег белымі матылямі лётаў над вуліцаю, асядаў на хустку, на

плечы, раставаў на разгарачаным твары. Яна ішла, не ведаючы, куды, але з адным жаданнем — убачыць яго. Ёй гэта здавалася проста неабходным. Убачыць, і ўсё. Яна яму нават нічога не скажа. А можа і скажа... Каб бярогся... Каб шанаваў здароўе... Каб не прыязджаў больш сюды зімою, нават ненадоўга, хоць тут і ёсць цяпер чалавек, які быў бы вельмі шчаслівы ўбачыць яго.

Але куды яна бяжыць? Дзе яго знойдзе? Адзінае месца, дзе бачыла яго — у Паўлюконіса. Пайсці туды? Спытацца ў Паўлюконіса, дзе яго можна ўбачыць?

А можа яго ўжо няма ў Вільні? Мо адышоў ужо яго цягнік? Цяпер ёй было проста дзіўна, як гэта яна нічога не спыталася ў яго пра ад'езд? Яна думала пра яго. Думала ўвесь дзень. І ноччу, прачынаючыся.

Не, ёй вельмі важна, проста неабходна ўбачыць яго яшчэ раз.

І вось зноў двор, падобны на калодзеж. Слаба свеціцца ў доме толькі адно акно. А ўсе астатнія — цёмныя. І тыя вокны, за якімі кватэра Паўлюконіса, таксама без агню. А можа гэта і не Паўлюконісава кватэра. Можа там проста іх друкарня. Яна ж нічога не ведае. Можа за гэтаю кватэраю сочаць, а яна прыйшла і ўставілася ў вокны. Ды ўся яе логіка і асцярожнасць разбіваліся аб адну надзею, аб адно жаданне — а раптам ён там? Можа вокны завешаны? Можа ён там сядзіць, нахіліўшыся да стала, і нешта піша і скора выйдзе адтуль?

І яна ўяўляе яго схіленую да стала галаву, яго тонкую руку, якая ляжыць на лісце паперы.

Ёй вельмі хацелася ўзысці па драўлянай лесвіцы, пастукаць у дзверы. Але нешта спыняла яе, трымала.

Прыхінуўшыся плячом да мураванай сцяны дома, яна стаяла ў двары, пазіраючы на цёмныя вокны. І не хапала ў яе адвагі пастукаць у дзверы, і не было сілы пайсці адсюль. Так стаяла яна ці гадзіну, ці дзве, спадзеючыся, як на цуд, што ён аднекуль тут з'явіцца, бо іншага месца, дзе можна ўбачыць яго, яна не ведала, не ўяўляла.

Вакол было ціха. Прайшоў, хутаючыся ў каўнер паліто, нейкі чалавек. Ён не заўважыў Алаізу. Знік у дзвярах, якія былі побач з лесвіцаю, што вяла да Паўлюконісавай кватэры. Пасля слабым жоўтым агнём засвяцілася яшчэ адно акно. Яно было завешана газетаю замест фіранкі, і на ёй адбіваўся цень мужчыны. Мужчына хадзіў па пакоі, нешта рабіў. Мусіць, той, што нядаўна праходзіў паўз Алаізу.

З вуліцы часам даносіліся цяжкія крокі. Часам чуўся звон шпораў. Прыглушаныя галасы. Жаночы смех. А яна ўсё стаяла, адубелая ад холаду. І калі надзея зусім пакінула яе, яна ўсё яшчэ не адыходзіла. Казала сама сабе: «Дурніца! Навошта тут стаіш?.. Чаго чакаеш?.. Можа ён ужо далёка... Ды і ў той Швейцарыі ён жа, напэўна, не адзін... Яго там чакаюць... любяць...»

«Але мне ж нічога і не трэба ад яго,— апраўдвалася яна сама перад сабою.— Я хацела толькі яшчэ раз убачыць яго... Значыцца, не суджана... Што ж, хай яму будзе добра... Так добра, як толькі можа быць чалавеку».

Сцішаная, поўная суму і тужлівай радасці, пайшла яна дахаты.

## XV

Ад Вільні да Нова-Вілейкі было хвілін дваццаць язды цягніком. Паўз каляю цягнуліся пакрытыя снегам узгоркі, якія, нібы вялізныя мядзведзі, ляжалі ў ціхім зімовым сне. Па іх, не адстаючы ад цягніка, бег голы сіняваты лес, густы нават зімою, пераплецены кустоўем, дзе-нідзе зелянеючы то елкаю, то хвояй.



У небе свяціла яркае сонца, і ад лесу на сляпучы белы снег клаўся густы, цёмны цень. Цень бег побач з поездам. Адзін за адным несліся па снезе пляскатыя цені вагонаў з белымі праёмамі акон. Віліся, кучаравіліся над вагонамі клубы паравознага дыму.

Дарога, хоць і невялікая, выклікала ў Алаізы настрой, які заўсёды з'яўляўся ў яе, як толькі яна садзілася ў цягнік. Свет тады большаў, шырыўся ў яе ўяўленні, а сама яна здавалася сабе падарожнікам, які едзе адкрываць нязведанае, схаванае ад яго дагэтуль. Уезджаная саньмі дарога, якая бегла цераз каляю і гублялася ўдалечы, была шляхам да невядомага. Там недзе стаяць, збіўшыся ў кучу, чорныя, прысыпаныя снегам хаты. У тых хатах жывуць людзі. Ні тых хат, ні тых людзей яна ніколі ў жыцці не бачыла і, магчыма, ніколі не ўбачыць. А тыя людзі не ведаюць, што існуе на свеце яна. У іх свой клопат, свае думкі. І гэты іх клопат, іх думкі, іх бяда і турботы для іх даражэй і важней за ўсё на свеце. Як вунь у таго дзядзькі, што захінуўся ў кажух і пасцёбвае пугай свайго каня. І Алаізе вельмі хочацца ўведаць — хто ён, гэты чалавек, які едзе ў санях па пустой снежнай дарозе? Як ён жыве? Пра што думае?

У гэтыя дарожныя думкі прыходзіла хваляванне і аб тым, што чакае яе ў Нова-Вілейцы. Ці сапраўды возьмуць яе на службу? Як будзе жыцца ёй там, на новым месцы? Яна ўжо ўяўляла сябе ў белым халаце за сваім фельчарскім абавязкам. Уяўляла і новых сяброў-дактароў, у якіх яна будзе пераймаць уменне, і хворых.

Тое, што бальніца, у якую яна едзе, не звычайная, а для душэўна хворых, яшчэ больш абвастрала прадчуванне нечага незвычайнага. Дзіўна, але ў народзе чамусьці да душэўна хворых ставяцца несправядліва, жорстка. Мусіць, у кожнай вёсцы, у кожным сяле ці мястэчку ёсць свой такі хворы. У Пешчыне, дзе яна гадавалася ў бабкі, жыла такая Манька. Яе так і звалі — дурная Манька. Яна хадзіла па вёсцы абадраная, кудлатая, брудная. Дзеці бегалі за ёю па вясковай вуліцы і ўсяляк дражнілі. Манька кідалася біцца з імі, а калі дзяцей збіралася вельмі многа, уцякала ад іх, на хаду азіраючыся і грозячы ім кулаком. А мужчыны пацвельваліся. «Не ўцякай, Манька, дай ім добра: ты ж дужая!» — і пасылалі ёй наўздагон непрыстойныя жарты.

Бацькі ў Манькі былі вельмі бедныя. Такая «папсаваная», як яны казалі, дачка была ім непатрэбна. Працаваць яна не магла, замуж яе ніхто не ўзяў бы, і таму бацькі не толькі апранах ёй не куплялі, але і карміць не хацелі. І яна хадзіла па вёсцы галодная. Зойдзе ў якую хату і стаіць, пазірае, як людзі ядуць, пакуль якая жалаdensілівая кабета не нальe ёй міску капусты ці не дасць якую бульбіну. Але часцей выганялі з хаты, не пускалі. А калі хто ў вёсцы няспраўна рабіў ці гаварыў глупства, на яго казалі: «От дзе дурная Манька!..»

«Тут многа значыць,— думала Алаіза,— што ў нашых вёсках шмат дзікасці, бескультур'я. Але ж і ў гарадах, сярод адукаваных людзей, да душэўна хворых адносіны часта бываюць нядобрыя. Павышаная да іх цікаўнасць спалучаецца з нейкай смешачкай, шэптам на вушка іншаму. Родзічы хворых саромеюцца прызнацца, што ў іх сын ці дачка, маці ці бацька лечацца ў такой бальніцы. А гэта ж хвароба, такая, як і іншыя хваробы, і такіх людзей трэба лячыць, быць з імі далікатным, асцярожным. Многія ж і ачуньваюць. Але гэтая людская недаверлівасць, насцярожанасць часта перашкаджае людзям зноў стаць самімі сабою».

Поезд замаруджваў хаду. Мільганула некалькі хат з пабеленымі снегам стрэхамі. У адной шыбе адбілася, бліснуўшы, сонца.

Цягнік стаяў тут вельмі мала, і Алаіза заспяшалася да выхаду. Свежае, марознае паветра асвяжыла яе твар. Яна дыхнула на поўныя грудзі. Паравоз, скрануўшы з месца вагоны, павольна пацягнуў іх за сабою. Яны пакаціліся, пастукваючы па рэйках, і скора апошні вагон мільгануў перад Алаізай.

Алаіза азірнулася.

На гары, за станцыяй, стаяў касцёл з тонкай высокай вежай. Касцёл быў зграбны, спраўны і, мусіць, збудаваны нядаўна, бо выглядаў зусім новым. Далей, як вокам кінуць — хаты, хаткі. Відаць некалькі камяніц. Тырчаць два заводскія коміны. І зноў тыя ж горы, узгоркі, пакрытыя лесам.

«Як яйка ў гняздзечку»,— падумала Алаіза пра Нова-Вілейку.

Яна перайшла пуці. Пакіравалася да аднаго з узгоркаў, справа ад лініі. Ведала, што там, у парку, які адсюль відаць, і размяшчаецца бальніца.

Ад станцыі да бальніцы было з вярсту, і вёў да яе самы сапраўдны тракт — вымашчаны брушчаткаю, абсаджаны з двух бакоў маладымі таполямі.

Недалёка ад станцыі тракт перасякала рака Вільня, тая самая рака, якая ў горадзе аббягала Замкавую гару і ўпадала ў Вілію. Але тут, у Нова-Вілейцы, Вільня была шырокая, паўнаводная. Цяпер яна, праўда, была, скавана лёдам і па ёй коўзаліся дзеці. З санкамі, на самаробных каньках.

Тракт крута ўзнімаўся ўгору. Алаіза нават не пыталася дарогі. Ведала, што тракт сам прывядзе ў бальніцу. І сапраўды, дарога скора ўпёрлася ў акуратную зялёную агароджу. Пры варотах стаяў барадаты вартаўнік у кажуху. Ён адкрыў Алаізе веснічкі, і яна ўвайшла ў парк.

Алаіза чула, што бальніца мела некалькі вялікіх карпусоў, але тое, што яна ўбачыла, проста здзівіла. Перад ёю быў трохпавярховы вялізны будынак з чырвонай цэглы. Такіх прыгожых будынкаў мала было нават у Вільні. За галоўным корпусам былі відаць яшчэ будынкі, кожны даўжынёю з добры гарадскі квартал. Справа ўзвышалася царква. Яна стаяла на самым высокім месцы ў парку, новенькая, як лялька, з бліскучаю вежаю і пазалочанымі крыжамі.

У гэты час ударыў царкоўны звон. Ці гэта здалося Алаізе, ці і сапраўды ён адбіваў тут удары неяк асабліва, не так, як унізе, у горадзе, неяк глуха і грозна, разносячы вакол не столькі ўрачыстасць, як трывогу.

З карпусоў бальніцы пацягнуліся людзі. Яны ішлі парамі, у халатах, жанчыны ў хустках, завязаных па самыя вочы. І хоць Алаіза бачыла іх здалёк, па адной хадзе было відаць, што гэта нездаровыя людзі. У руках, у постацях было нешта няўлоўна ненармальнае. Нібы яны страцілі ўменне кіраваць сваімі рукамі і ўпэўненасць у тым, што пад нагамі цвёрдая зямля і па ёй можна хадзіць, не баючыся праваліцца.

У першую хвіліну Алаіза адчула няёмкасць, нібы яна рабіла нешта нядобрае, вось так стоячы і гледзячы на гэтых няшчасных. І тут жа боль, спагада кранулі яе сэрца. А хворыя ішлі, ішлі трушком да царквы на той трывожны звон.

Доктар Полазаў, прозвішча якога назваў у сваім пісьме Іонас Білюнас, сустрэў Алаізу ветліва, пачціва. Гэта быў мужчына гадоў сарака з русаю бародкаю клінам і разумнымі карымі вачыма. Яго погляд, манера гаварыць выдавалі ў ім чалавека энергічнага, дзейнага. Ён паставіўся да Алаізы амаль па-сяброўску. Мусіць, па прынцыпе — сябры маіх сяброў і мае таксама. Спытаўся ў Алаізы пра Іонаса, калі ён паехаў, ці скора зноў збіраецца быць у Вільні.

Алаіза расказвала, што ведала.

— Нам сапраўды патрэбен фельчар,— вельмі скора даў ён размове дзелавы кірунак.— І я магу вас рэкамендаваць дырэктару. Толькі скажыце адразу, вас не бянтэжыць спецыфіка нашай лячэбніцы?

— Не, што вы,— жыва запярэчыла Алаіза.— Я іх вельмі шкадую. Скажыце,— зацікавілася яна,— а гэта іх што, на малітву водзяць?

— Загад дырэкцыі,— развёў рукамі Полазаў.— Начальства лічыць, што гэта асноўная, так сказаць, працэдура. Малітвы да бога даюць гаенне духу,— бліснуў ён сваімі разумнымі карымі вачыма.— Ну, калі наважыліся служыць у нас, то магу вам паказаць нашу бальніцу, пазнаёміць з парадкамі. А з дырэктарам я сам усё ўладжу,— устаў ён з-за стала.

Полазаў быў высокага росту, бялюткі доўгі халат спрытна абрысоўваў яго зграбную фігуру.

— Вазьміце, накіньце на сябе,— зняў ён з вешалкі белы халат, мусіць, ягоны, бо калі Алаіза накінула халат сабе на плечы, полы звісалі ледзь не да падлогі.

Яны прайшліся па другім, трэцім паверсе. Усюды была бездакорная чысціня і ціша. Толькі бязгучна праплывалі сёстры ў бялюткіх халатах і вялікіх накрухмаленых каптурах.

Раптам за аднымі дзвярмі, паўз якія яны праходзілі, пачуўся нейкі дзіўны голас, нібы спеў. Алаіза паглядзела на Полазава, пытаючыся позіркам, што гэта значыць.

— Тут адна хворая,— прыпыніўся ён каля дзвярэй.— Маладая графіня. Хваробу атрымала ў спадчыну.

Ён прачыніў дзверы. На ложку ў тонкай, небальнічнай кашулі сядзела прыгожая дзяўчына. Яна была адна ў вялікім светлым пакоі. Ложак быў засланы чысцюткаю бялізнаю. Каля ложка стаялі пантофлі. Дзяўчына, распусціўшы валасы, сядзела на ложку. Яна мерна пагойдвалася і ціха спявала сама сабе. І хоць рысы твару ў яе былі прыгожыя, але неразумныя вочы — без пачуцця, без думкі — псавалі яго. Яна не спужалася, калі ўбачыла ў дзвярах доктара і Алаізу. Як і раней, гайдалася, спявала, гладзіла рукамі свае доўгія валасы, папраўляла на грудзях кашулю — нібы прыхарошвалася.

Полазаў зачыніў дзверы.

— За такімі хворымі ў нас асаблівы догляд. У кожнага з іх свой урач, фельчар,— шматзначна дадаў ён.

Пасля доктар Полазаў прапанаваў ёй паглядзець іншыя карпусы. Яны выйшлі на вуліцу, пайшлі па сцежцы, расчышчанай у снезе.

На пляцы бальніцы ішло будзённае жыццё. Праехалі санкі, гружаныя дровамі, недзе ўбаку быў чуцён стук сякеры. Па дарожках прабягалі людзі ў паліто, накінутых на белыя халаты, праходзілі рабочыя бальніцы. Воддаль, на доўгіх вяроўках, сушылася бялізна. Усё змерзлае, адубянелае. Аднекуль пачуўся звонкі дзявочы смех. І было крыху дзіўна, што нармальнае чалавечае жыццё тут перамешана з нездаровым.

«Гэта, мусіць, з непрывычкі,— падумала Алаіза.— А пажывеш тут крыху, і ўсё зробіцца звычайным».

— Летам у нас тут пекната,— павёў рукою вакол сябе Пола-

заў.— Чыстае паветра, птушкі спяваюць, як у добрым панскім маёнтку.

— Так, тут, мусіць летам добра,— згадзілася Алаіза, але сама раптам адчула непакой. Ці не будзе яна тут адарвана ад таго, чым жыла ў Вільні? Ці не трапіла яна ў вельмі ўжо ціхі куток...

Полазаў нібы ўгадаў яе думкі.

— І горад у нас тут, пад бокам,— сказаў ён.— Нова-Вілейка не якое-небудзь глухое мястэчка. Тут заводы ёсць, і не маленькія. На адным заводзе Поселя чалавек з чатырыста рабочых. І на другім не менш. Жыццё тут кіпіць не горш, чым у Вільні. Ну, а калі што, дык і сама Вільня недалёка...

Доктар Полазаў паказаў Алаізе палаты і ў другім корпусе. У адной, амаль удвая меншай, чым тая, дзе ляжала графіня, стаялі чатыры ложкі. У палаце было пуста. Мусіць, хворыя не вярнуліся яшчэ з царквы. Тут пахла лекамі, бальнічнаю бялізнаю. Алаіза падышла да ложка, засланага суконнаю коўдраю. На спінцы вісела дошчачка з імем, прозвішчам і адрасам хворага.

«Семенов Порфирий Кондратьевич»,— прачытала Алаіза. Гэта было прозвішча і імя чалавека, якога яна раней ніколі ў жыцці не ведала, але які цяпер быў недзе тут, побач. Якое жыццё пражыў гэты чалавек? Што прывяло яго ў бальніцу для душэўна хворых? Недзе той свет, які быў унутры яго, перавярнуўся. Чаму?

Алаіза выйшла з палаты.

— Каб агледзець усю нашу бальніцу, спатрэбіўся б не адзін дзень,— сказаў ёй доктар, калі яны пайшлі далей.— За гэтыя палаты, у якіх вы цяпер былі, хворыя плацяць па пяцьдзесят рублёў у месяц. А там,— паказаў ён рукою направа,— пяцірублёвыя палаты. Будзеце тут працаваць, самі ўсё ўбачыце. У нас тут,— зноў хітра бліснуў ён сваімі разумнымі вачыма,— Расія ў мініяцюры... З усімі яе класавымі супярэчнасцямі. Калі да нашых хворых дойдзе тое, што робіцца сёння ў Расіі, то і яны могуць узняць тут рэвалюцыю. Хоць палаты падзяліць пароўну...

— А я думала,— у тон яго жарту адказала Алаіза,— што ваша бальніца кітайскаю сцяною аддзелена ад Расіі... Ад той Расіі, якая яна сёння.

— І дарэмна так думалі,— весела сказаў Полазаў.— Пажывяце, убачыце...— дадаў ён.

## XVI

Дактары і фельчары ў лячэбніцы былі размеркаваны па аддзяленнях. Кожнае аддзяленне мела пэўную катэгорыю хворых, прытым улічвалася не толькі само захворванне, але і той узровень аплаты, які браўся з чалавека.

Алаіза стала працаваць у аддзяленні, дзе хворыя плацілі ў месяц па пяць рублёў. Гэта быў той самы «ніжэйшы клас», пра які гаварыў доктар Полазаў. Палаты гэтых хворых былі маленькія, ложкі стаялі шчыльна адзін пры адным. Вокны затулялі жалезныя краты, і палата нагадвала турэмную цэлю.

Алаізе трэба было выконваць усё тое, што запісваў у лістках доктар. Даваць хворым лякарствы, рабіць працэдуры. Работы было многа. Хворыя часта прастуджваліся, бывалі траўмы.

Алаіза павінна была быць у аддзяленні з сямі гадзін раніцы да двух гадзін дня і з пяці гадзін да васьмі вечара. Раздаўшы хворым лякарствы, зрабіўшы перавязкі, яна часам садзілася за столік у дактарскім пакоі і гартала гісторыі хвароб. Сярод яе хворых былі простыя мяшчане, а часам і сяляне з усёй вялікай Расіі. Былі тут людзі розных нацыянальнасцей і розных узростаў. Лячэнне амаль усім было аднолькавае: бром, настой валяр'яны, інсулінавая кіслата, псіхатэрапія. Некаторыя запісы сведчылі, што дактары імкнуліся разабрацца ў прычынах захворвання, вывучаўся ход хваробы, назіраліся паводзіны чалавека. Але большасць запісаў толькі канстатавала пэўныя факты. Канечне, пры такой колькасці хворых, пры такім становішчы, калі ў яе аддзяленні ў пяцьдзесят чалавек быў толькі адзін доктар, цяжка было займацца навуковымі даследаваннямі. А прычыны псіхічных хвароб, наогул, яшчэ вельмі мала вывучаны. Тое, што робіцца ў чалавечым мозгу, для медыцыны яшчэ таямніца. Патрэбна самая шырокая работа, каб у гэтай галіне здабыць нейкі поспех, хоць матэрыялу для навуковага абагульнення ў бальніцы было многа. «Тут, мусіць, як у тым храме Эскулапа,— думала Алаіза,— павінен знайсціся свой Гіпакрат, каб на аснове многага матэрыялу, сабранага тут, зрабіць свае навуковыя адкрыцці». А пакуль Нова-Вілейская бальніца, нягледзячы на тое, што пра яе пісалі як пра перадавую медыцынскую ўстанову, мала чым адрознівалася, мусіць, ад тых манастыроў, у якія яшчэ да ўказу Пятра Першага запіралі душэўна хворых.

Алаіза шчыра выконвала свае фельчарскія абавязкі. Яна накінулася на спецыяльную літаратуру аб псіхічных захворваннях. Адну за адной прачытала кнігі «Паталогія душы» Марыса Флеры, «Нарысы псіхалогіі» Тычэнера, «Псіхічныя фактары цывілізацыі» Уорда і «Псіхалогію пачуццяў» Рыбо. Адкрыццяў вялікіх для сябе не зрабіла, але ўсё ж веды яе ў гэтай галіне паглыбіліся. А галоўнае, перад ёю нейкім іншым бокам раскрыўся душэўны свет хворага чалавека. Алаіза зразумела, якія ўражлівыя гэтыя людзі, прагныя да ласкі і чалавечага спачування. І яна ўсё сваё старанне накіравала на тое, каб заваяваць давер сваіх хворых, знайсці з імі кантакт. І ёй гэта мала-памалу ўдавалася. Хворыя хутка пачалі чакаць яе прыходу, з гатоўнасцю рабілі тое, што яна ім загадвала. «Як дзеці»,— часам думала пра іх Алаіза. Бывалі і цяжкія выпадкі. Хворыя капрызнічалі, кідаліся біцца адны з другімі. Тут на дапамогу прыходзіў дзядзька Апанас, наглядчык, вялізны, здаравенны. Такіх людзей спецыяльна трымалі ў бальніцы на той выпадак, калі да хворых трэба было прымяніць сілу.

Алаізе далі невялічкі пакойчык у флігелі, які стаяў глыбока ў парку. Пад акном Алаізінага пакойчыка ківаў голымі галінамі куст бэзу і стаяў малады, тонкі клёнік. У пакойчыку былі ложак, стол, шафа. Побач за сцяною, жылі сядзелкі, дзве сястры Аня і Роза Малкус. Абедзве невысокага росту, чарнявенькія, быстрыя, смяшлівыя. На ўвесь дом разносіўся то іх вясёлы смех, то спрэчкі. Алаіза скора пасябравала з імі.

— Ой, панечка, колькі ў вас кніжак! — пляснула рукамі Роза, калі яны з Аняю першы раз зайшлі ў яе пакойчык. Алаіза сапраўды прывезла сюды ўсе свае кнігі. Іх, можа, не так было і многа, але не было куды пакласці, і яны ляжалі на стале, на шафе, у кутку на падлозе.

— Вам трэба шкляную шафу для кніжок, як у пана Хардзіна,— сказала Аня.

— А ты скуль ведаеш, якія шафы ў пана Хардзіна? У госці да яго ходзіш? — пажартавала Алаіза. Пан Хардзін быў дырэктар бальніцы.

— Ой, што вы, панечка! — засмяялася Аня.— Аднойчы паслаў мяне доктар Полазаў ліст пану Хардзіну перадаць.

— Што вы, пані!..— заступілася за сястру Роза.— Які пан Хардзін кавалер?! Старая качарыжка...

— Ды я смяюся... Думаю, што ў такіх спраўных дзяўчат, як вы, кавалераў хапае.

— Ах, што вы...— уздыхнула Аня.— Час такі цяпер... Не да кавалераў.

У гэтым жа доміку жыла яшчэ адна маладая жанчына. Яна працавала ў канцылярыі. Тацяна Краінская. Гэта была высокая, з бледным тварам, сур'ёзная дзяўчына. Яна падабалася Алаізе, і з Тацянаю ў яе скора наладзіліся таварыскія адносіны. Але калі з Аняю і Розай Алаіза больш жартавала ды смяялася, то з Тацянаю яны гаварылі пра сур'ёзнае: якія кніжкі чыталі, якія спектаклі глядзелі, якіх музыкантаў слухалі.

А пакойчык у мезаніне займала Юзя Пузыркевіч, прыбіральшчыца, тоўстая і цікаўная кабета, якая заўсёды першая ведала ўсе навіны ў бальніцы і тут жа расказвала іх дзяўчатам.

Юзя прыбірала не ў бальнічных палатах, а ў кватэрах дырэктара і дактароў. І дырэктар ставіўся да Юзі не так, як да іншых рабочых такога класу. У бок іншых чорнарабочых ён нават не глядзеў, а Юзя карысталася ў яго прывілеяй. Яна займала добры пакой у флігелі, дзе жылі служачыя бальніцы. А іншым прыбіральшчыцам жылля не давалі.

Роза аднойчы шапнула Алаізе, што Юзя любіць папоўзаць па рэчах, пападглядваць, так што каб была з ёю асцярожная.

Алаіза адмахнулася тады ад Розы, сказала, што ў яе рэчах няма нічога такога, што магло б скампраметаваць яе, але сама прыняла пад увагу Розіна папярэджанне.

Некалькі разоў Алаіза была ў Вільні. Наказвала дзяўчатам з фабрыкі Бруна дні для збору і прыязджала спецыяльна, каб весці работу гуртка. На адным з заняткаў яна пачала гаварыць пра тое, колькі ўдоў і сірот, страціўшы на вайне сваіх кармільцаў, пакутуюць цяпер ад голаду. Святы абавязак рабочых — памагаць гэтым няшчасным. Яна расказала пра Касіну суседку і яе дзяцей. Жанчыны слухалі спагадліва, а Ванда ўспомніла цётку Карабуціху, якая працуе ў іх на фабрыцы. Карабуціха таксама засталася ўдавой з трыма маленькімі дзецьмі.

— Заходзіла я, Цётачка, да іх, сэрца разрываецца, на тых дзяцей гледзячы,— гаварыла Ванда.— Абадраныя, галодныя, у няпаленай хаце. Цэлымі днямі не злазяць з ложка. Пазашываюцца пад лахманы, папрыціскаюцца адно да аднаго, каб сагрэцца, і сядзяць, як мышаняты. А Карабуціха ўсё ходзіць па пенсію, ніяк не выстараецца. Ды і што там за пенсія будзе, адны слёзы!..

— Канечне,— гаварыла Алаіза,— пра такіх, як Карабуцішыны дзеці, як дзеці Касінай суседкі, павінна клапаціцца ўлада. Іх бацькі склалі галовы за айчыну. Але ад нашай улады дачакаешся... І калі мы, рабочыя, не паможам гэтым дзецям, то хто ж іх пашкадуе?

— І яшчэ,— памаўчаўшы крыху, вяла далей Алаіза.— Вам трэба мець сваю касу, каб яна была вам дапамогай пад час забастовак. Бо, каб у забастоўцы дабіцца свайго, бывае, што трэба не працаваць і тыдзень, і два. А як жыць рабочаму без капейкі? Вось і трэба вам падумаць пра гэта. Збіраць грошы, хоць патрошку, хоць па колькі капеек з работніцы. Ды вылучыць каго з вас, каб пайшлі з лістом па гімназіях, па канторах...



Дзяўчаты на ўсе вушы слухалі яе. А Маня, хоць таксама слухала з цікавасцю, раптам засумнявалася.

— З нашых мы збяром капейкі,— сказала яна.— А ў канторах, у гімназіях, калі скажам, што збіраем грошы на забастоўку, дык і не вельмі дадуць.

— А ты ім не кажы, што на забастоўку,— жыва адазвалася Кася.— У канторах можна гаварыць, што збіраем грошы для сірот.

— Ды яно ж будзе і для сірот,— падтрымала Касю і Ванда.

Дзяўчаты заспрачаліся. Яны хацелі высветліць для сябе, ці правільна гэта будзе, ці сумленна, калі яны пойдуць збіраць грошы нібы толькі для сірот, а пасля будуць раздаваць іх і забастоўшчыкам.

— Трэба адкрыта казаць, што грошы пойдуць і сіротам, і забастоўшчыкам, бо рабочыя, якія бастуюць, выступаюць і проціў вайны,— горача даказвала Ядзя, немаладая ўжо жанчына.

— Каторы гімназіст ці чыноўнік можа дасць і на забастоўку, а другі фігу табе пакажа,— не згаджалася з ёю Ванда.

— А калі скажам, што для сірот вайны, то хіба якая сабака не пакладзе ў бляшанку гроша,— казала Кася.

Алаізе падабалася, што яны так блізка да сэрца прынялі яе прапанову. Што не адмахнуліся, не засталіся абыякавымі. Цяпер Алаіза адчувала да іх прылііў удзячнасці і любві.

— Не будзем, дзеўкі, круціць, не будзем нікога абманваць,— сказала яна.— Пойдуць каторыя з вас і адкрыта аб'явяць, што грошы збіраюцца і на дапамогу сіротам, і на дапамогу работніцам, якія бастуюць. Адзін не дасць, а другі ўдвая больш кіне. А ваш такі паход будзе і агітацыяй. Адкрыта будзем гаварыць пра неабходнасць забастовак, выступленняў рабочых.

Слова Цёткі было для іх законам, і нават Кася з Вандаю пагадзіліся, што так сапраўды будзе лепш. А Ядзя была задаволена — выйшла па яе. Вырашылі, што збіраць грошы будуць Кася і Ядзя. А Ванда з Маняю, з дапамогаю Цёткі, павядуць бухгалтэрыю, будуць весці ўлік грошай, падрахоўваць прыбыткі і выдаткі.

— Як пойдзеце збіраць, то прыбярыцеся хораша. Прыгожым жанчынам мала хто не дасць,— смяялася Ванда.

І ўсе жартавалі, смяяліся. Усе былі задаволеныя, асабліва Алаіза.

У адзін з сваіх прыездаў у Вільню Алаіза зайшла і да Паўлюконіса. Падышоўшы да дома, захвалявалася, успомніла, як стаяла тут познім вечарам, чакаючы, што аднекуль з'явіцца Іонас. «Вось дурная... І скуль гэта ў мяне ўзялося? — падумала з сорамам за такую выхадку, але адчула і прыемнасць, што вось магла перажыць такое. Хоць і ведала, што Іонаса няма цяпер у Вільні, раптам уявіла сабе, што адчыніць дзверы і — зноў убачыць яго... На тым самым месцы, дзе ўбачыла ўпершыню. Ведала, што гэтага не можа быць, але ўяўленне так ярка ўсё намалявала, што калі пераступіла парог кватэры, сэрца забілася ў грудзях, як молат. І зусім абамлелі ногі, калі сапраўды ўбачыла каля стала чалавека ў такой самай паставе, як некалі Іонаса.

Паўлюконіс радасна вітаўся з ёю, паціскаў руку і нешта гаварыў, а яна не магла адарваць вачэй ад спіны чалавека. Ён, нарэшце, азірнуўся, і Алаіза ўбачыла, што гэта не Іонас. Мужчына быў зусім не падобны на Іонаса. Бародка, як кусочак моху, прыклеены да падбароддзя. Высокі пукаты лоб з залысінамі. Вусы, апушчаныя канцамі ўніз.

— А я шукаў вас, ды вы зніклі з гарызонту,— гаварыў Паўлюконіс.— Толькі нядаўна дазнаўся, што вы пераехалі ў Нова-Вілейку.

Хацеў перадаць вам ваш надрукаваны верш. Вам жа і самім гэта, мабыць, цікава...

— Але, але,— гаварыла Алаіза. Яна патроху супакойвалася.

— Дык гэта і ёсць аўтарка? — спытаўся мужчына, якога Алаіза спачатку прыняла за Іонаса.— Рады пазнаёміцца,— падышоў ён і падаў Алаізе руку.

Мужчына гаварыў з мяккім літоўскім акцэнтам. Вочы яго пазіралі пранікнёна і вельмі душэўна.

— Капсукас,— адрэкамендаваўся ён.

Гэта імя было Алаізе знаёма. Капсукас быў вядомы палітычны дзеяч, лідэр літоўскіх сацыял-дэмакратаў. Пад яго кіраўніцтвам выдаваўся рэвалюцыйны часопіс «Драугас» («Таварыш»).

— Я пра вас чула,— сказала Алаіза Капсукасу.— Толькі не ведаю, што азначае ваш псеўданім. Чаму Капсукас? Ці не звязана гэта з Кудзіркам?

Алаіза мела на ўвазе вядомага літоўскага паэта Вінцаса Кудзірку, псеўданім якога быў Капсас.

— Гэта сціпласць нашага Капсукаса,— весела пачаў тлумачыць Алаізе Паўлюконіс.— Некалі, у маладосці, ён пісаў вершы. Вершы былі неблагія, таварышы пачалі казаць яму, што вось у нас у Літве расце новы Капсас. Наш герой сціпла аднекваўся. «Што вы, які я Капсас? Я Капсукас». Гэта значыць — маленькі Капсас. З таго часу так і пайшло — Капсукас і Капсукас.

Капсукас слухаў Паўлюконіса з дабрадушнай усмешкай.

— У вас я сустракаюся з вельмі цікавымі людзьмі,— сказала Алаіза.— Аднойчы я тут мела задавальненне пазнаёміцца з Іонасам Білюнасам,— растлумачыла яна Капсукасу.

— Гэтымі днямі я атрымаў ад яго ліст. Іонас шле вам паклон,— сказаў Паўлюконіс.

— Дзякуй,— зноў адчула хваляванне Алаіза.— Ну, як ён там? Як яго здароўе?

— Здароўе? Якое ў яго можа быць здароўе...— нявесела адказаў Паўлюконіс.— Кепска... Высокая тэмпература... Больш ляжыць, чым ходзіць. Піша, што адно толькі паветра радзімы можа быць для яго гаючым.

— Іонаса Білюнаса я ведаю даўно,— сказаў Капсукас.— Ён мой сябар. Мы пазнаёміліся з ім... чакайце, успомню... Ну так, у 1898 годзе... Калі вучыўся ў Латвіі ў гімназіі. Пасля мы разам працавалі за мяжой. Іонас вершамі, прозай шмат памагаў нам. Я яго вельмі люблю, і як чалавека, і як пісьменніка. Яго празаічныя абразкі поўныя філасофскага сэнсу. Заклікаюць да барацьбы. Я думаю напісаць яго біяграфію. Яго лёс — тыповы для літоўскага інтэлігента: усё жыццё далёка ад сваёй радзімы, хоць кожным нервам з ёю.

Капсукас гаварыў і хадзіў па пакоі, паклаўшы рукі ў кішэні. Ён нахіляў сваю вялікую галаву з залысінамі, глядзеў з-пад густых броваў то на Паўлюконіса, то на Алаізу, якая лавіла кожнае яго слова, так дорага было ёй пачуць усё пра Іонаса, ды яшчэ ад такога чалавека, як Капсукас. А сэрца сціскалася ад болю, ад шкадавання. «Высокая тэмпература... Больш ляжыць, чым ходзіць...»

Паўлюконіс папрасіў у іх прабачэння, выйшаў у другі пакой. Хутка вярнуўся з пачкам вузкіх, доўгіх ліསткоў. Падаў іх Алаізе.

— Частку з іх узялі нашы таварышы. Частка гуляе па свеце. А гэта — вам,— сказаў ён.

Гэта быў яе верш «Хрэст на свабоду», надрукаваны лацінскімі



літарамі. Унізе лістка, уздоўж тэксту, было азначана: «drukow. LSDP». А ўверсе лічба — «3 000 екz».

— Тры тысячы! — ускінула Алаіза на Паўлюконіса радасныя вочы.

— Пішыце новыя вершы... Калі будуць такія ж харошыя, зноў надрукуем,— сказаў Паўлюконіс.

— Ды ўжо ж...

Было вельмі прыемна трымаць пачак лісткоў з тым, што напісана табою, што спачатку было тваім хваляваннем, тваім болем, а цяпер стала друкаваным словам, пракламацыяй. Яе будуць трымаць, перадаваць адны другім незнаёмыя табе рукі, чытаць тысячы людзей. Нібы яна сама набыла цяпер здольнасць быць адразу ў тысячах хат, гаварыць адразу з масаю людзей.

Яна не ведала таго, што яе верш пайшоў па людзях, што яе верш ужо чытаюць, завучваюць на памяць, дэкламуюць.

Яна не ведала, што польская сацыял-дэмакратычная партыя ўжо надрукавала яго на польскай мове, што на нямецкай мове ён ужо друкуецца ў Германіі.

А рабочыя Вільні, тыя, што 19 лютага чулі, як чытала яна гэты верш на мітынгу, гаварылі адзін аднаму, перадаючы пракламацыю з яе вершам:

— Гэта ж той самы, што тады дэкламавала Цётка... Файны верш... Малайчына кабеціна!.. Вось табе і Цётка!

(Далей будзе.)

• • •

## ЧЫТАЙЦЕ Ў БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ:

**Аповесць Георгія ШЫЛОВІЧА «ЧАРАПАХА БЕЗ ПАНЦЫРА».**

**Аповесць Рыгора НЯХАЯ «АЛЁШКА-АТАМАН».**

**Апавяданні Міколы КАПЫЛОВІЧА і Алеся МАСАРЭНКІ.**

# НОВЫЯ ПЕРАКЛАДЫ З М. Ю. ЛЕРМАНТАВА



М. Ю. Лермантаў, Мал. Л. Пастэрнака.

## 1814—1841

# СМЕРЦЬ ПАЭТА

Адпомсці, гасудар, адпомсці!
Укленчыўшы, прашу цябе:
Праўдзівы будзь і пакарай забойцу,
Каб пакаранне будучым вякам
Твой справядлівы суд апавясціла,
Каб прыклад бачылі злачынцы ў ім.

**Памёр паэт! — закатаваны**
**Велікасвецкаю маной —**
**Упаў, з агнём смяротнай раны**
**І з помсты прагаю святой!..**
**Не вытрымаць было паэту**
**Няслявы гонару свайго,**
**Адзін ён супраць думкі свету**
**Паўстаў... і вось няма яго!**
**Няма!.. Не трэба ні прызнанняў**
**Пустых яму, ні горкіх слёз,**
**Ні вартых жалю апраўданняў...**
**Прысуд суровы вынес лёс.**



**Хіба не вы так злосна гналі**
**Яго высокі, вольны дар**
**І для пацехі раздзьмувалі**
**Гатовы выбухнуць пажар?**
**Што ж? смейцеся...— Жыцця нягоды**
**Спынілі сэрца мерны крок:**
**Згас дзіўны светач, назаўсёды**
**Завянуў генія вянок.**

**Няма ратунку безумоўна —**
**Забойца цэліўся як след:**
**Пустое сэрца б'ецца роўна,**
**Не скалануўся пісталет.**
**Што ж дзіўнага?.. яго з чужыны,**
**На лоўлю шчасця і чыноў,**
**Вандроўны лёс уцекачоў**
**Прывёў да нашае айчыны.**
**Яму закон наш — не закон,**
**Чужы наш звычай, нашы справы;**
**Не шанаваў ён нашай славы;**
**Не разумеў у час крывавы,**
**На што наводзіў зброю ён!..**

**І ўзят паэт сырой зямлёю,**
**Як той пясняр з натхнёнаю душою,**
**Ахвяра рэўнасці глухой,**
**Якога ўзнёс ён ліраю сваёю,**
**Забіты, як і ён, бязлітаснай рукой.**

**Навошта дружбы свет пяшчотны, прастадушны**
**Ён прамяняў на свет зайздросліва і душны**
**Для сэрца вольнага свайго і пачуццяў?**
**Навошта даў руку паклёпнікам нікчэмным,**
**Навошта верыў ён прысягам іх дарэмным,**
**Ён, рана зразумеўшы сэнс жыцця?..**
**Ранейшы скінуўшы вянок — яны цярновы**
**Надзелі, лаўрамі ўпрыгожаны, вянок:**
**Калючкі тайныя сурова**
**Палілі скронь, сляпілі зрок;**
**Атручаны яго хвілін апошніх мары**
**Каварства шэптамі і невуцтвам людзей,**
**І ён памёр — з дарэмнай прагай кары,**
**З таемнай прыкрасцю нязздейсненых надзей.**
**Змоўк дзіўных песень лад віхурны,**
**Ім больш ніколі не гучаць:**
**Яго прытулак цесны, хмурны,**
**На вуснах песняра пячаць.**

---

**А вы, пыхлівыя патомкі**
**Вядомай подласцю праслаўленых бацькоў,**
**Вы топчаце пятой нявольніцкай абломкі**
**Здрадлівай доляю пакрыўджаных радоў!**
**Забойцы Генія і Славы і Свабоды,**
**З нахабнай прагнасцю вы абступілі трон!**
**Законы вас ахоўваюць заўсёды**
**І вам ні суд, ні праўда — не закон!..**
**Але ёсць божы суд, распусту ён карае!**
**І ёсць суддзя: чакае ён;**
**Ён думкі ўсе наперад знае,**
**Яго сумленнасці не купіць срэбра звон.**
**Не засланіцца вам аховай тою:**
**Яна вас не ўратуе зноў,**
**І вы не змыеце ўсёй вашаю крывёю**
**Паэта праведную кроў!**

# ТРЫ ПАЛЬМЫ

**(УСХОДНІ СКАЗ)**

У сыпкіх пясках аравійскай зямлі
Тры гордыя пальмы высока раслі.
З зямлі неўрадлівай між імі прабіцца
Імкнулася хваляй халоднай крыніца,
Схаваная ў засень зялёных лістоў
Ад спёкі паўдня і лятучых пяскоў.

І шмат у нябыт адляцела гадоў;
Але падарожны з далёкіх краёў
Яшчэ не схіляўся над хваляй сцюдзёнай,
Каб смагу пазбыць пад страхою зялёнай,
І нішчыць пачаў ужо спёкі прамень
Лістоту і гучнай крыніцы струмень.

І скардзіцца пальмы на лёс пачалі:
«Хіба для таго мы раслі і цвілі,
Каб вецер хістаў нас, высушвала спёка,
Хіба для таго мы ўзняліся высока?
Вачэй нічыіх мы не радуем тут...
Не слушны, о неба, святы твой прысуд!»

І толькі замоўклі — прыкметны здалёк,
Слупом залатым закруціўся пясок,
Званкоў несуладных пачуліся гукі,
Плылі дыванамі засланыя ўюкі,
Ішоў, раскалыхваў пясчаную даль
Вярблюд за вярблюдам, як човен між хваль.

Віселі, матляючыся між гарбоў,
Узорныя полкі паходных шатроў;
Часамі кранalі іх рукі смуглянкі
І бліскалі вочы адтуль, як маланкі...
І стан хударлявы схіляў да лукі
Араб, і ўздымаў скакуна на дыбкі.

І конь, як шалёны, ляцеў над зямлёй.
Як барс, што смяротна паранен стралой;
І складкі на белым адзенні фарыса
Ад руху таго ў непарадку віліся;
Ён з крыкам і свістам імчаў па пяску
І кідаў кап'ё, і лавіў на скаку.

Нарэшце трох пальм дасягнуў караван,
Шумлівы пад імі раскінуўшы стан.
І гучна глякі наліліся вадою,
І пальмы махровай сваёй галавою
Ківаюць, гасцей запрашаючы ў цень,
І шчодра іх поіць сцюдзёны струмень.

Але толькі цемень наўкола лягла,
Загрукаў тапор, зазвінела піла,



І ўпалі жыхаркі пяскоў векавыя!
Адзенне сарвалі з іх дзеці малыя,
Іх цела пасеклі пасля тапаром,
Да ранку палілі павольным агнём.

Калі ж адкаціўся на захад туман,
Крануўся ў далейшы свой шлях караван,
Застаўся на глебе ляжаць неўрадлівай
След попелу згадкай сівой і маўклівай,
Бязлітасны карай суровых нябёс.
І вецер той попел па стэпу разнёс.

І сёння ўсё дзіка тут ноччу і днём —
Не шэпчуцца болей лісты з ручаём:
Дарэмна ў прарока ён ценю пытае —
Гарачы пясок той ручай засыпае,
Ды з прагай драпежнай каршун-нелюдзім
Скубе кіпцюрамі здабычу над ім.

# ДУМА

З тугою я гляджу на наша пакаленне!
Наступнае яго праз цемру не відно,
Тым часам несучы ў душы цяжар сумнення,
    Састарае ў бяздзейнасці яно.
    Памылкамі бацькоў багаты мы з калыскі,
Іх познім розумам; нібы чужы банкет,
Стамляе рана нас і роўны і не блізкі
    Жыццёвы шлях без пэўных мэт.
    Дабро і зло ўспрымаем раўнадушна,
Душой марнеючы ў пачатку барацьбы;
Мы сустракаем небяспеку маладушна,
Ганебна ўладзе дагаджаем, як рабы.
Так не да смаку нам да часу пераспелы
Той змізарнелы плод: не радуючы нас,
Вісіць між кветак ён, як госць асірацелы,
Час іхняе красы — яго падзення час!

І сушыць розум наш навук цяжар бясплодны,
Хаваем мы зайздросна ад людзей
Пачуцці лепшыя, запал высакародны
    Нявер'ем збэшчаных надзей.
Не кідаліся мы ў залішнія прыгоды,
  Ды сіл сваіх не ашчадзілі тым,
Ад кожнай радасці, ад кожнай асалоды
    Мы выпілі сок лепшы назусім.

Не б'ецца сэрца рытм з паэзіяй суладна,
Мастацтва ўзнёслы твор не ўзносіць нашых мар;

Мы рэшткі пачуцця ахоўваем ашчадна —
Схаваны скупасцю і бескарысны дар.

І ненавідзім мы і любім выпадкова,
Не робячы ахвяр ні злосці, ні любві,
І холадам душа ахоплена сурова,
Калі кіпіць агонь крыві.
Што продкаў забаўкі, распусты іх праявы?
Дзіцячаю гульнёй здаюцца нам яны;
З аглядкай кпліваю без шчасця і без славы
Мы шлях трымаем да труны.

Пахмурай грамадой, днём заўтрашнім забытай,
Над светам пройдзем мы без шуму, без слядоў,
Не кінуўшы вякам ні думкі прагавітай,
Ні геніем накрэсленых радкоў.
І абняславіць нас, няслаўна пахаваных,
Патомка гучны верш пагардай едкіх слоў,
Усмешкай горкаю нашчадкаў ашуканых
Над марнатраўствам іх бацькоў.

# ВЕТКА ПАЛЕСЦІНЫ

Скажы мне, ветка Палесціны,
Якой ты ўзрошчана зямлёй,
Якія ўзгоркі і даліны
Там упрыгожвала сабой?

Над чыстай хваляй Іярдана
Усход зарой цябе вітаў,
Альбо ўначы ў гарах Лівана
Суровы вецер калыхаў?

Ці песні даўнія спявалі,
Ці з богам гутарку вялі,
Калі лісты твае сплятаЛі
Сыны гаротнае зямлі?

І ці дагэтуль пальма тая
Шыракалістай галавой
Люд падарожны запрашае
У халадок паўдзённы свой?

Альбо ў разлукі час трывожны
Яна завяла, як і ты,
І прагна нішчыць пыл дарожны
Яе пажоўклыя лісты...

Скажы: набожнаю рукою
Хто ў гэты край цябе занёс?
Тужыў ён часта над табою?
Дзе след яго гаротных слёз?

Ці ратнік божай раці ўпарты
Ён быў, з бязвоблачным чалом,
Як ты, нябёс высокіх варты
Перад людзьмі і бажаством?..

Турботы патаемнай сведка,
Аховаю святыні ты
Стаіш, Ерусаліма ветка,—
Абраз вартуеш залаты.

Лампада ў змроку свеціць роўна,
Ківот і крыж, і супакой...
Усё святой уцехі поўна
Вакол цябе і над табой.

●

Пасля разлукі твой партрэт
Я на грудзях маіх нашу;
Як здань былых і зім і лет
Ён радуе маю душу.

Аддаўшы сэрца іншым дням,
Я разлюбіць яго не змог:
Так храм пакінуты — ўсё храм,
Кумір нізрынуты — ўсё бог!

# КІНЖАЛ

Люблю цябе, кінжал булатны мой,
Таварыш светлы і халодны.
Каваў цябе грузін для помсты, і на бой,
На грозны бой тачыў чаркес свабодны.

Лілейная рука на памяць аб былым
Паднесла мне цябе ў хвіліну развітання,
І ўпершыню не кроў цякла лязом тваім,
А горкая сляза — жамчужына кахання.

І вочы чорныя, з таемнаю тугой
Спыніўшыся на мне, то зіхацелі,
Як сталь твая пры свечцы трапяткой,
То раптам гаслі і цьмянелі.

Ты спадарожнік мой, любві нямы заклад,
З цябе заўжды гатоў я прыклад браць пачэсны;
Так, не змянюся я душой, і сэрцам рад
Быць цвёрдым, як і ты, мой друг жалезны.

# І СУМНА, І НУДНА

І сумна, і нудна! — і некаму слова сказаць
Сяброўскае ў момант у гэты...
Жаданні... ці варта дарэмна і вечна жадаць?
А леты мінаюць — найлепшыя леты!

Кахаць — а каго? — захапляцца часова не след,
А вечна кахаць немагчыма...
Душу варухнеш? — знойдзеш толькі нікчэмнасці след.
І радасць і гора пранесліся міма.

Пачуцці? — іх слодыч, што палкімі вуснамі п'еш,
Ад слова развагі знікае,
І наша жыццё, як з халоднай увагай зірнеш,—
Такая мізэрнасць і марнасць такая!

# МАЛІТВА

Калі душа сціскаецца
Гаротаю глухой:
Напамяць вымаўляецца
Адна малітва мной.

Ёсць сіла жыватворная
У гуках слоў жывых,



Чаруе непаўторная
Краса святая іх.

Душа пераіначыцца,
Тугі цяжар міне —
І верыцца, і плачацца,
І лёгка, лёгка мне...

●

Я не хачу, каб свет чытаў
Маю таемную аповесць;
Аб тым як жыў я і кахаў,
Я не яму складаю споведзь!..

Бог і сумленне суддзі ёй,
Да іх пакутай я прыкуты;
І хай мяне карае той,
Хто вынайшаў мае пакуты;

Дакор пусты, дакор людскі
Душы высокае не ўзрушыць;
Няхай шуміць прыбой марскі —
Уцёса хвалямі не зрушыць;

Стаіць ён, двух стыхій жыхар:
Вышынь пахмурых, хваль шалёных,
І апрача грымот і хмар
Ніхто не знае дум ягоных...

●

1

Калі паспелую хвалюе ветрык ніву
І верхавін лясных кранаецца рукой,
І ад спякоты сад малінавую сліву
Хавае ў халадку лістоты трапяткой,

2

Калі расой апырсканы духмянай,
Ружовым вечарам ці ранішняй зарой
Мне ландыш серабрысты з нечапанай
Густой травы ківае галавой;

3

Калі цурчыць ручай, ратуючы ад смагі,
І, акунаючы душу ў няясны сон,
Ляпеча мне радкі таемнай сагі
Пра мірны край, адкуль імчыцца ён:

4

Тады сцішаецца душы маёй трывога,
Знікае на чале маршчын суровых сець,
І шчасце на зямлі магу я зразумець,
І адчуваю ў небе бога!..

Пераклаў Аркадзь КУЛЯШОЎ.

Ж. ШАГДАР

# ГНЯДЫ

Апавяданне

*Дні мангольскай культуры ў Беларусі*

Мастак Ю. Пучынскі

У беднай юрце, абнесенай жалезнай агароджай, было поўна людзей. Выходзілі з юрты асцярожна, стараючыся не нарабіць шуму, на дыбачках. Нават машыны ад'язджалі як мага цішэй і неўпрыкмет.

Услед за дарослымі выйшаў тоненькі, бледны хлопчык. Адзін з дарослых, смуглы сівавусы стары, нахіліўся над хлопчыкам і ласкава сказаў:

— Не трэба плакаць. Мужчына павінен умець трымаць сябе ў руках. Бедны твой дзядуля памёр, дык гэта — закон прыроды,— і, паказваючы рукой на гнядога каня з белай зорачкай на лбе, дадаў: — Даглядай, сынок, дзядулевага каня як след. Вы абое былі яму ўцехай.

Хлопчык нічога не адказаў, толькі слязінкі бліснулі ў ягоных вачах.

Сябры нябожчыка, людзі пераважна старыя, ціха пайшлі з двара. Ніхто не азірнуўся. Не так гэта і лёгка праводзіць у апошнюю дарогу чалавека адных з табой год — старога Дэмбэ.

У юрце засталася старэйшая дачка нябожчыка Дугарма і ўнук Ганчык. Хлопчык раптам успомніў, як дзядуля часта гаварыў:

— Мой унук будзе сапраўдным чалавекам. Ён — мая падтрымка на старасці год...

Стары вельмі любіў унука, гушкаў яго на каленях, насіў на плячах. А яшчэ была ў яго ўцеха — гняды конь з белай зорачкай на лбе, пра якога Дэмбэ казаў, што ён яго таварыш па старасці.

Настаў вечар. Усе разышліся. У хлопчыка сціснулася сэрца: толькі цяпер ён зразумеў, што ніколі больш не ўбачыць дзядулю. Ганчык паспешліва выйшаў з юрты. Конь, уздрыгнуўшы, павёў вокам на яго, нібы пытаючы: «А дзе ж стары? Самая пара даваць мне вотруб'я». Ганчык падышоў да каня, адвязаў яго ад слупа і прытуліўся галавой да яго цёплай шыі. Гняды асцярожна казытнуў хлопчыка губамі, цёпла дыхнуў у твар. Ганчык позіркам аббег двор. Вось калёсы на шынных колах, побач куча вапны, падпругі, путы — усё гэта перабралі, прывялі да ладу дзедавы рукі.

«Мусіць, ён яшчэ ўчора, калі распрагаў каня, думаў, што сёння выйдзе на працу»,— прыйшло ў галаву хлопчыку, і ён зірнуў на мяшкі з сенам, аўсом, зелянінай, што ляжалі пад агароджай, і яму здалося, што дзядуля недзе тут, можа побач з ім. Хлопчык стаяў, не адпускаючы шыі каня.

«Бедны мой дзядуля, ён купіў гэты ўчастак, таму што зямля была тут не сырая. Нацягаўшы адусюль жалязякаў, ён паставіў агароджу вакол юрты. Са сваім гнядым дзед не баяўся нічога. Ён заўсёды ўставаў на досвітку. А я хоць раз устаў, каб памагчы яму раскласці агонь? Цяпер я ўжо не здолею нічога паправіць»,— думаў Ганчык.

...Прайшло колькі тыдняў пасля пахавання. Хлопчык рабіў усё, што не абміналa раней дзедавых рук: паіў і карміў каня, рамантаваў збрую, памагаў маці па гаспадарцы. Толькі цяпер ён па-сапраўднаму зразумеў, як цяжка было дзеду, і горка шкадаваў, што не заўважаў гэтага раней. Маці — прыбіральшчыца, яна ўставала заўсёды рана і адразу ж ішла на працу. Разам з ёй выязджаў Ганчык. Ён кіраваўся да ракі, каб напаіць каня.

Прыйшоўшы дамоў пасля заняткаў у школе, ён даваў каню корм, а потым выводзіў яго на пашу. Ганчыка непакоіла, што, калі быў жывы дзед, не прыкмеціў тое месца, дзе пасвіў стары каня. Ці можа таму, што Ганчык не ўмеў абыходзіцца з гнядым, ці можа таму, што конь сумаваў па гаспадары, ён — усё худнеў і худнеў. Гэта вельмі непакоіла хлопчыка.

Як толькі Ганчык вяртаўся са школы і адчыняў весніцы, гняды, наставіўшы вушы, паварочваў да яго галаву і нецярпліва біў у дол нагамі. Бедны хлопчык не ведаў, што яму рабіць з канём.

Дзед ніколі не сядзеў склаўшы рукі, увесь час штось-небудзь рабіў. Гняды таксама прывык да працы. А тут колькі тыдняў ніхто не запрог яго ў калёсы... Дзед знаходзіў гнядому занятак нават у нядзелю. Грузіў на калёсы мяшок смецця і адвозіў на звалку. Вяртаўся ён азалелы, а маці казала яму: «Хоць бы адзін вечар пасядзеў у цяпле...» А дзед злаваўся: «Як чалавеку сядзець склаўшы рукі?»

«Дзядуля, мілы! Што ж мне рабіць з гнядым? Кінуць школу і стаць возчыкам? Але я хачу быць інжынерам. Летам, вядома, я магу папрацаваць возчыкам. Але як быць да лета? Можа аддаць гнядога ў якую-небудзь арганізацыю? Але хіба знойдзеш такую ўстанову, дзе патрэбны конь і калёсы?» — думаў хлопчык.

Аднойчы Ганчык ішоў са школы дамоў. Яго нагнаў стары на кані. Хлопчык пільна паглядзеў на яго. У старога быў добры, ласкавы твар. Хлопчык паклікаў чалавека:

— Дэнзэн-гуай! Дзядуля!

Стары нацягнуў повад, спыніў каня і, дастаўшы вялікую хустку, пачаў выціраць вочы.

— Чый ты, хлопчык?

— Вы не пазнаеце мяне? — усміхнуўся Ганчык.

— Дык гэта ты, Ганчык! — усклікнуў стары, борздзенька злез з каня і пацалаваў хлопчыка ў лоб.

— Ну, як вучышся? Як здароўе дзядулі? Я калі-нікалі прыязджаю ў горад, але ніяк не магу знайсці вас. Добра, што цябе сустрэў. Хоць пабачуся са старым.

— Вы пойдзеце да нас? — хвалюючыся, спытаў Ганчык, але стары не звярнуў на гэта ўвагі.

Ён пасадзіў хлопчыка на каня перад сабой, і яны даехалі да юрты. Дэнзэн-гуай, прывязваючы каня, гаварыў:

— Харошы стары! Якую цудоўную агароджу зрабіў...

Стары адчыніў весніцы. Яны зарыпелі. Гняды аж ускінуўся ад рэзкага гуку. Хлопчык нерашуча падышоў да старога і прашаптаў:

— Дэнзэн-гуай! Дзядуля ж памёр...



Стары ўздрыгнуў ад нечаканасці. Ён толькі і здолеў сказаць: «Э-э», і вусны яго затрымцелі.

Хлопчык падтрымаў старога і паказаў рукой, у якой была школьная сумка, на гнядога ля канавязі.

— Дэнзэн-гуай! Я кармлю яго, а ён усё марнее. Памажы мне. Можа я не так даглядаю яго?

Стары ўзняў галаву:

— Сынок, ён, бедалага, сумуе па гаспадары.

— Дык што ж рабіць?

— Не ведаю.

Увайшлі ў юрту, і пачалася гаворка пра дзеда, пра яго родныя мясціны.

Заходзіла сонца, і край неба быў заліты чырванню. Стары, Ганчык і маці выйшлі на двор. Адвязаўшы гнядога, хлопчык аддаў повад стараму.

— Не турбуйся, сынок, гняды ажыве ў родных мясцінах,— сказаў стары і скокнуў у сядло.

Конь заўпарціўся, Ганчык ціхенька шапнуў: «чу!» і потым доўга стаяў на двары, гледзячы каню і ездаку ўслед. Гняды, памахваючы хвастом, усё аддаляўся і аддаляўся туды, дзе быў небакрай, дзе патухала, згасала сонца,— хутка і конь, і яздок зніклі ў вечаровым сутонні. А маці і сын усё стаялі, гледзячы ўдалеч з-пад рукі...

Нібы вецер, праляцеў зімовы месяц. Ганчык кожны раз, калі вяртаўся са школы, пазіраў на канавязь, успамінаючы гнядога і дзеда: «Як там мой конь? Ці паправіўся? Летам на канікулы абавязкова паеду да Дэнзэна-гуай».

Набліжалася вясна.

Пераклад з мангольскай мовы.

•••

## ЧЫТАЙЦЕ Ў БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ:

Вершы Алеся НАЎРОЦКАГА, Яўгена ШАБАНА, Марыі ШАЎЧОНАК.

Інтэрв'ю з пісьменнікам Іванам НОВІКАВЫМ.

**Артыкул Барыса ФЯДЗЮШЫНА «Праблемы міжзорных палётаў».**

*12—14 мая ў Мінску працаваў V з'езд пісьменнікаў Беларусі. Далейшы рост ідэйнасці і прафесіянальнага майстэрства, партыйны падыход да надзённых праблем творчасці складалі змест і даклада „Партыйнасць і народнасць — галоўная лінія беларускай мастацкай літаратуры", з якім выступіў П. БРОЎКА, і садакладаў па жанрах, зробленых І. НАВУМЕНКАМ (проза), М. ЛУЖАНІНЫМ (паэзія), А. МАКАЁНКАМ (драматургія), Э. АГНЯЦВЕТ (літаратура для дзяцей і юнацтва), Я. КАЗЕКАМ (крытыка і літаратуразнаўства), і большасці прамоў.*

# УПОРАВЕНЬ З ЧАСАМ

Пяты з'езд пісьменнікаў Беларусі быў багаты і на важкія даклады па ўсіх жанрах літаратуры, і на палемічныя выступленні. Адкінуўшы залішнюю гарачнасць і дыскусійную завостранасць, няцяжка заўважыць, што галоўны пафас з'езда быў скіраваны на шчырае жаданне пісьменнікаў таленавіта, праўдзіва, усебакова і глыбока адлюстроўваць нашу рэчаіснасць, гераічны подзвіг народа ў барацьбе за пабудову камунізма.

XXIII з'езд КПСС разгарнуў перад савецкім народам новыя велічныя перспектывы. Яны, гэтыя перспектывы, адкрываюцца перад намі не толькі ў галіне народнагаспадарчых задач, але і ў сферы духоўнага росту савецкага чалавека. Наш сучаснік паспяхова пранікае ў космас і ў глыбіні матэрыі, асвойвае нетры зямлі і найскладанейшую тэхніку, вяртае да жыцця пясчаныя пустыні і гоманам заводаў абуджае адвечную глухату тайгі.

Мы — сведкі і непасрэдныя ўдзельнікі стварэння новай эканамічнай карты радзімы, найвялікшых пераўтварэнняў у навуцы і тэхніцы. Гэта не прыгожыя словы, а жывая рэальнасць, як жывой рэальнасцю з'яўляецца і тое, што мяняецца ўклад чалавечага жыцця, псіхалогія чалавека, яго духоўны свет.

Літаратура — гэтая найтанчэйшая галіна чалавеказнаўства — у сваіх найлепшых узорах заўсёды імкнулася адлюстраваць і пакінуць у спадчыну нашчадкам вобразы тых новых перадавых людзей, якіх нараджала грамадства. Гэта рабілася ў імя лепшай будучыні народа. Літаратура заўсёды ўздзейнічала на погляды і густы людзей.

Наш складаны час, дзе барацьба ідзе за кожную чалавечую душу, патрабуе ад пісьменніка лічыць свае абавязкі перад народам як частку агульнапартыйнай справы. Аб гэтым гаварылі прамоўцы на пісьменніцкім з'ездзе. Лепшыя творы беларускай літаратуры красамоўна гавораць пра адно: камуністычная партыйнасць і народнасць сталі тымі эстэтычнымі прынцыпамі, якія вызначаюць самую сутнасць творчасці мастакоў слова.



Асабліва вялікае значэнне мастацкая літаратура мае ў справе камуністычнай загартоўкі моладзі, што не прайшла той суровай школы рэвалюцыйнай барацьбы, якая выпала на долю старэйшага пакалення. На гэта была звернута асаблівая ўвага на XXIII з'ездзе партыі, на XV з'ездзе камсамола, аб гэтым пранікнёна гаварылі пісьменнікі Беларусі на сваім форуме.

Гэта зразумела і відавочна. Але з гэтага выцякаюць і адказныя задачы, асабліва перад маладой беларускай літаратурай, перад нашым часопісам маладых і для маладых.

Бясспрэчна і тое (і пра гэта таксама грунтоўна гаварылася на пісьменніцкім з'ездзе), што маладыя беларускія паэты і празаікі ўнеслі немалы ўклад у агульную літаратурную скарбніцу. Большасць з іх, калі не ўсе, пачынала друкавацца на старонках нашага часопіса. Ад твора да твора павышаючы сваё майстэрства, многія з іх сталі вядомы далёка за межамі рэспублікі. Гэтым можа ганарыцца наша пісьменніцкая сям'я, уся грамадскасць.

Але ў пярэдадзень вялікіх падзей — 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна — мы мусім гаварыць не толькі пра поспехі нашай маладой літаратуры. Шчыра і сумленна варта сказаць пра тое, што яшчэ не зроблена, па вялікім рахунку запатрабаваць з сябе, як з грамадзяніна і літаратара.

Смелае ўтаржэнне ў жыццё, глыбокае яго асэнсаванне з'яўляюцца найпершай умовай паспяховага росту таленту. І тут нельга абысці маўчаннем той факт, што некаторыя маладыя і пачынаючыя пісьменнікі замест глыбокага адлюстравання жыцця ва ўсёй яго шматграннасці топчуцца на маленькім пятачку дробных, прыватных тэм: няўдалае каханне, першае прызнанне, няверная дружба, успаміны дзяцінства. Прычым яны, як правіла, не ўзнімаюцца вышэй апісання факта.

Шырокаму погляду на жыццё, на тыя працэсы, што адбываюцца ў ім, у пэўнай меры перашкаджае ранняя прафесіяналізацыя. Вось чаму бывае ў нас і так, што свежыя ўражанні схлынуць у першай кнізе маладога аўтара, а далей плывуць з-пад пяра надуманыя канфлікты, штампаваныя вобразы, сцёртыя словы.

Толькі праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці здолее закрануць сэрцы і розум маладога чытача. Моладзь, як ніхто, адчувальна да фальшу, скажэнняў рэальнасці, ілжывага пафасу або нуднага, аднастайнага маралізатарства. А дзе ж той вобраз маладога сучасніка, якога з нецярпеннем чакаюць і літаратура і грамадскасць?

Стварыць вобраз маладога сучасніка — гэта не закліананне, а настойлівая неабходнасць часу. І адкрыць яго належыць нам, маладым пісьменнікам, чыё дзяцінства было абпалена вайной, хто разам з бацькамі перажываў нястачы першых пасляваенных год і, нягледзячы на ўсё гэта, з энтузіязмам і верай у будучыню ехаў на новабудоўлі, працаваў у калгасах, штурмаваў навуку.

Слоў няма, пісаць пра гора і пакуты лягчэй, чым пра чалавечую радасць і шчасце, бо за плячыма кожнага пісьменніка багаты вопыт сусветнай літаратуры, якая ва ўмовах класавага ўціску і няроўнасці жыла горам прыгнечаных. Але ў нас ёсць і вялікі вопыт літаратуры, якая пафасна адлюстроўвала велічнасць чалавека ў радасці, у працы. Гэта не азначае, аднак, што ў сваёй творчасці пісьменнік не можа закранаць тыя цяжкасці і пакуты, якія давялося пераадолець нашаму народу ў барацьбе за права

жыць і будаваць камунізм. Людзі выхоўваюцца мужнымі на мужнай літаратуры. Цяжкасці выклікаюць жах у слабых. Моцных яны не бянтэжаць. Гэта не раз даказвала наша моладзь. Але гэтая ж моладзь хоча бачыць у літаратуры не цьмяны, невыразны адбітак маладога чалавека, а паўнакроўны вобраз героя нашых дзён.

Літаратура ніколі не выйгравала ад аднастайнасці і паўтарэння адных і тых жа тэм, адных і тых жа вобразаў. І калі па творах раптам пачынаюць вандраваць расчараваныя інфантыльныя хлапчукі і дзяўчаткі або гэткія самаўпэўненыя «бодрячкі» — гэта становіцца штампам, які прыносіць толькі шкоду.

Відавочна, што малады пісьменнік абавязаны бачыць рэчаіснасць ва ўсёй яе складанасці, у няспынным руху наперад, у барацьбе новага са старым і адсталым.

Мы не бязродныя Іваны. Наша гісторыя поўна гераічнай барацьбы і незабыўных подзвігаў. Ажывіць гэтыя старонкі гісторыі рэвалюцыйных баёў, прыкладаў самаадданай працы, выхоўваць мужнасць, савецкі патрыятызм у моладзі вобразамі тых, хто аддаў сваё жыццё за шчасце народа, гэта наш найпершы абавязак.

Заклікаючы да стварэння вобраза нашага маладога сучасніка, да напісання твораў аб гераічным мінулым, да адлюстравання рэчаіснасці ва ўсёй яе шматграннасці, варта завастрыць увагу на майстэрстве. Забаронных тэм няма. Пісьменнік можа выбіраць і любую форму, якая яму патрэбна, каб ярчэй выявіць ідэю твора, што служыць нашай агульнай справе. Але шэрасць, ілюстрацыйнасць, як халоднае рамесніцтва, безумоўна, павінны быць забаронены.

Барацьба сродкамі мастацтва за камунізм з'яўляецца сэнсам жыцця пісьменніка. Ілюстрацыйнасць не можа апладняць «апошняе слова рэвалюцыйнай мыслі чалавецтва» *(У. І. Ленін)* самастойнымі мастацкімі адкрыццямі, а толькі перакладае, больш або менш удала, гэта «слова», калі яно стала ўжо свядомасцю мільёнаў, на мову вобразаў.

«Цяпер кожны чалавек з нармальным эстэтычным густам пратэстуе супраць таго, каб вернасць і адданасць мастака ідэалам савецкага грамадства сцвярджаліся прымітыўнымі сродкамі. Цяпер кожны сапраўдны мастак разумее, што ён, як мастак, нікому непатрэбны, калі не здольны сказаць народу, партыі нічога новага пра жыццё і сказаць па-свойму, у інтарэсах жа партыі і народа, з пазіцый камунізма» *(«Коммунист № 16, 1965).*

Камуністычная партыя, наш сацыялістычны лад адкрываюць перад літаратарамі шырокія магчымасці для росквіту іх таленту. Гэта разумее, гэта адчувае кожны пісьменнік.

За намі слова, сябры, мастацкае, праўдзівае, партыйнае слова.



# СЛУХАЮЧЫ З'ЕЗД

**Нашымі спецыяльнымі карэспандэнтамі на пісьменніцкім з'ездзе былі фатограф Валянцін ЖДАНОВІЧ і мастак Міхась ЛІСОЎСКІ. Яны «слухалі» з'езд пры дапамозе аб'ектыва і алоўка. Выбраныя старонкі з іх рэпартажных блакнотаў — здымкі і сяброўскія шаржы, пракаменціраваныя паэтам Базылём ПАРАХОНЧЫКАМ, мы і прапануем увазе чытача.**



**КАНДРАТ КРАПІВА**

Пена ўсплывае над шумнаю плынню,
А ён супраць пены змагаўся заўсёды.
Да з'езда ішоў ён дарогай цалiннай —
Далі камсамольцы яму ўзнагароду.
Кліча ягоны бліскучы медаль
Удзельнікаў з'езда ў жыццёвую даль.

(З повраду прамовы на адкрыцці з'езда)

**АНАТОЛЬ КЛЫШКО:** Адрэзак часу, што прайшоў паміж з'ездамі, меў выключнае значэнне для нашай літаратуры: мы з Янкам Сіпаковым выраслі і цяпер таксама з'яўляемся дэлегатамі пісьменніцкага форуму. А ты, Іване, пачакай сваёй чаргі да наступнага з'езда — магчыма, ён збярэцца своечасова...





**ЯНКА БРЫЛЬ:** «...З'езд творцаў. На трыбуне — салідны і вопытны прамоўца гаворыць аб рэчах складаных і сур'ёзных. У гэты час з бакавой ложы, дзе сядзяць госці, узлуньваюць яшчэ неакрэпшыя басы: «Перавыдаць!» Зала пачынае варушыцца. Заціснуўшы ў далоні прамень, паглядзеў у бок ложы. Ат, так сабе — дзятва, студэнты...»

(З будучай «Жмені сонечных промняў».)



**ІВАН НАВУМЕНКА:** «...Вядома, поспехі беларускай літаратуры не з неба зваліліся...»

(Садаклад па паэзіі)

**РЫГОР БАРАДУЛІН:**

Ад з'езда да з'езда
З уласнаю музаю,
Нібыта з нявестай,
Калясіў па Саюзу я.
Кніжкі складваць не лáтва мне
На дарогах няблізкіх...
Пачакайце! Я з Латвіі!
Вось пастаўлю валізку...





**МАКСІМ ЛУЖАНІН:**

Яшчэ і такія
Адкрыцці бываюць:
У Лось Еўдакіі
Салаўіхі спяваюць...

(Садаклад па прозе)





**ЯНКА КАЗЕКА:**

Мы будзем у заўтра, а не наўздагон
Скіроўваць думкі крытычнай агонь,
Бо крытыка наша — гэта сіла,
Якая сама сябе ўзбагаціла.
І ўсе мы сягоння працуем над тым,
Каб плыў з крытычнага коміна дым.

(Садаклад па крытыцы.)



**НІЛ ГІЛЕВІЧ:**

Я ад пяра і ад сахі я,
Мой шлях да з'езда быў не блізкі.
Мацую дружбу я ў Сафіі
І маладых рашчу у Мінску.

Я ім зачытваю прамовы,
Каб не раслі яны ўлегцы.
Сягоння ж вам хачу пра мову
Я прачытаць на з'ездзе лекцыю.



**АЛЕСЬ АДАМОВІЧ:**

— Дарэмна імкнуўся
Пад гэтыя стрэхі:
Маскоўскіх дыскусій
Не чутна тут рэха...



**ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА:**

Б'е Пегас мой падковай,
Ды пад стукат і грук
На вяршыні Парнаса не лезу я.
З мяне дастаткова,
Што я — палітрук
Сваёй уласнай паэзіі.



**ВАСІЛЬ БЫКАЎ:**

Пашлю я, сябры, караваны «Ракет»
Да сэрцаў людскіх і да
кніжных паліц,
Каб ведаў вайною падзелены
свет,
Што́ мёртвым баліць!



**АЛЕСЬ САВІЦКІ:**

Я — аўтар «Жанчыны», хоць я не
Заля.
Я не збіраюся вам назаляць.
Я выступаць запісаўся ў чаргу —
Выпраміць лінію дапамагу.



**ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН:**

Хто сёння там хоча
Скіроўваць ваду
На млын махляроў і ўласнікаў?
Удзень і ўночы
Я спосаб знайду,
Як заступіцца за класікаў!



**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК:**

Футбол забірае ў мяне чытачоў.
Не да спадобы мне гэткія
фокусы.
Каб утрымаць іх, я перайшоў
Да літаратурнага боксу.



**ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА:**

На з'ездзе — сустрэчы і гоман,
Даклады хвалююць душу...
Скажы ты мне, бацька мой Нёман,
Пра што я цяпер напішу?

**УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ:**

Я
вам
паўрамана
на з'езд
прынёс
проста.
Мой
кіна-«Хрыстос
прызямліўся
у Гродна».
Нібы Маякоўскі калісьці ў РосТА,
Малюнкі раблю на паркеце
халодным.





**ІВАН ЧЫГРЫНАЎ:** З гэтай трыбуны заяўляю і даю галаву пад заклад, што раман — гэта не аповесць і, тым больш, не апавяданне. Не член нашага Саюза і не дэлегат пісьменніцкіх з'ездаў Аляксандр Пушкін напісаў некалі нават раман у вершах...

*Дзень сённяшні — дзень заўтрашні*

# МОЙ МІНСК, МАЯ СТАЛІЦА

Адбушавала алым полымем шчамяліца, натапыршчыў цёмна-зялёныя коп'і ярнік, цьмянымі фіялетавымі агеньчыкамі заняўся на ўзмежках чарнабыльнік.

Ліпень.

Лета ў зеніце.

Буйнацветнае лета не толькі там, на ўлонні, дзе багатая, казачная палітра фарбаў, дзе плешчацца Нёман, дзе смяецца Дзвіна. Ліпень дыхае летам і тут, у Мінску, у горадзе, які, падобна да міфічнага Фенікса, узняўся прыгожым і непаўторным з попелу і руін.

Мне не выпала стаяць на тваіх рыштаваннях, сталіца. Гэта рабілі мае старэйшыя браты. Сярод іх быў мой настаўнік па будаўнічай справе экскаватаршчык Герой Сацыялістычнай Працы Анатоль Крэмень. Такія, як ён, гарачыя і нястрымныя, будавалі потым карпусы тваіх індустрыяльных волатаў — трактарнага і аўтамабільнага.

Помнікамі на стагоддзі ўзняліся камвольны камбінат і завод аўтаматычных ліній, мотавелазавод і шарыкападшыпнікавы. І станавіліся ля варштатаў абстраляныя тысячамі гармат, абсівераныя сотнямі вятроў твае сыны. З заводскіх варот выязджалі самазвалы з лаканічным надпісам: «Звышпланавы». У гарачым горніле нараджаліся, атрымлівалі добрую пуцёўку ў жыццё патрыятычныя пачынанні Прыходчанкі, Віташкевіча, Лазарэнкі — правафланговых барацьбітоў за пабудову камуністычнага грамадства. Іх заклікі памагалі маладым з гвардыі яго вялікасці рабочага класа працаваць хутка і якасна.

З табою, сталіца, звязаны лёс усіх нашых гарадоў, усіх нашых добрых спраў. На тваю галоўную плошчу прынасіў першую прадукцыю полацкіх нафтавікоў першы будаўнік гіганта на Заходняй Дзвіне і першы яго эксплуатацыйнік Антон Уласевіч, шахцёры Салігорскіх калійных камбінатаў. Табе расказваюць пра свае поспехі і планы рабочыя і вучоныя, студэнты і гаспадары палёў. І ты натхняеш іх, вядзеш за сабой.

Але не толькі стройнай цэхавай сімфоніяй славішся ты, сталіца. Не толькі сваімі прыгажунамі-кварталамі, праспектамі, плошчамі і вуліцамі, аксамітнай зелянінай паркаў і сквераў. У тваім духоўным арсенале цудоўныя песні, чароўныя мелодыі, натхнёнае слова пісьменніка. Пасля паездкі твайго паўтысячнага артыстычнага калектыву па Сібіры я атрымаў пісьмо ад свайго даўняга таварыша Сашы Мурашова.

«Я ведаю цяпер, пасля выступлення вашых артыстаў, — пісаў ён, — што ў свеце ёсць усяго тры самыя трывалыя матэрыялы: метал, бетон і дружба. Апошні — самы моцны».

Вось што значыць твая гасціннасць і твая дружба, мой Мінск! Падавай жа і далей руку на дружбу ўсім сваім гасцям.





**Уздоўж Свіслачы.** Фотахроніка БЕЛТА.

Ты — мая настаўніца, сталіца. Ты збіраеш у свае аўдыторыі заўтрашніх інжынераў і ўрачоў, механізатараў і настаўнікаў, трэнераў і музыкаў, выхоўваеш, даеш веды і праводзіш у дарогу. Ты мільёнамі вачэй глядзіш услед і пяшчотна, як маці рукою, махаеш услед вузлаватымі, патрэсканымі галінамі ліп і каштанаў.

Ясная, шырокая дарога ў нашай рэспубліцы. Ясныя і вялікія задачы стаяць перад творцамі казачных спраў — маладымі. Яны, гэтыя задачы, вызначаны XXIII з'ездам партыі ў Маскве. Яны блізкія і родныя кожнаму з нас. Яны — наша праграма. І мы выканаем яе. Даем табе слова, Мінск. Цвёрдае слова, камсамольскае.

**Валянцін ЛУКША.**

# АПЕРАЦЫЯ «ЗЯЛЁНЫ АГЕНЬЧЫК»

**З блакнота следчага**

У школе ў Валі амаль не было сябровак — ёй больш падабаліся гарэзлівыя хлапчукі, і не многа знайшлося б такіх, хто мог памерацца з ёю ўменнем лазіць па дрэвах, біць па мячы, а калі трэба, то кінуцца на дапамогу слабаму таварышу. Хлапчукі-аднакласнікі ахвотна прымалі яе ў свае шумныя каманды, а дзяўчынкі паціскалі плячамі: «І што добрае яна знаходзіць у іх дзівацкіх гульнях?..»

Дзесяты клас. Апошняя сту-

пенька перад выхадам у самастойнае жыццё. Каго з нас у гэтыя гады не паланілі рамантычныя мары! Кім быць? Для многіх маладых гэта сур'ёзнае пытанне. Што ж датычыць Валі, то ў яе яно ўжо даўно было вырашана. «Вось закончу школу і стану за шафёра, — разважала яна. — Уяўляеце, як гэта здорава! Паслухмяная табе машына імчыцца з хуткасцю сто, сто дваццаць кіламетраў!..»

Дзяўчынкі здзіўлена паціскалі плячамі, а хлапчукі ганарліва пасмейваліся:

— Яшчэ што прыдумаеш! Гэта наша, мужчынская справа. Ну, які, скажыце, з дзяўчынкі шафёр?

— Усё роўна буду шафёрам, — упарта паўтарала Валя. І той, хто ведаў яе блізка, верыў, што так яно і будзе...

Выезд з гаража. Прыпынак ля дыспетчарскай. Правяраецца падарожны ліст, аглядаецца машына. Так звычайна пачынаецца працоўны дзень у другім мінскім таксаматорным парку.



Валя Грамовіч вывела сваю «Волгу» за вароты, яшчэ раз уважліва ўслухалася ў шум матора: усё ў парадку, можна ў дарогу!

Раніца вялікага горада. Чарада машын, перазвон трамваяў, таропкія пешаходы. Нехта позніцца на работу, некаму трэба хутчэй у аэрапорт: «Калі ласка, хутчэй, галубка! Дваццаць хвілін да адлёту...»

Апоўдні напружанне крыху зменшылася. Валя адвезла пасажыраў у новы мікрараён па Ракаўскай шашы і, не спяшаючыся, вярталася ў цэнтр. «Цяпер нядрэнна было б дзе-небудзь падсілкавацца...» — думала яна, стомлена пазіраючы на дарогу.

Раптам на краі тратуара яна ўбачыла двух мужчын з узнятымі рукамі. Рэзка зарыпелі тармазы...

— Машына свабодная?

— Так. Сядайце, калі ласка. Куды ехаць?

— Гані ў горад. Ды хутчэй!

Мужчыны, цяжка дыхаючы, зваліліся на сядзенне. Па кабіне расплыўся пах гарэлкі.

Валя імгненна агледзела адбіткі пасажыраў у люстэрку. Злева — рыжы боўдзіла ў плашчы. Ён першы ўваліўся ў машыну і, зябка захінаючыся ў сваю зусім не па сезоне напратку, хукаў на пачырванелыя рукі. Побач з ім — зусім малы, у зашмальцаванай ватоўцы. Нейкі час ехалі моўчкі. Потым яны абодва закурылі і пачалі ціха перагаворвацца.

— А лоўка мы з табой! — басіў рыжы. — Раз — і гатова!..

— Цішэй, — штурхнуў яго локцем малы. — Яшчэ пачуе...

— Вельмі ты ўжо асцярожны стаў, Колька, — хіхікнуў рыжы. — Няхай чуе. Па-мойму, дзеўка яна нічога, надзейная... А там, глядзіш, можа і згаворымся...

Ён змоўк. У люстэрку Валя ўбачыла яго чырвоны, нібы задубелы ад ветру, твар. Здавалася, што рыжы аб нечым напружана думае. Неўзабаве пасажыры прытуліліся адзін да аднаго і пачалі шаптацца. Праз нейкі час рыжы нахіліўся да спінкі пярэдняга сядзення і бесцырымонна звярнуўся да Валі:

— Слухай, дзяўчо, рэчы прыгожыя любіш?

— А хто ж іх не любіць, — абыякава адказала яна і падумала: «Спекулянты, напэўна...»

За час работы на таксі ёй даводзілася сустракацца з усялякімі людзьмі: капрызлівымі, ветлівымі, таропкімі камандзіровачнымі, закаханымі парачкамі, якім усё роўна, куды і як іх вязуць... Гэтыя двое ёй не падабаліся. Яна, уласна кажучы, нічога супраць іх не мае: пасажыры як пасажыры. Але іх выгляд, манера размаўляць, і да таго ж, гэты перагар, змешаны з махорачным дымам.

— Што задумалася, прыгажуня? — перапыніў яе думкі рыжы і пачаў з-пад плашча выцягваць нейкія рэчы. — Во, глядзі, выбірай... Аддадзім па дзяшоўцы!..

— Вось яшчэ прычапіліся... — кінула не без цікавасці Валя. — Як жа я глядзець буду, едучы? Спыніцца трэба...

— Не, толькі не тут! — апаслівa азіраючыся, крыкнуў меншы. — Давай куды-небудзь у завулак.

«Не адчэпяцца. Трэба нешта прыдумаць», — раптам вырашыла Валя, зварочваючы ў ціхі тупічок.

Як толькі машына спынілася, рыжы, пасопваючы, пачаў раскладваць на сядзенні рэчы. Шарсцяная жаночая кофта, багатае паліто, мужчынскі плашч, адрэзы...

— Ну што, бярэш? — спяшаўся рыжы. — Таргавацца не будзем...

Валя акінула вачамі рэчы. Яны амаль што новыя, але не з тых, якімі гандлююць спекулянты. Да таго ж, гэтая паспешлівасць, гатоўнасць аддаць, не таргуючыся... Не, тут нешта не чыста...

— Гэта мне не падыходзіць, — адказала Валя, хутка прыкідваючы, што тут ёй зрабіць. — Мне каб нешта больш яркае ды навейшае...

— Кінь ламацца, дзяўчо! Задарма ж аддаём... — націскаў рыжы, а потым, падумаўшы, дадаў: — Што ж, паедзем да нас. Знойдзем нешта для цябе. Пальчыкі абліжаш! Шуруй на Высокую!..

— Валодзька, слухай, — азіраючыся па баках, загаварыў малы, — а дзеўка ж міліцыі накапаць можа...

— Няхай толькі паспрабуе!.. — у руках у рыжага мільганула лязо фінскага нажа. — Пяро ў бок, і будзе карміць касцямі сырую зямлю!..

— Схавай сваю тачылку, герой, — як мага спакайней сказала Валя. — Паедзем. І так колькі часу патрацілі.

— А я бачу, ты — смелая! — хіхікнуў рыжы. — Ладна, давай, заводзь сваю газоўку...

Толькі цяпер Валя зразумела, у які пераплёт яна трапіла. Выводзячы машыну з тупіка, яна злавала на сябе: «Вось і перакусіла...» Страху чамусьці яна амаль што не адчувала, хіба крышачку... У галаве толькі адна думка: не выпусціць, затрымаць нягоднікаў! Можа, выгнаць іх з машыны, і няхай коцяцца на ўсе чатыры? Не, так нельга! Гэта ж зладзеі, яны абрабавалі нейчы дом, прынеслі людзям няшчасце. І, можа, не адзін дом...

«Не выпушчу!» — вырашыла дзяўчына і з сілай націснула на акселератар. Машына ўздрыгнула і памчалася, набіраючы хуткасць.

«Што ж рабіць? — разважала яна. — Спыніцца і паклікаць на дапамогу людзей? Не паспеюць. Пакуль падбягуць, злачынцы разбягуцца».

І, як на тое, ні аднаго міліцыянера на вуліцы! Можна было б пад'ехаць проста да яго...

Нібы здагадаўшыся пра тое, што думала Валя, рыжы выняў з роту папяросу і ляніва працадзіў:

— Глядзі ж, не ўздумай спыняцца ля міліцыянера — адразу атрымаеш пад рабро...

Тут Валі раптам прыйшло адзіна правільнае рашэнне. Яна нават усміхнулася: як гэта яна раней не здагадалася! Трэба «нарвацца» на аўтаінспектара, і ён затрымае ма-

шыну. І тады ўжо яна нешта прыдумае.

Пад'язджаючы да скрыжавання вуліц Рэспубліканскай і Урыцкага, дзе нядаўна быў вывешаны абмежавальны знак, Валя на поўным ходу абагнала цяжкі рэфрыжэратар з зялёным агеньчыкам. Гэта было такое парушэнне, што дзяжурны аўтаінспектар Яўген Прышывалка аж разгубіўся. У адно імгненне яго рука натрэніраваным рухам слізганула ў кішэню, і ўмомант разлілася грозная трэль міліцэйскага свісткá.

Не збаўляючы хуткасці, таксі мчалася наперад.

Зароў матор. Матацыкл аўтаінспектара, крута развярнуўшыся, ірвануў следам...

Між тым у «Волзе» насцярожыліся. Сутаргава ўчапіўшыся рукамі за спінку сядзення і штосекунды азіраючыся, малы віскліва крычаў:

— Давай, шафёрка, цісні! Нагаляе... Трэба ўцячы!..

— Уцячэш ад яго...— не паварочваючыся, кінула Валя.— Можа лепш спыніцца? Заплацім штраф і паедзем сваёй дарогай...

Валя крыху збавіла скорасць, даючы мажлівасць сіне-чырвонаму матацыклу наблізіцца да машыны.

— Ты гэта кінь, шафёрка!..— прахрыпеў рыжы, таропка запіхваючы пад плашч раскіданыя рэчы.— Уцякаць трэба, бо прыпухнем, і ты з намі заадно...

Матацыкл параўняўся з «Волгай» і, абагнаўшы яе, стаў упоперак дарогі. Пасажыры ў адзін голас вылаяліся. Завішчалі тармазы. Машыну пачало заносіць, і праз некалькі секунд яна спынілася непадалёк ад матацыкла.

Прыціхлыя «пасажыры» з трывогаю пазіралі, як да машыны марудна набліжаўся аўтаінспектар. Яны, адчувалася, не рашаліся на якія-небудзь актыўныя дзеянні: можа, пранясе...

«Хутчэй жа ты, хутчэй!» — падганяла яго ў думцы Валя. Сэрца яе гулка і напружана стукала, аж да ламаты ў скронях.

— Вашы дакументы?— аўтаінспектар, адказыраўшы, працягнуў руку да акенца.— І хутчэй, будзьце ласкавы!..



З вінаватай усмешкай Валя пачала разгублена корпацца па кішэнях курткі. Потым узялася нешта шукаць у машыне.

— Даруйце, таварыш інспектар,— апраўдвалася яна,— ніяк не знайду пасведчанне на правы...

Выйшаўшы з машыны, яна зноў пачала шукаць па кішэнях, і тут жа, улучыўшы момант, шапнула:

— Там, у машыне, зладзеі...

— Хопіць апраўдвацца!— строга перапыніў яе аўтаінспектар.— Вы груба парушылі правілы. Мне патрэбны вашы дакументы...

«Няўжо не пачуў, не зразумеў?» — Валя пачала злавацца.

— Няма ў мяне ніякіх дакументаў!— злосна кінула яна.— Можаце рабіць што хочаце, але дакументаў не атрымаеце!

Аўтаінспектар уважліва паглядзеў на яе і спакойна заўважыў:

— Што ж, у такім разе паедзем у аддзяленне і там разбяромся. А вы, грамадзяне пасажыры,— ён зазірнуў у кабіну,— будзеце сведкамі...

«Грамадзяне пасажыры» пануpa заківалі галовамі, а потым малы загундосіў:

— Некалі нам, начальнік... Мы спяшаемся вельмі... Можа мы злезем, пойдзем пешшу. А вы ўжо самі як-небудзь...

— Не хвалюйцеся,— аўтаінспектар злёгку, але настойліва ўпіхнуў назад малога, які пачаў быў ужо выбірацца з машыны.— Мы там доўга вас не затрымаем. Не будзем дарэмна траціць час...

Ён сеў у машыну, і яна кранулася да бліжэйшага аддзялення міліцыі. На адным з перакрыжаванняў давялося ненадоўга спыніцца. Рыжы, які дагэтуль маўчаў, раптам заварушыўся і пачаў злосна торгаць ручку, каб адчыніць машыну.

— Куды ж вы, грамадзянін?— перапыніў яго аўтаінспектар.— А як жа вашы паказанні?

— Нікуды... Гэта я так...— прабурчаў той.— Паветра не хапае. Хацеў акенца адчыніць...

— Сапраўды, паветра нейкае...— усміхнуўся аўтаінспектар.— Гаручым пахне...

Да міліцыі даехалі без прыгод, а потым падзеі разгортваліся імкліва. Увайшоўшы ў дзяжурны пакой, Валя падала інспектару правы і сказала:

— Калі ласка. А гэтыя двое...

— Не хвалюйцеся, Валянціна Іванаўна,— сказаў Яўген Прышывалка.— Я ўжо даўно здагадаўся, з кім маем справу. Вазьміце правы. Вы не зрабілі ніякага парушэння. Наадварот... Магу дадаць яшчэ, што вы вельмі смела,— а галоўнае, з веданнем справы,— правялі гэтую, прама сказаць, аперацыю і аказалі вялікую дапамогу міліцыі. Вялікае вам дзякуй, Валянціна Іванаўна!..

І аўтаінспектар моцна паціснуў руку мужнай дзяўчыне-шафёру.

— Ды што вы, якая там аперацыя? Яшчэ што скажаце...— збянтэжылася Валя.— Кожны на маім месцы зрабіў бы тое ж...

Неўзабаве было выяўлена, што рыжы, пад прозвішчам Мацвееў, нядаўна вярнуўся з турмы, дзе адбываў пакаранне за небяспечнае злачынства. Да гэтага ён яшчэ двойчы судзіўся за кражы і грабяжы. Гады арышту, відаць, не сталі для яго ўрокам, і ён пайшоў на новае злачынства, уцягнуўшы ў гэтую брудную справу слесара Турганкова.

... Валя паглядзела на гадзіннік. Рабочы дзень канчаўся — машыну трэба здаваць напарніку. Лёгка і звычна ляглі рукі на баранак руля, і паслухмяная «Волга» ўпэўнена ўлілася ў шумлівае вулічнае мора. Некалькі разоў мільгануў яе зялёны агеньчык і хутка знік у бясконцым патоку.

**Юры ТАПАРАШАЎ,**
**следчы Міністэрства аховы грамадскага парадку БССР.**




## ДОБРЫ НАСТРОЙ

**Радасць — гэта не толькі вынік. Радасць — гэта і сам працэс будаўніцтва, творчасці, задавальненне ад пазнавання рэчаіснасці.**
**Чатыры жанравыя сцэнкі з усяго шматгалосага, шматфарбнага жыцця. Яны заўважаны пільным вокам тых, хто разумее, што такое добры настрой.**



**ПЕРАКУР.**

**Фота Міхася Шмерлінга (Віцебск).**

**Цяпер галоўная прафесія на будоўлі — не муляр, а мантажнік. Дом не будуюць, а мантыруюць, як станок ці машыну. Не паспееш азірнуцца — і гатовы цэлы мікрараён. Пасля напружанага мантажу — во як хораша адпачыць, прымасціўшыся на збудаваным сваімі рукамі.**



**НАСУСТРАЧ СОНЦУ. Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА (Гродна).**
**Хараша ўстаць раненька, каб рушыць у паход яшчэ да таго, калі зыркія промні сонца абагрэюць родныя сцяжыны.**



**АРХІМЕД З НАШАЙ ВУЛІЦЫ.**
**Фота Эдуарда Трапачука (Віцебск).**

**Дзяўчынка нешта крэсліць на тратуары. Выразныя абрысы таго, што ў марах. Фантастычны адбітак таго, што вакол яе.**

**НЕ ЛАДЗІЦЦА.**
**Фота Міхася Смольскага (Мінск).**

**Адносіны між юнаком і дзяўчынай пакуль што не наладжаны, але нас чамусьці не турбуе гэта. Можа таму, што лёгка адгадаць аптымістычны вынік?**





# ЯНЫ БЫЛІ ПОПЛЕЧ

У ліпені 1941 года на ўскраіне прыфрантавога Гомеля начальнік аператыўнага пункта 21-й арміі капітан Сцяпан Іванавіч Казанцаў і я займаліся падрыхтоўкай будучых партызан для змагання на тэрыторыі Беларусі, занятай нямецка-фашысцкімі акупантамі. Лінія фронту хутка набліжалася, і мы разумелі, што трэба спяшацца.

Неяк увечары да лагера падкаціў тупаносы «пікап». З яго выйшаў вайсковец з ордэнам Леніна і двума ордэнамі Чырвонага Сцяга на гімнасцёрцы. Гэта быў начальнік аператыўна-інжынернай групы войск Цэнтральнага фронту палкоўнік Ілья Рыгоравіч Старынаў, таленавіты армейскі інжынер, герой баёў у Іспаніі, вынаходца многіх відаў мін.

Як пасля стала вядома, Старынаў прыязджаў, каб адабраць найбольш падрыхтаваных людзей для арганізацыі дыверсійна-разведвальнай работы на іншых участках велізарнага савецка-германскага фронту. Былі выбраны той жа Казанцаў, я і яшчэ некалькі пагранічнікаў, якія ўдзельнічалі ўжо ў баях з фашыстамі на заходніх рубяжах.

Праз некаторы час мы былі ўжо на поўдні краіны ў распараджэнні камандавання Паўднёвага фронту. Атрымалі заданне стварыць у толькі што вызваленым ад акупантаў Растове спецыяльны партызанскі атрад з моладзі, які дзейнічаў бы на занятым ворагам узбярэжжы Азоўскага мора.

Неўзабаве ў Растоў прыбыў і Старынаў з групай добраахвотнікаў — былых камандзіраў і камісараў іспанскай рэспубліканскай арміі, якія выказалі жаданне разам з савецкімі людзьмі змагацца супраць агульнага ворага — германскага фашызму.

Людзі старэйшага ўзросту добра памятаюць баявы заклік іспанскіх рэспубліканцаў «Но пасаран!» — «Яны не пройдуць!» Франка пры дапамозе Гітлера і Мусаліні імкнуўся замацаваць тады сваю фашысцкую ўладу ў няскоранай Іспаніі. Ратуючыся ад праследаванняў фалангістаў, тысячы іспанскіх патрыётаў вымушаны былі пакінуць радзіму, шукаць прытулак у многіх краінах Еўропы. У тыя гады за свабоду Іспаніі змагаліся і байцы інтэрнацыянальных брыгад — добраахвотнікі-антыфашысты з Савецкага Саюза, Германіі, Францыі, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі і многіх іншых краін.

А калі надышлі цяжкія для нашай Радзімы дні, лёс звёў мяне з многімі іспанскімі сябрамі, якія добраахвотна, па закліку сэрца ўступілі ў рады Савецкай Арміі і доблесна змагаліся на франтах і ў тыле ворага, у партызанскіх атрадах.

Па-брацку сустрэлі іспанскіх сяброў народныя мсціўцы, а неў-

забаве пераканаліся, што гэта — храбрыя, мужныя, дысцыплінаваныя байцы, якія ненавідзяць «новы парадак» Гітлера гэтак жа, як ненавідзелі на сваёй радзіме рэжым Франка.

Абставіны ў раёне Азоўскага мора, дзе вызначана было дзейнічаць нашаму атраду, былі нялёгкія. Уздоўж паўночнага ўзбярэжжа немцы стварылі шматлікія і моцныя вузлы супраціўлення. Удзень над Таганрогскім залівам віселі фашысцкія знішчальнікі, а ноччу кожны метр лёдавага прыпою наскрозь прастрэльваўся артылерыяй і абмацваўся сляпучымі промнямі пражэктараў. Прабіцца праз такую паласу ўмацаванняў было вельмі цяжка. Справа ўскладнялася яшчэ тым, што не было ўмоў для арганізацыі партызанскіх баз на занятай ворагам тэрыторыі: уздоўж узбярэжжа — суцэльнае бязлессе, размяшчацца на адкрытай снегавой раўніне альбо ў населеных пунктах, безумоўна, было немагчымы.

Усё гэта прымусіла нас падзяліць атрад на тры групы і размясціць іх на значнай адлегласці ад перадавых пазіцый гітлераўцаў. Транспартных сродкаў мы таксама не мелі. Заставалася адно: на працягу ночы, па лёдзе заліва перадольваць вялікія адлегласці, нечакана наносіць удары па варожых гарнізонах, аб'ектах і камунікацыях і адразу ж вяртацца назад.

Галоўнай зброяй партызан у гэтых умовах былі раптоўнасць, дзёрзкасць, кемлівасць і знаходлівасць.

Лінія фронту праходзіла тады на ўсход ад Таганрога і ішла на поўнач па рацэ Міус. Можна было чакаць, што немцы прарвуцца к Растову і нават на Кубань праз лёдавае поле заліва.

Моцныя маразы, наогул рэдкія для гэтых мясцін, трывала скавалі паўметровым лёдам Таганрогскі заліў. Мы баяліся, што іспанскія таварышы не змогуць перанесці такія маразы, але яны хутка прызвычаіліся да гэтых нязвыклых абставін. Быў такі выпадак, калі адзін з іспанцаў — былы пілот іспанскай рэспубліканскай арміі Чыка Мар'яна — пры выкананні баявога задання адбіўся ад групы, прайшоў больш за пяцьдзесят кіламетраў па лёдзе ў лютую завею і ўсё ж такі дабраўся да сваіх.

Трэба сказаць, што іспанцы ўдала арыентаваліся на мясцовасці, добра ўмелі самі рабіць гранаты, міны, па-майстэрску ставілі іх, выдатна валодалі зброяй, радыёсувяззю.

У чэрвені 1942 года з васемнаццаццю іспанцамі — удзельнікамі «лёдавых паходаў» — мяне накіравалі на адзін з участкаў Калінінскага фронту, у складзе 5-й асобнай інжынернай брыгады спецыяльнага прызначэння.

На тэрыторыі Беларусі, занятай ворагам, у той час змагаліся ўжо шматлікія партызанскія атрады. Партызаны не мелі яшчэ дастаткова вопытных сапёраў і падрыўных сродкаў. У брыгады народных мсціўцаў, што дзейнічалі на Віцебшчыне, было накіравана дванаццаць іспанцаў. Яны не толькі вучылі лясных салдат майстэрству падрыўной справы, але самі прымалі ўдзел у баявых аперацыях.

Дастаткова сказаць, што ў партызанскіх брыгадах «Аляксея», Шмырова, Дзячкова, Марчанкі іспанскімі таварышамі было падрыхтавана звыш тысячы мінёраў, зроблена больш за сорак выхадаў на баявыя аперацыі, устаноўлена звыш двухсот розных мін і «сюрпрызаў». У выніку знішчана васемнаццаць паравозаў, дзвесце дваццаць вагонаў, платформ і цыстэрнаў з гаручым, восемдзесят чатыры аўтамашыны, забіта і паранена больш за восемсот гітлераўскіх салдат і афіцэраў.

Група падрыўнікоў на чале з іспанцам Хасэ Віеска на чыгунцы Віцебск — Смаленск пусціла пад адхон тры варожыя эшалоны і падарвала трынаццаць аўтамашын. Другая група пад кіраўніцтвам таленавітага камандзіра іспанскай рэспубліканскай арміі Гарсія Канэля на працягу ліпеня-жніўня 1942 года падрыхтавала чатырыста пяцьдзесят партызан-мінёраў і ўдзельнічала ў баявых аперацыях, у якіх знішчана шэсць паравозаў, семдзесят пяць вагонаў, семдзесят чатыры аўтамашыны і трыста восемдзесят пяць салдат і афіцэраў праціўніка. За адвагу і мужнасць, праяўленыя пры правядзенні дыверсій на чыгунцы Віцебск — Смаленск, Гарсія Канэль быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Не пералічыць усіх баявых подзвігаў нашых братоў па сумеснай барацьбе з ворагам. Удзельнік «лёдавага паходу» на Поўдні Чыка Мар'яна, працуючы інструктарам па падрыхтоўцы мінёраў у злучэнні Стралкова, абучыў больш за семдзесят мінёраў, сам паставіў на чыгунцы і шасейных дарогах семдзесят дзве розныя міны, на якіх падарвалася пяць паравозаў і некалькі вагонаў з жывой сілаю праціўніка, шэсць аўтамашын з ваеннымі грузамі. Пры гэтым было забіта і паранена больш за восемдзесят гітлераўцаў.

У ліпені 1942 года па заданню групы ЦК КПБ частка іспанцаў была накіравана ў Сіроцінскі раён на Віцебшчыне, каб арганізаваць дыверсіі на чыгунцы Віцебск — Полацк, якую немцы ахоўвалі асабліва пільна. На подступах да гэтай чыгункі былі мінныя палі, драцяныя загароды, а ўсе вартавыя, што яе ахоўвалі, мелі дадатковую тэлефонную і сігнальную сувязь. Нягледзячы на гэта, пры актыўнай дапамозе жыхароў станцый Обаль, Язвіна, Старое Сяло партызаны паспяхова мініравалі чыгунку не толькі ноччу, але і ўдзень. Варожыя воінскія эшалоны ляцелі пад адхон.

Асабліва адважна дзейнічаў у тыле ворага былы лётчык іспанскай рэспубліканскай арміі Францыска Гаспар. У гэтага бясстрашнага байца, які прайшоў па тылах ворага не адну сотню кіламетраў, быў невычэрпны запас вынаходлівасці і кемлівасці. Ён заўсёды старанна рыхтаваўся да кожнай аперацыі, вывучаў сістэму ахоў камунікацый ворага на тых участках, на якіх яму трэба будзе дзейнічаць. Ён ні разу не вярнуўся ў атрад, не выканаўшы задання. Не было ні адной баявой аперацыі, у якой бы ён альбо сам не ўдзельнічаў, альбо не прымаў удзелу ў яе падрыхтоўцы. Ён першы згадзіўся пачаць мініраванне ўдзень, выбіраючы для гэтага месцы, дзе немцы менш за ўсё чакалі партызанскіх падрыўнікоў.

28 жніўня той жа Гаспар з групай партызан у раёне станцыі Карпекі, пад Полацкам, устанавіў сем супрацьпаязных мін. Было разбурана больш за дзве тысячы метраў палатна, а воінскі эшалон, што ішоў на фронт з жывою сілай, узляцеў у паветра. Рух на чыгунцы ў гэтым раёне спыніўся на шэсцьдзесят дзве гадзіны!



Хасэ Віеска

2 верасня 1942 года Францыску Гаспару і падрыўніку Пятру Зайцаву з вялікай рызыкаю для жыцця ўдалося замініраваць чыгунку каля станцыі Язвіна. Праз некалькі мінут з-за павароту паказаўся варожы эшалон. Было вельмі крыўдна, калі выявілася, што эшалон не падарваўся! Але гэтая няўдача не перашкодзіла партызанам давесці справу да канца. Францыска Гаспар з падрыўнікамі Зінкевічам і Глотавым устанавілі яшчэ адну міну, якая зрабіла сваю справу. Ад эшалона засталася куча друзу, было забіта і паранена каля пяцісот фашысцкіх салдат і афіцэраў. За ўзорнае выкананне спецыяльных заданняў у тыле ворага Гаспар быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Мужна ваяваў у партызанах дваццацігадовы Гомес Хуан — член Камуністычнага саюза моладзі Іспаніі. На яго баявым рахунку не

адзін дзесятак фашысцкіх салдат і афіцэраў, знішчаных на чыгунцы і шасейных дарогах Беларусі. Выконваючы важнае заданне, 17 чэрвеня 1942 года Гомес Хуан загінуў смерцю героя каля вёскі Аляксееўка Невельскага раёна. Ён пахаваны разам з доблеснымі савецкімі воінамі А. Ф. Бальшаковым і С. А. Кнігіным у лесе пры дарозе, недалёка ад возера Сенніца. Народ ніколі не забудзе іх імёны і справы.

Успамінаецца мне і яшчэ адзін палымяны іспанскі патрыёт, маёр рэспубліканскай арміі Льюва Барыа Педра — чалавек выключнай вытрымкі і знаходлівасці. Гэта было непадалёку ад станцыі Крынкі, дзе вяла аперацыі група падрыўнікоў на чале з лейтэнантам Фёдарам Соманавым.

Неяк падрыўнікі задумаліся: як зрабіць, каб не пацярпелі жыхары вёсак, якія аказвалі партызанам дапамогу. Нават са сваіх партызан мала хто здагадваўся, чаму Льюва цэлымі днямі раскачваў па вузкакалейцы сюды-туды гружаныя ваганеткі, то павялічваючы на іх груз, то змяншаючы яго. І толькі некалькі чалавек ведалі сапраўдную прычыну, здавалася б, бессэнсоўнага занятку дапытлівага іспанца. Льюва ўпарта дамагаўся, каб міна ўзрывалася пад рэйкай ад сілы цяжару не імгненна, а праз загадзя вызначаны тэрмін.

Разлік апраўдаўся.

Разведчыкам Соманава ўдалося завербаваць на станцыі Крынкі надзейнага чалавека, які памог выведаць дакладны час, калі на фронт пойдзе эшалон з авіяцыйнымі бомбамі.

Дзякуючы кемлівасці і знаходлівасці партызан, ніхто з савецкіх грамадзян, што прымалі ўдзел і садзейнічалі поспеху дыверсіі, не пацярпеў. Гітлераўцы абвінавацілі ў бяздзейнасці здраднікаў, якія пайшлі на службу ў паліцыю. З імі яны і расправіліся.

Так у шэрагах партызан поплеч з беларусамі гераічна змагаліся за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы былыя байцы рэспубліканскай арміі Іспаніі. Не ўсім ім пашчасціла дажыць да радаснага Дня перамогі. Палі смерцю храбрых Францыска Гаспар, Льюва Барыа Педра, Бельда Мануэль. Францыска Гуйён, усімі любімы Альберта і зусім юны, жыццерадасны Гомес Хуан. Усе яны жылі, працавалі і вучыліся ў Савецкім Саюзе, у краіне, якая стала для іх другой Радзімаю.

Гэтымі героямі можа ганарыцца Іспанія!

**Пятро РАМАНЮК,**
**палкоўнік запасу.**

# КАМСАМОЛЬСКІ БІЛЕТ № 17445061

Калі мы ўпершыню пачулі гісторыю гэтага дзесяцігадовага разведчыка, яна здалася нам малаверагоднай. І ўсё ж пачаліся пошукі. Прайшло нямала часу, пакуль удалося знайсці першы след. Атрымліваем пісьмо з Ульянаўска, у ім — фота гарэзлівага хлапчука ў армейскай форме. А вось і камсамольскі білет. «Жданко Юры, год нараджэння 1931, час уступлення ў ВЛКСМ — снежань 1942 г.» Значыць, усё праўда. Разведчык у дзесяць гадоў! А камсамолец — у адзінаццаць! Гэтым легендарным хлапчуком аказаўся наш зямляк, віцяблянін.

Юра Жданко нарадзіўся ў Віцебску, бацька яго памёр вельмі рана. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, хлапчуку было дзевяць гадоў. Вайна ўвайшла ў яго дзіцячы свет, калі ён скончыў толькі два класы сярэдняй школы. Родны, так добра знаёмы горад палаў у агні. За яго ішлі цяжкія баі.

І вось ужо зялёныя пачвары з белымі крыжамі паўзуць па родных вуліцах. Горад стаіўся, замёр. А Юра са сваімі равеснікамі назіраў за ўсім, што рабілася навокал, і плакаў ад бяссілля, ад нянавісці да ворага. Неўзабаве ў яго сям'ю ўварвалася страшэннае гора: фашысты забілі сястру. Счарнела ад гора і слёз маці.

— Мама, родная, пойдзем адсюль,— сказаў Юра маці.— Я буду працаваць, буду рабіць усё, каб толькі памагчы нашым...

І яны пайшлі на ўсход. Прабіраліся прасёлачнымі дарогамі, ноччу хаваліся ў лесе ці ў вёсках. Дайшлі да лініі фронту. Але як перабрацца цераз яе? Парашылі чакаць ночы. Сцямнела. Сталіся ў пералеску і пачалі чакаць. І раптам... шорах, крокі. А пасля прыглушаная руская гаворка.

Свае. Толькі адкуль яны тут узяліся? Гэта былі разведчыкі, што вярталіся з задання. Упрасілі іх, каб узялі з сабой. Так разам з імі перайшлі фронт і апынуліся ў размяшчэнні 332-й Іванаўскай імя Фрунзе стралковай дывізіі. Юра стаў выхаванцам фрунзенцаў. З гэтага і пачаўся ягоны шлях разведчыка. Пад выглядам жабрака ён хадзіў па прыфрантавых паселішчах і збіраў звесткі пра ворага.

Глыбокай восенню 1941 года Юра атрымаў заданне — правесці праз лінію фронту мінёра і ўзарваць мост на рацэ Беразна. З вялікай цяжкасцю толькі на трэція суткі яны падкраліся да моста. Замініравалі і пачалі адыходзіць. Грымнуў выбух, побач з Юрам упаў цяжка паранены мінёр. «Што рабіць? — ліхаманкава падумаў хлопчык.— Нельга ж пакідаць у бядзе таварыша». І Юра больш сямі кіламетраў цягнуў як мог дарослага мужчыну. За гэтую аперацыю юны герой атрымаў медаль «За адвагу».




Всесоюзный ленинский коммунистический союз молодежи
КОМСОМОЛЬСКИЙ БИЛЕТ
№17445061
Фамилия Жданко
Имя и отчество Юрий Иванович
Год рождения 1931

У 1942 годзе камандаванне пасылае Юру ў размяшчэнне партызанскага атрада «Баці», які дзейнічаў на Смаленшчыне ў раёне Панізоўя. Неабходна было разведаць планы гітлераўцаў, якія рыхтавалі карную экспедыцыю супраць партызан.

Юра з'явіўся ў доме, дзе стаялі карнікі, пад выглядам унука гаспадара. Паліў печы, прыбіраў і падмятаў падлогу ў доме. Нарэшце ўкраў частку дакументаў і перадаў партызанам. Дзякуючы гэтаму, удалося пазбегнуць блакады. У дывізіі пачалі хвалявацца, бо Юры доўга не было. Можа што здарылася? Але Юра выканаў заданне і вярнуўся. І тады камсамольцы аказалі яму велізарнае давер'е: на агульным камсамольскім сходзе Юру Жданко аднагалосна прынялі ў камсамол, хоць яму было толькі адзінаццаць гадоў. Яму ўручылі білет № 17445061.

Улетку 1943 года батальён, у якім знаходзіліся разведчыкі, трапіў у акружэнне. Кола ворагаў сціскалася. Многія з салдат, якім даручалі знайсці выйсце, загінулі. Тады звярнуліся да Юры.

— Ну, сынок, выручай з бяды,— сказаў яму камандзір батальёна. І Юра пайшоў. Трое сутак блукаў ён па ваколіцах, натыкаючыся на фашыстаў, і ўсё ж знайшоў выхад і вывеў байцоў з акру-

жэння. За гэты подзвіг юнага разведчыка ўзнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі.

Пад Віцебскам, калі нашы войскі пайшлі ў наступленне, Юра быў цяжка паранены, доўга ляжаў у шпіталі. Пасля вучыўся ў школе і рамесным вучылішчы.

Цяпер Юры Іванавіч Жданко жыве ў горадзе Ульянаўску, працуе газаэлектразваршчыкам, гадуе дваіх дзяцей. Ён — часты госць піянераў і школьнікаў, расказвае ім пра гады вайны, пра подзвігі савецкіх воінаў, якія мужна змагаліся за светлую будучыню нашай Радзімы.

**Вольга ВЕРАМЕЙЧЫК.**

# ВАЧЫМА НАШЫХ СЯБРОЎ

Шаша на Мінск гудзе.
Усцяж лясоў зялёных
У СССР вядзе
Рабочыя калоны.
Курыцца лёгкі пыл.
Ідуць за многа міль,
З усіх канцоў зямлі —
Ад Прагі, Лодзі, Вены —
Рабочыя палкі...

Гэты верш напісаны венгерскім паэтам Эмілем Мадарасам больш трыццаці гадоў назад. Краіна Саветаў, дзе будавалася новае, сацыялістычнае жыццё, дзе складваліся нябачаныя да гэтага часу адносіны паміж людзьмі, дзе бурнымі тэмпамі нарасталі эпахальныя змены, што гучным рэхам адбіваліся ва ўсім свеце, прыцягвала позіркі працоўных усіх краін зямнога шара. Насуперак усім выдумкам буржуазнай прапаганды, наперакор усім рагаткам паліцэйскай машыны, рабочыя, сяляне, студэнты, пісьменнікі імкнуліся дайсці да праўды аб Савецкім Саюзе. А самым лепшым шляхам да яе быў шлях у нашу краіну. На сабраныя сябрамі грошы, часта пад чужымі прозвішчамі, з рызыкай для жыцця, перасякалі граніцы сваіх краін пасланцы працоўных. Іх сустракаў Новы свет — свет сацыялізма. Для многіх падарожжа па краіне Саветаў пачыналася з Беларусі, з пагранічнай станцыі Негарэлае. Чэшская пісьменніца Марыя Майерава, якая адной з першых наведала ў 1924 годзе СССР, з хваляваннем пісала аб першай сустрэчы з негарэльскай аркай:

«Кожны, хто ўпершыню едзе ў Савецкую Расію, захавае першыя ўражанні ад граніцы, як самае важнае. Ва ўсіх дарожных нататках — ці іх напісалі чэхі, ці французы, ці англічане — асабліва падкрэсліваюцца першыя хвіліны. Усё, што заўважаеш на першым кроку ў жаданай краіне, здаецца надзвычай значным — як быццам бы граніца савецкай дзяржавы была пераходам на іншую планету.

...У Стаўбцах мы купляем білет у вагон трэцяга класа да пагранічнага кіламетра, і поезд адыходзіць. Ніхто з нас не можа ўседзець на месцы, усе тоўпяцца каля акон, выпытваюць адзін у другога, калі гэта будзе і як.

Мы едзем праз лес, высечаны абапал чыгункі. Сям-там каля насыпу яшчэ можна ўбачыць завалы і калючы дрот, сінія званочкі п'юць вецер сваімі далікатнымі келіхамі, маладыя бярозкі выраслі ўжо ў мірны час... У лесе яшчэ да гэтага часу не зацягнуліся нанесеныя вайной шрамы — зямлянкі можа яшчэ даюць людзям дах над галавой. На шырокай паляне раптам крыжы — адзін за адным, пачарнелыя ад часу. Ваенныя магілкі, як сімвал, замыкаюць за намі капіталістычную Еўропу. Чуюцца ўсхваляваныя, настойлівыя галасы:

— Ужо! Ужо! Выглянь з акна!

Так, сапраўды — перад намі, ужо на савецкай зямлі, узнімаецца над пуцямі брама з бярвенняў, якім прырода дала чырвоны колер, а чалавек — мастацкі выгляд. Над брамай — серп і молат. З польскага боку мы бачым надпіс:

**Прывітанне пралетарыяту Захаду!**

А на савецкім баку — упэўненая заява:

**Камунізм змяце ўсе граніцы!**

Я паспяваю яшчэ разгледзець чырвоны сцяг над станцыяй, як скрозь туман заўважаю першага чырвонаармейца на варце, і больш ужо не бачу нічога — густа і салодка туманяцца вочы, і ўся я прасякнута радасцю, што бачу рэальнасць праўды, якая перастала быць марай, і гэтая рэальнасць даводзіць: свет скрануўся з месца ўперад, да справядлівасці, да вызвалення працы. У гэтай рэальнасці рабочай дзяржавы, разлогі якой распасціраюцца з захаду на ўсход і з поўначы на поўдзень і ў якой такія бясконцыя магчымасці, рабочыя ўсяго астатняга свету атрымалі апору і веру ў тое, што змагаюцца яны не за ілюзіі, а за свабодную працу, за чалавечую годнасць, за новы свет... Уперад — у Расію, уперад з Расіяй, уперад з чырвоным вартавым на прыступках апошняга вагона!»

У жніўні 1925 года ВЦСПС афіцыйна запрасіў у Савецкі Саюз дэлегацыю чэхаславацкіх рабочых розных нацыянальнасцей і палітычных перакананняў. У пісьме дэлегатам Пражскай партыйнай канферэнцыі А. Запатоцкі ўказваў, што трэба «зрабіць прадметам пастаяннага абмеркавання на ўсіх фабрыках і заводах пытанне аб пасылцы рабочай дэлегацыі ў Савецкі Саюз». У зборы грошай на дэлегацыю прынялі ўдзел рабочыя 87 прадпрыемстваў Чэхаславакіі. Дэлегатаў выбіралі на агульных сходах заводаў і фабрык. Прадпрыемцы ўсяляк імкнуліся перашкодзіць выезду дэлегацыі — многім з выбраных было заяўлена, што, калі яны згодзяцца паехаць у СССР, дык будуць звольнены з работы. Але яны прыехалі да нас — 23 чалавекі — сацыялісты, сацыял-дэмакраты, беспартыйныя! Камуністаў у дэлегацыі было ўсяго 4 чалавекі.

«Хто быў на граніцы, сустракаў дэлегатаў,— адзначалася тады ў часопісе «Беларуская работніца і сялянка»,— той ніколі не забудзе першых хвілін сустрэчы, калі пачуццё радасці, міжнароднага братэрства, пралетарскага адзінства авалодала адразу ўсімі, яно ўсё нарастала і паявлялася».

Дэлегацыя прабыла ў Беларусі два дні, наведала фабрыкі і заводы, школы, дзіцячыя дамы і казармы чырвонаармейцаў... Ад імя дэлегацыі Роза Далежалава заявіла:

«...Ваша пралетарская дзяржава цалкам адпавядае патрабаванням рабочага класа. Развітваючыся з вамі, абяцаю вам, таварышы-работніцы, што ўсё бачанае мною, усю праўду паведамлю нашым работніцам для таго, каб яны здолелі ў хуткім часе вызваліцца ад ярма капіталу.»

У тым жа месяцы ў Мінск прыбыла дэлегацыя чэхаславацкай рабочай моладзі. Выбрана было 14 чалавек, але дазвол на паездку атрымалі толькі шасцёра. Пасланцы чэхаславацкага камсамола з цікавасцю прыглядаліся да жыцця Савецкай Беларусі, яе моладзі.

Кіраўнік дэлегацыі Чэрны, выступаючы на пасяджэнні прэзідыума Цэнтральнага савета прафсаюзаў Беларусі, заявіў:

«Мы на кожным кроку бачым ваш рост. Мы добра ведаем, пры якіх абставінах распачалі вы сваю вялікую справу. Нам самім хацелася б жыць у такой краіне, як СССР!»

Цікавіліся ў Чэхаславакіі і развіццём беларускай культуры. У лістападзе 1927 года ў Мінск прыехаў прафесар Карлава ўніверсітэта Здэнек Нуедлы — выпрабаваны друг Савецкага Саюза, арганізатар і кіраўнік Таварыства эканамічнага і культурнага збліжэння з Савецкай Расіяй. Ён знаёміўся з беларускай культурай грунтоўна: дакладна агледзеў бібліятэкі, музеі, быў на навуковым дакладзе ў Інстытуце беларускай культуры, на лекцыях у камвузе, рабфаку, даследчай школе, прааналізаваў сістэму народнай асветы, наведаў тэатры.

«Я бачыў, напрыклад, Мінск,— пісаў потым прафесар Здэнек Няедлы,— калісьці зусім заштатны горад, цяпер — сталіца Беларускай рэспублікі. Тут, як і ўсюды, мы адчуваем іншы, жывейшы пульс жыцця...

Куды б вы ні пайшлі, вы ўсюды знойдзеце мастацтва на такім высокім узроўні, аб якім нам тут і не сніцца. Я бачыў гэта і ў Беларускім дзяржаўным тэатры ў Мінску, дзе прагледзеў п'есу, якую і ў нас і за мяжой бачыў можа на дваццаці сцэнах, — «Сон у летнюю ноч». Але толькі тут, у Мінску, я бачыў яе ў дасканалым выкананні».

А калектыву тэатра Здэнек Няедлы сказаў:

«Усяго я чакаў, але тое, што я сёння бачу, перавысіла ўсе мае спадзяванні. Цяжка зразумець, як хутка здолеў падняцца ваш малады тэатр на гэткую мастацкую вышыню! Не прыміце гэта за кампліментf, але ваша пастаноўка была б святам і ў нашым пражскім тэатры. Натоўпам ішоў бы наш глядач глядзець на вас, калі б вы трапілі ў Прагу, «Národni Divadlo» ўсё было б набіта зверху данізу, ніводнае месца не пуставала б».

Савецкі Саюз для працоўных шматнацыянальнай Чэхаславакіі быў узорам ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі. Росквіт эканомікі і культуры БССР стаў яскравым таму сведчаннем. Улетку 1934 года ў Беларусь для азнаямлення з практыкай савецкага будаўніцтва былі пасланы з Масквы чэшскія і славацкія слухачы інтэрнацыянальнай партыйнай школы. Перакладчыкам у гэтай групе быў малады камсамольскі паэт Ільля Барт, будучы вядомы паэт, перакладчык беларускай паэзіі. Вось яго ўспаміны:

«У невялікім гарадку Слуцку — прыблізна такім, як нашы Падбаржаны,— мы знаёміліся з працай раённага савета, райкома партыі і камсамола, з арганізацыяй сельскай гаспадаркі. Кіруючыя таварышы ахвотна расказвалі нам пра вопыт сваёй работы, а потым мы вялі з імі цікавыя дыскусіі.

Асабліва мне запомніўся высокі, цыбаты, ускудлачаны рэдактар раённай газеты. Не ведаю, як ён пісаў, але апавядальнікам быў цудоўным, рамантычным. Былы беспрытульны, ён на буферах і дахах вагонаў зайцам аб'ехаў амаль усю Расію. Прыгоды дзесяці-, дванаццацігадовых беспрытульных нас так захапілі, што я, выклікаючы ўсеагульны пратэст, зусім забываўся пра сваю ролю перакладчыка...

У Слуцку мы правялі і выхадны дзень. Падвечар у парку культуры нам паказалі семнаццацігадовую Наташу — гераіню дня: учора на парашутных спаборніцтвах яна скочыла з вышыні тысячы метраў і заваявала званне пераможцы. Мяне гэта надзвычай зацікавіла, ды і выгляд дзяўчыны ўразіў: дробненькая, у вяснушках, з васільковa-сінімі, палахлівымі вачамі, яна нічым не вылучалася ў коле дзяўчат, а каротка падстрыжаныя валасы і кірпаты носік рабілі яе падобнай да хлопчыка.

Ва мне абудзілася рэпарцёрская цікаўнасць, я папрасіў слуцкіх камсамольцаў пазнаёміць мяне з Наташай. Потым мы прагульваліся з ёй удваіх — да сённяшняга дня захоўвае памяць яе дробны тварык і звонкі, амаль дзіцячы, галасок:

— Вы нават не можаце ўявіць, як я баялася, як закалацілася ў мяне сэрца, калі я зірнула ў гэтую страшэнную глыбіню: вёскі, як кучкі белых кубікаў, дарогі і рэчкі — нібыта пакручастыя нітачкі, а сажалкі, як талеркі...

Пілот павярнуўся і кажа:

— Ну, Наташа, пайшла!

І паказвае на крыло.

А я ўчапілася за сядзенне і думаю — мяне адсюль не згоніш ні за што на свеце! Пілот усміхнуўся:

— Я загадзя ведаў, як яно будзе. Гераіня!

Гэтым ён мяне і даняў. Ах, думаю, ты мяне баязліўкай лічыш, кепікі строіш? Дык не выйдзе ж на тваім! Заплюшчыўшы вочы, схапіла ручку парашута, развіталася ў думках з мамай і — будзь, што будзе — скочыла...

У галаве было толькі адно — тое, што мне яшчэ на трэніроўках дзяўблі як мае быць: палічы да дзесяці і раскрывай парашут. Я палічыла, як у школе... Ну, крыху можа і хутчэй, не ведаю. Торгаю, і парашут распускаецца нада мной, як сланечнік. Ну, проста цудоўна! Апускаюся павольненька, як анёл. Тут я ўжо зусім не баялася, нават спяваць пачала. Нашу, авіятарскую...

Гляджу я на гэтую дробненькую, непрыкметную дзяўчынку, слухаю яе галасок, веру і не веру. Божа, што гэта за людзі! Былі яны такія заўсёды, ці такімі іх зрабіла рэвалюцыя? Ці, можа, яна абудзіла ў іх нешта такое, што дрэмле і ў нас — там, на захадзе? У думках я перабіраю нашых дзяўчат, што засталіся дома, у Чэхіі, пачынаючы ад сястры, сваіх сімпатый, знаёмых камсамолак, міжвольна стаўлю іх на крыло самалёта і даю ім у рукі кальцо парашута. Ці змаглі б яны зрабіць тое, што так проста і натуральна зрабіла Наташка: заплюшчыўшы вочы і сці-



**Дэкарацыі 1-й дзеі спектакля «Хто смяецца апошнім» па п'есе Кандрата Крапівы. Мастак Мілаш Дзітрых (Цэнтральны тэатр чэхаславацкай арміі ў Празе).**

**Сцэны са спектакля «Хто смяецца апошнім».**



**Жанчына — арт. Ніна Папелікава, Ганна Паўлаўна — арт. Ліда Вострчылава.**



**Ганна Паўлаўна — арт. Ліда Вострчылава, Зіна — арт. Лібуша Поспішылава, Гарлахвацкі — арт. Карал Гоуска.**



Зёлкін — арт. Іржы Совак, Гарлахвацкі — арт. Карал Гоуска.



Вера — арт. Іржына Шворцава, Чарнавус — арт. Ота Скленічка.

снуўшы зубы, кінуцца стрымгалоў уніз з падвоблачнай вышыні?

І ці змог бы гэта зрабіць я сам?

Дзіўна: у атмасферы гэтай краіны ўсё стала магчыма. Нешта ў людзях вызвалілася, стала свабодным, і яны поўны веры ў сябе.

Ці зможам і мы калі-небудзь стварыць такую атмасферу?..»

Адну з дэлегацый сустракаў у Негарэлым і суправаджаў у па-



# ГІМНЫ РОДНАЙ ПРЫРОДЗЕ

Сутнасць таленту гэтага мастака пачынаеш разумець, калі пашчасціць натрапіць у прыродзе на матывы і імгненныя яе настроі, якія ён адлюстраваў у сваіх палотнах. Спачатку — калі знаёмішся з яго творамі — узнікае пачуццё, быццам такога вось, напрыклад, бэзавага надвячорка не бывае або блакітная празрыстасць зімовага паветра быццам бы ў нейкай меры перабольшана мастаком. І толькі пазней, зусім забыўшыся на яго творы, ты раптам сустракаеш якраз такі матыў у прыродзе, якраз такі яе стан і міжволі ўсклікваеш: «Дык гэта ж Бялыніцкі-Біруля!..»

І тады пачынаеш думаць, што Бялыніцкі-Біруля адлюстраваў на сваіх палотнах матывы, якія звязаны перш за ўсё з пачуццямі задушэўна-лірычнымі, пачуццямі светлага смутку або спакойнай радасці, з пачуццямі замілавання да роднага краю і неспакою, які абуджаецца ў чалавечай душы прыродай...

Сюжэты большасці яго палотнаў выключна сціплыя. Вёсачка, цэркаўка, рачулка, бярозка... Вось і ў тых двух работах, якія часопіс прапануе сваім чытачам,— гэткія ж тыповыя для лепшых работ мастака сюжэты: «Быстрая рака» (1908) і «Зімовы пейзаж» (1905). У гэтых, як і ва ўсіх сваіх творах, Бялыніцкі-Біруля імкнецца засведчыць хутка імгненную плынь жыцця прыроды, яе настрой, які ўвесь час мяняецца. Мяняецца нават на працягу аднаго дня. І вось гэтыя няўлоўныя моманты змен у пейзажы і адлюстраваў мастак.

Названыя дзве карціны мы ўбачылі на выстаўцы з прыватных збораў, наладжанай Беларускім дзяржаўным мастацкім музеем. Я быў уражаны талентам мастака якраз не на яго выстаўцы, а ў дні, калі вясною падарожнічаў па Міншчыне і быццам бы зноў перажываў сустрэчу з яго палотнамі. Усё адметнае, што бывае ў абліччы ранняй беларускай вясны, выходзіць вельмі тонка ўбачана Бялыніцкім-Бірулем і засведчана ў яго палотнах. У такіх, напрыклад, як «Беларусь. Ізноў расквітнела вясна», «Зялёны май», «Беларусь. Пачатак лета», «Ваколіцы Мінска».

І яшчэ адна сустрэча з Бялыніцкім-Бірулем, з яго шчодрым талентам адбылася ў мяне сёлета ў Міхайлаўскім. Вандруючы па славутых пушкінскіх мясцінах на Пскоўшчыне, я не мог не прыгадаць задушэўнейшыя палотны нашага земляка.

Срабрыста-шараватая рэчка Сораць... Зялёныя паркі Міхайлаўскага... Усё гэта настолькі дакладна адлюстравана, што проста дзівішся пільнасці, вастрыні яго нага вока, багаццю палітры, такой, здаецца, сціплай на першы погляд. У межах параўнальна невялікай колькасці колераў, фарбаў Бялыніцкі-Біруля на дзіва многа знаходзіў таноў і адценняў. Гэтым ён і славіцца. Гэтым і непаўторны.

Пейзажы Ленінскіх Горак, ваколіцы дома Чайкоўскага ў Кліне, падмаскоўнае Абрамцава, Белае і Баранцава моры, Запаляр'е, пейзажы сярэдняй Расіі і Беларусі—у Бялыніцкага-Бірулі гэта не проста адлюстраванне ўбачанага, а тонкі адбор самага прыгожага, шчырае прызнанне ў любві да Айчыны, выяўленне сваіх пачуццяў, гэткіх жа глыбокіх, як у лірычнай паэзіі. Іменна таму і прыгадваеш яго пейзажы заўсёды, калі сутыкаешся сам-насам з прыродай, з яе жыццём, такім простым па сваёй сутнасці і такім складаным, калі на гэтае жыццё глядзіць мастак.

Бялыніцкі-Біруля вучыць нас бачыць свет па-новаму. Ён паэтызуе і сум асенняга дня, і пачатак палярнай зімы, і задумлівую восень у Беларусі, і квітненне калужніцы, і дрымоту лясоў...

Мастацтва Бялыніцкага-Бірулі радаснае па самой сваёй сутнасці, нягледзячы на тое, што ў яго палотнах ёсць матывы смутку. Але смутак гэты светлы, можна нават сказаць — па-пушкінску светлы...

Вітольд Каэтанавіч Бялыніцкі-Біруля — народны мастак РСФСР і БССР. Ён пражыў доўгае жыццё (1872—1957). Ён напісаў шмат палотнаў, якія складаюць славу рускага і беларускага жывапісу. Ён сапраўды жыў фарбамі прыроды, і хоць пісаў толькі яе, але гаварыў пра чалавека. Яму ўдалося расказаць пра чалавека вельмі многа, і перш за ўсё пра тыя тайнікі чалавечай душы, у якіх жыве самае запаветнае — любоў да Айчыны. Усю творчасць Бялыніцкага-Бірулі можна назваць гімнам роднаму краю, гімнам яго прыгажосці і веліччы. Той веліччы, якая выяўляецца ў гранічна сціплым абліччы. Якраз такім, як у беларускай вясне або як у позняй вясне ў Міхайлаўскім ці Трыгорскім, дзе мастак напісаў свае непаўторныя палотны.

У Беларускім дзяржаўным мастацкім музеі захоўваюцца многія творы Бялыніцкага-Бірулі. Яны складаюць гонар музея. Кожны, хто пазнаёміцца з імі, абавязкова некалі прыгадае іх, сустрэўшы ў прыродзе тое, пра што апавядае мастак...

**Уладзімір БОЙКА.**



ездцы па Беларусі, Украіне і РСФСР Юліус Фучык. 10 лістапада 1934 года ён пісаў у Прагу, што паслаў у рэдакцыю «Рудэ права» свой артыкул «Негарэлае чакае дэлегацыю», а праз 20 дзён у тым жа Негарэлым зазначае:

«Я праводзіў дэлегатаў да граніцы, чакаем яшчэ, калі ад'едзе іх састаў. Іграе музыка, а хлопцы сумныя — прыйшоў час развітвацца... У нас была цудоўная паездка...»

У жніўні 1938 года Беларусь наведала апошняя перад вайной група турыстаў, у складзе якой быў пісьменнік Турэк Сватаплук, аўтар вядомага рамана «Батастрой». Уражанні аб паездцы Т. Сватаплук апублікаваў неўзабаве ў часопісе «Прага—Масква» (артыкул называўся «Мінск—Ленінград—Масква—Кіеў»).

«...Вечар. Мы бачым агні заводаў, вуліц, горада: перад намі — Мінск. Нас чакаюць аўтобусы. Праз густы натоўп жыхароў памалу прадзіраемся да гасцініцы. Людзей на вуліцах многа, ходзяць пад руку па двое, па трое. Чуваць смех, гаворка, бліснуць нечыя вочы, нехта з нас махне хусткай, незнаёмыя адказваюць... Гасцініца. Мы праходзім у сталовую — людзей поўна, але многа і страў. Усе заняты вячэрай, усе завіхаюцца над талеркамі, гультаёў тут няма. Адзін з нас кідае жартам:

— Што я бачу? Ды яны, гэтыя людзі, сапраўды ядуць! Ці магчыма такое? Не, гэта пераходзіць усялякія межы! Вы зірніце — сапраўдная смажаніна, гарачая, румяная, смачная... Не-ве-ра-год-на!

Мы ўпершыню шчыра, ад душы смяёмся. Добра жывуць! А яшчэ некалькі год назад і хлеба добрага не было. Сёння прапануюць два і тры гатункі хлеба, а да чаю — апетытныя булачкі. Мяса, рыба — кожнаму паводле густу.

Знайшліся недаверлівыя, пабрылі па вуліцах шукаць галечу. Але не знайшлі... Праўда, недзе заўважылі на вуліцы каня — запісалі. Вітрыны запылены — занатавалі. Калі ж хлапчуку прапанавалі грыўню, а ён кінуў манету пад ногі, падняліся сапраўдныя дэбаты. Некаторым такое выхаванне не спадабалася, але мы былі рады. Вышэй галаву, дзеці, вам ужо не трэба жабраваць!

Вітрыны, сапраўды, невясёлыя, дамы пераважна старыя, драўляныя — але за імі растуць новабудоўлі будучага Мінска. План заўтрашняга дня змяце ўсю гэтую царскую старызну, пашырыць вуліцы. На ўзгорку праз рыштаванні праглядвае будучая опера, узнімаюцца Дом саветаў, адміністрацыйныя будынкі, бібліятэка з некалькімі мільёнамі кніг, Палац піянераў, Дом Чырвонай Арміі, жылыя дамы.

За півам (яно тут слабае, пяціградуснае) заводзім размову з людзьмі.

— А як з беспрацоўем?

У адказ — смех.

— Працы ўдвая больш, чым тут нас усіх,— тлумачаць нам.

...А як цікавіліся ўжо тады, у жніўні, нашым лёсам! «Мы ўсе прыйдзем вам на дапамогу»,— гаварылі нам. Звесткі пра нас ішлі нарасхват і ўжо тады расцэньваліся там значна больш сур'ёзна, чым намі самімі. Мы нават добра не разумелі іх заклапочанасці. Яны баяліся за нас больш, чым мы самі за сябе...»

Час сапраўды быў грозны. Фашысцкая Германія дамагалася ліквідацыі Чэхаславакіі як дзяржавы. Калі друкаваўся артыкул Т. Сватаплука, ужо было вядома, што заключана ганебная Мюнхенская змова. Адзінай дзяржавай, якая не прызнала здрадніцкага Мюнхенскага дагавору і заявіла аб сваёй рашучасці аказаць ваенную дапамогу Чэхаславакіі, быў Савецкі Саюз.

У Беларусі, пагранічнай рэспубліцы, больш як дзе, адчувалася ў тыя дні атмасфера гатоўнасці. Было ўведзена зацямненне ў гарадах і сёлах, на граніцы канцэнтраваліся войскі. Але буржуазныя лідэры насуперак волі народа не прынялі дапамогі СССР. Пачалася адна з самых змрочных і трагічных старонак у гісторыі Чэхаславакіі.

У 1942 годзе, у самы разгар Вялікай Айчыннай вайны, фашысты пагналі на ўсходні фронт славацкіх салдат. Два палкі былі размешчаны на Беларусі. Гітлераўцы разлічвалі, што славацкія салдаты здабудуць для іх перамогу над беларускімі партызанамі.

Але тут, у нашай краіне, славакі пазнаёміліся з савецкімі людзьмі, з іх бытам, і праўда нашага жыцця, праўда савецкага ладу перамагла. Славацкія салдаты павярнулі зброю і сталі ў шэрагі змагароў за свабоду.

Пасля вайны адзін з гэтых салдат — Караль Тамашчык — напісаў кнігу «На добрым шляху», дзе праўдзіва паказаў роздум сваіх аднапалчан, іх адносіны да нашых людзей, нашых парадкаў.

«Камандзір узвода прывёў нас да мясцовай школы, што стаяла на ўскраіне вёскі, блізка з лесам. Шыбы ў вокнах былі амаль усе выбіты, у праёме расчыненых дзвярэй звісала аж да зямлі старое павуцінне. На падлозе тоўсты пласт пылу, ім пакрыты і школьныя парты... У кутку на ўзвышэнні стаіць трохногая дошка, гэткая ж самая, як і ў нашай школе.

Мяне ўключылі ў лік тых, хто павінен здабыць шкло. Але дзе ты яго здабудзеш? Крамы, дзе можна было б купіць шкло, няма, а дзе знайсці такі шырокі ліст...

Я ўбачыў вялікі будынак, у якім толькі з аднаго боку было трое дзвярэй — клуб...

Увайшлі ў памяшканне. Першы пакой светла пабелены, прасторны,— відаць, вестыбюль — дзе-нідзе на сцяне павісла зламаная вешалка. І другія пакоі такія ж прасторныя. А ў самым вялікім з іх на падлозе ляжаць параскіданыя разбітыя крэслы.

— Кіназала,— азваўся пасля доўгага маўчання мой праваднік.— Бярыце шкло, вы ж прыйшлі па яго!

— Мяне ўжо шкло цікавіць меней. Я хацеў бы ведаць, што гэта быў за клуб?

— Ну які ж, рабочы.

— Гм... Рабочы. Значыць, рабочыя ў вас мелі клубы?

— А ў вас хіба няма?

— У нас ёсць не толькі клубы, але і кафэ, і бары, але — для паноў. Там яны гуляюць у карты.

Мы перайшлі ў крыху меншы пакой — тут была сталоўка для рабочых.

— Дык, значыцца, у вас тут былі рабочыя клубы, кіно, сталоўкі, кухні? А ў нас, калі на заводзе падыходзіў час абеду, то кожны стараўся зашыцца ў куток, каб сусед не бачыў, што ў цябе на талерцы, бо сорамна было за сваю нішчымніцу.

— Не, а ў нас — не так. Усе сядзелі за адным сталом.

Мы зайшлі аж на гарышча, дзе было звалена ў кучу многа кніг, пакрытых тоўстым пластам пылу і сажы... Мы выцягваем знізу па адной кнізе і перш-наперш аглядаем тытульную старонку — назву кнігі і прозвішча пісьменніка.

Руткаі паказвае мне адну з кніг:

— Глядзі, рускі рабочы мог на сваёй мове прачытаць кнігу нямецкага пісьменніка, гэтак жа як рускага ці французскага. Ого! А ў нас чыталі кнігі, хаваючыся...

Мы выбралі па некалькі томікаў і, засунуўшы іх пад мундзір, каб ніхто не бачыў, выйшлі...»

Сур'ёзнай школай для славакаў і чэхаў было іх знаходжанне ў партызанскіх атрадах, агульная барацьба з фашыстамі. Спадала з вачэй апошняя заслона. Перайшоўшы да партызан, Андрэй Сакса заявіў:

«Нам немцы ўвесь час гаварылі, што партызаны — гэта дзікія, адсталыя людзі, бандыты. А што мы бачым на самай справе? Тут, у лесе, цвет савецкай моладзі! Тут многа спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй: юрысты, урачы, настаўнікі, людзі іншых прафесій. Гэта патрыёты сваёй вялікай Радзімы. Яны змагаюцца за сваё вызваленне ад фашысцкага рабства, яны змагаюцца за нас».

І нараджалася цвёрдае імкненне зрабіць у сябе, у Чэхаславакіі, гэткі ж лад, як на Беларусі.

І вось прыйшоў жаданы час свабоды. Адным з першых вітаў вызваленне Мінска Здэнек Няедлы. 4 ліпеня 1944 г. у «Известиях» былі надрукаваны яго палымяныя словы:

«Браты-беларусы! Ваша дарагая радзіма — Савецкая Беларусь — ужо не будзе пакутаваць ад жахлівых зверстваў праклятых гітлераўцаў. Зноў вольна ўздыхнулі вашы гарады і вёскі, вашы палі і лясы...»

А праз год вызвалены Мінск прымаў першую пасля вайны чэхаславацкую дэлегацыю. Горад быў разбураны, не было ўмоў не толькі для дыпламатычных прыёмаў, але і для элементарнага жыцця-быцця. Удзельніца дэлегацыі Бажэна Ежкава ўспамінае тую першую сустрэчу з беларускімі людзьмі з вялікай цеплынёй і любоўю:

«13 лістапада 1945 года сямёра чэхаславакаў селі ў самалёт і падвечар прызямліліся ў Мінску. Ужо тое, што мы ўбачылі з самалёта, глыбока ўразіла нас: замест дамоў — руіны, замест шырокіх ніў — варонкі ад бомб. Толькі цяпер я поўнасцю ўсведаміла, якой колькасцю ахвяр вымушан быў савецкі народ заплаціць за сваю свабоду! У думках я задава-

ла сабе пытанне: «Якімі ж будуць тыя людзі, што зараз сустрэнуцца са мной? Напэўна, будуць бедаваць, скардзіцца на спусташэнне краіны...»

Паездка па горадзе была вельмі сумная — Мінск быў на 80 працэнтаў знішчаны. Членаў дэлегацыі падвезлі да драўлянага доміка, дзе нас прывіталі гаспадары, якія наварылі і напяклі, што было найлепшага. Спаць мяне палажылі на печ, астатніх размясцілі ў суседнім пакоі, далі ім пярыны. А раніцай мы даведаліся, што нашы гаспадары спалі... у зямлянцы.

Калі ж мы ад'язджалі, гаспадары яшчэ апраўдваліся, што не маглі прадаставіць нам больш зручнае жыллё:

— Фашысты ў нас забралі ўсё.

— О, не, яны не маглі забраць у вас самага каштоўнага,— адказаў адзін з нашых дэлегатаў,— вашага добрага сэрца».

Потым мы прымалі многа дэлегацый. Многа прыязджае да нас гасцей з братняй сацыялістычнай Чэхаславакіі. Адзін з іх — карэспандэнт чэхаславацкага радыё Іржы Брунэр — наведаў Беларусь праз дзесяць год пасля Б. Ежкавай. Толькі дзесяць год! Але як змяніўся наш край! Вось якім ён паўстаў перад вачамі чэшскага журналіста:

«Летам я быў у Мінску — сталіцы Беларусі. Горад робіць незабыўнае ўражанне. Шырокія вуліцы абсаджаны мноствам дрэў, упрыгожаны клумбамі кветак, але, праходзячы па гэтых вуліцах, ні на хвіліну нельга забыць, што ў часе вайны з кожных пяці дамоў чатыры былі ператвораны ў кучу руін і абломкаў. Цяпер горад так змяніўся і стаў такі прыгожы, што даваенныя фатаграфіі Мінска здаюцца відамі правінцыяльнага гарадка».

Змяніліся і нашы вёскі, нашы калгасы. І гледзячы на руплівую працу савецкіх людзей, чэшскі друг бачыць у ёй сімвал новых поспехаў, новых перамог:

«Пачаўся звычайны дзень, вакол усё самае звычайнае — такое, як па ўсёй Беларусі. І я гляджу на наваколле, што распасціраецца ў праменнях ранішняга сонца, гляджу і не магу адвесці вачэй. Тут былі руіны. Тут квітнее калгас. І хоць я, іншаземец, яшчэ не ўяўляю, што іменна тут будзе заўтра, я ведаю, якім будзе гэтае заўтра!»

**Алесь МАЖЭЙКА.**






# АБ ПРАБЛЕМАХ НАДЗЁННЫХ

**Н. ПАШКЕВІЧ. «На шырокіх шляхах жыцця». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1966**

Леташні літаратурны год быў багаты на крытыку: выйшла каля дзесяці крытычных кніг, і сярод іх — зборнік артыкулаў Нічыпара Пашкевіча «На шырокіх шляхах жыцця».

Дагэтуль яшчэ раз-пораз успыхвае дыскусія на тэму: каму павінна быць адрасавана крытыка, да каго яна звяртаецца перш за ўсё — да пісьменніка ці да чытача. Адны непарушна стаяць на тым, што адзіная задача крытыкі — актыўна ўздзейнічаць на літаратурны працэс, па меры сваіх сіл і здольнасцей памагаць пісьменніку. Другія, наадварот, прызнаюць за ёю толькі папулярызатарскія, прапагандысцкія функцыі.

Зборнік Н. Пашкевіча «На шырокіх шляхах жыцця» адрасаван і пісьменніку і чытачу. У зборніку шырока пастаўлена мноства спецыфічна літаратурных праблем, але пастаўлена так, што і чытач не застанецца абыякавым да роздуму крытыка, да яго меркаванняў пра той ці іншы мастацкі твор. Н. Пашкевіч як бы запрашае чытача задумацца разам з ім над тым, што хвалюе сучасную літаратуру, ён выхоўвае чытача высокім узроўнем сваіх патрабаванняў да літаратуры, умельствам строга і зацікаўлена аналізаваць яе здабыткі.

У цэнтры кнігі «На шырокіх шляхах жыцця» — раман наогул і раман пра вайну ў прыватнасці. Крытык вельмі падрабязна, нават скрупулёзна разглядае раманы Міхася Лынькова, Аляксея Кулакоўскага, Івана Шамякіна, Алеся Адамовіча, Уладзіміра Карпава, Івана Навуменкі, Міколы Ткачова. Ён зусім слушна адзначае: «Плённае развіццё ў пасляваенны час беларускага рамана, прычым пераважна тых яго разнавіднасцей, якія прынята абазначаць паняццямі сацыяльна-гістарычны, гісторыка-рэвалюцыйны, сацыяльна-псіхалагічны».

Гэты ўздым рамана як найбольш сінтэтычнай і ўсебаковай формы асэнсавання рэчаіснасці даследчык ставіць у прамую залежнасць ад росту духоўнага жыцця народа, яго ўзмужнеласці і прагі самапазнання. «Рэвалюцыйная, вызваленчая вайна заўсёды рухае грамадства наперад, падрыхтоўвае новыя працэсы і з'явы... выклікае да дзеяння ўсе інтэлектуальныя сілы народа»,— піша Н. Пашкевіч, каб пазней, усім ходам свайго аналізу, высветліць, наколькі адпавядае сучасны беларускі раман ідэйным, духоўным крытэрыям часу.

Н. Пашкевіч высока ацэньвае нашы лепшыя «ваенныя» раманы за тое, што яны далі ўвогуле праўдзівую карціну жыцця народа ў выпрабаваннях, у барацьбе. Ён падкрэслівае і такую немалаважную акалічнасць, што большасць гэтых раманаў пісалася па гарачых слядах падзей, што аўтары іх былі непасрэднымі ўдзель-

нікамі ўсенароднай вайны з фашызмам і здолелі захаваць у сваіх кнігах драматычнае напружанне перажытага разам з народам.

Крытык знаходзіць трапныя, дакладныя словы, расказваючы пра тое, як рэалізавалася «народная думка» ў рамане-эпапеі М. Лынькова «Векапомныя дні». Ён пераканаўча даводзіць, што з «Глыбокай плынню» І. Шамякіна «ў беларускую прозу аб днях акупацыі прыйшла жывая атмасфера падзей, людскіх настрояў і хваляванняў». Сцвярджаючы, што «наш народ выстаяў у вайне не толькі сілай гераізму і мужнасці, але і «энергіяй» узаемнай цеплыні, дабраты і спагадлівасці», крытык іменна з гэтага пункту гледжання разглядае дылогію А. Кулакоўскага «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях».

Карацей, Н. Пашкевіч падыходзіць да нашых «ваенных» раманаў з шырокім жыццёвым маштабам **праўды** ў яе **гістарычным** разуменні і адпаведнасцю гэтай праўдзе вымярае рэальныя вартасці кожнага рамана паасобку.

Але праўда мастацкага твора — і крытык гэта добра разумее — залежыць не толькі ад таго, наколькі глыбока ўспрыняў пісьменнік тую ці іншую жыццёвую з'яву, але і ад таго, у якой ступені яму ўдалося надаць гэтай з'яве паўнакроўнае, вобразнае, «чалавеказнаўчае» быццё. І асабліва ў рамане, дзе значнасць і шырыня задумы павінны быць узгоднены з унутранымі заканамернасцямі жанру, з самой прыродай вялікай эпічнай формы.

Магчыма, як ніхто іншы з крытыкаў, Н. Пашкевіч актыўна выступае супраць «дэвальвацыі», супраць абясцэньвання раманных каштоўнасцей. Не стамляючыся, яшчэ і яшчэ раз ён стараецца выклікаць у пісьменніка-раманіста ўсведамленні высокай адказнасці перад веліччу жанру, перад яго традыцыямі.

Няўмельства пісьменніка злучыць прыватнае жыццё героя з глыбінным ходам гісторыі, «адсутнасць сапраўднай эпічнасці» і «самастойнай мастацкай ідэі», «рытарычная неакрэсленасць тэмы» — вось тыя недахопы многіх з нашых раманаў, якія часцей за ўсё адзначае ў сваіх артыкулах Н. Пашкевіч.

Гаворачы пра раман М. Ткачова «Згуртаванасць», крытык робіць такую — вельмі істотную — заўвагу: героі рамана «па-сапраўднаму не ажываюць, бо ім нестае ўнутранага агню, таго яркага «прыватнага», па-за якім у мастацтве не існуе і яркага «агульнага». Гэтую думку крытык падкрэслівае яшчэ раз, разглядаючы раман У. Карпава «Нямігі крывавыя берагі». У гэтым творы часта бярэ ўладу рацыяналізм тых штучных вобразаў гераічнага плана, у якіх чытачу па чарзе падаюць амаль у чыстым выглядзе «грамадскае», «вернасць абавязку», а потым «асабістае», «інтымнае», якое чалавеку трэба пераступіць, каб застацца «героем».

Крытык трымаецца таго адзіна плённага погляду на мастацтва наогул і на раман у прыватнасці, які вымагае дыялектычнага спалучэння гісторыі і чалавека, асобы і масы. Каб стаць праўдзівай і дзейснай ў эстэтычных адносінах, гістарычная падзея мусіць пракласці сабе рэчышча ў кожным прыватным лёсе, — даводзіць крытык, — і праз гэты лёс праявіць сваю сапраўдную сутнасць. Ён аднолькава не прымае і штучнага ўзвелічэння «агульнага» за кошт «асабістага», і залішняй «інтымізацыі» гістарычных з'яў. Як адно, так і другое азначае для крытыка разбурэнне раманнай канцэпцыі, здрабненне эпічнай карціны.

Н. Пашкевіч знаходзіць шмат цікавага і павучальнага ў дылогіі А. Кулакоўскага, але разам з тым ён тонка і пераканаўча раскрывае слабасці гэтых двух раманаў іменна як раманаў, як твораў эпічных. «Нястрымны паток неістотнасцей, думаецца мне, — піша крытык, — тлумачыцца тым, што пісьменнік не знайшоў адпаведнай жанру рамана аб'ёмнасці і вышыні бачання жыцця». Але што канкрэтна азначае гэта «аб'ёмнасць і вышыня бачання?» Здатнасць і ахвота герояў гучна дэкламаваць аб высокіх матэрыях? Не, гаворыць крытык, яны азначаюць умельства пісьменніка даваць адзінства характару і сюжэта. Каб за тым, што думаюць, што робяць героі, адкрывалася далечыня гісторыі, яе прасторы. Каб «скалістыя берагі жыццёвай ракі» звязвала не «кволенькая кладачка» выпадковасцей (так, прынамсі, здарылася ў Кулакоўскага, лічыць крытык), а арганічная ўзаемасувязь «вялікага» з «малым», чалавека і падзей.

Шчыры прыхільнік гераічнай тэмы і гераічных характараў у нашай літаратуры, Н. Пашкевіч не прымае псеўдагераізму некаторых нашых кніг, дзе «верагоднасць адступае пад націскам пафасу». Ухваляючы жаданне пісьменніка паспець за імклівым днём, крытык не збіраецца ставіць вышэйшы бал раману толькі за тое, што ён актуальны па тэме. «Пяро раманіста, — піша крытык пра раман У. Карпава «Вясеннія ліўні», — на шмат якіх старонках падмяняецца пяром нарысіста, а ў выніку дзеянне, якому належыць у мастацкім творы рухацца сілай чалавечых узаемаадносін, змяняецца апісальнасцю, белетрызацыяй падзей».

Сучаснага пафасу і гучання Н. Пашкевіч патрабуе не толькі ад рамана, прысвечанага нашым дням, але і ад рамана, які малюе вайну. Ён адзначае пэўныя змены ў самім падыходзе да вайны, характэрныя для сучаснага рамана: «Вопыт мінулага цясней змыкаецца з палітычнымі і маральнымі праблемамі сённяшняга дня». У артыкуле пра раман «Вайна пад стрэхамі» А. Адамовіча (дарэчы, гэта адзін з лепшых артыкулаў кнігі) ён хваліць маладога пісьменніка за тое, што тут мы «ясна і выразна адчуваем па-грамадзянску актыўную ідэйную пазіцыю, вытокі якой — у ідэалагічнай атмасферы сучаснасці».

Не раз і не два, а на працягу ўсёй сваёй кнігі Н. Пашкевіч сцвярджае, што фактам мастацтва ніколі не стануць нават самыя важныя ідэі, калі яны «не набылі мастацкай формы існавання, не ўвасобіліся ў сюжэт і вобразы». Тым больш здзіўляе, што, дэталёва разабраўшы надзвычай сур'ёзныя хібы аднаго з нашых «ваенных» раманаў, крытык нечакана робіць вывад, што і ён захоўвае сваё значэнне «і для сённяшняга чытача», бо ў ім, у гэтым рамане, ёсць «яснае разуменне пісьменнікам сутнасці падзей». Яўная і відавочная непаслядоўнасць!

Дваістасць ацэнак заўважаецца і ў іншых мясцінах, але яна не зніжае агульнага ўражання ад кнігі, зборніка ў цэлым, прасякнута адзінай думкай і страсцю, адзіным клопатам пра тое, каб няспынна ўзнімаўся ўзровень беларускага рамана. І ў гэтым — значэнне таленавіта, жыва, доказна напісанай кнігі Н. Пашкевіча «На шырокіх шляхах жыцця», якая, бясспрэчна, належыць да лепшых крытычных прац апошняга часу.

**Рыгор БЯРОЗКІН.**

## Кнігарня „Маладосць"



Усе, хто цікавіцца гісторыяй і геаграфіяй Беларусі, з прыемнасцю пазнаёмяцца з кнігай **В. А. КРУТАЛЕВІЧА «АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЯ БУДОВА БССР»**, выпушчанай выдавецтвам «Навука і тэхніка» (1966). Аўтар сабраў багаты матэрыял пра дарэвалюцыйны адміністрацыйны падзел Беларусі, пра тыя новыя формы падзелу, што былі ўведзены ў 1924—1929 гадах, а таксама пра адміністрацыйна-тэрытарыяльныя змены пазнейшых год. У кнізе даюцца звесткі пра плошчы тэрыторыі абласцей, колькасць насельніцтва раёнаў, сельсаветаў і іншае. Гэта першы ў Беларусі даведнік па тэрытарыяльнай будове Беларусі з дакастрычніцкага часу да нашых дзён.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла хрэстаматыйны зборнік **«БЕЛАРУСКАЯ ДАКАСТРЫЧНІЦКАЯ ПРОЗА»**. Такі зборнік выдаецца ўпершыню. У ім прадстаўлены творы 47 аўтараў. Побач з апавяданнямі Я. Коласа, Ф. Багушэвіча, Цёткі, М. Багдановіча, З. Бядулі, Ц. Гартнага, Ядвігіна Ш., Я. Журбы, М. Гарэцкага, У. Галубка, К. Каганца, А. Гурло, К. Буйлы пададзены творы мала вядомых або зусім невядомых аўтараў. Пераважная большасць апавяданняў друкуецца па дакастрычніцкіх і першых паслякастрычніцкіх публікацыях у перыядычным друку.

У канцы зборніка пададзены біяграфічныя звесткі пра аўтараў, раскрыты некаторыя псеўданімы. Склаў зборнік **В. В. БАРЫСЕНКА.**






Новая аповесць **Рыгора НЯХАЯ «САРОЧЫ ЛЕС»** («Беларусь», 1966) пра першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, пра мужнасць, самаахвярнасць і гераізм савецкіх воінаў, пра рашучасць да апошняй кроплі крыві адстойваць сваю Радзіму.




Братняй дружбе беларускага і польскага народаў, якая складалася вякамі, прысвечана кніга **В. С. ТАЛСТОГА «БРАЦКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСКАГА І ПОЛЬСКАГА НАРОДАЎ. 1944—1964 гг.»** («Навука і тэхніка», 1966).

У кнізе асвятляюцца розныя формы супрацоўніцтва паміж БССР і ПНР: у галіне літаратуры і мастацтва, навукі і асветы, у галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі і інш.

Гэтая дружба, робіць слушны вывад аўтар, спрыяе прагрэсу і росквіту як беларускага, так і польскага народаў.




«Чалавек праліў рэкі поту, пракладаючы дарогу ў лепшую будучыню. Колькі было пошукаў, геніяльных адкрыццяў, няўдач і радасцей перш, чым чалавек знайшоў усё тое, што складае нашу сённяшнюю аўтаматычную лінію»,— так заканчвае **Віктар ГОВАР** сваю кнігу **«ЗАВОД ЗАВОДАЎ»**, выпушчаную нядаўна выдавецтвам «Беларусь» (1965).

У ёй расказваецца, як інжынеры-канструктары Мінскага завода аўтаматычных ліній стварылі аўтаматычныя лініі для апрацоўкі дэталей.




Бібліятэкі атэістаў папоўніліся новай кнігай **Кузьмы ХРОМЧАНКІ «ЗА ШЧАСЦЕ ЗЯМНОЕ»**, выпушчанай у свет выдавецтвам «Беларусь» (1966). Аўтар на шматлікім фактычным матэрыяле прасочвае, як беларуская мастацкая літаратура ад старажытных часоў да нашых дзён крытычна ставілася да рэлігіі і царквы, як яна атэістычна выхоўвае беларускі народ на працягу ўсёй яго гісторыі. К. Хромчанка спыняецца на канкрэтных творах мастакоў беларускага слова.




Упершыню на рускай мове з'явілася кніга, у якой так шырока прадстаўлена беларуская сатырычная проза. Маецца на ўвазе кніга **«БЕЛАРУСКІ ГУМАР»**, якая выйшла ў свет у выдавецтве «Беларусь» (1965). Тут шмат беларускіх народных жартаў, гумарэсак, анекдотаў. Аднак асноўны змест яе складаюць гумарыстычныя апавяданні беларускіх пісьменнікаў: Я. Коласа, К. Крапівы, К. Чорнага, З. Бядулі, М. Лынькова, Я. Брыля, М. Лужаніна і іншых.

Складальнік кнігі — **Павел КАВАЛЁЎ.**




Выдавецтва «Полымя» выпусціла ў свет зборнік **«БЕЛАРУСКІЯ СТРАВЫ»** (1966). У кнізе даюцца рэцэптуры звыш чым двухсот нацыянальных страў і кулінарных вырабаў. Аўтары даюць таксама парады, чым замяніць той ці іншы прадукт, калі яго няма пад рукамі.

У кнізе некалькі раздзелаў: «Халодныя стравы», «Супы», «Стравы з бульбы, гародніны і грыбоў», «Рыбныя і мясныя стравы», «Мучныя, крупяныя, яечныя стравы», «Салодкія стравы» «Піражкі, булачныя і кандытарскія вырабы».

Кніга «Беларускія стравы» стане добрым дарадцам не толькі кулінараў, але і хатніх гаспадынь.




Кніга **Г. Н. КЛЮСАВА** і **А. Л. ЮРЭВІЧА «СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПУНКТУАЦЫЯ»** («Вышэйшая школа», 1966), выдадзеная ў якасці дапаможніка для студэнтаў, будзе з задавальненнем сустрэта і настаўнікамі, і вучнямі старэйшых класаў, і журналістамі, і пісьменнікамі — усімі, хто дбае пра культуру роднай мовы.

# ТАПОЛЯ

Спакойны дзядок звычайна любіў гуляць каля Літаратурнага музея Янкі Купалы. Сядзе на лаўку і ўважліва разглядае прыгожую будыніну. Увесь сквер для яго можа не існаваць, а гэты куток, дзе стаіць будыніна купалавага музея і расце таполя, асабліва прыцягваў яго ўвагу. Ды і ў музей ён заходзіў не як наведвальнік, а як сусед. Увойдзе, ціха павітаецца: «Дзень добры» і будзе доўга разглядаць кнігі ў шафах, карціны на сценах і асабліва навінкі, якіх у музей паступала ў тыя гады нямала.

Мяне зацікавіў гэты чалавек, і аднойчы мы разгаварыліся.

— Вы так пільна аглядаеце наш музей і ў скверык часта наведваецеся... Мусіць, вам гэта нешта напамінае?

— Напамінае,— проста адказаў стары.— Вось там,— паказаў ён у акно,—стаяў да вайны драўляны дом. Ён належаў, здаецца, нейкаму ўрачу. Гэта быў добры і працавіты чалавек. Купалава сям'я і жыла спачатку разам з іхняй.

Мы выйшлі на двор. Я адчуваў, што старога цягнула туды, дзе некалі яму было ўсё знаёма.

— Ведаеце, калі я прыходжу сюды, дык, здаецца, бачу і двор, і сад у квецені, і сцежкі, пасыпаныя пяском. І здаецца, вось выйдзе Купала і запросіць: «Заходзьце, заходзьце, добрыя людзі!»

Мы падышлі да старой таполі, абгароджанай тонкімі штакецінамі.

— Любіў некалі Купала гэтае дрэва. Сядзе, бывала, і маўчыць. Ці то слухае, як дрэва шуміць, ці думае нейкую думку... У Івана Дамінікавіча дзень пры дні была процьма людзей. Яны з жонкай усіх запрашалі да сябе — гасцінны характар мелі. Збярэцца шумлівая грамада і зноў жа сюды, на лаўку, да таполі...



**Так выглядала таполя ў 1944 годзе, адразу пасля вызвалення Мінска.**

З фондаў Літаратурнага музея Янкі Купалы

**Рупліва дагледжаны быў двор перад домам, дзе жыў перад вайной Янка Купала.**



Добры, душэўны чалавек быў Купала.

Прыпамінаецца мне і той страшны момант, калі паэт са сваім селішчам развітваўся. Пацалаваўшы старэнькую маці, ён падышоў да таполі, пагладзіў яе шурпаты ствол і, нагнуўшыся, узяў з-пад яе жменьку зямлі... Маці паглядзела яму ўслед, потым спакойна зачыніла брамку і, падышоўшы да таполі, дакранулася да яе рукой...

А далей жа ўсе ведаюць. — Дзядок уздыхнуў, глянуў на мяне і, калі ўбачыў, што я ўважліва слухаю яго, дадаў: — Нашы адыходзілі з Мінска, дык на месцы купалавай хаты была груда попелу ды сіратліва глядзела на свет абпаленая таполя...

А ў вайну... Не дзівіцеся, дзеткі, наша вуліца ўся была за Купалу. Яна не давала ў крыўду нават яго папялішча. Каля таполі фашысты пабудавалі прыбіральню, а раніцай яе не стала. За ноч разнеслі па дошцы. І чырвоны агеньчык вазона быў укапаны каля магутных карэнняў старога дрэва. Удзень нямецкі яфрэйтар патаўчэ вазоны і смеццем закідае, а раніцай усё роўна кветкі стаяць каля таполі і нечая гаспадарская рука прыбрала ўвесь друз. Старыя аўстрыякі з гаспадарчай каманды, якая размяшчалася побач з купалавым селішчам, толькі спачувальна пасмейваліся самі сабе з гэтай чалавечай настойлівасці.

Фашысты пачалі звальняць вольнанаёмных, што працавалі ў гаспадарчай камандзе, не пускалі на тэрыторыю часці нікога з цывільных. Ставілі варту ля брамы і ў сярэдзіне двара. І ўсё роўна кветкі кожны дзень красаваліся ля таполі.

Аднойчы ў гаспадарчай камандзе з'явіўся афіцэр у зялёным мундзіры з рудымі абшлагамі. Усе зразумелі, што гаспадарчай камандай зацікавілася гестапа. Ён загадаў спілаваць таполю. Аўстрыякі патапталіся каля дрэва, параіліся ды і кажуць афіцэру: дрэва, маўляў, старое, спарахнелае, яно і само скора паваліцца. Так што не варта на яго траціць сілу і час... Так і засталася стаяць старая таполя. І каля яе кожную ноч, як з-пад зямлі, вырасталі кветкі.

Гестапавец зноў прыйшоў у гаспадарчую каманду. Аўстрыякаў пастроілі асобна. Пасварыліся на іх і адпусцілі. Жменьку вольнанаёмных асобна выстраілі. Я таксама недзе ў другім радзе прытуліўся разам з іншымі сталярамі, што латалі скрыні і павозкі. У руцэ афіцэр трымаў гумовы стэк і кожнаму з нас тыцкаў ім у грудзі: «Ты носіш кветкі!? Ты? Ты?» Усе адмаўляліся. І толькі старая Тэкля, на якую было падазрэнне, спачатку маўчала, потым, узлаваўшыся, сказала: «Ужо і кветкі нельга ўторкнуць у зямлю!» Гестапавец падскочыў да Тэклі і сlatanуў яе стэкам па твары. Яна стаяла, як укапаная. Па шчацэ цякла кроў. Гестапаўцы кінуліся да тых драўляных дамоў, што стаялі каля рэчкі. Яны шнырылі па кватэрах нашых людзей аж да самых прыцемак. А пасля кожнага пятага ўзялі заложнікам. Тэклю таксама кінулі ў турэмны засценак. Каб язык не распускала і за кветкамі марна не бавіла час, як павучаў яе афіцэр. А раніцай ля купалавай таполі зноў раслі кветкі.

— Вось як яно было, дзеткі, — уздыхнуў стары. — Мне здаецца, што дрэвы, як і людзі ў нашым горадзе, таксама шматпакутныя.

Тое, пра што расказаў стары, вельмі зацікавіла мяне. І праз нейкі час я знайшоў старую Тэклю. Жанчына нямала адседзела ў турме за тое, што разам з іншымі суседзямі праз аўстрыякаў штодня клала кветкі ля купалавай таполі. Яна выратоўвала ваеннапалонных, партызан і падпольшчыкаў. У яе хаце збіраліся часам савецкія патрыёты і спявалі купалавы вершы на матыў народных песень. А калі немцы пыталіся, што тут робіцца, ім адказвалі: «Молімся богу». Да яе заходзілі аўстрыякі. Яны часам папярэджвалі пра гестапаўскія аблавы.

Вось так людзі і жылі, так і ратаваліся ад фашысцкай нечысці.

Старая таполя перажыла вайну, але цяпер ужо няма яе на паэтавай сядзібе. Усхадзілася аднойчы бура і паваліла старое дрэва. Купалавы сябры зрэзалі яго маладыя парасткі і паадвозілі ў Маладзечна, на Случчыну, Любаншчыну, у Цімкавічы. Адразу пасля вайны, калі дрэва яшчэ стаяла, Уладзіслава Францаўна, жонка паэта, таксама зрэзала тонкі дубчык і ўторкнула яго ў зямлю, прыгаворваючы:



— Наша таполя ўжо старая. Век яе скончыўся. Пажыла, пашумела, песень наспявалася ўволю. Пасля такой службы можна і адпачыць. Бяру яе моцны і працавіты атожылак, мо і ён будзе такі, як і яна.

Уладзіслава Францаўна клапатліва даглядала таполю. І цяпер маладое дрэўца весела шуміць на ветры.

**Алесь ЕСАКОЎ.**

# САМАЦВЕТЫ СЛОВА

Леў Талстой некалі гаварыў, што пісаць трэба так, каб «адкалупнуць хоць самы маленькі свежы кавалачак».

Справа гэта — нялёгкая, бо тая глыба жыцця, з якое «адкалупвае» свежы кавалачак кожны сапраўдны мастак,— агромністая, і трэба ведаць, як, з якога боку да яе падступіцца і якім іменна чынам «адкалупнуць», каб гэты кавалачак не пакрышыўся на драбязу, а быў цэлы і выяўляў сабою пароду ўсяе глыбы.

Гэтаму ўменню спрадвеку вучыць мастака народ, у вуснай паэтычнай творчасці якога дадзены найдасканалейшыя ўзоры апрацоўкі «адкалупнутых» кавалачкаў жыцця. Возьмем хоць бы прыказку.

Ужо з-за сціпласці сваёй мастацкай плошчы прыказка не можа дэталізаваць з'яву. Але нават няўзброеным вокам можна бачыць удзячную своеасаблівасць народнай прыказкі: з яе выцякае сама па сабе не толькі тэндэнцыя, ідэя, а і малюнак, поўны абразок са сваім жыццём, са сваімі падрабязнасцямі і дэталямі. У прыказках вельмі часта дзеянне не разгортваецца ў часе, бо тут «асядае», «ловіцца» словам нейкі адзін момант жыцця, нейкі лёдзьве прыкметны жэст, крупінка, але якраз тая, пра якую можна сказаць: «Маленькая, ды даражэнькая».

І што характэрна: кавалачак жыцця, «злоўлены» прыказкай, нібы свеціцца промнямі: яны якраз і асвятляюць тыя цэласныя з'явы і малюнкі, з якіх ён «выняты», трапна сказаным словам.

Пакуль што гэта гучыць як метафара, і тут, зразумела, трэба адгарнуць зборнік прыказак і нагадаць хоць бы такія з іх:

**Сіраце дакіпіць і ў жываце.**
**Сірочую галоўку дождж(ы)к памые.**
**Не спіцца багатаму ўночы.**
**Усяго і запасу, што між зубоў.**
**Ганчар у чарапку есці варыць.**

Што родніць сямейку гэтых прыказак?

Мусіць, правільна будзе сказаць, што блізкасць іх — у самім спосабе, якім яны здабываюць мастацкую праўду. Калі Гегель некалі зазначаў, што паэзія вольная ад поўнага ўвасаблення сваіх вобразаў у спецыяльны матэрыял, дык з гэтым можна пагадзіцца ў тым сэнсе, што прыказка — як паэтычны твор — заўсёды пакідае за межамі кантэксту паўнату рэальных форм быцця. З апошніх яна выбірае дэталь, нейкую іх структурную адзінку. Нягледзячы на гэта, у прыказках ёсць паўнай цэласнасці характары, ёсць пахі і колеры жыцця.

«Ганчар у чарапку есці варыць»,— здаецца, нешырокі захват жыцця ў гэтай прыказцы: яна бярэ ўсяго толькі адзін момант. Але ў тым яе і сіла, што праз гэты самы момант, нібы праз акно, бачыцца жыццё чалавека ў цэлым. Тут праглядваецца перспектыва, якая далёка адыходзіць ад слова прыказкі, ад яе кантэксту. Народную прыказку можна лёгка падоўжыць і разгарнуць у карціну, у завершаны эпізод з кампазіцыяй і канфліктам. Нездарма ў артыкуле «Каму ў каго вучыцца пісаць, сялянскім дзецям у нас, ці нам у сялянскіх дзяцей» Леў Талстой расказвае, як вучні Яснапалянскай школы пісалі нават цэлую аповесць на прымаўку: «Ложкой кормит, а стеблем глаз колет».

У літаратурна-лінгвістычных працах часам робіцца спроба разглядаць прыказку, як мадэль, дзе ў паменшаным выглядзе знойдуцца ледзь не ўсе драбніцы поўнага завершанага жыццёвага эпізода, факта, выпадку. Між тым, ці мэтазгодна гаварыць пра нейкую таямнічую канцэнтрацыю ў слове прыказкі разгорнутай з'явы, калі відавочна тут іншае: адбор дэталі, моманту, дзе з'ява не канцэнтруецца і не сціскаецца. Яе паўната ловіцца нашым уяўленнем, а не тэкстам твора. Так, напрыклад, у нагаданых прыказках «Сіраце дакіпіць і ў жываце», «Не спіцца багатаму ўночы» і інш. ёсць энергія адзінага моманту, далёка не суразмерная з энергіяй выкліканых ёю вобразных уяўленняў.

Пра вобразы народнай прыказкі можна сказаць: «Яны гавораць». І гавораць не толькі той мовай, што ўкладваецца ў звычайныя сілагізмы. Нярэдка мова іх — гэта мова партрэтаў, унутранага аблічча і жывых чалавечых канфліктаў. Гэта мова карцін, намаляваных словам. Прыказка здабывае іх праз асацыяцыі. Імен-на яны з'яўляюцца яе душою, яе нервамі. Праз іх яна зносіцца з жыццём з пэўнымі характарамі і тыпамі людзей.

У прыказцы вобразы счэплены, знітаваны так, што кожны з іх з'яўляецца фонам для другога; яны адзін аднаго высвечваюць і, калі можна так сказаць, нагаспадарску даглядаюць. Тут нельга ўтрымацца ад спакусы, каб не прывесці запісаны на Глушчыне вось хоць бы такі, на наш погляд, цікавы прыклад:

**Калі на галаве шапка скача, то за ім жонка плача.**

Перад намі — закончаны мастацкі вобраз, намаляваны ў некалькіх словах: мы яскрава бачым перад сабою партрэт заліхвацкага свістуна і гулякі.

Адкуль такая выразнасць?

Справа, вядома, не толькі ў інтанацыі, у рытме і рыфме прыказкі. Яны, безумоўна, актыўна дзейнічаюць, бо эмацыянальны змест слова ў прыгаданай прыказцы шмат у чым залежыць ад іх. Але не за імі апошняе слова.

Мы маем на ўвазе (выкарыстаем тэрмін кінамастакоў) «рух кадраў» прыказкі, «мантаж» яе вобразаў. Іменна на стыку апошніх слова прыказкі іскрыцца, прыказка здабывае тое, чаго не было ў кожным з яе двух сінтаксічных частак.

«Калі на галаве шапка скача» — першы «кадр» прыказкі. У ім яшчэ не відаць цэласнага партрэта. Ёсць толькі нейкая метка, адзін мазок, адна рыска. Сінтаксічная адзінка «то за ім жонка плача» нясе новы «кадр», новы вобраз. Яго вартасць у тым, што ён здольны актыўна ўзаемадзейнічаць з першым, уступаць з ім у рэакцыю, падсвечваць яго.

«Рука руку мые, нага нагу падпірае» — вось прынцып работы вобразаў прыказкі. Гаваркімі яны робяцца толькі ў пары. Толькі ў цесным кантакце могуць жыць мастацкім жыццём. І трэба бачыць, што іменна на стыку славесных вобразаў вырастае ўяўленне пра характар тыпа. Больш таго, тут на маю думку, нараджаецца ўзбуйненая мастацкая адзінка — больш акруглены, у пэўным сэнсе больш завершаны сатырычны вобраз самахвала.

Рэальнае напаўненне вобраза прыказкі не зводзіцца да значэння слоў, якія яго афармілі. У гэтым плане хочацца нагадаць тыя з іх, якія, на нашу думку, найбольш характэрныя і паказальныя.

Вось што давялося нам запісаць у вёсцы Слаўкавічы, на Глушчыне:

**У яго адна малітва: пусці, божа, у чужы пограб, памажы нагрэбсці ды вынесці.**

**У адзінца не п'юць вінца, а калі і п'юць, дык не дзякуючы ідуць.**

**Сярдзітаму чалавеку ў рукі пасуды не даюць.**

**Не аддай мяне, мамка, дзе затыкаюць** (затыкаюць — пачынаць ткаць — **М. Я.**), **а дзе на сярэдзіне ткуць.**

**Як паставіла красна, дык дзевятая вясна.**

**Красенца-сухаценца, дакуль вам стаяць, датуль мне стагнаць.**

Шэсць прыказак — шэсць мастацкіх вобразаў. І паспрабуйце, скажам, змест прыказкі вывесці толькі з аднаго яе славеснага матэрыялу — вы немінуча наткнняцёся на амаль відавочны факт: інфармацыя слоўнага раду не супадае з інфармацыяй вобраза.

У гэтай сувязі ўспамінаецца выказванне Хэмінгуэя пра свой метад пісьма — метад айсберга (сем восьмых схаваны пад вадой, і толькі восьмая частка — на відавоку). Нам здаецца, што гэтыя словы можна аднесці і да прыказкі. Вобраз у ёй амаль заўсёды выпісаны ў манеры айсберга: у ім ёсць бачная частка, тая, што знайшла сабе месца ў яе кантэксце, а ўсё астатняе добра адчуваецца праз падтэкст, праз уяўленне, праз актыўную работу нашай фантазіі.

**г. Гомель.** **Мікола ЯНКОЎСКІ.**

СурЁзнае
Курёзнае

# МАШЫНА ДЛЯ СНУ

Існуе шмат спосабаў, каб хутчэй заснуць. Напрыклад, узяць кніжку, пажадана нецікавую. Або, як раяць некаторыя вопытныя таварышы, заняцца перад сном размінкаю з гірамі ці гантэлямі. Здарова памагае!

«Але ж гэта старыя, ды і не зусім эфектыўныя, спосабы, — скажа чытач, які пакутуе ад бяссонніцы. — Вось каб прыдумалі нешта такое, універсальнае...»

Відаць, Рабэру Ласэрву давялося выслухаць нямала такіх скаргаў, таму ён і прыдумаў машыну.

Вось што паведаміла пра гэтую машыну французская журналістка, якая нанесла візіт Рабэру Ласэрву ў Тулузе:

«Да Ласэрва я прыйшла раніцай, і мы тут жа прыступілі да справы. «Справа» знаходзілася побач, у пакоі.

— Гэты маленькі тэлевізар і ёсць ваша машына для засынання?

— Так.

— А што ўнутры?

Ён усміхаецца. Гэта адзінае пытанне, на якое ён не можа адказаць. Яго адкрыццё ўжо запатэнтавана, і калі ён пачне раскрываць падрабязнасці, канкурэнты распрацуюць такую ж канструкцыю. Таму ён толькі адказвае:

— Два мікраматоры, адзін тэмпарызатар і перадатчык хваляў.

Ласэрв устанаўлівае перада мной свой маленькі тэлевізар так, каб экран знаходзіўся на ўзроўні вачэй, і пачынае тлумачыць:

— Зараз вы ўбачыце, як на экране з'явіцца і пачне расці, потым знікне і зноў паявіцца блакітнае колца. Калі яно пакажацца на экране — рабіце ўдых, калі знікне — выдых. Паспрабуйце ўвайсці ў рытм.

Ён уключае машыну. Я імкнуся выконваць інструкцыю. Першая ўмова: я павінна дыхаць у некалькі разоў павольней нармальнага. Лічу 6, 7, 8, 9, 10... Адчуваю сябе добра. Неяк спакойна робіцца на душы... 14, 15, 16... Павекі становяцца цяжэйшыя, мне хочацца заплюшчыць вочы...

— Калі вам цяжка сядзець з расплюшчанымі вачамі, паспрабуйце дыхаць па гуку машыны.

Яго словы даходзяць да мяне, як праз вату.

— Я і спрабую, — адказваю я і, напэўна, такім сонным голасам, што мой субяседнік адразу адключае апарат.

— Калі б вы не адключылі машыну, я, напэўна, заснула б.

— Не думаю. Звычайна патрабуецца некалькі сеансаў, каб выклікаць надзейны сон. Але санлівасць і пачуццё млявасці прыходзяць з першага разу. Галоўнае правіла пры эксплуатацыі машыны: адносіцца да яе з павагаю. Некалькі дзён трэба класціся дакладна ў вызначаны час. Калі «пацыент» прымае ўзбуджальныя сродкі, напрыклад, п'е вельмі моцную каву, яго машына «закалыша» з цяжкасцю».

Каб пацвердзіць свае словы, Ласэрв паказаў журналістцы шмат лістоў. Былі сярод іх і вельмі цікавыя.

Даследаванні вучоных, праведзеныя ў апошні час, памаглі ўстанавіць наступнае: усе людзі і, наогул, млекакормячыя, спяць толькі 80 працэнтаў начнога часу. Астатнія 20 працэнтаў сну прыпадаюць на сны. Мы бачым сны ў чатырох ці пяці серыях. Першы сон прыходзіць у сярэднім праз 90 мінут ад моманту засынання. Самы доўгі сон — апошні. Ён працягваецца 20 мінут.

За адзін год мы бачым 1 500 сноў. 90 працэнтаў іх адразу забываецца. Звычайна сон памятаюць якіх дзесяць мінут пасля абуджэння.

Як правіла, нашы сны «чорна-белыя», але пападаюцца і «каляровыя», калі колер адыгрывае якую-небудзь ролю ў дзеянні.

Мы ўцякаем ад убачанага ў сне толькі ў тым выпадку, калі дзеянне пагражае нам.

Як вучоным удалося зрабіць адкрыцці, пра якія мы гаварылі вышэй? Перш за ўсё даследчыкі выявілі, што ў часе сну ёсць перыяды, калі можна весці назіранні за з'явамі, якія адрозніваюцца ад нармальнага спання. Пашанцавала выявіць цэнтры, якія «адказваюць» за тое, што сніцца. У мазгу выявілі цэнтры, адказныя за характэрныя сімптомы сну: фазавы фенамен (рухі вочных яблыкаў) і танічны фенамен (блакіроўка мускульнага напружання).

Кот, калі ў яго пашкоджаны цэнтр танічных сімптомаў, перажывае свае сны. На чалавека, які не ведае, у чым справа, ён робіць нязвычнае ўражанне: рухаецца, мяўкае.

Далёка ў сваіх вопытах пайшлі амерыканскія вучоныя з Медыцынскага цэнтра ў Нью-Йорку.

— Неўзабаве прыйдзе час, калі мы будзем кантраляваць свае сны, — заявіў супрацоўнік гэтай навуковай установы доктар Артур Шапіра.

Рызыкоўная заява. Але і не беспадстаўная, бо ўжо сёння вучоных цікавіць не толькі механізм сну, але і яго змест. Для гэтага яны карыстаюцца дапамогай так званага «дэтэктара сноў», які запісвае тое, што адбываецца ў мазгу чалавека, калі ён спіць. «Дэтэктар» памог расшыфраваць змест больш 2 200 сноў.

— Да гэтага часу, — паведаміў адзін з даследчыкаў, — мы адчувалі сябе археолагамі, якія адкрываюць фрагменты даўно забытай мовы. Цяпер мы ствараем яе граматыку.

«Дэтэктар сноў» сапраўды паказаў вынікі, пра якія да нядаўняга часу можна было толькі марыць. Аднаму з сваіх пацыентаў доктар Шапіра перад сном паказаў каляровы фотаздымак так, што той мог толькі заўважыць рысы нейкай трохвугольнай фігуры. Ноччу паддоследны перажыў тры жудасныя сны. У першым чорны сабака з срэбнымі вачамі хацеў укусіць яго. У другім сне ён бачыў, як на запоўненай натоўпам вуліцы нейкі салдат пратыкаў штыком хлопца. У трэцім ён сам заўзята сварыўся з бацькам.

На наступны дзень Шапіра паказаў пацыенту некалькі фотаздымкаў. Пацыент адразу ж схапіў адзін з іх, на якім быў паказаны хроміраваны капот аўтамабіля старой маркі. Гэта нагадала яму ўдзельнікаў прыгод са сноў: сабаку з срэбнымі вачамі, раз'юшанага бацьку, салдата з карабінам. Менавіта гэты здымак паказвалі пацыенту перад вопытам. Пацыент як быццам падсвядома запомніў яго, і гэта зрабіла ўплыў на змест сноў. «Дэтэктар», які вёў энцэфалаграфічны запіс сну пацыента, дазволіў прыйсці да заключэння, што перажытае ім было выклікана нервовым напружаннем.

Як бачым, сны складаная справа. Дык можа было б лепш, каб не бачыць іх? Аднак навука даказвае нешта супрацьлеглае. Вось гіпотэза вядомага французскага вучонага Жувэ. «Функцыю сну нельга аддзяляць ад іншых функцый нервовай сістэмы. Няма «чыстага» стану няспання, спання ці бачання сноў. Пераводзячы гэтыя тэрміны на мову фізікахіміі, мы зразумелі, што наша нервовая сістэма, галоўным чынам, мозг, прымае і рэгіструе пэўную колькасць уражанняў: «запамінае» іх у хімічнай форме».

Кажучы мовай параўнанняў, стан няспання — гэта запіс інфармацыі на магнітафон, стан спання — перапісванне той жа інфармацыі на машынцы, а ў часе бачання сну кожны сказ, нават слова, укладваюцца ў «каталог» да раней накопленай інфармацыі, узбагачаюць памяць.

Таму, адкінуўшы сенсацыйнасць, скажам, што заслугоўваюць увагі спробы Ласэрва і іншых эксперыментатараў, якія спрабуюць памагчы тым, хто скардзіцца на бяссонніцу.

**Уладзімір ЕЛІСЕЕЎ.**



## ФАТОГРАФ-НЕВІДЗІМКА



Савецкія вынаходнікі сканструявалі незвычайны фотаапарат, які можа імгненна рабіць адлюстроўкі любых прадметаў, раслін і жывых істот на экране без святла.

Уявіце сабе невялікую металічную скрынку, крыху падобную на тэлекамеру, з квадратным зеленаватым акенцам-экранам. Замест фотааб'ектыва — тут два люстэркі. Яны паглынаюць нябачныя цеплавыя прамені, якія выпраменьваюць людзі, жывёлы, расліны і ўсе нежывыя рэчы.

Гэтае выпраменьванне, хоць і вельмі слабае, пераўтвараецца ў электрычныя сігналы. Яны ўтвараюць на экране адбітак прадмета, бачны няўзброеным вокам.

Новы прыбор надзвычай адчувальны, ён успрымае цяпло на вялікай адлегласці і ўтварае адбіткі істот і прадметаў, якія маюць тэмпературу да нуля градусаў Цэльсія і ніжэй.

Калі мы возьмем аркуш паперы і пакладзем на яго руку, а потым адразу аднімем яе, дык на экране новага прыбора ўбачым ясны адбітак далоні з усімі пальцамі. Ён утварыўся за кошт цяпла, якім мы сагрэлі паперу.

Фатограф-невідзімка паможа медыкам убачыць пухліны, радыётэхнікам — вызначыць ступень награвання апаратаў і іншае.

**Барыс РОЗЕН.**

## ЛЯСНЫЯ ВОЛАТЫ

Сярод зялёных насельнікаў нашых лясоў ёсць шмат сведкаў гістарычных падзей. Гэта своеасаблівыя «біялагічныя» помнікі, жамчужыны нашага зялёнага фонду.

Асабліва цікавыя лясныя волаты. Шырока вядомы на Палессі цар-дуб, што расце ў Лельчыцкім лясгасе. Яму больш за 600 год. Яго ствол нагадвае вялізарную карынфскую калону. Мясцовыя жыхары называюць яго — «Лясны бацька».

У Галевіцкім лясніцтве Калінкавіцкага лясгаса славяцца два дубы-волаты. Старэйшаму 250 год. Ён мае каля 40 метраў у вышыню і амаль два метры дыяметрам. Малодшы расце па суседству, ён крыху меншы.

Цікавыя дубы-блізняты растуць у Астанкавіцкім лясніцтве Даманавіцкага лясгаса. Ім па 200 гадоў. Калі лес апранаецца ў свежае лісце, ля падножжа ветэранаў зацвітае травяны дыван.

На Брэстчыне цудоўныя лясныя ўрочышчы чаргуюцца з палямі і лугамі. Упрыгожаннем гэтых мясцін з'яўляюцца дубы — сведкі Айчыннай вайны 1812 года. Пад зялёнымі шатамі аднаго з іх, што расце ля мястэчка Дзівін, адпачываў, складаў ваенныя дыспазіцыі А. В. Сувораў. З таго часу гэтае дрэва так і называюць «Дуб Суворава». Другі гэткі ж ветэран, нібы зялёны вартавы, стаіць ля Купчыцкага поля бою. Ён таксама «помніць» славутага Суворава.



**Дуб, пад якім Адам Міцкевіч пісаў свае творы (Шчорсы, Навагрудскі раён).**

Магутны дуб расце ў Пажэжынскім лясніцтве Брэсцкага лясгаса. Вышыня яго 42 метры, дыяметр — 1 метр 68 сантыметраў, узрост — каля 600 гадоў. Колькі страшэнных навальніц прашумела над ім!

Парк Саўгаса «Сітцы» Глыбоцкага раёна ўпрыгожвае дуб, пасаджаны пры Пятры І. Вышыня яго звыш 30 метраў, дыяметр — каля 2 метраў. Шэсць чалавек, узяўшыся за рукі, ледзь абдымаюць яго ствол.

На Гродзеншчыне ў Навагрудскім раёне ёсць 200-гадовы зялёны помнік Адаму Міцкевічу. Пад яго шатамі паэт напісаў свае вядомыя творы «Свіцязь», «Свіцязянка», «Гражына», «Пан Тадэуш».

Вельмі арыгінальныя разгалінаваныя трохвекавыя дубы растуць у Свіцязянскім лясніцтве Навагрудскага лясгаса. Пра гэтае цуда прыроды існуе многа легенд і казак.

Як своеасаблівы помнік ляснога братэрства растуць побач дуб і сасна ля дарогі з Нясвіжа ў Гарадзею. А ў Клятнянскім лясніцтве Быхаўскага лясгаса сустракаюцца цудоўныя сосны вышынёю ў 32 метры з шырокімі шыза-зялёнымі кронамі.

У Беларусі ёсць больш за пяцьдзесят рэдкіх векавых дрэў. Рашэннем Дзяржкамітэта па ахове прыроды яны аб'яўлены помнікамі прыроды і знаходзяцца пад аховай дзяржавы.

К. А. Ціміразеў пісаў, што «надыдзе час, калі людзі будуць вандраваць па лясах і палях не са стрэльбай, а з камерай фатографа за плячыма, і не для таго, каб падстрэліць якое-небудзь няшчаснае птушаня і толькі мімаходзь, урыўкамі палюбавацца прыродай, а для таго, менавіта, каб любавацца прыродай і пры выпадку панесці з сабою, магчыма, мастацкі яе адлюстровак».

У наш час мары вучонага сталі рэальнасцю. Тысячы аматараў прыроды захапляюцца магутнасцю і хараством лясных волатаў.

**Георгі МАРГАЙЛІК.**

# ПІСЬМЕННІКІ І ЖАРТАМ І СУР'ЁЗНА...

## ПЕСІМІЗМ

На пачатку літаратурнай кар'еры Герберт Уэлс рэдагаваў разам са сваім сябрам Хэнлеем штотыднёвік, які меў толькі чатырох падпісчыкаў. Аднойчы праз акно яны пабачылі пахавальную працэсію.

— Дай божа,— выгукнуў Уэлс,— каб гэта быў не наш падпісчык!

## ПАСТАЎСЯ ДА ЯГО, ЯК ДА СЫНА

Малады пісьменнік звярнуўся да аўтара «Будэнброкаў» Томаса Мана з просьбай, каб ён напісаў прадмову да яго першай кнігі. Томас Ман не меў часу і накіраваў маладога аўтара з рэкамендацыйным пісьмом да Германа Гесе.

Праз некаторы час малады пісьменнік пасварыўся з Гесе, і той паскардзіўся Ману:

— Ён мяне вельмі разачараваў, а вы ж пісалі, каб я паставіўся да яго, як да сына.



— Зусім правільна,— пагадзіўся Томас Ман,— вы павінны былі добра накруціць яму вушы.

## ШТО ТАКОЕ ЭГАІСТ

Пісьменніцу Жорж Занд аднойчы спыталі, каго яна лічыць эгаістам.

— Эгаіст? — перапытала пісьменніца.— Гэта той, хто не цікавіцца маёй асобай.

## КАРОТКАЯ РЭЦЭНЗІЯ

Нямецкага пісьменніка-сатырыка Георга Ліхтэнберга папрасілі выказаць сваю думку пра адзін новы твор. Ён напісаў два радкі: «Я адчуў вялізнае задаволенне, калі нарэшце паклаў кнігу на стол. Чытаючы, я гэтага не адчуваў».

## МАРНЫ ЗАНЯТАК

Аднаго разу ноччу Бальзак злавіў у сваім кабінеце злодзея, які намагаўся адчыніць шуфляду бюро.

— Вось дурань! — сказаў пісьменнік перапалоханаму злодзею.—Ты хочаш у цемры знайсці грошы там, дзе мне ніколі не надарылася знайсці іх нават пры сонечным святле.

## РОЗНЫЯ МАШТАБЫ

Нямецкі паэт Іаган Вільгельм Глейм суправаджаў жонку аднаго высокага саноўніка, калі яна аглядала музей у горадзе Хальберштаце. Пабачыўшы партрэты розных вядомых людзей, паважаная дама здзіўлена запытала, чаму рыцары і палкаводцы намаляваны на ўвесь рост, а на партрэтах вучоных толькі галовы.

— Пані,— адказаў Глейм,— рыцараў і палкаводцаў сапраўды трэба маляваць на ўвесь рост, бо інакш не ўсе заўважаць іх веліч. Што ж датычыць вучоных, дык хопіць толькі паказаць іх галовы.

## ВЫЙГРАЛА!

На адным прыёме да Бернарда Шоу звярнулася нейкая пані:

— Пане Шоу! Я гатова ісці аб заклад, што вы мяне не пазнаяце!

— Шаноўная пані, вы ўжо выйгралі,— адказаў славуты драматург.

## НАЙБОЛЬШАЯ СІЛА

Анатоль Франс слухаў, як інжынеры расказвалі пра вялізарную сілу вады.

— Цікавая і павучальная ваша размова,— сказаў вядомы пісьменнік,— але я ўсё ж думаю, што навука забывае пра найвялікшую ў свеце гідраўлічную сілу.

Адзін з інжынераў зацікавіўся:

— Што ж гэта такое?

— Жаночыя слёзы,— усміхнуўся Анатоль Франс.

## ТОЛЬКІ СМЕРЦЬ...

Адзін знаёмы Марка Твэна пазычыў у пісьменніка шмат грошай.

— Я абавязкова аддам вам гэтыя грошы праз месяц,— запэўніў ён Твэна.— Толькі мая смерць можа змяніць гэты тэрмін.

Мінуў месяц, але даўжнік і не думаў вяртаць пазыку. Тады Марк Твэн змясціў у адной газеце такую аб'яву:

«З вялікім смуткам я паведамляю ўсім знаёмым і сябрам пра смерць Гары Дункана. Ён пазычыў у мяне 500 долараў і запэўніў, што толькі смерць можа перашкодзіць яму вярнуць грошы роўна праз месяц. Паколькі Гары Дункан заўсёды стрымліваў сваё слова, у мяне няма ніякага сумнення, што ён назаўсёды пакінуў нас. Мір яго праху!»

## КАЛІ Б НЕ Я...

Аляксандра Дзюма неяк запыталі, ці спадабалася яму кампанія, у якой ён напярэдадні правёў увесь вечар. Пісьменнік адказаў:

— Калі б не я сам, мне было б там вельмі сумна.

## ВЫВАД

Вядомы англійскі пісьменнік Уільям Тэкерэй на пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці за нейкае парушэнне закону трапіў за краты.

— Ну, як там у турме? — запытаўся ў Тэкерэя пасля вызвалення сябар.— Якіх людзей ты там пабачыў?

— Людзі там бываюць розныя,— адказаў пісьменнік.— Калі пазнаёміцца з імі бліжэй, дык сярод іх можна знайсці нават і сапраўдных злачынцаў, як і ўсюды, у іншых мясцінах.

### РЫЗЫКОЎНЫ ЖАНР

Хтосьці запытаўся ў Вальтэра, ці не трэба было б яму напісаць кнігу пра іх караля.

— Ні ў якім разе,— напалохаўся Вальтэр.— Вы што ж — хочаце, каб я страціў каралеўскую пенсію?

### БУМЕРАНГ

Аднойчы раніцай Вольфганг Гётэ, як заўсёды, выйшаў на прагулку ў стары Веймарскі парк. На вельмі вузкай сцежцы ён сустрэў літаратурнага крытыка, які заўсёды нападаў на творы вялікага нямецкага паэта, выказваючы да яго асаблівую непрыязнасць. Калі яны параўняліся і аднаму з іх трэба было саступіць дарогу, пануры крытык сказаў:

— Я ніколі не даю дарогу розным бяздарам!

— А я заўсёды гэта раблю,— адказаў Гётэ і сышоў у бок.

### РАДАСЦЬ РАЗЛУКІ

Джэк Лондан, пакідаючы якуюсь кампанію, паціснуў руку аднаму напышліваму арыстакрату. Той здзівіўся:

— Але ж некалькі хвілін назад вы ўжо развіталіся са мной...

— Сапраўды,— адказаў Лондан,— але мне заўсёды прыемна развітвацца з вамі.

### ГРОЗНАЯ ЗБРОЯ

Нейкі бяздарны літаратар выклікаў на дуэль вядомага французскага пісьменніка Марсэля Пруста. Уручаючы Прусту сваю візітную картку, ён сказаў:

— Я дазваляю вам выбраць зброю...

— Цудоўна,— адказаў Пруст.— Я выбіраю арфаграфію. Вы знішчаны!

## ЗВАР'ЯЦЕЛІ




Сапраўды дзівосную пастанову прынялі ў штаце Індыяна (ЗША). Загадалі выключыць з усіх школьных і грамадскіх бібліятэк кнігі пра легендарнага народнага героя Робіна Гуда таму, што з гэтых кніг «вее камуністычная ідэалогія».

Робін Гуд, як вядома, забіраў маёмасць у багатых і дзяліў яе паміж беднымі.

У штаце Індыяна лічаць, што «разбойніцкае жыццё» Робіна Гуда адмоўна ўплывае на розум амерыканцаў, а заснаваная ім «камуна асацыіруе сувязі з камунізмам».







## НІКА НА РАЗДАРОЖЖЫ

Памятаеце, яна нечакана знікла, яе выкралі. І не дзе-небудзь, а ў Лондане, у сталіцы дзяржавы, якая з'яўляецца гаспадаром чарговага чэмпіянату свету па футболу. Калі ў прэсу пранiклі чуткі пра гэтае здарэнне, узняўся такі гвалт, якога ўжо шмат год не ведаў спартыўны свет. Залаты кубак шукалі паліцэйскія і лепшыя дэтэктывы, шукалі аматары і прадстаўнікі Англійскай федэрацыі футбола. Але знайшоў яго... сабака з мянушкай «Шалапай». Так быў выратаваны аўтарытэт англійскага футбола, аўтарытэт радзімы гэтай вельмі папулярнай гульні. Цяпер «багіня Ніка» схавана да самага ўрачыстага моманту—да адкрыцця чарговага першынства свету па футболу.

Перад тым як пачнуцца футбольныя сустрэчы, не лішне будзе прыгадаць і тую барацьбу, якая папярэднічала спаборніцтвам на палях англійскіх стадыёнаў.

Каля сарака гадоў таму назад адзін з лепшых парыжскіх ювеліраў Абель Лафлер па даручэнню Міжнароднай федэрацыі футбола (ФІФА) адліў з чыстага золата трыццацісантыметровую статую міфічнай багіні перамогі Нікі, якая трымае чашу. Праз два гады—у 1930 годзе—адбыўся першы ў гісторыі чэмпіянат свету па футболу. Гаспадаром першынства быў Уругвай. Наступныя спаборніцтвы адбываліся праз кожныя чатыры гады—у Італіі і Францыі. Другая сусветная вайна перапыніла розыгрыш. Ён быў адноўлены толькі ў 1950 годзе ў Бразіліі. І зноў праз кожныя чатыры гады лепшыя каманды свету спаборнічаюць за права валодаць ганаровым тытулам чэмпіёна свету і залатым пераходным прызам. У Швейцарыі, Швецыі і Чылі адбыліся тры чарговыя турніры. Чэмпіёнамі за ўвесь час былі футбалісты Уругвая (1930 і 1950 гг.), Італіі (1934 і 1938 гг.), Бразіліі (1958 і 1962 гг.), ФРГ (1954 г.). Прызавыя месцы займалі каманды Аргенціны, ЗША, Чэхаславакіі, Венгрыі, Аўстрыі, Швецыі, Францыі, Чылі.

Савецкія футбалісты ўпершыню паспрабавалі свае сілы ў Швецыі ў 1958 годзе. «Першы блін» быў не надта ўдалы, але тады для навічка пятае-восьмае месцы можна было апраўдаць. Час ішоў, а перамогі не прыходзілі. «Багіня Ніка» не жадала нават блізка пастаяць каля нашай зборнай. У Чылі праз чатыры гады савецкая каманда зноў выбыла з чвэрцьфіналу і падзяліла месцы з пятага па восьмае з футбалістамі Венгрыі, ФРГ і Англіі.

Пасля заканчэння чылійскіх баталій усе краіны пачалі дружна рыхтавацца да чарговага першынства ў Англіі. Першы этап гэтай даволі ня-

лёгкай работы — падбор ігракоў, апрабаванне іх, распрацоўка новых тактычных ходаў — закончыўся. А праз год пачаліся адборачныя спаборніцтвы за права выступаць на футбольных палях Англіі.

Лепш за другіх адчувалі сябе чэмпіёны свету бразільцы і гаспадары поля англічане. Ёсць такое правіла: дзве каманды трапляюць у лік шаснаццаці прэтэндэнтаў, як гавораць, па персанальнаму запрашэнню. Гэта даніна павагі пераможцам і той дзяржаве, якая праяўляе асаблівыя клопаты па арганізацыі і правядзенню такіх адказных спаборніцтваў. Астатнія ж краіны павінны заваяваць гэтае права ў папярэдніх гульнях. З кожнай з чатырнаццаці груп у фінальны турнір трапляе толькі адна каманда. Зборная СССР перамагла каманды Грэцыі (3:1 і 4:1), Даніі (6:0 і 3:1), а са зборнай Уэльса падзяліла ачкі (2:1 і 1:2). Першае месца было забяспечана. У наступных групах перамаглі каманды Бельгіі, Францыі, ФРГ, Партугаліі, Швейцарыі, Венгрыі, Італіі, Іспаніі, Чылі, Уругвая, Аргенціны, Мексікі і КНДР.

Пасля гэтага ФІФА намеціла дзень жараб'ёўкі. 6 лютага 1966 года ў канцэртнай зале лонданскага атэля «Роял Гардэн хатл» адбылася гэта хвалюючая цырымонія. Не ўсе жараб'ёўкай задаволены, хоць кожны ведаў: у фінале не будзе слабых.

Зборная Савецкага Саюза трапіла ў адну групу з футбалістамі КНДР, Чылі і Італіі. Усяго ж на першым этапе фінальнай часткі першынства свету матчы пройдуць у чатырох групах. Кругавая сістэма амаль выключае выпадковасці. Каманды ў групах сустракаюцца адна з адной. Але пазней, калі прэтэндэнтаў застанецца восем (калектывы, якія зоймуць у групах першыя два месцы), барацьба працягнецца па так званай алімпійскай сістэме: прайграў — выбыў з ліку ўдзельнікаў. Наша зборная заўсёды заканчвала свае выступленні на чэмпіянатах свету іменна ў першай сустрэчы пасля спаборніцтваў па групах — сустрэчы чвэрць фіналу. Як будзе цяпер?

Ці асмеліцца хто адказаць на гэтае пытанне да таго часу, пакуль стане вядомы новы чэмпіён?

Каманда СССР перажыла шмат хваляванняў. Яе старшы трэнер Мікалай Марозаў да самага апошняга часу працягваў эксперыментаваць. Толькі нязначная частка ігракоў цвёрда абасновалася сярод дваццаці двух, якія паедуць у Англію. Сярод іх і наш мінскі футбаліст, цэнтрфорвард мінскага «Дынама» Эдуард Малафееў.

...Чатыры апошнія гады залатая статуэтка «багіні Нікі» пражыла ў Бразіліі. Бразільцы прывезлі яе ў Англію. Праўда, яны не так даўно заявілі карэспандэнтам, што можна было і не везці яе так далёка, бо яны не маюць намеру ўступаць гэты скарб каму-небудзь. У чэмпіёнаў ёсць падставы для аптымістычнага настрою. Але такія заявы не робяць гонару нават такім агульнапрызнаным майстрам, якімі з'яўляюцца футбалісты Бразіліі. Аб'ектыўна кажучы, не кожную каманду можна лічыць прэтэндэнтам на чэмпіёнскі тытул. Але добрая палавіна мае магчымасць авалодаць ганаровым трафеем. Пакуль жа «багіня Ніка» апынулася перад шаснаццаццю дарогамі. Усюды яна будзе жаданай госцяй. Хутка стане вядома, да каго яна паедзе на наступныя чатыры гады.

Хай пераможа мацнейшы!

**Аляксандр МАЙСКІ.**

# ЭДЗІТ-АКВАЛАНГІСТКА

Новенькую прыкмецілі адразу.

— Хто гэта? — інструктар Альберт Ігвін запытальна паглядзеў на заўсёднага наведвальніка марскога клуба Юрыя Ларыёнава.

— Ды гэта Эдзіт Агароднік, дзяўчынка з нашага завода,— адказаў Юрка.— Хоча займацца падводным спортам. Між іншым, у яе трэці разрад па плаванню...

— А колькі ёй год?

— Васемнаццаць.

Інструктар не дужа прыязна паглядзеў на Эдзіт. Маленькая, шчупленькая. Яна і акваланг ці падыме?

Але інструктар вагаўся не доўга. Падводны спорт у нашай рэспубліцы рабіў толькі першыя крокі. Хлопцаў хапала, а дзяўчат зусім было мала. І Эдзіт прынялі.

«Акваланг», «лёгачны аўтамат», «біраўма» — незнаёмыя словы. Эдзіт сядзіць над падручнікам, абдумвае прачытанае. «Аква» — па-лацінску «вада», «ланг» — «лёгкія». Зразумела: падводныя лёгкія... А як яны пабудаваны?

Шалясцяць старонкі. Эдзіт чытае далей. У сталёвыя балоны напампоўваецца сціснутае паветра. Лёгачны аўтамат дакладнымі дозамі аддае спартсмену паветра, калі ён плыве пад вадою. Колькі ж важыць гэты акваланг? Аказваецца, звыш дваццаці кілаграмаў!

Эдзіт зажмурыла вочы. Ды ён жа яе пацягне каменем на дно! Прачытала яшчэ адну старонку і — супакоілася: у вадзе апарат важыць не больш як тры кілаграмы. Ага, ясна: закон Архімеда, знаёмы яшчэ са школы, з урокаў фізікі... Гэта нават яшчэ лепш для яе. Ёй, з яе малою вагой, лепш будзе трымацца пад вадой...

У марскім клубе ДТСААФ, які наведвала Эдзіт, медыкі чыталі лекцыі, расказвалі пра фізіялогію лёгкавадалазнай справы. І тое, што раней было невядомым, далёкім, цяпер станавілася зразумелым, блізкім.

Ранняй вясной пачаліся практычныя заняткі ў плавальным басейне. Спартсменам выдалі маскі, дыхальныя трубкі, ласты. З сеткай, у якой было складзена ўсё гэтае начынне, Эдзіт крочыла па горадзе. Прахожыя кідалі на яе цікаўныя позіркі.

І вось яна ў басейне. Апрануўшыся, Эдзіт падышла да борціка, скокнула ў ваду. Перад вачамі закрынічыла блакітная імгла. Эдзіт уздыхнула і... захліпнулася. З усіх сіл ухапілася за трап.

— Што здарылася? — да яе падышоў Альберт Ігвін.

— У масцы вада!

— Ну і што? Трэба прадзьмуць!

— А як?

Інструктар растлумачыў, як гэта робіцца, параіў адплысці на мелкае месца і там патрэніравацца, як карыстацца маскай, дыхальнай трубкай. Эдзіт так і зрабіла. Маска дазваляла ўсё бачыць пад вадой. З дапамогай трубкі Эдзіт дыхала, а ласты памагалі плаваць з такой хуткасцю, з якой яна яшчэ ніколі не плавала.

Трэніроўкі ў басейне праводзіліся па тры разы на тыдні. І Эдзіт у хуткім часе добра асвоіла плаванне ў ластах, ныранне ў даўжыню.

...Першыя рэспубліканскія спаборніцтвы па падводнаму спорту праходзілі на возеры Нарач. Лодка слізгала па нерухомай паверхні вады: Эдзіт з аквалангам за плячамі, у ластах і масцы, з компасам у руках, сядзела на карме. Яўген Цярэшка, яе апякун, веславаў. Да берагу — пяцьсот метраў. Гэтую адлегласць трэба праплысці пад вадой і, арыентуючыся па компасе, выйсці на цэнтральны буй фінішнай лініі.

Лодка спынілася. Яўген зірнуў на секундамер. Пара! Але Эдзіт не здолела ўзняцца. Яе раптам ахапіў страх. Ёй здавалася, што варта толькі ўвайсці ў ваду, як нешта здарыцца, і яна можа ўтапіцца.

— Скачы! — загадаў Яўген Цярэшка.

— Не магу...— у голасе Эдзіт гучыць роспач.



Эдзіт Агароднік.

— Што здарылася?

— Баюся.

— Эх ты, а яшчэ ў падводніцы запісалася! — усміхнуўся Яўген і ціха спіхнуў Эдзіт з кармы.

Узняўшы пырскі, яна каменем пайшла на дно. Лёгачны аўтамат, ледзь пашчоўкваючы, падаваў з балонаў акваланга паветра. Гэтыя прывычныя гукі яе супакоілі. Шкло маскі запацела. Эдзіт адагнула краёчак маскі, падпусціла крыху вады, пахітала галавою, і шкло прамылася. Эдзіт агледзелася пад вадой — сапраўднае дзіва! Сонечныя промні аж да дна працялі тоўшчу вады. Яна празрыстая, чыстая, з бірузовым адлівам. Бачна ўсё далёка навокал. Раскошныя дываны ярка-зялёных водарасцяў усцілаюць дно... Гуртамі ходзяць рыбы...

Эдзіт здавалася, што яна трапіла ў казачнае царства, што яна бачыць прыгожы сон. Вось вялізны шчупак прытаіўся ў густых водарасцях, падпільноўвае здабычу. Эдзіт махнула рукой, і рыба спалохана кінулася ўбок. І зусім пад вадою не страшна. Наадварот, вельмі хораша!

Эдзіт, паглядзеўшы на компас, вызначыла курс да берагу. Цяпер за работу! Пазіраючы на компас, трымаецца ўзятага напрамку. Рытмічна рухаюцца ласты. Глыбіня становіцца ўсё меншай. Паказаліся пясчаныя водмелі — блізка бераг. Эдзіт усё больш пільна назірае за ком-

пасам, час ад часу азіраецца па баках. Наперадзе паказаліся коркавыя буйкі — фінішная рыска. І вось ужо дно пад нагамі...

У агульным заліку Эдзіт займае трэцяе месца. «Вось табе і малая! — з павагай думае пра Эдзіт інструктар.— А што, калі ўзяць яе на ўсесаюзныя спаборніцтвы?..»

Упершыню ў сваім жыцці Эдзіт была на Чорным моры. Шум прыбою. Цёплы вецер. Гоман чаек. Зялёна-блакітная роўнядзь, зіхатлівая на сонцы, раскінулася да самага гарызонту. Карцела хутчэй акунуцца ў марскую глыбіню. Эдзіт надзела акваланг, асцярожна ступаючы, увайшла ў ваду. Паплыла. У моры нібы растварылася нейкая белая каламута. Напэўна, недзе на беразе залягае вапняк і прыбой падмывае яго... Дно рэзка пайшло ў ваду — вялікая глыбіня, чорны правал... Бачнасць абмежаваная... Прыгадалася роднае возера Нарач, дзе вада празрыстая і светлая, як крышталь. Праўда, тут цяплей: плывi сабе хоць увесь дзень — не замерзнеш.

Эдзіт першая са сваёй каманды прайшла пад вадой паўкіламетровую дыстанцыю. Яна выйшла з мора за пятнаццаць метраў ад цэнтральнага буя.

— Бяры крыху лявей,— сказала яна сваёй сяброўцы па камандзе Святлане Стахоўскай і передала ёй компас.

Святлана адхіляецца на пяць метраў. Свае папраўкі перадае Тамары Міроньчык. Тамара ўсплывае ўсяго за два метры ад цэнтральнага буя. Каманда Беларусі ў агульным заліку займае шостае месца. За ёй яшчэ трынаццаць калектываў.

Эдзіт Агароднік прысвойваюць першы разрад па падводнаму спорту. Амаль што кожны год яна ўдзельнічае ва ўсесаюзных спаборніцтвах.

1965 год. На возеры Нарач сабраліся аквалангісты, удзельнікі Трэцяй рэспубліканскай спартакіяды па тэхнічных відах спорту. З усіх абласцей. Іх было звыш сарака, што змагаліся за званне чэмпіёнаў Беларусі.

Каманда Міншчыны, у складзе якой выступала і Эдзіт Агароднік, з першых жа практыкаванняў стала лідэрам спаборніцтва. Гарачая барацьба разгарэлася ў асабістым першынстве. На перамогу сярод жанчын упэўнена прэтэндавала мінчанка Клава Харламава. Яна лепш за ўсіх скокнула ў даўжыню на дваццаць пяць метраў, хутчэй за сваіх сапернiц праплыла пяцісотметровую дыстанцыю. Эдзіт ішла ўслед за ёй. Але лёс першынства залатых медаляў павінны былі вырашыць комплексныя практыкаванні, і асабліва так званы «падвесны слалам». На дыстанцыі ў семсот пяцьдзесят метраў на рознай адлегласці адзін ад другога і пад рознымі вугламі ўстаноўлены чатыры кантрольныя буі. Аквалангіст, плывучы пад вадой і арыентуючыся па компасе, павінен выявіць усе буі за максімальна кароткі час. Той, хто гэта ўсё зробіць хутчэй і лепш, атрымлівае найбольш заліковых ачкоў.

Згодна жараб'ёўцы, Клава Харламава першая накіравалася ў падводны пошук. Вось яна схавалася пад вадой, па паверхні засліжыў яе кантрольны буй. Услед за ёй пайшла засцерагальная лодка.

Эдзіт стаяла на беразе і пільна назірала за выступленнем сваёй галоўнай саперніцы. Яна бачыла, як Харламава доўга шукала кожны кантрольны буй. Адхілялася то ўлева, то ўправа, то падоўгу заціхала на адным месцы, праўляючы, напэўна, курс па компасе і ўносячы папраўкі. Клава страчвала галоўнае — секунды. А страта часу ў спорце часта прыводзіць да паражэння. Тым не менш, спартсменка прайшла ўсю дыстанцыю.

Надышла чарга Эдзіт. Яна апранае гідракасцюм, каб засцерагчыся ад холаду ў вадзе, праўярае акваланг, компас, лаг — лічыльнік пройдзенай адлегласці. У думках перабірае ўсё, што ёй належыць зрабіць пад вадой. Прыгадваецца масквічка Святлана Болдава, якая ёй некалі расказвала, як сама рыхтавалася да рашаючых стартаў.

Сігнал. Эдзіт увaходзіць у ваду, глядзіць на компас, на сігнальныя буі, засякае накірунак, уключае лаг. Апошні позірк на далёкі бераг, парослы лесам, і Эдзіт апускаецца пад ваду. Бляск сонечнага дня змяняецца зеленаватым прыцемкам азёрнай глыбіні. Цішыня. Толькі чуваць, як шчоўкае за спіной лёгачны аўтамат. Плыве, хутка працуючы ластамі. Компас паказвае дакладны курс, лічыльнік адлічвае пройдзеныя метры. У бірузовай далечы паказваецца першы кантрольны буй. Эдзіт праходзіць яго, арыентуючыся па компасе, плыве на другі. Хутка і ён застаецца ззаду.

Вось і трэці, перадапошні, буй. Да апошняга, чацвёртага, што на фінішы, застаецца каля двухсот метраў. Эдзіт адчувае, што яна ідзе з апярэджаннем графіка. Магчыма, ёй удасца палепшыць вынік Клавы Харламавай...

Аквалангістка слізгае ў вадзе, нібы гнуткая, дзівосная рыбіна. Хутка фініш. А там, мажліва, і перамога!

Эдзіт зірнула на лічыльнік і абамлела. Праходзячы міма трэцяга буя, яна забыла ўключыць яго... Што рабіць? Вярнуцца назад і ад трэцяга буя ўключыць лаг і зноў плысці? Але ж на гэта патраціцца шмат часу. Прыкінуўшы, колькі метраў яна прайшла, Эдзіт уключыла лічыльнік і паплыла... Ужо трэба, каб паказаўся фінішны буй, але яго ўсё няма. Эдзіт апусціла на дно свінцовае грузіла і паплыла па крузе. Наперадзе, метраў за пяць, як бы паказаўся цьмяны абрыс фінішнага буя, і яна кінулася да яго. Але грузіла заблыталася ў водарасцях. Эдзіт, абпальваючы скуру, скінула з рукі капронавую леску і, падплыўшы да буя, некалькі разоў пацягнула за яго, сігналізуючы наверх, што цяжкая дыстанцыя пераадолена.

Калі Эдзіт уручалі залаты медаль і чырвоную стужку чэмпіёна рэспублікі, да яе падышоў той жа Альберт Ігові́н.

— Віншую,— сказаў ён з нейкай асаблівай павагай, нібы ўпершыню бачыў гэтую дзяўчыну.— Прызнаюся, што не чакаў ад цябе... малая!..

Камсамолка Эдзіт Агароднік заканчвае Мінскі радыётэхнічны інстытут. Яна стане спецыялістам у галіне аўтаматыкі і тэлемеханікі.

**Станіслаў АСЛЁЗАЎ.**



Перад падводным падарожжам.

Фота **А. Бушылы.**

# СПАРТЫЎНАЯ МАЗАІКА

Вядомы балгарскі плывец Г. Іліеў, перш чым прысвяціць сябе плаванню, займаўся боксам. На рынгу ён карыстаўся славай самага ветлівага баксёра. Пасля кожнага моцнага ўдару, нанесенага праціўніку, Іліеў лічыў сваім абавязкам спыніцца і прасіць прабачэння. Аднак пасля таго, як зразумеў, што з гэтай сваёю прывычкай яму не дабіцца перамог, ён павесіў пальчаткі і выбраў іншы від спорту, у якім праціўнікам з'яўляюцца толькі метры і секунды.

●

У баскетболе можна быць пераможцам, але немагчыма стаць рэкардсменам. З гэтым не пажадалі лічыцца баскетбалісты аднаго з амерыканскіх універсітэтаў. Дрыблінг (вядзенне мяча ў баскетболе) ад Дэтройта да Кліўленда выконвалі па чарзе 24 удзельнікі гэтага баскетбольнага прабегу. Кожны з іх вёў мяч на працягу гадзіны, прабягаючы каля адзінаццаці кіламетраў. Хоць баскетбалісты ўстанавілі рэкорд, але ці можна лічыць яго дасягненнем у баскетболе...

●

Спартсмену патрэбна сіла. Якія толькі спосабы не прымяняліся, каб набыць яе. Здаецца, тут ужо ўсё, што можна было, пераспрабавана. І ўсё ж амерыканскі трэнер Джон Апла «вынайшаў» яшчэ адзін метад трэніровак: у трэніровачным лагеры Пенсільваніі яго выхаванцы ў вольны ад трэніровак час ходзяць на мыліцах. Паводле сцверджання Апла, гэта ўмацоўвае мускулы верхняй часткі цела.

●

Парыжскія адвакаты нядаўна арганізавалі свой спартыўны клуб. Першая іх сустрэча па баскетболу адбылася з камандай зняволеных адной з парыжскіх турмаў. Гульня была зацятая: дзейнічала правіла — вока за вока, зуб за зуб. Арыштантам было вельмі цяжка прабіваць абарону сваіх сапернікаў, аднак — урэшце яны перамаглі.

«У такіх абаронцах мы мелі патрэбу крыху раней»,— заявілі яны пасля матча, шкадуючы, што на судзе адвакаты не былі такія ўпартыя.

●

Як вядома, самыя заўзятыя футбольныя балельшчыкі ў Паўднёвай Амерыцы. Футбол тут даўно ўмяшаўся ў дзелавое жыццё. У бразільскім горадзе Арамба ў хуткім часе адкрыецца гасцініца «Футбол». Замест звону будзільніка раніцай тут будзе раздавацца судзейскі свісток. На снеданне, абед і вячэру адводзіцца столькі ж часу, колькі і на футбольны матч — 90 мінут. Рэстаран гасцініцы будзе мець тры залы. Першая называецца «Швецыя — 1958», другая — «Чылі — 1962» і трэцяя — «Англія — 1966». Першыя дзве залы ўпрыгожваюцца фатаграфіямі, якія адлюстроўваюць трыумф бразільскіх футбалістаў на сусветных чэмпіянатах у Швецыі і Чылі. Як будзе выглядаць трэцяя зала, пакуль невядома.

●

Доўгі і цяжкі шлях рэкардсмена. Каб стаць ім, людзі рыхтуюцца многія гады. Шлях да славы ў Ержы Віхра быў кароткі, але небяспечны. На звычайных лыжах з рукзаком за плячыма ён ішоў знаёмымі мясцінамі ў Кракананошах, як раптам снег пад ім абваліўся, і ён паляцеў уніз. Горная служба Кракананош ведае выпадкі шчаслівага канца такіх «скачкоў». Расказваюць, што калісьці ў занесеную снегам цясніну зваліўся ляснік. Ён не разгубіўся, расшпіліў свой плашч, які ператварыўся ў своеасаблівы парашут, і мякка прызямліўся. У Ержы Віхра не было плашча, затое былі на нагах лыжы. Праляцеўшы 140 метраў у паветры (калі б гэта было на трмпліне, яго чакалі б лаўры!), ён досыць удала прызямліўся, зламаўшы толькі пяткі лыж.

●

З кантынента на Брытанскія астравы зручней за ўсё пераправіцца на караблі або на самалёце. Некаторыя лічаць за лепшае рабіць гэта — плывучы... Пра такіх даведваецца ўвесь свет! Але шматгадзіннае «купанне» у халодным Ла-Маншы — забава не вельмі прыемная. Французскі спартсмен Бернард Даніс вынайшаў новы арыгінальны спосаб пераправы на Альбіён. Ён пераляцеў праліў на крылах, зробленых па тыпу крыла папяровага змея. Праўда, ён перасоўваўся не самастойна — яго цягнула на буксіры маторная лодка. На нагах Даніса былі водныя лыжы, якія давалі магчымасць плаўна падняцца ў паветра і ўпэўнена прывадніцца. На пераадоленне праліва ў 40 кіламетраў спатрэбілася 100 мінут.

●

Амерыканская ватэрпольная каманда «Вінтропскія акулы» набыла талісман, які на самай справе садзейнічае яе поспехам. Адзін багаты балельшчык падарыў «Акулам» дэльфіна, які адгукаецца на мянушку Джоні. Перад спаборніцтвамі і ў перапынках Джоні забаўляе гледачоў. Гэта, вядома, стварае рэкламу і вярбуе балельшчыкаў. Аднак трэнер каманды поўнасцю яшчэ не задаволены: Джоні ўпарта не жадае засвоіць поўны кодэкс правіл воднага пола.

●

У Швецыі і ў Нарвегіі ствараюцца «Клубы вынослівых сем'яў». Члены гэтых клубаў абавязваюцца кожны дзень раніцай праводзіць пятнаццацімінутны бег з усімі членамі сям'і старэй за 15 гадоў. Не паведамляецца, якія меры ўздзеяння павінен прымаць галава сям'і, калі ўсе з дому аддадуць перавагу гімнастыцы...

●

Колькі гадоў чалавек можа займацца спортам? Венгерскі гімнаст Е. Варга адказвае: «Усё жыццё». Аднак сярод венгерскіх алімпійцаў яго прозвішча не сустракаецца. Ды ва ўзросце 84 гадоў Варга ці ставіць перад сабой такую мэту? Славуты ён тым, што апошнія 72 гады рэгулярна трэніруецца. Нядаўна ён выступіў на колцах і бруссях перад маладымі спартсменамі, якія не маглі ўтаіць свайго здзіўлення і захаплення гэтым выключным спартсменам.

●

На гульнях у Мехіка спартсменам давядзецца змагацца не толькі з саперніками, але і з недахопам кіслароду ў паветры і паніжаным атмасферным ціскам. Справа ў тым, што сталіца Мексікі размешчана на вышыні каля 2 300 метраў над узроўнем мора.



●

Жывыя рычагі (імі з'яўляюцца, напрыклад, канечнасці чалавека) у адрозненне ад нежывых (металічных, драўляных і інш.) маюць пераменную трываласць. Сумным доказам гэтага служыць выпадак з Ральфам Бастонам, сусветным рэкардсменам па скачках у даўжыню. У мінулым годзе ён прыехаў у Еўропу, каб удзельнічаць ва ўніверсіядзе, але на вакзале ў Аугсбургу пасліznуўся і, імкнучыся захаваць раўнавагу, няўдала паставіў нагу, якая ў той момант была «настроена» толькі на нагрузку хадзьбы. Адбылося расцяжэнне ўнутранай міжкоснай звязкі ступні. Бастон так і не даехаў да месца спаборніцтваў. У студзені ён паспрабаваў вярнуцца ў спорт, але пры першай жа спробе траўма паўтарылася. Праз некаторы час ён зрабіў паўторную спробу, і зноў — з тым жа вынікам. Урач, які лечыць Р. Бастона, выказвае мала надзей, што яго пацыент зноў здолее заняць сваё месца ў вялікім спорце.

●

Навінка для аматараў падводных відаў спорту зроблена ў ФРГ. Гаворка ідзе пра мініятурную падводную лодку на аднаго чалавека з прыводам ад акумулятара. Зробленая з пластмас, яна адрозніваецца лёгкасцю, трываласцю і можа заставацца пад вадой да трох гадзін.

●

За адзін марафонскі прабег сэрца спартсмена робіць ад 21 да 28 тысяч удараў і праз яго праходзіць звыш 5 тон крыві.

●

Найвялікшы вынік у афіцыйным хакейным матчы быў зафіксаваны ў 1949 годзе ў Стакгольме. Зборная Канады перамагла каманду Даніі з лікам 47 : 0.

●

Рэкорд працягласці слізгання на водных лыжах належыць дваццацідзевяцігадоваму амерыканцу Джону Мюсару. За 26 гадзін 19 мінут ён «прайшоў» 1 170 кіламетраў.

**Віктар ЛАМЕЙКА.**



**Выкладчык фізкультуры:**
**— Дзеці, трымайце мяне, я вам пакажу практыкаванне на кольцах.**

**На апошнім этапе**








**Раздзел вядзе**
**міжнародны гросмайстар**
**Аляксей СУЭЦІН**

# ПАЯДЫНАК МАЦНЕЙШЫХ

З нецярплівасцю аматары шахмат усяго свету чакалі паядынку мацнейшых гросмайстраў — чэмпіёна свету Ціграна Петрасяна і прэтэндэнта на гэтае званне Барыса Спаскага. Абодва яны прадстаўнікі маладога пакалення савецкіх шахматыстаў. Ціграну Петрасяну хутка будзе трыццаць чатыры гады. Барыс Спаскі не дасягнуў яшчэ трыццацігадовага ўзросту, гэты рубеж ён пяройдзе толькі на пачатку наступнага года. Але шахматны вопыт кожнага ўжо вялікі, і тут розніца паміж імі значна меншая, чым па гадах.

Абодва яны, асабліва Спаскі, вельмі рана звярнулі на сябе ўвагу як шахматысты. Петрасян атрымаў званне майстра ў васемнаццаць год. Спаскі нават раней — у пятнаццаць-шаснаццаць год. Калі Петрасяну было дваццаць тры гады, ён стаў міжнародным гросмайстрам і ўдзельнікам турніру прэтэндэнтаў. Спаскі зрабіў гэта ў васемнаццаць гадоў.

У падыходзе да шахмат і шахматнай творчасці яны маюць шмат агульнага. Па-першае, абодва — цудоўныя практыкі, шахматысты самай высокай тэхнікі. Але ў кожнага сваё выразнае творчае аблічча, свой шахматны стыль. Манера гульні Петрасяна вельмі своеасаблівая, знешне яна спрыяе «ўсыпленню» партнёра. Тыя, хто захапляецца боксам, могуць сказаць, што стыль Петрасяна нагадвае стыль вядомага майстра боксу, яго земляка, Энгібарана, які, як і Петрасян, не рвецца ў бой, нават крышачку адступае, але прымушае рэзкія ўдары праціўніка павісаць у паветры.

Спаскі — шахматыст вельмі шырокага дыяпазону. Ён аднолькава спакойна і ўмела вядзе любыя па жанру шахматныя бітвы, але ўсё ж адчуваецца імкненне яго і схільнасць да камбінацыйнай гульні, да вострага тактычнага ўдару. Якраз таму перад пачаткам паядынку многія спецыялісты, у тым ліку і такі аўтарытэт, як экс-чэмпіён свету М. Батвіннік, лічылі, што шансы Спаскага ўзрастаюць па меры абвастрэння гульні на дошцы, а шансы Петрасяна, наадварот, у спакойнай манеўранай гульні. Але ў цэлым іхнія шансы на выйгрыш зусім правільна расцэньваліся як роўныя, пры чым улічваліся як «непрабівальнасць» Петрасяна, так і выдатная спартыўная форма Спаскага, якая дала магчымасць перамагчы аднаго за другім такіх выдатных гросмайстраў, як П. Керас, Я. Гелер і М. Таль, не гаворачы пра поспехі ў самых вышэйшых турнірах.

Што ж паказаў старт матча?

Ён быў вельмі запамінальны і рэкордны па колькасці нічыіх у спаборніцтве такога тыпу. Унічыю закончыліся ўсе шэсць першых партый! Трэба сказаць, што гэта ні ў якім разе не было вынікам акадэмізму, наступу так званай «нічыйнай смерці». Гэта была роўная барацьба, дзе Петрасян паказваў найлепшую стратэгічную і дэбютную падрыхтоўку, а Спаскі найлепшую практычную натрэніраванасць і выключную ўчэпістасць у абароне.

Калі ў першых трох партыях наступаў Петрасян, у наступных трох прыкметнай была некаторая перавага ў Спаскага. Магчыма, якраз гэта ўсяліла ўпэўненасць, што надышоў час пачынаць рашучае наступленне, і сваю сёмую партыю Спаскі разгортваў пад гэтым дэвізам. Але яна аказалася для яго пагібельнай. Пазіцыйнае чуццё здрадзіла прэтэндэнту: яго атака павярнула супраць яго ж самога. Петрасян стварыў моцны «вал» свайму каралю і перайшоў у рашучае контрнаступленне на караля Спаскага, якому пабудаваць такі «вал» было немагчыма.

За гэтай партыяй зноў былі дзве нічые, і зноў Спаскі пачаў атаку на караля белых, і зноў, як быццам па нейкаму злому нагавору, атака была спынена, а пад удар трапіў свой жа кароль!

Лік вырас да +2 у карысць Петрасяна. Нават самыя адданыя балельшчыкі Спаскага не маглі не засумаваць: цяпер жа, каб перамагчы ў матчы, Спаскаму трэба было набраць тры ачкі ў такога «непрабівальнага» шахматыста, як Петрасян! Балельшчыкі Спаскага ведалі таксама, што да матча было ўжо сыграна многа партый, пераважная большасць якіх заканчвалася нічыёй, і толькі адну партыю выйграў Петрасян. Ведаў гэта і Спаскі, і, мусіць, у адзінаццатай і дванаццатай партыях упэўненасць амаль здрадзіла яму, ён занерваваўся і быў на мяжы паражэння. І толькі некаторая недакладнасць Петрасяна ў выкарыстанні выгадных ігравых сітуацый дала магчымасць Спаскаму пазбегнуць новага пройгрышу.

Другая палавіна матча пачалася пры ліку 7:5 у карысць Петрасяна. І тут трэба аддаць належнае мужнасці і спартыўным якасцям Спаскага, які здолеў перамагчы сябе, пераадолеў крызіс і ўзмацніў сваю гульню. Прыйшлося з усіх сіл бараніцца Петрасяну. У трынаццатай партыі Спаскі адыграў адно ачко і вельмі блізкі быў да перамогі ў чатырнаццатай партыі. Пятнаццатая партыя таксама прайшла пад націскам прэтэндэнта, але перавага была на баку Петрасяна. Ад партыі да партыі ўсё больш выразным рабіўся асноўны недахоп Спаскага — няўпэўненасць у атакуючых сітуацыях. Становішча на фінішы было яўна ў карысць Петрасяна.


Цігран Петрасян і Барыс Спаскі на матчы.

Рашаючым паядынкам была 22-я партыя. У ёй Петрасян атрымаў дэбютную перавагу. Пасля дваццаці хадоў ён мог патрабаваць запісаць нічыю. Але гэтую магчымасць аддаў партнёру. Перад Спаскім узнікла спакуса, бо нічыя давала магчымасць набраць 2 з 2. Спаскі рызыкнуў... і прайграў. У астатніх дзвюх партыях, ужо страціўшы шансы, Спаскі змагаўся з поўнай энергіяй і ледзь не дамогся выніку 12 : 12. Перамог усё ж Петрасян. Матч закончыўся з лікам 12,5 : 11,5.

Гаворачы пра творчы бок матча, трэба адзначыць выключна высокую тэхніку партнёраў. Амаль што не было зусім відавочных памылак. У асноўным пераважала стратэгія абароны, але там, дзе «гном вырываўся са збана», атака праходзіла бліскуча і захапляюча.

Прагнозы, якія рабіліся напярэдадні матча, што перавага Спаскага будзе адчувацца ў вострай гульні ў заблытаных канкрэтных сітуацыях, не спраўдзілася, таксама як і думка пра тое, што перавага Петрасяна — у спакойнай манеўранай гульні. Матч паказаў зусім іншае. Насуперак прагнозам, Петрасян цудоўна адчуваў сябе ў атацы,

тады як у тэхнічных пазіцыях, у манеўранай барацьбе, здаецца, большая ўпэўненасць відаць была ў Спаскага.

Бясспрэчна, многія партыі матча абыдуць увесь сусветны друк.

Выключная па сваёй прыгажосці камбінацыя белых была ў дванаццатай партыі матча. Наступная пазіцыя на дыяграме склалася пасля 28-га ходу (белымі гуляў Ц. Петрасян).




Белыя: Крh1, Фс2, Ле1 і g1, Сd3 і е3, Кd2; пп: а2, b2, с4, d5, f2, h2, h5 (14).
Чорныя: Крh8, Фf7, Ла8 і f8, Сd7 і g7; пп: а7, b6, с7, d6, е4, f4, h6 (13).

Было зроблена: 29. Л:g7!, Ф:g7, 30. Лg1 Фе5, 31. Кf3!!

Гэта — адзін з самых прыгожых хадоў у матчах на першынство свету! Тры лёгкія фігуры белых пад боем!! Але вельмі цяжка прыняць рашэнне — якую ж браць?? На 31. ...ef будзе 32. Сd2, і пагроза Сс3 вырашае...

31. ...ed, 32. К:е5 (Цэйтнотны пралік. Да перамогі прывяло б 32. Ф:d3! Сf5!, 33. К:е5 С:d3, 34. Сd4! de, 35. С:е5+ Крh7, 36. Лg7+ Крh8, 37. Л:с7 і г. д.), 32. ...dc, 33. Сd4 de, 34. С:е5+ Крh7+, 35. Лg7+ Крh8, 36. Лf7+ Крg8, і тут пасля трохразовага паўтору пазіцыі партнёры згадзіліся на нічыю.

Матч не толькі паказаў сілу лепшых гросмайстраў сучаснасці, але і даў адчуць слабыя месцы кожнага з іх. Некаторая няўпэўненасць Спаскага пры вядзенні наступу на караля белых была вельмі нечаканая, таму што да апошняга часу Спаскі слыў як вельмі моцны ў вядзенні атакі. Можна сказаць пасля матча, што стыль гульні Спаскага эвалюцыянізуе ў бок пазіцыйнасці і трываласці, але шкада, што вельмі бяднее фантазія. Выявіліся недахопы і ў дэбютнай падрыхтоўцы Спаскага, перш за ўсё ў стратэгічных адносінах. Можна гаварыць таксама пра некаторую няўпэўненасць Петрасяна ў іграввых момантах. Магчыма, тут дало сябе адчуць тое, што за апошнія чатыры гады ён ні разу не згуляў у фіналах першынства краіны, у тых якраз турнірах, якія некалі і выхавалі выдатныя практычныя якасці «жалезнага» Ціграна.

Але ўсе гэтыя заўвагі вельмі адносныя, і бачны яны толькі пры самым скрупулёзным разборы сыграных на матчы партый, і прытым у самых напружаных. Інакш і не магло быць: калі б ніякіх недахопаў не было, не было б і напружаных момантаў барацьбы! Калі гуляюць людзі, а не запраграмаваныя машыны, нейкія хоць маленькія недагляды заўсёды павінны быць.

Матч раскрыў і новыя праблемы, што стаяць перад шахматным майстэрствам. Па-першае, гэта — пэўны зварот да класікі шахмат, да папулярных некалі такіх строга пазіцыйных пачаткаў, як «абарона Кара-Кан», «ферзевы гамбіт». Тут трэба адзначыць, што ў гэтых дэбютах яўна адчувалася перавага абароны і белым, як правіла, не ўдавалася «прабіць» крэпасныя «валы» чорных.

Даўно на шахматным гарызонце не было такой упартай барацьбы, такіх супярэчлівых прагнозаў. Гулялі два чалавекі, жылі ж шахматамі літаральна ўсе аматары гэтай захапляючай гульні. У дні матча ў Тэатры эстрады можна было бачыць не толькі масквічоў, але і гасцей з Далёкага Усходу, Сярэдняй Азіі, Сібіры, Урала, Закаўказзя і, зразумела, больш за ўсіх іншых — з Арменіі. А колькі атрымлівалі ўдзельнікі пісьмаў, тэлеграм, нават вершаў!

Гарачыя схваткі на дошцы не перашкаджалі ў гэтыя напружаныя тыдні ўдзельнікам быць сапраўднымі сябрамі. Пасля партыі, яны, як правіла, сумесна аналізавалі пазіцыі. І Петрасян, і Спаскі — добрыя спартсмены. Аб'ядноўвае іх і любоў да мастацтва, перш за ўсё да музыкі.



Аўтар гэтых радкоў на працягу ўжо некалькіх год перыядычна трэніруе Ц. Петрасяна. Так было і перад матчам, і ў часе матча з М. Батвіннікам. Мне прыйшлося не толькі згуляць з Петрасянам шмат партый, але і шмат кіламетраў прайсці разам з ім на лыжах. Здаецца, гэта самы любімы від спорту Петрасяна, хоць ён вельмі захапляецца таксама гульнёю ў пінг-понг і більярдам. Цяжка знайсці і больш заўзятага і страснага балельшчыка хакею, чым Петрасян. Асабліва востра хвалюе яго лёс маскоўскай каманды «Спартак»: не лічачыся ні з гарачынёю, ні з холадам, ён бывае абсалютна на ўсіх матчах «Спартака», уключаючы і гульню дубліруючых каманд. Петрасян мае вельмі багатую фанатэку, пераважна вакальнай музыкі. Улюбёнымі яго спевакамі з'яўляюцца «гросмайстры бельканта» і перш за ўсё — Б. Джылы, Т. Гобі, Д. Бекі, Д. Стэфана.

А ў Спаскага любімы спевак Ф. Шаляпін. З усіх відаў спорту Спаскі вылучае «каралеву» яго — лёгкую атлетыку. Гэта зразумела — свой спартыўны шлях Спаскі пачынаў не толькі з шахмат, але і з скачкоў у вышыню, дзе паказваў выдатныя здольнасці і выдатныя вынікі.



**І так кожны раз. Перш чым пачаць чарговую партыю, трэба было пераадолець заслон балельшчыкаў.**
Фота **А. Кляйменавай.**

Завершаны яшчэ адзін цыкл барацьбы за першынство свету. Але пачаліся ўжо спаборніцтвы наступнага адборачнага цыклу, і яны пазнаёмяць нас з новымі імёнамі, новымі поспехамі, новымі шахматнымі ідэямі.

# КАМБІНАЦЫІ Ў ДЭБЮЦЕ




**Раздзел вядзе майстар спорту СССР Макс ШАВЕЛЬ**

Сядаючы за шашачную дошку, міжволі з прыемнасцю думаеш пра хвіліну перамогі. У турнірнай ці таварыскай сустрэчы нават з самым моцным праціўнікам недзе ў завірусе думак і пачуццяў абавязкова існуе жаданне выйграць. Заўсёды хочацца «заціснуць» шашкі партнёра тонкім пазіцыйным манеўрам, прымусіць рабіць яго адзіна магчымыя хады, а потым нечаканай камбінацыяй прабіцца ў дамкі. Гэтыя звычайныя для кожнага думкі настрайваюць на шматхадовую, працяглую барацьбу.

Але не заўсёды вынік сустрэчы вызначаецца ў сярэдзіне ці ў канцы партыі. Вельмі часта нечаканай камбінацыяй можна перамагчы, калі на дошцы стаяць яшчэ амаль усе шашкі.

Прозвішчы шашыстаў, якія ўмеюць падрыхтаваць і правесці нябачную дэбютную камбінацыю, заўсёды карысталіся асаблівай вядомасцю, а іх камбінацыйныя партыі завучваліся на памяць і зноў разыгрываліся ў спаборніцтвах. Непера-

ўзыйдзенымі майстрамі нечаканых камбінацый былі Шошын, Варанцоў, Мядкоў, Кукуеў. Іх партыі, сыграныя ў канцы мінулага і на пачатку гэтага стагоддзяў, далі ўзоры арыгінальных камбінацый у дэбюце. Аднак першым, хто звярнуў увагу на зграбнасць і нечаканасць дэбютных камбінацый, быў вядомы шашыст і шахматыст Аляксандр Дзмітрыевіч Пятроў, які выдаў у 1827 годзе першы падручнік пад назваю «Дапаможнік да грунтоўнага пазнання шашачнай гульні, ці майстэрства абыгрываць усіх у простыя шашкі». Сярод многіх павучальных пазіцый і камбінацый у дапаможніку давалася адна асабліва каштоўная для практычнай гульні пастка. Гэтая пастка, падрыхтаваная чорнымі на трэцім ходзе, такая непрыкметная і нечаканая, што нават цяпер, маючы амаль паўтаравяковую гісторыю, яна застаецца неразгаданаю ў партыях пачынаючых ігракоў.

Даем пачатковыя хады гэтай дэбютнай камбінацыі:

1. g3—h4 b6—a5
2. f2—g3 c7—b6
3. e3—f4 f6—e5?

Цяжка стрымацца, каб не зрабіць гэты зусім натуральны ход. Цяпер белыя выйграюць дзве шашкі.




4. f4—g5! h6 : f4
5. c3—d4! e5 : c3
6. d2 : b4!! a5 : c3
7. g3 : a5 з выйгрышам.

У наш час падрыхтаваць незаўважную дэбютную пастку вопытнаму шашысту даволі цяжка, але ўсё-такі магчыма. У пачатку партыі нават майстры шашачнай гульні не настолькі ўважлівыя да пастак, як у сярэдзіне, і на арыгінальную камбінацыю могуць быць злоўлены многія з іх. Нават чэмпіёну свету даводзілася расплачвацца паражэннем за няўважлівую гульню ў дэбюце.

У спаборніцтвах беларускіх шашыстаў заўсёды ёсць партыі, дзе партнёры рыхтавалі адзін аднаму пасткі. Часам гэтыя пасткі разгадваліся, а часам удзельнікі і гледачы турніру станавіліся сведкамі нараджэння арыгінальных дэбютных камбінацый. Так, у адным з першынстваў горада Мінска ў партыі паміж Малецкім і Ліхадзіеўскім (чорныя) была разыграна камбінацыя:

1. c3—b4 f6—g5
2. g3—f4 g7—f6
3. b2—c3 h8—g7
4. b4—a5 g5—h4
5. c3—b4 f6—g5
6. d2—c3 g7—f6
7. c3—d4 b6—c5
8. d4 : b6 a7 : c5
9. a1—b2?

Белыя робяць зусім натуральны ход, не заўважыўшы пасткі праціўніка. Трэба было рабіць 9. c1—b2 з роўнаю гульнёю.




9. .... c5—d4!
10. e3 : c5 g5 : e3
11. f2 : d4 h4—g3!
12. h2 : f4 d6—e5
13. f4 : d6 c7 : a1, і белыя здаліся.

*Усмешкі маладосці*

# РАЗВОДЫ

Пад ручку ў ЗАГС ідуць належным чынам
Да шлюбу хлопец малады з дзяўчынай.
За імі крочаць сваякі і сведкі —
Выпадак і звычайны, і нярэдкі.

Але ў чым справа? Не прайшло і года,
Дайшло ў маладажонаў да разводу.
І з сваякоў ніхто не дапаможа,
І суд іх прымірыць ніяк не можа.

Цікава ведаць бы: у чым прычына,
Што не зжыліся хлопец і дзяўчына?
Магчыма, трохі вінаваты ў гэтым
Пытанні нашай загсаўскай анкеты.

Пытаюцца: — Вы згодны йсці да шлюбу?
Як згодны, дык адзін другому любы!
Калі б распісваць дaручылі мне,
То я б спытаў: — Кахаеце ці не?

**Мікола ВЯРШЫНІН.**






# НУ І ДЭТАЛЬ!

Шасцярэнька — з камара,
А папер аб ёй — гара!
Нават МАЗа-самазвала
Для папер тых было мала.
А людзям яна на год
Нарабіла шмат турбот.

# БОЖАЯ ПЕРСОНА



Ён не ў раю жыве, вядома,
А з намі побач, нібы бог:
Не толькі людзям, нават дома
Нічым ніколі не памог.

**Нічыпар ПАРУКАЎ.**




**ГАРЭЛІК Аляксей** нарадзіўся ў 1925 годзе на Бабруйшчыне.

Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Працуе намеснікам рэдактара бабруйскай газеты «Камуніст».

●

**КІРЭЙЧЫК Іван** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна. Вучобу ў БДУ імя У. І. Леніна сумяшчаў з журналісцкай працай у раённых газетах, на радыё, у «Чырвонай змене».

Цяпер — рэдактар на Гомельскай студыі тэлебачання.

●

**ХАДАРОНАК Славамір** нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Укля на Браслаўшчыне. Працаваў у рыбалавецкай арцелі. Скончыў Полацкае педвучылішча. Настаўнічаў. Цяпер служыць у арміі.

●

**ЖУКОВІЧ Васіль** нарадзіўся ў 1940 годзе ў Камянецкім раёне. Скончыў факультэт мовы і літаратуры Брэсцкага педінстытута імя Пушкіна.

Працуе ў рэдакцыі Брэсцкай раённай газеты.

●

**АРАБЕЙ Лідзія** нарадзілася ў 1925 годзе на Уздзеншчыне. Творчы шлях пачынала як крытык. Аўтар манаграфіі пра жыццё і творчасць Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Апошнім часам выступае ў жанры прозы. Выйшлі з друку кнігі аповесцей і апавяданняў «Мера часу», «Калібры», «Экзамен».

# ДАРАГІЯ СЯБРЫ!
## Не забудзьце
## ПРАДОЎЖЫЦЬ ПАДПІСКУ
## на наш часопіс
## ДА КАНЦА ГОДА.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 7**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктар **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 31/V-66 г. Падпісана да друку 29/VI-66 г.
АТ 08755. Тыраж 7833. Зак. 359. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



**Зямной і незямною ты ўзнікаеш,**
**паказваеш нам рысы пекнаты.**

ПАПРАЎКА:

На стар. 108 па віне друкарні пераблытаны подпісы над малюнкамі. Подпіс «Садаклад па паэзіі» павінен стаяць там, дзе змешчан подпіс «Садаклад па прозе». І наадварот.

Маста

